

# 2

ЛЮТЫ

МІНСК, 1970

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

Вокладка **Ю. Архіпава.**

Шмуцтытулы **У. Басалыгі** (3 стар.) і **В. Ждановіча** (89 стар.)



# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- Мікола **ХВЕДАРОВІЧ**
- Мікола **ЧАРНЯЎСКІ**
- Алесь **КРЫГА**
- Пятро **ПРЫХОДЗЬКА**
- Вікенці **КАРПОВІЧ**
- Уладзімір **КУЗЬМЯНКОЎ**
- Алесь **РАЗАНАЎ**
- Мікола **МАЛЯЎКА**
- Уладзімір **ШЫЦІК**
- Міхась **ПАРАХНЕВІЧ**
- Віктар **ШАЎЧЭНКА**





Мікола

ХВЕДАРОВІЧ

## ● Чонаўцы



●

Я ўбачыў яго
Не ў кіно на экране,—
Жыве яго вобраз
З тых памятных год,
Калі мы ў марознае
Хмурае ранне
Стаялі ў ахове
Крамлёўскіх варот,
Прапахлыя потам,
Махоркаю горкай.
Па-брацку, без крыўды
Тады мы жылі.
З Крамлёўскай капцёркі
На нас гімнасцёркі,
Былі не па росту,
Да пят, шынялі.
Гады рэвалюцыі
Ўзяўшы на плечы,
Тварылі жыццё,
Не лічылі ахвяр,
Тыфозны пажар
У бараках нявечыў,
Але не зваліў нас
Няшчадны цяжар.
З вясковых хацін
І пасёлкаў рабочых
Ішлі мы ў кагорты
Юнацкіх калон,
Каб разам на шчасце
Народнае крочыць,—
І лепшых райком
Накіроўваў у ЧОН.
Я славу пяю
Трохлінейнай вінтоўцы,
Што воінскай справай
Здзіўляла ўвесь свет.
Калісьці яна
У руках камсамольцаў
Падобна была
Да сучасных ракет.
Гуляюць вятры
Ў заінелых скляпеннях,
А начкаравула
Прамовіў услых:
— Увага! Да нас набліжаецца
Ленін!..
І сэрца застукала
Ў грудзях маіх.
Між доўгіх шынеляў,
Скуранак бліішчастых,
У шапцы-вушанцы,
Старым паліто
Ішоў чалавек,
Што прарочыў нам шчасце,
Быў родным для нас
Між усіх, як ніхто.
Мы гэтую стрэчу
Павек не забудзем,
Яна асвятляла
Да мэты наш шлях.
І макам цвілі
У нас пятліцы на грудзях,
І сонечны промень
Гарэў у вачах.
Паціху, міжвольна
Шапталі мы:
— Ленін!
І гэтае слова
Было, як загад
Ісці і змагацца
Майму пакаленню
За справу бацькоў
У агні барыкад.
А дома чакалі
Замшэлыя хаты
У гомане ціхім
Сівых верасоў
Сваіх абаронцаў
У шлемах крылатых,
Падобных да віцязяў
Даўніх часоў.
Нішто не спыніла
Маё пакаленне,
Ні стрэл кулака
І ні холад зімы,
Бо ведалі добра,
Што бацька наш Ленін
Жыве на пайку
Паўгалодным,
Як мы...
Ён сам гартаваў тады
Гвардыю нашу,
Касцяк камсамольскі —
Цудоўнейшы сплаў:
Кедышку і Зою,
Матросава Сашу,
І Юрку, што першым
У космас злятаў.




● *Хадакі* ●● *Трамвай* ●●●————



●

Здалёк ці зблізку,
Хто б там ні прыходзіў,
Прынёсшы ў сэрцах
Патаемнасць дум,—
Для ўсіх ён слова шчырае знаходзіў,
Дарыў гасцям
Усмешак дабрату.
А госці,—
Простыя сыны Расіі,
Прыбітыя турботамі і злом, —
Упершыню сваю адчулі сілу
За гэтым простым
І святым сталом.
Сціскалі кажухі сялянам
плечы,
Ды вольна, весела было,
калі
Развіталіся дружна:
— Да сустрэчы!..
І той сустрэчай
Кожны дзень жылі...

●●

Ён прачынаецца заўсёды рана,
Прыкурвае ад крэсіва-дугі,
Бы ў песні той:
«Не спіцца ветэрану...»
Гукаюць рэйкі,
рэйсы
і шляхі.

Мігне тралейбусу:
«Працую чэсна.
Глядзі, цягну!..
Магу яшчэ цягнуць...»
Яму даўно б пара пайсці на пенсію,
Ды як пакінуць выслізганы пуць?!

Ён безбілетным нават
дужа рады:
Капейкам добра ведае цану,
Бо сам з рабочых...
Мецяць хлапчаняты
Яму часамі ўзлезці на спіну.

Даўно ўжо ноч.
А ён бяжыць ахвотна,
Каб закаханых позніх падабраць —
І на старэчы
стомлена-лагодны
Апошнім сам ідзе адпачываць.

●●●

За ціхаю
далёкаю
ускраінай,
Дзе зацвітаюць сумам верасы,
Як ветразь,
у часіну
раннюю,
Тваё здалёк убачыў валасы.
Яны паветра мякка расkалыхвалі
І на тваіх аголеных плячах,
Як пырскі,
пад праменнямі
успыхвалі,
Іскрынкамі мільгалі у вачах.
А я глядзеў
на гэта,
зайздрасць тоячы,
І ўсё здавалася хвілінай той,
Што я ступіў на новы бераг сонечны,
Асветлены табою і вясной.



Алесь КРЫГА

Мал. В. ШРАМЯКОВА

# ПАЎНОЧНЫ ФАРВАТАР

АПОВЕСЦЬ

## 13



Над караблём віліся чайкі. Відаць, адчувалі, што хутка кок выльле за борт усё, што засталося пасля вячэры. Расхінуўшы шырокія крылы, яны слізгалі, як планёры, да самай вады і, спалохана крыкнуўшы, стрымгалоў узмывалі ў неба. Сёння яно было прасторнае. Над морам не плылі надакучлівыя хмары, ад якіх толькі і чакай завірухі. Дзесьці вельмі далёка на даляглядзе з вады тырчаў дыск сонца. Ад яго беглі па марской роўнядзі палахлівыя водбліскі.

Цеплыні ад гэтага чырвонага дыска не было. Можа таму і шалелі чайкі. Яны з крыкам праносіліся над мачтамі, кідаліся каменем уніз, прыпадалі на імгненне да мора тоўстымі белымі жыватамі, таропка глыталі шырокімі дзюбамі вадзяныя пырскі, потым несліся наўздагон за караблём.

Сімахін пацёр далонь аб далонь, абапёрся спіной на шэрую вежу кармавой гарматы. На ім была апранута чорная куртка, падбітая белым футрам, на галаве нядбайна ссунутая на патыліцу сіняя пілотка з залацістым крабам, з-пад якой выбіваліся кучаравыя светлыя валасы. Сімахін быў у гуморы. Відаць, яму падабалася надвор'е.

— Ну, чаго ж ён не едзе, наш доктар Айбаліт? — прыжмурыўшы вочы, невядома да каго звярнуўся Сімахін.

Пачатак гл. № 1.



— Відаць, яшчэ раз, на ўсялякі выпадак, снедае,— засмяяўся Аляксей. Ён стаяў побач з лейтэнантам, шырока расставіўшы ногі, і я з зайздрасцю падумаў, якія яны абодва высокія, дужыя.— У нашага кока апетыт за ўсю каманду качагараў. Ля катла за гадзіну на пяць фунтаў мог бы схуднець...

— На грамадзянцы схуднее,— сказаў Сімахін.— Калі толькі ў рэстаране не ўладкуецца...

З дзвярэй камбуза вылез на палубу кок у белай форменцы, з каўпаком на галаве. У руках ён трымаў вядро.

Чайкі закрычалі, замітусіліся. Аднак кок не спяшаўся. Ён пайшоў на карму карабля з такім важнецкім выглядам, быццам галава сям'і пасля зарплаты. Ружавашчокі, тлусты, нібы той сібірскі кот Муфік, ён дыбаў кароткімі нагамі па палубе, задаволена пазіраў на чаек, і лёгкі ветрык надзімаў ягоную форменку. Ад гэтага кок здаваўся яшчэ таўсцейшы.

Сімахін не вытрымаў першы, пырснуў у кулак і адвярнуўся.

— Ты, як паветраны шар,— сказаў коку Аляксей,— хоць на дроціку трымай, каб не паляцеў...

— А ты думаеш — лёгка? — падміргнуўшы вокам, тэатральна ўздыхнуў кок.— Сам бог не дазваляе хлеб у мора выкідваць. Дзе ж яго падзець? Вядома, стараюся,— кок паляпаў сябе рукой па жываце.— Служба такая...

Ён падышоў да леераў штармавой загароджы, што тонкімі дроцікамі бегла ўздоўж борта, і выліў з вядра. Чайкі шэрым каменнем пасыпаліся ў мора. Унізе ля самага борта ўзняўся лямант.

— Ешце, сяброўкі, і не забывайце матросаў ваеннага флоту,— сказаў кок.— Апошнюю вясну вас бачу. А потым — іншыя будуць падкормліваць. Шкада, радзімыя, шкада...

Ён павярнуўся і пабег на камбуз, але, заўважыўшы Міколу, спыніўся.

— Прывітанне, Кемлівы хлопчык,—радасна выгукнуў ён.— А ў мяне яшчэ макароны засталіся. Можа прыйдзеш? Га?

— Лепш ты да нас заходзь,— адказаў Мікола.— Полымя ў топцы разадзьмеш...

З таго часу, як Мікола здаў экзамен на самастойную вахту, ён паводзіў сябе ганарыста. Аднак хлопцы не забыліся пра яго мянушку.

— Я хутка старшыной стану,— сказаў Мікола,— тады паглядзім, хто з каго пасмяецца.

Кок, нібы ў роспачы, плеснуў у далоні, агледзеўшы Кемлівага хлопчыка з ног да галавы, прысвіснуў.

— Ах ты, салака з падфарбаванымі губамі! — сказаў ён.— Гэта ты цяпер з лепшымі сябрамі такім тонам гаворыш, а што будзе, калі ў начальства падасіся?

— Абавязкова дам табе адзін нарад у кацёл,— зарагатаў Мікола.

Я ведаў, што Мікола ніколі не будзе старшыной. Ён не любіў працаваць. Але ж гэты дурнаваты смех мяне насцярожыў. А што, калі сапраўды Мікола стане маім камандзірам? Гэтая думка здалася мне недарэчнай, неймавернай. Мікола заўсёды спрабаваў знайсці месца ціхае, утульнае. У качагараў, здаецца, такога месца не было. Ды ён можа адшукаць. А чаму і не? Нейкае ўнутранае пачуццё падказвала, што Міколавы словы не звычайны жарт, а маюць патаемны сэнс.

— А што? — сказаў Сімахін.— Усё можа быць. Ён у нас выправіўся. Маеш пэўную падставу пазнаёміцца з навукай качагараў. Цяжкая навука...

Кок пакрыўджана надзьмуў губы і пайшоў на камбуз. Ён ішоў, уцягнуўшы галаву ў шырокія пакатыя плечы. Мне падумалася: «Вось гатаваў хлопец сумленна колькі гадоў ежу, а нейкі Кемлівы хлопчык з яго здзекуецца...»

— Табе самому пасля паходу мазут з трума прыйдзецца выбіраць,— сказаў я Міколу.

Мікола абыякава паціснуў плячыма і, склаўшы на грудзях рукі, таксама абапёрся спіной аб гарматную вежу. Відаць, сонца сляпіла яму вочы, бо ён насунуў на нос берэт.

— І табе таксама,— адказаў ён.

— Які мазут? — схамянуўся Аляксей.— Не павінна быць пад катлом ніякага мазуту.

Я ведаў, што Мікола не выканаў загаду, не змяніў на эжэктары пракладку. Увечары перад выхадам у мора, калі я перабіраў клапаны на паравых трубах, Мікола бегаў па катле і мармытаў сабе пад нос:

Жил на свете атаман,
он объездил много стран
и на службу не хотел, хулиган...

Я сядзеў на версе катла, разбіраў клапан і думаў, што, відаць, Мікола сам выдумаў словы і не мяне, а яго трэба было выклікаць Сімахіну пісаць вершы.

Між тым Мікола на хвіліну спыніўся, нібы ўдыхнуў у грудзі паветра, і зноў зацягнуў:

Раз пятнадцать военком
бил его о стенку лбом,
дезертиру это было ни по чём...

— Гэта ты сам практыкаваўся? — нарэшце спытаў я.

— А як жа! — Мікола задраў галаву.— Я нават і на гармоніку магу.

Мікола быў у добрым настроі, а гэта здаралася заўсёды, калі Аляксей хадзіў у звальненне. Загадваць не было каму, і Мікола радаваўся, як маленькі.

— А пракладку ты замяніў? — спытаў я.— Зноў у труме мазут назбіраецца.

Мікола спалохана перахрысціўся, паказаў мне язык.

— Вось дурань! — сказаў ён.— Навошта яе чапаць? Хай сабе стаіць. Яна яшчэ дзесяць гадоў будзе флоту служыць.

Я змоўчаў. Урэшце, гэта Міколава справа. Чаму мне павінна балець галава? А цяпер, калі Аляксей спытаў пра мазут, я проста нечага спалохаўся. Мне не хацелася падводзіць Міколу. Хай яе, з гэтай пракладкай, прыйдзем у базу, сам замяню.

— Дык ты эжэктар рамантаваў ці не? — з пагрозай у голасе спытаў Аляксей.

У Міколы задрыжалі губы. Ён разгубіўся. «Ёлуп! — падумаў я.— Ну, хіба не мог ён зрабіць тую дробязь? Цяпер не стаяў і не лыпаў бы вачмі».

— Вядома, зрабіў,— сказаў Мікола.— Які вялікі клопат! Раз-два, і — гатова...

Я ведаў, што ў моры эжэктар нельга праверыць, бо мазут цячэ ледзь-ледзь. Мабыць, пра гэтае падумаў і Аляксей. Ён павярнуўся да мяне. Я кіўнуў галавой і адвёў вочы.

Мікола палез у кішэню, дастаў пачак цыгарэт. Мы ўзялі па адной. Закурылі.

— Прыгожа як,— сказаў Мікола.— Нават не верыцца, што мы ў нейтральных водах...



— А чым яны прыгажэйшыя за нашы? — усміхнуўся Сімахін.— Такая ж самая вада.

Мне самому нейтральныя воды раней здаваліся нечым накшталт праспекта. Аднак мы плылі ўжо трэці дзень, а не бачылі пакуль што ніводнага сустрэчнага карабля, нават маленькага траўлера. Вакол было толькі мора. Нават чайкі адсталі. Відаць, мы ім ужо былі не патрэбны. Яны чымсьці нагадвалі людзей. Вось такіх, як Мікола. Хвіліну назад ён глядзеў на мяне жаласліва, а калі дамогся свайго, прымусіў схлусіць, адвярнуўся і гаворыць з Сімахіным.

Мне было сорамна, што я схлусіў. Здавалася, Аляксей усё зразумеў і глядзіць цяпер на мяне з дакорам. Мабыць, так заўсёды здаецца чалавеку, які адчувае сваю віну. Аляксей стаяў да мяне спіной і глядзеў некуды ўдалечыню, а мне вярзлося, што ён зазірае мне ў душу.

«Хопіць,— падумаў я,— трэба вучыцца чалавечай жорсткасці. Ці ж я дапамог Міколу сваёй хлуснёй? І справа не ў тым, што мне прыйдзецца за яго лезці ў кацёл. Проста Мікола забыў пра гэтую пракладку і яму добра ад маёй няпраўды. І будзе заўсёды лёгка, пакуль я не вырву з сябе нікому не патрэбную літасць. Але ж як яе вырваць?»

Я і сам не верыў у гэта. Проста адчуваў патрэбу неяк апраўдаць сваё слабаволле. І яшчэ было прыкра, што я навучыўся быць шчырым з сабой і не магу стаць такім з Міколам. Здолеў жа я датэрмінова здаць экзамен на самастойную вахту. А чаму гэтага не зрабіў ён? Нечакана мне прыгадаўся Хрыстафор Адамавіч.

Я падышоў да леераў штармавой загароджы і адразу ж адчуў на твары салёныя пырскі. Карабель бег поўным ходам. Зрэдку з ягоных шэрых комінаў вырываліся клубы чорнага дыму і сплывалі некуды назад.

Відаць, Сімахін з Міколам паспелі ўжо высветліць, што такое нейтральныя воды, бо цяпер стаялі моўчкі. Аляксей паглядзеў на шапку чорнага дыму, пакрывіўся, не вытрымаў.

— Шаўцы...— сказаў ён.— Такі прыгожы карабель, і такія недарэчныя качагары...

— Бывае,— адказаў Сімахін, але ж таксама, задраўшы галаву, паглядзеў на клубы чорнага дыму.— Стаміліся хлопцы.

Мне падабалася, што Сімахін гаварыў заўсёды далікатна. Я ведаў, што зараз ён спусціцца ў кацёл, зробіць хлопцам заўвагу, але не абразліва, а неяк па-сяброўску.

Сапраўды, Сімахін яшчэ трохі пастаяў з намі, а потым памалу пайшоў па палубе, адчыніў люк і палез у кацёл.

— Зараз лейтэнант ім клапаны прачысціць! — задаволена ўсміхнуўся Мікола.

Яго рабы твар ззяў. Я не разумеў, чаго Мікола радуецца. Ён жа добра ведаў, як нялёгка несці вахту ў душных катлах.

Вярнуўся Сімахін. Рукі ў яго былі перапэцканы.

— Поўны парадак,— сказаў ён.— Кацёл, як і дзяўчыну, шкадаваць трэба...

— Гэта вы добра сказалі,— падхапіў Мікола.— Вось толькі трэба ведаць, адкуль пачынаць шкадаваць...

Сімахін пільна і востра паглядзеў на яго.

— Труцень ты, Аплачка,— сказаў ён.— Табе абы зубы скаліць...

Мікола прыкінуўся ідыётам.

— Не, я густ маю,— склаўшы губы трубачкай, адгукнуўся ён.— Я дык заўсёды з таліі пачынаю...

Сімахін нічога не адказаў. Толькі здзіўлена нахмурыў бялявыя бровы, якія на пераноссі здаваліся залацістымі.

— Нічога,— сказаў Аляксей,— пачнецца гойданка, тады яго прыйдзецца за талію падтрымліваць. Праўду я кажу, Кемлівы хлопчык?

Аляксей часцей за ўсіх называў Міколу па мянушцы. А той нават не крыўдзіўся. Проста добра запомніў, перад кім трэба саступіць, а на кім і паездзіць.

— Вядома ж, праўду,— згадзіўся Мікола.— Аднак не таму, што мяне загойдвае. Я хістаюся ад узнёслых пачуццяў. Во як!

— Няма да чаго прычапіцца,— сказаў Аляксей,— а то я табе знайшоў бы ўзнёсласць... Лепей дай закурыць.

Мікола, спяшаючыся, палез у кішэню, выцягнуў скамечаны пачак цыгарэт.

— Пайду ў кубрык,— сказаў ён.

— Толькі ж вахту не праспі,— папярэдзіў Аляксей.— Ты ў нас заслужаны дзеяч па гэтай частцы.

Мікола неяк загадкава ўхмыльнуўся, пазяхнуў, потым стомлена пацягнуўся, пайшоў ад гарматы амаль аж на самую карму, дзе ў шэрай невялічкай вежы былі адчынены дзверы ў кубрык.

— З табой добра на танцы хадзіць,— крыкнуў наўздагон Аляксей,— а вось служыць нясоладка.

Сімахін, зацягваючыся цыгарэтай, глядзеў некуды ўдалечыню. Ён глядзеў доўга, не адрываючыся, быццам заўважыў нешта цікавае, потым выкінуў за борт цыгарэту.

— Здаецца, безбярэжжа кончылася,— сказаў ён і паказаў рукой.

Мы падышлі да Сімахіна. Палоска, што амаль цэлы дзень бялела па ўсім небакраі між небам і вадой, цяпер пасінела, і адразу высокае неба і блакітная вада сталі амаль аднаго колеру. Здавалася, зусім блізка праступаў праз дрыготкую смугу скалісты бераг. Па ім цягнуліся ўздоўж мора заснежаныя стромкія схілы сопак. Можна было падумаць, што мы вярнуліся ў сваю базу. Але гэта была чужая зямля.

Карабель нечакана лёг на борт і пабег уздоўж берага. Відаць, ля самай нябачнай мяжы нейтральных вод. Цяпер зямля здавалася зусім побач — толькі працягні да яе руку. Ля падножжа амаль круглай сопкі я ўбачыў маленькую рыбацкую лодку. Але людзей у ёй не было відаць. Гэта проста здавалася, што да берага вельмі блізка.

— Госці завіталі,— сказаў Сімахін.

Задраўшы галаву, ён глядзеў у неба.

Я зірнуў угору, але нічога не ўбачыў. Але калі вочы прывыклі да яркага святла, заўважыў над заснежанымі вяршынямі сопак самалёт.

Сімахін пасур'ёзнеў, неяк падцягнуўся, пабег да хадавога масціка, што вісеў над бакам карабля. Яшчэ не паспеў ён узбегчы па доўгім трапе на масцік, як загула баявая трывога.

З люкаў, як ачмурэлыя, выскоквалі хлопцы, на хаду апраналі робы, у адно імгненне хаваліся ў люках баявых пастоў.

Аляксей стрымгалоў кінуўся ў кацёл, а я палез па вузкім трапе да зенітнай гарматы, дзе быў з нядаўняга часу наводчыкам па камандзе «баявая трывога». Камандзір гарматы ўжо завіхаўся ля брызентавага чахла. Удвух мы хутка расчахлілі гармату.

Прыбег Мікола. Ён, відаць, не паспеў заснуць і таму хутка заняў сваё месца падносчыка снарадаў.

— Што здарылася? — спытаў ён.



Я паказаў на самалёт. Таўстапузы і нязграбны, ён заходзіў на карабель з правага борта.

— Чучала нейкае,— пацісну плячыма Мікола,— а паспаць не даў.

Карабель насцярожыўся, ашчацініўся доўгімі ствапамі гармат. Ён бег наперад, выціскаючы з-пад сябе пакатыя, падобныя на спіны вялізных рыб, хвалі. Ад іх штуршкоў востры нос карабля раз-пораз задзіраўся і неяк ваяўніча ўзнімаўся. Карабель, нецярпліва ўздрыгваючы, як жывая істота, чакаў, калі наблізіцца самалёт, адсопваўся ад вадзяных пырскаў, якія срабрыстым фантанам узляталі над бартамі.

На палубе не было ні душы. Здавалася, што карабель сам па сабе нясецца над марской роўнядззю. Але я ведаў, што ў кожным адсеку насцярожаныя, гатовыя да ўсяго хлопцы.

Самалёт быў ужо так блізка, што можна было бачыць апазнавальныя знакі. На фюзеляжы ля самага хваста быў намаляваны белы круг, у ім, здаецца, нейкая тонкая чырвоная паласа.

— Чый гэта? — спытаў Мікола. У ягоных вачах свяцілася цікаўнасць.

— Натаўскі,— сцяўшы зубы, адказаў камандзір гарматы.— Гэтага дастаткова.

Тым часам самалёт пікіраваў ужо на мачты. На яго навялі карабельныя гарматы. Тады самалёт, нібы запыніўшыся на момант, лёг на крыло і праляцеў за кармой. Надрыўна загуў маторамі і зноў развярнуўся на карабель. Аднак падыходзіў ужо не зверху, а ледзь не ад самай вады. Насустрач зноў павярнуліся гарматы.

Нервы ў лётчыка, відаць, не вытрымалі. Самалёт набраў вышыню і, пераваліўшыся з крыла на крыло, паляцеў да свайго берага, які за гэты час паспеў значна аддаліцца.

— Вось, бачылі,— склаў наўздагон паветранай лодцы дулю Мікола.— Знайшлі, дзе лётаць...

— Нейтральныя воды...— задумліва адгукнуўся камандзір.— Усе тут гаспадары. Ляцелі б сабе ціха, і не трэба было б гарматамі пужаць. Відаць, фотаздымак хацелі зрабіць...

— Трасцу яму ў зубы! — радасна засмяяўся Мікола.— Мы таксама з вусамі.

Было ў ягоным голасе штосьці незнаёмае, дарослае, нібы за некалькі хвілін Мікола пасталеў.

— Увага! — крыкнуў камандзір гарматы.— Зноў ідуць...

На гэты раз да карабля набліжаліся рэактыўныя знішчальнікі. Яны ляцелі высока ў блакітным небе. Адзін з іх, перакуліўшыся праз левае крыло, узяў убок, а другі, страчваючы вышыню, пікіраваў на карабель. На ягоным фюзеляжы яркай плямай праступалі апазнавальныя знакі амерыканскага паветранага флоту.

— Аэрадром тут дзесьці паблізу,— сказаў камандзір гарматы. На яго смуглым твары блішчалі кропелькі поту.

Камандзір ужо разварочваў гармату насустрач знішчальніку, які, равучы турбінамі, цэліў з вышыні проста на палубу. У адно імгненне ён прамільгнуў над галавой, і мне здалося, што ўбачыў засяроджаны твар лётчыка ў вялізных чорных акулярах. Відаць, так было і на самай справе, бо, калі я азірнуўся на карму, самалёт ляцеў так нізка над морам, што, здавалася, зараз зачэрпне ваду крылом.

А на карабель пікіраваў ужо другі знішчальнік.

— Уляпіць бы яму адзін у кабіну! — Мікола злосна пагладзіў далонню снарад з чырвонай прыгожай галоўкай.— А то гудуць над галавой, як трутні, аж у вушах закалола...

— Нервы,— адгукнуўся камандзір.— Валяр'янку трэба ў кішэні насіць.
— Лёгка казаць,— пакрыўдзіўся Мікола.— Лятаюць над галавой, а ты — глядзі... Садануць бы, адразу паразумнелі б.
Цяпер ужо разззлаваўся камандзір.
— Дурань ты, хоць і зараджальны,— праз сціснутыя зубы сказаў ён.— Што будзе, калі кожны пачне ні з таго ні з сяго страляць? Мы ж тут, мабыць, і плаваем, каб гэтай самай страляніны не было. А калі засвярбяць рукі, маці ўспомні. Я дык заўсёды пра маці думаю. Адна яна ў мяне засталася...
Я падумаў пра Іру. Што б яна сказала, калі б убачыла мяне за гарматай і гэтыя нахабныя знішчальнікі?
На карабель зноў заходзіў самалёт. Ён паводзіў сябе неяк дзіўна. Ён падаў да вады бокам, быццам параненая чайка, стомлена адкінуўшы назад вострыя крылы. Самалёт быў яшчэ даволі далёка ад нас, і, мабыць, таму ніхто пасля з нас не мог растлумачыць, што здарылася. У імгненне з доўгага носа знішчальніка вылецела чырвоная кропка, панеслася ўслед за самалётам. Самалёт на шалёнай хуткасці ўрэзаўся ў мора, да неба падняўся вялізны вадзяны слуп, і гулкае рэха разнеслася магутным выбухам. Некалькі хвілін яшчэ вар'яцелі хвалі, а потым мора быццам сцішэла, праглынула ў сваю бясконцую глыбіню знішчальнік.
Гэта здарылася так нечакана, што, калі б не парашут з белых і чырвоных кавалачкаў шоўку, на якім паволі спускаўся ў мора лётчык, можна было падумаць, што ніякага самалёта не было. Аднак ён быў, і амерыканскі лётчык зараз спускаўся на парашуце.
Карабель рэзка лёг на правы борт, так, што белая пена ўзбегла на палубу, а мы з Міколам, каб не зваліцца, ухапіліся за жалезную скрыню, дзе ляжалі чыстыя анучы для праціркі гарматы. Мы ішлі поўным ходам да таго месца, дзе меўся прываднíцца лётчык.
Высока над галавой, равучы, пранёсся самалёт. Вінавата паківаў крыламі над самым парашутыстам, крута ўзяў да берага, які віднеўся цяпер ледзь-ледзь, быццам яго захінула шэрая смуга.
— Зачахліць гарматы,— вырваўся з палубных дынамікаў спакойны голас камандзіра карабля.
Мы ўтраіх моўчкі ўхапіліся за парусіну. Зачахлілі гармату і амаль адначасова паглядзелі на мора. Там, наперадзе, бездапаможна гойдаўся на вадзе парашут.
— Можа, утапіўся ўжо? — спалохана спытаў Мікола.
— Не павінен,— сказаў я.— У яго надзіманая лодка ёсць.
Я паглядзеў на палубу. На ёй нікога не было. Не адчыніўся ні адзін люк. Карабель быццам вымер. Але вось з такелажкі, якая была на самай карме, пачалі вылазіць боцманы ў выратавальных паясах лімоннага колеру. Яны вылазілі з люка па адным.
Як я і думаў, лётчык сядзеў у надзіманай лодцы. Карабель змяніў курс, каб падысці да яе бортам. Летчык перастаў веславаць, адкінуўся ўсім целам назад і памахаў рукой. Відаць, ён радаваўся, што застаўся жывы і яго падбярэ на борт карабель. Для яго, мабыць, зараз не мела аніякага значэння, чый ён: савецкі ці амерыканскі. Проста, чалавек радаваўся свайму выратаванню.
На лётчыку быў апрануты ружовы камбінезон, і сядзеў пілот у ружовай лодачцы, быццам сабраўся пакатацца па моры або павудзіць рыбу. Напэўна, лётчык быў высокі, бо тулава ў яго здавалася доўгім. На твары, з якога яшчэ не паспела сысці разгубленасць, блукала вінаватая ўсмешка.





Толькі які-небудзь дзесятак метраў аддзяляў нас зараз ад надзіманой ружовай лодачкі, і можна было разгледзець лётчыка. Ён быў прыгожы, гэты амерыканскі пілот, які некалькі хвілін назад, страшэнна равучы, праносіўся над мачтамі карабля. У яго быў прадаўгаваты смуглы твар, з ледзь прыкметнай гарбінкай нос і кучаравыя чорныя валасы, якія, відаць, перад самым вылетам ён намазаў нечым, бо яны пераліваліся на сонцы.

Боцманы прымацавалі да лееpаў штармавы вераўчаны трап. Ля яго ўжо стаялі камандзір карабля і нампаліт. Абодва яны былі амаль аднолькавага росту, у чорных шынялях і ў такога ж колеру шапках з кароткімі брылькамі. Яны стаялі да нас спіной і, пераступаючы з нагі на нагу, чакалі пакуль узбярэцца на палубу амерыканец.

Нарэшце, над палубай паявілася галава лётчыка, а потым ён і ўвесь нязграбна перакуліўся цераз леер. Прыклаў да галавы руку, прывітаўся з афіцэрамі, кіўнуў галавой боцманам. Можна было падумаць, што яму кожны дзень прыходзіцца катапультавацца, бо ён, здавалася, адчуваў сябе добра.

З твару лётчык быў не на многа старэйшы за мяне. І не такі высокі, як я думаў, калі ён сядзеў у лодачцы. Нават усміхнуўся неяк вінавата, як маленькі хлопчык. Я нечакана падумаў, што было б вельмі добра, каб у час палёту можна было зазірнуць у твар чужому лётчыку.

Між тым, афіцэры і амерыканскі лётчык ужо ішлі па палубе і ціхенька размаўлялі. Відаць, цікавіліся, што здарылася з самалётам. Лётчык раз-пораз збянтэжана ківаў галавой. Мабыць, скардзіўся на тэхніку. Камандзір адчыніў дзверы, што вялі з палубы ў афіцэрскі калідор і далей у каюткампанію, і жэстам запрасіў лётчыка. Карабель зноў нібы вымер, павbooli гойдаўся на маленькіх хвалях.

Мікола смешна мігнуў сваімі бялявымі вейкамі. Ён, напэўна, яшчэ не зразумеў, што здарылася.

— Вось гэта быў малюначак! — нарэшце сказаў ён.— Мог жа гэты хлопец у вадзяную скрыню сыграць. Шанцуе амерыканцам! Каб я з такой вышыні ляцеў, дык ці выратаваўся б.

— Змоўкні ты, недапечаны філосаф! — агрызнуўся я. Мне чамусьці хацелася цішыні, бо ў вушах не заціхаў прыкры роў чужых самалётаў.

Ад борта карабля адваліла васьмівёсельная шлюпка. На карме, то адкідваючыся ўсім целам назад, то падаючыся наперад, стагнаў боцман: «Р-ра-з-з — д-в-а-а...» Хлопцы веславалі дружна, і шлюпка хутка аддалялася ад карабля. Яна трымала курс да таго месца, дзе загінуў амерыканскі самалёт.

«А ці быў гэты амерыканскі самалёт? — падумаў я.— Можа, усё гэта — дурны сон? Вось зараз заплюшчу вочы, і ўсё адразу пройдзе».

Я заплюшчыў вочы і ў тую ж хвіліну пачуў выбух. Узняўся над морам вялізны вадзяны слуп.

Не, усё гэта была праўда, як і тое, што лётчык з амерыканскага знішчальніка зараз сядзеў у афіцэрскай кают-кампаніі. Я шкадаваў яго. Відаць, таму, што з першага позірку лётчык здаваўся мне неблагім хлопцам. Ён, мабыць, проста выконваў загад і цяпер радаваўся, што ўсё гэта здарылася не дзесьці ў марской адзіноце, а побач з караблём, які адразу прыйшоў на дапамогу.

Вось і тая казка пра змея Гарыныча, якую абяцаў расказаць сівы хворы маёр з нашага барака, відаць, была пра гэта.



Мае думкі перапыніў Мікола. Ён падышоў да мяне, паклаў руку на плячо.

— Час ужо на вахту заступаць,— сказаў ён.— Цяпер аж да самай ночы.

Мне не хацелася гаварыць, і я моўчкі кіўнуў галавой у бок камандзіра гарматы.

— Нам у кацёл патрэбна,— зноў зацягнуў Мікола.

У камандзіра гарматы папаўзлі на лоб густыя бровы. Ён прачытаў Міколу інструкцыю, дзе было чорным па белым напісана, што пакідаць баявы пост без адбою ні ў якім разе нельга.

Мікола зрабіў выгляд, быццам згадзіўся, але не вытрымаў, сказаў:

— Усё гэта я і сам добра помню. Але ж зараз ціха. Трэба хлопцаў падмяніць.

Камандзір дэманстратыўна адвярнуўся, а я адразу і не зразумеў, адкуль паявілася ў Міколы такая заклапочанасць. Першы раз ён, здавалася, хацеў спусціцца ў кацёл. «Дзівак,— падумаў я,— чаму яму заўсёды не быць такім? Самому лягчэй бы служыць стала, а то з-за сваёй ляноты заўсёды нечага баіцца. Прыкідваецца дурнем, а на самой справе — неблагі хлопец».

— Ёлуп,— нечакана, нахіліўшыся да майго вуха, прашаптаў Мікола.— Мог жа таксама некалькі слоў сказаць. Карабель стаіць, і невядома яшчэ, колькі будзе стаяць, можна было б у катле адпачыць. А праз чатыры гадзіны бухнуліся б у ложкі...

Хлопцы, бадай, і самі не разумелі, якую трапную прыдумалі мянушку. Мікола сапраўды быў Кемлівы хлопчык: да такога нялёгка было дадумацца.

— Ну дык як? — з надзеяй у голасе спытаў Мікола.

— Ідзі ты...— я хацеў вылаяцца, але стрымаўся,— да д'ябла...

— Я нават пабегчы згодзен,— агрызнуўся Мікола,— ды толькі няма куды.

Мікола меўся яшчэ нешта сказаць, але ў гэты момант на палубу зноў выйшлі карабельныя афіцэры і амерыканскі лётчык. Яны падышлі да лееpаў штармавой загароджы. Доўга стаялі моўчкі. Потым лётчык паказаў вялікім пальцам у бок шлюпкі, што поўным ходам ужо неслася назад. Відаць, лётчык паказаў на тое месца, дзе патануў самалёт і дзе цяпер паволі гойдаўся на маленькіх хвалях чырвоны буй, які паставілі боцманы на месцы катастрофы.

Праз нейкую хвіліну шлюпка схавалася пад доўгім бортам, і камандзір карабля крыкнуў з палубы ўніз:

— Чаму так хутка?

Адказу я не пачуў, але па тым, як камандзір павярнуўся да лётчыка, нешта ціха сказаў, здагадаўся, што заставацца на месцы катастрофы няма ніякага сэнсу. Ды і наогул, што можна знайсці ад самалёта, які ўрэзаўся ў ваду?

— Здаецца, да ночы стаяць будзем,— сказаў Мікола. У яго голасе ўжо не адчувалася ні крыўды, ні цікавасці.

Дыск сонца патануў у вадзе. Заснежаныя сопкі цяпер здаваліся здаля не такімі бліскучымі, быццам спахмурнелі, як матавае шкло надвячоркам. Мабыць, ад берага ішлі караблі. Я разумеў, што гэтыя караблі бліжэй да нас, чым здаецца, але ўсё ж такі было цікава, чаму курацца вяршыні сопак.

— Падрыхтавацца прыняць карабель з правага борта! — разнеслася з дынамікаў.

На палубе афіцэраў ужо не было. Затое невядома адкуль, як прусы

са шчылін, выпаўзалі наверх матросы са швартовых каманд. Яны звыкла станавіліся ўздоўж леераў штармавой загароджы. Каля лябёдкі завіхаліся боцманы. Таропка падымалі на палубу шлюпку.

Караблёў было два. Яны ішлі паралельным курсам, высока ўзняўшы над вадой вострыя насы, і, мабыць, таму здавалася, што яны ляцяць над морам. Раптам адзін з караблёў трохі сцішыў бег і пайшоў у напрамку да буя. Гэта было выратавальнае судна. На карме стаялі вадалазы ў цяжкіх скафандрах.

— Нават капітан Нема нічога зараз не знойдзе,— сказаў Мікола.— Хай дзякуюць богу, што лётчык жывы застаўся.

Яму ніхто не адказаў. Камандзір нешта корпаўся ў гармаце, а я глядзеў, як імкліва набліжаецца эсмінец. На яго палубе ўжо былі відаць матросы, якія таксама стаялі ўздоўж борта.

Эсмінец падыходзіў да нас з кармы, але трохі не разлічыў хуткасці, бо машыны працавалі «поўны назад». Ад вінта ўзнімаліся доўгія буруны вады. Адразу ж караблі загойдаліся адзін ля другога, нібы пеўні, гатовыя распачаць бойку.

— Прыгожа хацелі прышвартавацца! — засмяяўся камандзір гарматы.— Але ж гэта навука складаная: тут разлік патрэбны...

Нос замежнага эсмінца вельмі занесла ўбок, і швартовыя тросы, што кідалі з палубы бацманы, не далятаалі да нашага карабля. Узнімаючы фантаны іскрыстых пырскаў, швартовыя падалі ў ваду. Эсмінец спачатку марудна, а потым шпарчэй пачаў адыходзіць назад. Відаць, ён меўся паўтарыць заход яшчэ раз. Але залішне крута ўзяў убок. Разразаючы хвалі, на нас набягаў востры нос эсмінца. Нешта балюча сціснула грудзі.

— Бадзягі! — вылаяўся камандзір гарматы.— Нават у госці хадзіць не навучыліся!

На крыло хадавога мосціка выбег сігнальшчык. Замільгацелі чырвоныя сцяжкі. Замежны эсмінец нібы запыніўся на момант, а потым, як рак, папоўз назад. Відаць, з нашага карабля загадалі не падыходзіць да борта.

Да лябёдкі зноў падбеглі боцманы. Агідна зарыпелі тросы, і шлюпка пачала спускацца за борт. Нехта з матросаў са швартовай каманды прымацоўваў да леераў вераўчаны трап.

— Не захацелі з камфортам,— сказаў Мікола,— дык прыйдзецца па вяроўцы за борт злазіць.

У міколавых словах адчувалася патаемная зларадпасць. Мне дык, наадварот, вельмі хацелася, каб гэты карабель падышоў да нашага борта і мы перадалі лётчыка. Відаць, гэтае пачуццё ахапіла мяне таму, што здарэнне ў моры мне здавалася незвычайным і трошкі рамантычным. Я быў рады, што ўсё скончылася добра, і ганарыўся, што разам з хлопцамі адказваю за лёс амерыканскага лётчыка, што ён сядзіць меnавіта ў нашай кают-кампаніі і з ім абыходзяцца, як з госцем.

Пакуль я так разважаў, боцманы ўжо селі на вёслы, а лётчык разам з афіцэрамі падышоў да трапа. Калі шлюпка спынілася ля трапа, камандзір карабля ўзяў пад брылёк, лётчык паціснуў рукі афіцэрам і палез па трапе ўніз. Праз якую хвіліну шлюпка вынырнула з-пад борта і пайшла курсам на замежны эсмінец. Амерыканскі лётчык сядзеў скурчыўшыся, уцягнуўшы галаву ў плечы, спіной да нас. Мне нават стала крыўдна, што ўсё скончылася так звычайна. Але ў гэты самы момант лётчык падняўся ў шлюпцы і, павярнуўшыся тварам да нашага карабля, прыклаў руку да скроні. Так ён стаяў некалькі хвілін, маўклівы, засяроджаны, потым стомлена апусціўся на дно шлюпкі.



— Вось і ўсё,— сказаў камандзір гарматы.— Можна ісці далей.

— Так,— сказаў я. Мне было цяжка разабрацца ў сваіх пачуццях.— Зараз нас нішто больш не трымае.

Замежны эсмінец прыняў на борт лётчыка, і шлюпка адразу пайшла назад. Яна бегла назад, нібы баючыся спазніцца, і галава боцмана гойдалася ў такт узмаху вёслаў.

Вакол ляжала ціхае, самотнае мора. Як добрыя знаёмыя, але чамусьці насцярожаныя, разыходзіліся ў розныя бакі караблі. На палубах матросаў не было, толькі доўгія ствалы гармат у шэрых брызентавых чахлах глядзелі ў неба.

Караблі разыходзіліся, каб больш ніколі не сустрэцца, і я падумаў, што, бадай, толькі лётчык не забудзе гэтае мора і гэты вечар.

Я яшчэ доўга стаяў ля гарматы і глядзеў, як магутны карабель робіцца шэрай кропкай. Нібы чайка.

— Дачакаўся,— сказаў Мікола.—Цяпер нам на вахту заступаць.

— Затое мора, як шкло,— сказаў я.— Сапраўднае турысцкае падарожжа...

— З прыгодамі,— агрызнуўся Мікола. У яго, відаць, зноў сапсаваўся настрой.— Я нутром адчуваю, што ноччу будзе шторм. Тады ўжо не паспіш...

## 14

Прароцтва Міколы не спраўдзілася. Ноччу мора не разгулялася. Ноччу зноў загула баявая трывога і ўзняла нас з ложкаў. Мы толькі-толькі змяніліся з вахты і нават не паспелі адпачыць.

Мікола сядзеў у кубрыку на рундуку і ніяк не мог патрапіць нагой у бот.

— Трасца табе ў бок! — сцяўшы зубы, на некага лаяўся ён.— Што гэта за жыццё такое? Нават вочы нельга заплюшчыць.

Я засмяяўся. Бегучы міма Міколы, жартам штурхнуў яго локцем. Мікола ўздагон кінуў у мяне ботам, але не пацэліў, і бот паляцеў пад трап.

— А яшчэ зараджальны,— укалоў я.

— Адыдзіся, нячысцік! — гнеўна вырачыў вочы Мікола.— У такім настроі я і забіць магу.

Ён, цяжка дыхаючы, палез пад трап. Выцягнуў адтуль бот. Здзіўлена паглядзеў на яго.

— Вось цуд! — свіснуў ён.— Дык я ж не свае боты схапіў! Эй, чый бот?

У кубрыку ўжо нікога не было.

— Давай хутчэй! — сказаў я.— Камандзір чакае.

Мікола лыпаў вачыма. Круціў перад носам боты і не ведаў, што з імі рабіць.

— Я ж іх не нацягну на ногі,— нарэшце сказаў ён.— Чаравікі трэба знайсці.

— Абыдзешся,— сказаў я,— палуба цёплая.

Мне было весела. Мабыць, таму, што некалькі хвілін назад да мяне, як жывая, прыйшла Іра. Я ляжаў на ложку, думаў пра яе, і яна адгукнулася. Зараз мне здавалася, што я нават абдымаў Іру, адчуваў, як дрыжаць яе плечы.

Цяпер, трымаючыся адной рукой за поручні, я стаяў на трапе, успамінаў гэтае нечаканае спатканне, якое, вядома, будзе некалі сапраўды, і, відаць, у мяне на вуснах блукала таямнічая ўсмешка.

— Чаго ты смяешся? — узняўся на дыбкі Мікола.— Занадта разумны. У чалавека гора, а ён рагоча.— Ён усё яшчэ спрабаваў нацягнуць на нагу чужы бот. Нарэшце абуўся.— Вось зараз рагачы, колькі хочаш.

Кульгаючы, Мікола пабег за мной. Мы амаль разам вылецелі на палубу. Уваччу стала цёмна-цёмна. Мы спыніліся, трохі пастаялі, каб вочы прывыклі да цемры.

Было цёпла. Так цёпла, што нават не верылася, што мы ў моры. Быццам нас выкінула на бераг пад ахову доўгіх магутных сопак і там, дзесьці высока-высока, гуляе вецер, а ўнізе зацішна.

Я намацаў рукамі халодныя поручні трапа, што вёў наверх да кармавой гарматы, і адразу вярнулася рэчаіснасць. Ногі самі пабеглі па тонкіх прыступках.

Гармату ўжо расчахлілі. Я дакараў сябе ў душы за тое, што спазніўся на баявы пост, але ніяк не мог перамагчы ўнутраны спакой.

Мікола сядзеў на жалезнай скрыні і пазяхаў. Яму вельмі хацелася спаць, і я ведаў, што на гэты раз ён не прыкідваецца. Проста, ён не навучыўся быць уладаром над сваімі жаданнямі. Нават і не спрабаваў гэтага зрабіць. «А навошта? — гаварыў ён.— Чалавек жыве толькі адзін раз. Ці ж я дурань нейкі, каб мучыць сябе?»

З ягоных слоў выходзіла, што лепшае для чалавека любіць самога сябе. Я абураўся, але нічога не мог супрацьпаставіць ягоным поглядам, бо яшчэ добра сам не разумеў, дзеля чаго жыве чалавек на свеце. Дзесьці ў глыбіні душы спела нейкае новае, незнаёмае пачуццё, часам прыходзіла ўпэўненасць, што я ўжо многае зразумеў, жыву па-іншаму, аднак мне не хапала той унутранай рашучасці, якая дазваляе чалавеку пераканацца ў тым, што гэтае новае назаўсёды.

Я стаяў ля кармавой гарматы, углядаўся ў густую цемру, і мне здавалася, што я трапіў у невядомую краіну, дзе няма зорак і дзе людзі ніколі не бачаць адзін аднаго. Гэтая думка была мне прыемнай, бо я адчуваў, што мне патрэбен час, каб зразумець самога сябе. Яшчэ я думаў пра Іру...

— Абдымі мяне за плечы,— засмяяўся Мікола.— Мне нешта холадна.

Ён, як і раней, сядзеў, скурчыўшыся, на скрыні. Вядома, Мікола жартаваў, бо ноч была цёплая. Мы плылі на поўдзень. Іначай бы Мікола доўга не ўседзеў на жалезнай скрыні.

— Цябе Аляксей абдыме, калі здагадаецца пра эжэктар,— усміхнуўся я.— Ты ж ведаеш ягоныя абдымкі...

— Абыдзецца,— уздыхнуў Мікола.— Толькі ты маўчы. Потым што-небудзь прыдумаем.

— Добра,— згадзіўся я,— у апошні раз памаўчу, а потым на мяне спадзявайся.

— Дзякуй і за гэта,— сказаў Мікола.— Свая кашуля заўсёды бліжэй да цела...

Дзесьці далёка-далёка шалёна заскакалі па чорнай вадзе белыя плямы. У адказ з хадавога мастка нашага карабля прарэзаў цемру шырокі прамень пражэктара. Толькі ён глядзеў не ў ваду, а некуды ў вышыню, выхопліваючы з ночы доўгае, фантастычнае павуцінне. На палубе стала светла, як днём. Заблішчалі на карме стальныя рэйкі міннай дарожкі, што беглі праз усю палубу ў самы канец карабля, і там, дзе стаяла невысокая вежа з маленькімі дзверцамі ў кубрык, спыняліся над вадзянымі бурунамі, што ўзнімаліся ад вінта.

Прамень яшчэ трохі пашастаў у вышыні, і зноў карабель ахінула густая цемра. Я да болю ў вачах углядаўся ўдалечыню. Нарэшце заўважыў сінія і зялёныя агеньчыкі. Яны нібы плылі ў паветры, набліжаліся да нас.

Здалёк было цяжка пазнаць, ці гэта звычайны рыбалоўны траўлер, ці ваенны карабель.

— Вось, нарэшце, і сустрэлі,— задаволена сказаў камандзір гарматы.— Наш эсмінец. Зараз вучэнне пачнецца. Падыдзем да яго і забяром «забітых» і «параненых». Ён жа на «міне падарваўся».

Мікола спалохана войкнуў.

— Як жа гэта здарылася?

Камандзір гарматы, каб не зарагатаць, прыкрыў далонню рот.

— Ты ў дзяцінстве ў вайну гуляў? — спытаў ён.

Мікола на момант разгубіўся.

— Не,— нарэшце адказаў ён.— Нашы хлопцы толькі ў пастухоў гулялі.

— Дзіўны ты хлопец! — сказаў камандзір.— Нават у вайну ніколі не гуляў!

— А што добрага ў гэтай вайне? — Мікола тужліва нахіліў галаву і правёў наском бота па палубе.— У мяне бацька на вайне загінуў...

Ён сказаў гэта ледзь чутна, з зацятым болем у голасе, быццам больш не мог стрымаць сябе.

— Ты прабач,— сказаў камандзір гарматы,— я не ведаў.

Мне здалося, што Мікола зараз заплача. Ён закрыў далонямі вочы. Маленькі і хударлявы, ён моўчкі стаяў у густой, цёплай цемры. Мікола адразу стаў неяк бліжэй мне, больш зразумелы. І я добра ведаў, чаму.

— Ладна,— сказаў Мікола,— ці ж у мяне аднаго...

Зноў з хадавога мастка кінуўся ў блізкае неба, засвяціў прамень. Са стрэчнага карабля адказалі. Здавалася, гэты карабель быў ужо блізка. Калі праз нейкую хвіліну на ім запаліліся палубныя агні, мы ўбачылі, што карабель ляжыць у дрэйфе, вялізны і доўгі. На нашым караблі таксама запаліліся лямпачкі. На вадзе замітусіліся палахлівыя водбліскі.

Пад нагамі шалёна ўздрыгнула палуба. Гэта пачалі працаваць назад машыны. Мы падыходзілі да асветленага эсмінца асцярожна, нібы мацалі пражэктарам цемру.

— Дык ты мне растлумач, у чым справа? — папрасіў камандзіра Мікола.

— Ну, гэта быццам нешта з караблём здарылася,— пачаў тлумачыць камандзір гарматы.— А на самай справе — нічога. Умоўна ўсё, значыцца.

— Тады зразумела,— з палёгкай уздыхнуў Мікола.— «Параненыя» і «забітыя» прыкідвацца будуць. Вось бы ў каго-небудзь з іх паказытаць пятку...

Караблі ўжо сутыкнуліся бартамі. З глыбокай калдобіны між імі, дзе шалёна віравала вада, выпаўзалі клубы белай пары. Густыя і калматыя, яны часам захіналі карабель, і тады здавалася, што патроху бярэцца ранне.

Матросы са швартовых каманд заводзілі тросы, а боцманы, сагнуўшыся, як гномы, неслі на плячах да лээраў доўгі, цяжкі трап. Усё рабілася моўчкі.

Па трапе да нас узабраўся Аляксей. Па баявой трывозе ён быў у катле. Відаць, як больш вопытны.

— Прыгожа тут у вас,— сказаў Аляксей.— Толькі гітары не хапае.

— І зорак,— паскардзіўся Мікола.— А то ж было цёмна, як у пузе ў акулы.

— Затое зараз светла, нібы ў карнавальную ноч,— сказаў Аляксей.— А галоўнае — на душы прыемна. Сваіх, нарэшце, сустрэлі.

— Вядома,— згадзіўся камандзір гарматы,— са сваімі і ноч днём здаецца.

Аляксей павярнуўся тварам да камандзіра, правёў далонню па чорных кароткіх валасах. Уся яго высокая дужая постаць неяк сцялася.

— Што я ў цябе хацеў запытаць...— Аляксей наморшчыў лоб і адразу пастарэў.— Ага, успомніў. Як тут мае служаць? Не скардзіўся на качагараў?

— А чаго ж скардзіцца,— пацісну́ў пакатымі плячыма камандзір гарматы.— На палубу не пападалі, калі самалёты на нас пікіравалі, значыцца, хлопцы з перцам.

— Вось і добра,— узрадаваўся Аляксей.— Але ж аднаго з гэтых галубкоў пасля паходу я адвяду на гаўптвахту. Як ты думаеш, каго, Кемлівы хлопчык?

Прыжмурыўшы чорныя вочы, Аляксей паглядзеў на Міколу. Той не вытрымаў гэтага ўважлівага, дакорлівага позірку.

— Ну, дык каго? — перапытаў Аляксей.

Ён шырока паставіў ногі, засунуў рукі ў кішэні штаноў і адразу яшчэ пабольшаў, стаяў нібы вялізны ўцёс. Побач з ім мы з Міколам здаваліся хлапчукамі.

— Ведаю, каго,— нарэшце адгукнуўся Мікола. У ягоным голасе чуліся боль, крыўда і нейкая патаемная злосць.— Ледзь што, адразу ўсе за Кемлівага хлопчыка бяруцца. Быццам я вінаваты, што хударлявы нарадзіўся. Дзе ж мне за хлопцамі паспець?

— Не перажывай,— усміхнуўся Аляксей,— твая чарга яшчэ не надышла. Спачатку мы адвядзем на гаўптвахту Ігара. Зразумела я тлумачу, Кемлівы хлопчык?

Нешта абарвалася ў маіх грудзях. Нават здалося, што я недачуў.

— А чаму мяне? — нерашуча запытаў я. Мне здалося, што Аляксей няўдала пажартаваў.

— Сапраўды, а чаму менавіта яго? — нечакана, як певень, падаўся наперад Мікола. Ён падняў свае доўгія, як крылы, рукі.

Аляксей паківаў галавой:

— А я думаў, што вы не сябруеце?.. Што ж, дружба людзям патрэбна. Без яе і жыць няма ніякага сэнсу. Але ж дружба дружбай, а мазут цячэ...

Цяпер я зразумеў, чаму Аляксея амаль не бачыў у кубрыку. Нават здзівіўся: калі ён адпачывае? Аляксей корпаўся ўвесь вольны час у эжэктары. Нялёгка ж яму было выкрыць нашу хлусню. Толькі невядома, чаму Аляксей не злуецца, а ўсміхаецца.

Мікола таксама маўчаў. Перабіраў маленькія сінія гузікі на рукаве робы. Потым нацягнуў аж да самага падбародка паласаты нацельнік.

— Той, хто дапамагае хлусіць,— глуха сказаў Аляксей,— яшчэ больш вінаваты.— Ён павярнуўся да мяне і паглядзеў проста ў вочы.— Ты, Ігар, пасля ўсяго гэтага не толькі дрэнны матрос, а больш — дрэнны чалавек. Вось што страшна. І ніколі не выдумляй сабе, што хлусня можа дапамагчы. Зразумела я тлумачу? Дык вось... Уладай камандзіра карабля пяць сутак гаўптвахты. Дазвол камандзіра ёсць... Ён ведае.





Я прыклаў руку да бесказыркі. Мне было балюча і сорамна.

— Ёсць,— сказаў я.— Усё зразумела.

Мікола, які ўвесь гэты час стаяў за маёй спіной, нечакана штурхнуў мяне рукой у бок і выбег наперад.

— Не зразумела,— сказаў Мікола.— Гэта ж я вінаваты. З мяне павінны і спаганяць. А ён — што? Ён сваю работу зрабіў сумленна. Якія тут могуць быць прычэпкі?

Аляксей раззлаваўся. На шчоках заварушыліся жаўлакі, а вочы яшчэ больш пацямнелі.

— За недарэчныя размовы два нарады на работу,— крыкнуў Аляксей.

Мікола нібы паменшаў. Усю яго фанабэрыстасць быццам змыла хваляй.

— Правільна,— ціха адгукнуўся камандзір гарматы,— парадак ёсць парадак.

Невядома, што ён хацеў гэтым сказаць. Але для мяне гэта ўжо не мела ніякага значэння. Проста неяк палягчэла на душы. Я ведаў, што цяпер больш ніколі не буду хлусіць.

Аляксей пачаў злазіць па трапе, але нечакана спыніўся. Над кармавой надбудовай узвышалася толькі ягоная вялікая галава, на якой тырчэлі вожыкам валасы.

— Ледзь не забыў,— звярнуўся да мяне Аляксей,— Сімахін загадаў дапамагчы пераносіць на карабель «параненых».

Па трапе ўжо неслі насілкі, на якіх, выцягнуўшыся, ляжалі матросы. Я падумаў, што трэба хутчэй ляцець уніз, бо магу зноў атрымаць спагнанне.

— Пачакай,— ухапіў мяне за руку Мікола,— я ж не думаў, што так будзе! Не хацеў цябе падвесці. Далібог, не хацеў.— У Міколы ад хвалявання зрываўся голас.— Ты ж невінаваты. Вось кончыцца трывога, я да самога камандзіра пайду.

— Не трэба,— сказаў я.

— Што ж мне тады рабіць? — пляснуў рукамі Мікола.

— Трымай хвост пісталетам,— сказаў я.— І вазьміся ты за гэты няшчасны эжэктар. Аляксей хутка дэмабілізуецца, а нам яшчэ служыць і служыць.

Мікола, відаць, чакаў, што я буду злаваць.

— Чэснае піянерскае,— сказаў ён,— эжэктар будзе, як новенькі.

«Ну вось,— падумаў я,— усё, што робіць Аляксей, ідзе на карысць. Цяпер у катле будзе поўны парадак». І хоць мне было балюча ад думкі, што прыйдзецца пад канвоем ісці праз увесь горад, на душы стала спакойна. І яшчэ, я зусім не крыўдзіўся на Аляксея. Відаць, таму, што рана ці позна такое павінна было здарыцца.

На палубе было светла. Яркія лямпачкі сляпілі вочы. Ля трапа стаяў Сімахін. Убачыўшы мяне, зняў з галавы пілотку, нібы яму стала горача.

— Вось бяры гэтыя насілкі,— сказаў ён. Потым спахмурнеў.— Ну, як? Атрымаў?

Мне не хацелася ныць.

— Нічога,— сказаў я.

— Ведаю, як нічога,— уздыхнуў Сімахін.— Але ж давай, браточак, і — за справу...

Удвух з кокам, які таксама быў мабілізаваны на эвакуацыю, мы падкялі насілкі. Хлопец, што ляжаў на іх, быў цяжкі і доўгі. З-пад белай прасціны высоўваліся ягоныя ногі ў рабочых чаравіках. Хлопец не варушыўся. Відаць, яму было вельмі прыемна пасля доўгага бадзяння па моры адчуваць нечы клопат.

— Цяжкі ты, карасік,— уздыхнуў кок.— Пудоў пяць будзеш, а можа і больш.

— Разам з касцямі і цельнікам,— нечакана засмяяўся хлопец, але прасціну з галавы не зняў.

— А ты забіты ці паранены? — пацікавіўся кок. Яму, мабыць, цяжка было несці насілкі моўчкі.

— «Забіты»,— задаволена адгукнуўся хлопец.— Радыст я. Першы ж «снарад» рубку ўшчэнт разнёс.

Кок трохі памаўчаў. Зручней узяўся за насілкі.

— Добра, што не ў камбуз,— нарэшце пажартаваў ён.— Мне дык таксама шанцуе. Як вучэнне, абавязкова пацэляць у мае каструлі. Занясуць, вось, як цябе, на іншы карабель, а ў мяне на душы мутарна. Ведаю ж, што трэба гатаваць. Вядома — і не паспею. Хлопцы лётаюць вакол камбуза з бачкамі, крычаць: «Снедаць давай, ёлкі-палкі...» І што каму да таго, што я забіты быў.

Хлопец, відаць, хацеў нешта сказаць, але ў гэты момант мы ўвайшлі ў кают-кампанію.

— Забіты ці паранены? — спытаў лейтэнант медыцынскай службы.

Ён быў дужы ў плячах, і на ім ледзь-ледзь сыходзіўся халат. Здавалася, ён паварухнецца і гэты халат разлезецца, як мокрая папера.

— «Забіты»,— адказаў хлопец.

— У цябе не пытаю,— раззлаваўся лейтэнант.— Тут пакуль што жывыя. Цягніце яго ў шосты кубрык.

Мы зноў падхапілі насілкі.

— Лепей бы ты быў «паранены»,— уздыхнуў кок.

Спускацца па трапе ў кубрык было цяжка. Каб уціснуцца паміж поручняў, даводзілася падымаць насілкі над галавой. Ды яшчэ ў кубрыку было цёмна. Гарэла толькі адна сіняя лямпачка ля ўваходу.

— Можа ты на сваіх пойдзеш? — спытаў кок.

Хлопец не адказаў, толькі незадаволена паварушыўся, быццам зручней умошчваўся на насілках.

— Дрэнны ты чалавек,— невядома каму, паскардзіўся кок.

— Таму і забілі,— засмяяўся хлопец.

Мы аднеслі насілкі ў самы закутак кубрыка, паставілі іх проста на падлогу. Хлопец сцягнуў з галавы белую прасціну.

— Андрэй? — здзівіўся я.— Гэта ж ты, Андрэй.

— Вядома, я. — адказаў хлопец.— Каму ж яшчэ быць, як ні мне. Я твой голас на палубе пазнаў, але галаву не высоўваў. Хай, думаю, сюрпрыз будзе. Можа, пацалуемся?

Ад нечаканасці я не змог знайсці патрэбных слоў. Мне проста не верылася, што вось гэты раздабрэлы хлопец, з бліскучымі стужкамі на пагонах, той самы Андрэй, доўгагаловы, непрыгожы, з якім мы разам ехалі ў эшалоне.

— А пісклявага ты не бачыў? — не ведаючы, з чаго пачаць гаворку, спытаў я.

Андрэй сеў на насілках, падклаў пад сябе па-турэцку ногі. З моднай прычоскай на прабор ён здаваўся мне незнаёмым.

— Не сустракаў,— ціха сказаў ён.— Мора ж во якое вялікае... Трэці тыдзень плаваем, пакуль вас сустрэлі.— Андрэй нечакана змоўк.— Служыць дзе-небудзь. Ты яго, відаць, зараз таксама не пазнаў бы. Усе мы тут іншымі становімся. А можа не іншымі, проста самімі сабой.

Я нечакана прыгадаў хлопцаў з эшалона. Успомніў мітусню на таварнай станцыі, і ўсё гэта здалося смешным, дзіцячым. Быццам гэтага ніколі не было.

— Андрэй,— сказаў я,— а добра ўсё ж такі ўбачыцца. Вось так, нечакана.

Андрэй усміхнуўся, паглядзеў мне ў вочы.

— У мяне самога ад радасці слёзы на вачах выступілі. Як пачуў твой голас, дык думаў, што з глузду з'ехаў. І такое бывае...

— А ты змяніўся,— сказаў я.— Нібы яблык стаў. Нават шчокі паружавелі.

— Паглядзі лепей на сябе,— тыцнуў мяне пальцам у грудзі Андрэй.— Таксама на мужчыну падобны стаў. Прыедзеш дадому — усе дзеўкі твае.

— Не трэба мне ўсіх дзевак,— ціха сказаў я.— Ты ж ведаеш, у мяне — толькі адна. Яна мне і патрэбна.

Андрэй узяў у свае далоні маю руку.

— Ты ведаеш, аб чым я зараз шкадую? — спытаў ён.— Дурнем раней быў. Столькі добрых дзяўчат сустракаў, а вось знайсці тую адзіную не здолеў. Сам вінаваты. Усё гулянкі ды танцулькі з сябрамі. А табе пашанцавала. Любоў чалавеку, як і сапраўдная дружба, неабходна.

Я не пазнаваў Андрэя. Няўжо гэта ён піў з Косцем з бутэлькі, а потым пераконваў лейтэнанта, што мы едзем на фронт? Ды і пра дзяўчат ён гаварыў не такім тонам.

— Чаго ты вачыма лыпаеш? — засмяяўся Андрэй.— І такое ў жыцці бывае.

Над галавой прарэзліва зазвінелі электрычныя званы. Глуха шчоўкнуў дынамік.

— Канец вучэнню. Асабістаму саставу эсмінца пакінуць карабель.

Андрэй устаў з насілак, старанна склаў белую прасціну.

— Ну, вось адпачыў і — зноў трэба за справу брацца,— сказаў ён.— Добра, што мы з табой сустрэліся. На душы стала весялей.

— І ў мяне таксама,— сказаў я.— Толькі шкада, што табе трэба ісці.

Андрэй жартаўліва паляпаў мяне па спіне. Рука ў яго была цяжкая, моцная.

— Вышэй галаву! — сказаў ён.— Радуйся, што не на праспекце, а ў нейтральных водах убачыліся. Падумай сам, якая рамантыка...

Я праводзіў Андрэя да трапа. Трохі пастаялі.

— Прабач,— сказаў Андрэй,— мне ўжо трэба бегчы. Хутка на вахту. Ашалець можна ў гэтых нейтральных водах. Чаго толькі ў эфіры не пачуеш.

Ён паціснуў мне руку і таропка пайшоў па трапе. Не азіраючыся, падняўся на насавую надбудову і адразу знік за тоўстымі стальнымі дзвярыма.

Я таксама палез да сваёй гарматы. Міколы не было. Толькі камандзір сядзеў на жалезнай скрыні.

— Няма чаго ў кубрык спускацца,— сказаў ён,— зараз караблі пачнуць адыходзіць, дык — зноў па трывозе...

Боцманы ўжо знялі трап. Асветленыя караблі яшчэ трохі пагойдаліся адзін ля другога, пацёрліся доўгімі бартамі, а потым пачалі разыходзіцца. Нешта зашумела, загуло ў комінах, і гэта сцішыла сігнал баявой трывогі.



Я да болю ў вачах углядаўся ў насавую надбудову эсмінца. Мне здавалася, што Андрэй зараз высуне галаву з рубкі і памахае мне рукой. Але караблі ўсё аддаляліся, а Андрэй так і не паказаўся.

— Дык ты злуеш на мяне? — спытаў Мікола.

Я адмоўна паківаў галавой, бо сапраўды не злаваў на Міколу. Проста было сумна, што так хутка мы развіталіся з Андрэем і што, як заўсёды, я не паспеў сказаць самае галоўнае.

Яшчэ доўга на эсмінцы гарэлі палубныя лямпачкі, карабель на вачах усё меншаў і меншаў, а потым агні пагаслі. Мора зноў ахінула густая, цёмная ноч.

## 15

Стомленасць падкралася непрыкметна. Пасля вахты я нават не стаў піць чай. Адразу пачаў распранацца. Так марудна я яшчэ ніколі не распранаўся. Рукі мяне амаль не слухаліся, заплюшчваліся вочы. І хоць у кубрыку была духата,— паравыя трубы, што віліся пад столлю, нібы дыхалі гарачынёю,— зняць нацельнік у мяне ўжо не хапіла цярпення.

— Гэй,— крыкнуў Мікола. Ён сядзеў за сталом і намазваў масла на хлеб.— Ты на фотаздымак не паглядзеў. Іра табе такога не дарue.

Мне было ўсё роўна: дарue яна ці не. Проста хацелася спаць. Я толькі здзівіўся, што ў Міколы яшчэ ёсць настрой жартаваць, і ўзлез на ложак. Нацягнуў на галаву коўдру...

Прачнуўся я не па сваёй ахвоце. Трэба было зноў заступаць на вахту. Сон мяне трохі падбадзёрыў, але ж уставаць мне не хацелася.

Відаць, на моры ўзняліся хвалі, бо карабель гойдала з боку на бок. Здавалася, што ляжыш не ў ложку, а ў арэлях. Я вылез з-пад коўдры і пачаў глядзець на шэрую столь. Многае я аддаў бы, каб можна было яшчэ трохі паляжаць вось так бяздумна.

— Хопіць песціцца,— сказаў Аляксей. Ён ужо паспеў апрануцца.— Дадому вяртаемся. Паштальён на бераг пойдзе...

Я адразу ўспомніў Іру. Саскочыў на цёплую падлогу кубрыка. Паспешліва апрануў робу, быццам спалохаўся, што карабель вернецца ў базу без мяне.

Аляксей з Міколам стаялі ўжо на прыступках трапа.

— Добрай раніцы,— сказаў Мікола.— Хто балбатаў, што я доўга сплю?

Надвор'е за ноч змянілася. Нізкія хмары паўзлі над морам, і з іх церусіў дробны дождж. Халодны і надакучлівы. Лянівыя хвалі штурхалі карабель у доўгі борт і незадаволена шыпелі, разлятаючыся па палубе белымі пырскамі.

— Самы час у кацёл хавацца,— сказаў Аляксей.

— Лепей пад коўдру,— пажартаваў Мікола.

Ён палез у кішэню, выцягнуў пачак цыгарэт.

— Можа, закурым? У катле ж нельга.— Мікола паглядзеў на Аляксея.

Аляксей узяў цыгарэту, пазяхнуў. Хаваючы цыгарэту ад дажджу, прыкурыў ад Міколавай запальнічкі.

— Мне таксама спаць хочацца,— павярнуўшыся да мяне, сказаў Аляксей.— Але ж — абавязак... Прывучыш сябе да гэтай думкі, і— лягчэй служыць.

Я таксама падумаў, што калі чалавек з чым-небудзь звыкаецца,

дык яго не так радуюць поспехі, не вельмі засмучаюць няўдачы, бо ўсё, што ён робіць, становіцца будзённым. Вось і думка пра пяць сутак гаўптвахты мяне не вельмі засмучала. Можа таму, што да базы яшчэ было далёка, а наперадзе мяне чакала вахта. Таму не хацелася зазіраць далёка.

Дзверы катла адчыніліся, і на палубу вылез Сімахін. Ступіў да нас. Рукі і твар у яго былі перапэцканы ў масла.

— Дайце закурыць,— сказаў ён.

Мікола працягнуў яму цыгарэту. Сімахін пакруціў галавой і схаваў за спіну рукі.

— У губы давай,— сказаў ён.— Бачыш, які я прыгожы...

Сімахін заціснуў губамі цыгарэту, прагна зацягнуўся.

— Што-небудзь здарылася? — насцярожана спытаў Аляксей.

У Міколы спалохана забегалі вочы. Відаць, ён падумаў пра эжэктар.

— Здарылася,— сказаў Сімахін.— Спаць не магу. Ляжу, нібы дурань, з заплюшчанымі вачыма.— Ён выплюнуў цыгарэту ў бочку з вадой, што замяняла на палубе попельніцу.— Жаніцца трэба. Вось што я думаю...

Мы засмяяліся.

— Вось якія справы, браточкі,— сказаў Сімахін.— Заўсёды чалавеку нечага не хапае.

Аляксей нечакана спахмурнеў, нахмурыў бровы.

— Трэба спускацца,— сказаў ён,— хлопцы чакаюць.

Сімахін таксама, нібы штосьці ўспомніўшы, пайшоў па палубе да афіцэрскага калідора.

— Трэба і мне адпачыць,— не азіраючыся, сказаў ён.

— А на вяселле запросіце? — крыкнуў наўздагон Мікола.

Сімахін узяўся за ручку дзвярэй, спыніўся.

— Якое ж вяселле без качагараў? Вядома, запрашу.

— Хлусіць ён,— ціха сказаў Мікола.— Старпом не дазволіць. Дысцыпліна — гэта табе не жартачкі...

— Дрэнна ты лейтэнанта ведаеш,— буркнуў Аляксей.— Калі ён сказаў, значыцца, зробіць. Іншая справа, што вяселля можа і не быць. Звычайная туга па беразе.

Мне было цяжка зразумець, чаму спахмурнеў Аляксей і нечага заспяшаўся Сімахін. Я толькі падумаў, што, мусіць, лейтэнант незнарок зачапіў нешта патаемнае ў душы Аляксея, пра што я не ведаю і, відаць, ніколі не даведаюся. Гэта была не толькі звычайная цікавасць, але і жаданне зразумець Аляксея. Мне здалося, што я маю права на ягоную шчырасць.

Вахту мы неслі моўчкі. Карабель ішоў поўным ходам, і трэба было падтрымліваць пару. Аляксей адразу праверыў механізмы і цяпер нешта запісваў у хадавы часопіс, а Мікола, абапёршыся спіной аб перагародку, за якой пачыналася машыннае аддзяленне, ляніва смактаў кавалачак чэрствага хлеба і раз-пораз, задраўшы галаву, пазіраў на манометр.

Я не вытрымаў. Мне стала смешна, бо Мікола кожную вахту смокча адзін і той жа кавалачак хлеба.

— Можа, гуркоў з палубы прынесці? — крыкнуў я. У катле было шумна і трэба было «драць» горла.— Кажуць, гуркі таксама ад марской хваробы памагаюць...

Мікола не адказаў. Вачыма паказаў на манометр. Ціск пары ў катле падаў. Я хуценька ўключыў яшчэ адну фарсунку. Быццам здалёк данёсся выбух. Сцены катла шалёна ўздрыгнулі, потым затрэсліся, як у ліхаманцы. Полымя прагна прыняло новую порцыю мазуту. Я глядзеў, як чорная стрэлка на паравым манометры захісталася ля чырвонай рыскі, і адразу вярнулася спакой.

— Ну, дык як? — спытаў я ў Міколы.— Прынесці?

Мікола выцягнуў з кішэні воблу. Пакруціў ёю перад маім носам. Высахлая рыбіна прыемна пахла.

— Вось — каб піва! — засмяяўся ён.— Ды пад гэтую воблу. Тады — іншая справа...

Успамін пра піва быў недарэчны. Што было, тое ўжо не вернецца. Гэта я добра ведаў, але ж чамусьці не шкадаваў тыя бестурботныя дні. Проста не хапала часу думаць пра тое, другое, жыццё, дзе засталіся Іра і Косця. Будзённыя клопаты не давалі азірнуцца назад. Цяпер Іра прыходзіла да мяне толькі зрэдку. Я адчуваў, як з кожным днём, які быў запоўнены вахтамі і трывогамі, у маім новым жыцці застаецца для яе ўсё менш і менш месца. Часам мне здавалася, што, наогул, няма ніякай дзяўчыны і што Іру я сам сабе выдумаў. Тады мне рабілася сорамна, хацелася спыніць бязлітасны час, каб зусім не згубілася ў яго імклівай плыні маё каханне.

Мусіць, я яшчэ доўга б думаў, але Мікола даў мне кулаком пад рабро. Стрэлка манометра забегла за чырвоную рыску. Я зрабіў выгляд, што і сам бачыў гэта. Нетаропка выключыў адну фарсунку. Полымя адразу сцішэла. Сцены катла перасталі трэсціся. Затое пад нагамі мацней загойсала палуба.

У катле не так адчуваеш гайданку, як у моры. Таму я заўсёды дзівіўся, нашто Мікола смокча хлеб. Вядома ж, калі хлопцы раілі гэтае, дык жартавалі: Міколаў сродак памагаў ад марской хваробы, як нябожчыку лякарства. «Знайшоў сабе чалавек забаўку,— падумаў я,— і цяпер носіцца з ёй, нібы з талісманам».

Мікола расцаніў маё маўчанне па-свойму.

— Закалыхала? — спытаў ён.

Спачатку я не зразумеў, пра што пытае Мікола. А калі зразумеў, дык раззлаваўся.

— Смакчы, смакчы...— сказаў я.

Мікола разламаў вобліну і аддаў мне хвост.

— Апошняе аддаю,— жартаўліва сказаў Мікола,— а ты злуешся. Не трэба на Кемлівага хлопчыка крыўдзіцца. Я нават табе на гаўптвахту насіць воблу буду... Дальбог...— Ён раптам пасур'ёзнеў, узяў мяне за руку.— Абяцаў жа чалавекам стаць. Усё так і будзе. Не выйшла палайдачыць, і — не трэба...

Мікола, відаць, адчуваў сябе вінаватым. Ён мне быў больш зразумелы, чым Аляксей. Пэўна, таму, што ён нагадваў мяне самога, калі я вучыўся ва ўніверсітэце. Вось не паставіў бы мне Хрыстафор Адамавіч адзнаку, і, вядома, нічога іншага не заставалася, як узяцца за падручнік. Так і Мікола. Гультаяваў да першага спагнання. Цяпер ён пасур'ёзнеў, нібы пасталеў за адну ноч.

— Слухай,— спытаў я,— чаму Сімахін так хуценька рэтыраваўся? Можа, ведаеш?

Мікола не дачуў. Ён сціснуў руку ў кулак і падняў вялікі палец.

— Полымя, што трэба. Як кажуць, ляцім пад поўнымі ветразямі. Парадачак...

— Я пра Аляксея пытаюся. Нешта Сімахін недагаварыў. Бачыў, як Аляксей змяніўся ў твары?

Мне сапраўды вельмі хацелася гэта ведаць.

— А чорт іх разбярэ,— нарэшце адказаў Мікола.— Я ж не следчы. І наогул, усё гэта мяне не датычыць...

Я таксама не быў следчы, але ж лёс Аляксея мяне хваляваў. Разам з Аляксеем я прыехаў на флот, ён прывёў мяне на карабель, не дазваляў хлопцам пасмейвацца. Мне хацелася хоць чым-небудзь памагчы Аляксею.

Я глядзеў, як ён, схіліўшы на плячо галаву і, як хлапчук, высунуўшы язык, водзіць па жоўтай паперы хімічным алоўкам, і мне здалося, што Аляксей запісвае не паказанні прыбораў, а піша ліст да нарачонай. Была нейкая дзівосная несумяшчальнасць у ягоным магутным абліччы з гэтай амаль дзіцячай стараннасцю. Аляксей нагадваў першакласніка на занятках.

Нарэшце ён схаваў журнал у маленькі шэры столік, што трывала стаяў на тоўстых жалезных ножках у кутку катла, і падышоў да нас. Паглядзеў на гадзіннік.

— Хутка падмена, браточкі,— сказаў ён.

«Браточкамі» ён нас называў толькі тады, калі быў у дрэнным настроі. І мы гэта ведалі. Мікола адразу насцярожыўся, уцягнуў галаву ў каўнер ватоўкі.

— Палахлівы ты, Кемлівы хлопчык,— сказаў Аляксей.— Відаць, у маленстве з печы зваліўся...

— Ці ж я адзін трасуся, калі начальства не ў гуморы,— патрапіў у тон Мікола.— Мы ж людзі маленькія. Як кажуць у народзе, падначаленыя...

Аляксей нахіліўся да акенца з сіняга шкла, за якім раз'юшана скакала полымя, потым зноў павярнуўся да Міколы.

— А ты не палохайся,— сказаў ён.— Пад кожнага начальніка не патрапіш. Ды і навошта? Вось Ігар хоць бы што: я яму спагнанне, а ён і ў вус не дзьме. Характар! Зразумела я тлумачу?

Наконт характару Аляксей хапіў лішку, а можа проста падкалваў. Ён глядзеў на мяне з нейкай патаемнай увагай, быццам бачыў упершыню. Гэта мяне хвалявала і радавала. Мне здавалася, што ў ягоных вачах я выглядаю сапраўдным мужчынам.

— А чаго перажываць...— знарок абыякавым тонам сказаў я.— Які ж гэта матрос, што не сядзеў на гаўптвахце? А мне дык нават зусім лёгка. За свайго таварыша пакутую.— Я паглядзеў на Міколу і ўсміхнуўся.— Праўду я кажу?

— Самую вялікую ў сваім жыцці,— падхапіў Мікола.— Я таксама ахвяраваў бы сябе за таварыша.

Аляксей падышоў да Міколы, падставіў да вуха далонь.

— Што ты сказаў? — нібы не пачуўшы, перапытаў ён.

Мікола разгубіўся. Выцягнуў з кішэні ватоўкі кавалак анучы, пачаў выціраць рукі.

— Я сказаў, што таксама гатовы за таварыша...— няўпэўнена паўтарыў ён.

Шчокі ў Аляксея паружавелі. Здавалася, што ён зараз стукне Міколу між вачэй.

— Дурні! — вылаяўся Аляксей.— Ёлупы і дурні! І гэта, бачыце, мая каманда качагараў! Гатовы ахвяраваць... Ты хоць ведаеш, што гэта значыць?

Аляксей нечакана штурхнуў Міколу ў плячо. Ён не такое хацеў пачуць ад нас.

— На палітзанятках будзеш займацца разам са старшынамі,— сказаў ён Міколу.— І «дзённік» мне кожную суботу будзеш прыносіць. Зразумела я тлумачу?

— Так... Вядома... зразумела, шэф,— адгукнуўся Мікола. Ён, відаць, падумаў, што Аляксей жартуе, але не хацеў спрачацца.

Ля ўваходу ў глыбокую шахту, па якой мы падымаліся на палубу, запалілася сіняя лямпачка. Напэўна, спускалася падмена. Аднак у катле было шумна, і з шахты не даносілася ніводнага гуку. Нарэшце дзверы адчыніліся, і ў кацёл адзін за адным уваліліся хлопцы. Жартаўліва прывіталіся з намі.

— Як надвор'е? — спытаў Аляксей.

— А хто яго ведае,— адгукнуўся адзін з іх.— Мы не бачылі...

Аляксей больш ні пра што не пытаў. Аддаў хлопцам хадавы журнал... Разам паглядзелі на паказанні прыбораў. Трэба было здаваць вахту ў поўным парадку. Прыборы працавалі добра.

— Я пайшоў,— крыкнуў Мікола. Ён сёння бачкаваў *, і яму трэба было накрываць на стол.

Аляксей махнуў рукой: «Дуй, галубок...» Мікола спрытна палез у шахту. Нечага павярнуўся да нас. Баючыся, што мы не пачуем, закрычаў на поўны голас:

— Не марудзьце — ежа астыне!

— Певень заспяваў,— сказаў мне Аляксей.— Трэба ўставаць. Пайшлі.

Я палез у шахту, зачыніў за сабой дзверы. Адразу стала ціха. Намацваючы ў густой цемры прыступкі трапа, я палез наверх. Перад дзвярыма на палубу спыніўся. Крокаў Аляксея ўнізе не было чутна. Відаць, ён чакаў, пакуль я выйду на палубу, бо калі разам адчыніш двое дзвярэй — на палубу і ў кацёл — магло скалечыць. Я націснуў на ручку і выйшаў на палубу. У вочы адразу секанула зыркае святло рання. Крыху пастаяў, удыхаючы на поўныя грудзі вільготнае паветра. Нарэшце ўспомніў, што трэба выключыць сінюю лямпачку, каб Аляксей ведаў, што я ўжо вылез з шахты. Шчоўкнуў выключальнікам, пачакаў хвіліну, пакуль унізе адкажа Аляксей, і, убачыўшы, што лямпачка зноў успыхнула, як папярэджанне, каб ніхто не спускаўся ў шахту з палубы, пайшоў у кубрык. Я ішоў і трымаўся рукой за вераўчаны трос, што быў нацягнуты над галавой. У твар ляцелі салёныя пырскі. Я аблізаў губы, і адразу здалося, быццам сапраўды п'ю піва з воблай.

Спаць мне ўжо не хацелася. Ды і мора было нейкае таямнічае: доўгія хвалі перакочваліся ўразнабой, сутыкаліся, і тады ў паветра ўзляталі фантанчыкі пырскаў, быццам адсопваліся магутныя кіты. Лёгкі ветрык раскідаў хмары. Яны жвава беглі. Праз іх прасочвалася ліловае святло. Я ўспомніў, што мы вяртаемся ў базу, і на душы адразу стала радасна, як у хлопца, які спяшаецца на спатканне. З'явілася адчуванне сваёй значнасці, нейкай блізкасці з гэтым неспакойным морам і з гэтым незвычайным ліловым святлом. Мора абвастрала пачуцці, прывучала любіць яго, любіць, сцяўшы зубы.

Мне не хацелася ісці ў кубрык. Было добра стаяць на палубе, дыхаць ветрам і ведаць, што сваю справу зрабіў і цяпер заслужыў адпачынак.

Я нечага спалохаўся, што зараз падыдзе Аляксей, і азірнуўся. Мне не хацелася, каб канчалася адзінота.

* Бачкаваць—прыносіць ежу з камбуза і раздаваць яе матросам.

Аляксей ужо стаяў на палубе, узняўшы над галавой рукі. Яму, відаць, таксама не хацелася ісці ў кубрык.

На палубе больш нікога не было. Нават па крыле хадавога мастка не бегалі сігнальшчыкі. Я прыхінуўся спіной да цёплай сцяны камбуза і задумаўся. Мінулае здавалася сном. Проста не верылася, што некалі я не бачыў мора, не думаў пра яго і маё жыццё, аднастайнае і лёгкае, мне падабалася. Здавалася, што іншага жыцця не існуе.

Думкі ў галаве блыталіся:

вецер гойдае драўляны шчыт ля ўваходу ў ваенкамат;

нізкія шэрыя хмары над горадам;

вецер прымерваецца садраць з маёй паголенай галавы кепку;

сівы хворы маёр, былы сусед па бараку.

«Хлопцы будуць шукаць тайну прыроды сто пятага элемента,— сказаў ён,— але ж і ты, Ігар, знойдзеш многа новага, незразумелага пакуль табе...»

Ад успамінаў пра маёра мне стала сорамна. Колькі разоў я збіраўся напісаць яму ліст, але так і не напісаў. «Вернемся ў базу, абавязкова напішу»,— падумаў я.

Потым прыйшла Іра ў сваёй моднай зялёнай сукенцы. «Я буду чакаць...» — прашаптала яна. Я меўся нешта сказаць, але раптам адчуў, што палуба выслізгвае з-пад ног. Ледзь-ледзь паспеў ухапіцца рукой за вераўчаны трос.

Карабель рабіў круты паварот. Ён лёг бортам на ваду, і белыя хвалі з шыпеннем беглі па палубе. Я азірнуўся, і ўсё ўнутры здранцвела. Аляксея на палубе не было.

— Гэй, на хадавым мастку! — крыкнуў я, і сам не пачуў свайго голасу.

На крык ніхто не выбег. І тут я ўбачыў за кармой на хвалі Аляксея. Праз імгненне ён зноў схаваўся пад вадой.

Карабель ужо ішоў новым курсам. Я адпусціў руку і, нязграбна адштурхнуўшыся ад лераў штармавой загароджы, скокнуў у хвалі. Адразу каменем пайшоў уніз. Збоку пранеслася нешта цёмнае, і, калі я вынырнуў, карабель, здавалася, адышоў далёка. Але думаць пра гэта не было часу. Цяжкія чаравікі і намоклая ватоўка цягнулі на дно. Я паспрабаваў скінуць чаравікі, але з гэтага нічога не выйшла. Тады я зноў нырнуў пад ваду і праз зялёную смугу ўбачыў свае чаравікі. Злаўчыўшыся, пацягнуў шнурок.

Я ўжо ўдосталь наглытаўся салёнай вады, але ж чаравікі скінуў. Адразу стала лягчэй. Я ведаў, што, калі не здыму ватоўку, доўга мне не пратрымацца. Ныраць у мяне ўжо не было сіл, і я спрабаваў адшпіліць гузікі. Але пальцы не слухаліся. Я заплюшчыў вочы і нырнуў пад хвалю. З апошніх сіл ірвануў на сабе ватоўку. Калі зноў выплыў на паверхню, падумаў, што дарэмна я распранаўся, бо мора халоднае і доўга не вытрымаеш. Быццам парвалася апошняя нітка, якая звязвала мяне з жыццём.

Я адчуваў, як дранцвее цела, і паступова мной завалодала апатыя і абыякавасць. Усё ж нейкім апошнім намаганнем я паспрабаваў з вяршыні хвалі адшукаць вачыма карабель. Яго я не ўбачыў, але затое, здавалася, зусім недалёка ад мяне паказалася над вадой Аляксеева галава. Праз хвіліну яна зноў схавалася за шэрымі хвалямі.

— Лёша! — закрычаў я.— Л-ё-ё-ш-а-а!..

Мне здавалася, што зараз хвалі прынясуць голас Аляксея. Аднак мора маўчала, толькі злосна шыпела, навальваючыся цяжарам уздыбленых хваляў. І гэтыя хвалі, і адчуванне таго, што дзесьці побач змагаецца з імі мой таварыш, надалі мне рашучасці. Я глытаў салёную ваду, адплёўваўся, але патроху плыў туды, дзе быў Аляксей. Я суцяшаў сябе, што нас не разам узносіць на хвалі і таму я больш не бачу Аляксея. Я плыў, як чарапаха. Усё ў галаве пераблыталася, не было ніякіх думак, толькі адно жаданне выжыць, апынуцца побач з Аляксеем.

— Лёша! — у роспачы зноў крыкнуў я.

Моцная хваля пацягнула мяне з сабой. Мне здалося, што гэта мая апошняя хваля. Але ж мяне зноў выкінула на паверхню. Тады я расплюшчыў вочы і амаль побач убачыў Аляксея. Яго пазелянелыя губы дзіўна расцягваліся, як у вялізнай рыбіны, калі яе выкінуць на бераг. Аляксей нешта крычаў, але я нічога не чуў.

Я апусціў рукі, і мне вельмі захацелася спаць. Густая халодная цемра захінула ад мяне ліловае неба, і адразу стала ціха і добра...

## 16

Пакой быў невялікі, утульны. Белыя сцены і белая столь. Белыя шторы на акне.

Я ляжаў на шырокім ложку і ніяк не мог уявіць сабе, дзе я. Азірнуўся кругом. Нікога ў пакоі не было. Тады я спалохаўся. Мне здалося, што я звар'яцеў. Хацеў закрычаць, але ў гэты момант пачуў крокі за шклянымі дзвярыма. У пакой увайшла дзяўчынка ў белым халаце. Убачыўшы, што я ляжу з расплюшчанымі вачыма, разгублена спынілася. Потым радасна пляснула далонямі.

Дзяўчынка была маленькая і вельмі хударлявая. На белым, нібы глянцавым твары, маленькія дробныя вяснушкі.

Я мог прысягнуць, што ніколі раней яе не бачыў.

— Дзе я? — ледзь чутна спытаўся.

Дзяўчынка засмяялася, спынілася ля майго ложка.

— У шпіталі,— голас у яе быў нейкі глухі і нязвыкла мяккі.— Як добра, што ты апрытомнеў...

Я хацеў успомніць, як апынуўся ў шпіталі, але адразу разбалелася галава. Нібы маленькія іголкі ўпіліся ў скроні.

— Дрэнна стала? — нахілілася нада мной дзяўчынка. У яе былі маленькія пунсовыя губы.

— Не,— адказаў я. Мне чамусьці захацелася абняць яе за шыю.— Проста, нічога не помню...

Яна паглядзела на мяне. Паклала вузкую халодную далонь на лоб.

— Ёсць тэмпература,— сказала яна.— Мы думалі, што ты не выжывеш.

Яна спалохана закусіла губу. Напэўна, спахапілася, што сказала лішняе.

— А колькі я тут ляжу?— спытаў я.

— Ужо больш як тыдзень,— адказала дзяўчынка.— Першы раз апрытомнеў.

— Добра, што не апошні,—пажартаваў я. Дзесьці ў глыбіні душы прачыналася ўсведамленне.— Відаць, ты са мной нагаравалася?

Яна апусцілася на крэсла, паправіла на каленях халат. Мабыць, засаромелася.



— Мяне Люсяй завуць,— сказала яна.— А цябе як?
Гэта я добра помніў.

— А мяне Ігарам. Матрос Паўночнага флоту.

Люся ціхенька пырснула ў кулачок. Потым паглядзела мне проста ў вочы.

— Цябе з карабля ледзь жывога прывезлі. Ой, і нараўлася ж я. Думала, таксама памру.— Яна паправіла падушку і пачырванела.— Толькі ж ты нічога такога не думай. Проста шкада было. Такі маладзенькі...

Я пакрыўдзіўся. Нават сам не ведаю, чаму.

— А колькі ж табе гадоў?

Люся засмяялася, паказала белыя, як часнок, зубы.

— Ты, відаць, падумаў, што я ў школу яшчэ хаджу,— сказала яна. Потым самотна ўздыхнула: — Дваццаць споўнілася. Бацька мой у шпіталі працуе.

Я здзівіўся, што яна на свае гады такая маленькая. Але выгляду не падаў, баяўся пакрыўдзіць. Мне было прыемна, што яна сядзіць побач.

Пакуль мы гаварылі з Люсяй, я многае ўспомніў. Быццам з туману, паказаўся пазелянелы твар Аляксея. А потым яго ад мяне захінула доўгая хваля. Я закрыў твар рукамі.

— Слухай,— спытаўся я ў Люсі,— са мной яшчэ таварыш быў. Не ведаеш... што з ім?

Люся нечакана ўскочыла з крэсла, падбегла да маленькай шафы, выцягнула папяровы скрутак.

— Жывы ён,— сказала Люся.— Вось прыносіў яблыкі і шакалад. Разам з старшым лейтэнантам прыходзіў. Усё нашага доктара прасілі, каб цябе ўратаваў. Дык доктар раззлаваўся і выгнаў іх са шпіталя.

Люся зноў села на крэсла, паклала сабе на калені яблыкі і дзве пліткі шакаладу.

— Еш,— сказала яна.— Вельмі смачна. Я дык, прызнацца па шчырасці, не ўтрымалася: пачаставалася адным яблыкам...

Есці мне не хацелася. Нейкі салодкі камяк падкаціўся да горла, і мне здавалася, што я зараз разрумзаюся. Мне хацелася плакаць ад таго, што я жывы, што да мяне прыходзілі Аляксей і Сімахін і што на каленях гэтай дзяўчыны ляжаць яблыкі.

Я паглядзеў на Люсю і ўбачыў, што яна глядзіць на гэтыя яблыкі.

— Націскай,— сказаў я.— Чаго ты саромешся? Мне ўсё роўна не хочацца.

Люся ўзяла вялікі яблык. Адкусіла ад яго кавалачак.

— Ведаеш, я яшчэ яблыкаў нават і не бачыла, дык вельмі хочацца. Дзе яны іх толькі прыдбалі?..

— Яны ўсё могуць,— сказаў я.— Ты іх дрэнна ведаеш. Таварышы першага гатунку!

Нечакана я адчуў, як па целе разліваецца слабасць. Белая столь загойдалася перад вачыма, а Люся нібы паплыла з пакоя. Я паспрабаваў узняцца на локцях, але не змог.

Люся заўважыла, што мне стала дрэнна.

— Ты спі, спі,— сказала яна.— Я сястры зараз скажу. А заўтра зноў прыйду. І сябры твае хутка прыйдуць. Яны цяпер у моры.

У мяне яшчэ хапіла цярпення ўсміхнуцца. «Вось волат...— падумаў я пра Аляксея.— Такую ванну прыняў і — хоць бы што...»

## 17

Я пачаў хадзіць праз два тыдні. І хоць кожны дзень я сустракаўся з Люсяй, мне было сумна. Праз акно бачыў сопкі, што дыбіліся за будынкам шпіталя. Сопкі былі не вельмі высокія, пароснлыя рудой травой, і на іх вяршынях ляжалі вялізныя валуны. Яны замянялі хлопцам і дзяўчатам лаўкі. Але я ніколі не падглядваў парачкі, бо тады мне рабілася самотна.

Ад Іры лістоў не было. Я супакойваў сябе, што, мабыць, іх багата назбіралася на караблі. І ўсё ж такі мне было незразумела, чаму Іра не адказала на мой ліст у шпіталь. Да ўсяго, я вельмі шкадаваў, што на караблі застаўся яе фотаздымак. З ім мне, відаць, было б лягчэй.

Я сядзеў на ложку, бяздумна гартаў кнігу, што прынесла мне Люся, і з сумам думаў пра тое, што яшчэ адзін дзень прайшоў, а хлопцы ўсё яшчэ не вярнуліся з мора. Мне стала неяк не па сабе, быццам я застаўся на гэтым свеце зусім адзін. Тады я лёг на ложак і, закінуўшы за галаву рукі, пачаў глядзець на белую столь. Я рабіў так заўсёды, калі вельмі хацеў заснуць. Адзінота прыгнятала, наводзіла на невясёлыя думкі. Я разумеў, што мне проста не хапае будзённых клопатаў, хісткай палубы пад нагамі і маіх сяброў.

Так бяздумна я праляжаў з гадзіну. Ніяк не мог заснуць. У акно глядзела сонца. Я не разумеў, чаму Люсі падабаўся палярны дзень. Што ў ім прыгожага? Толькі заснуць нельга.

Я ўстаў з ложка, падцягнуў да акна крэсла і сеў, паклаўшы рукі на падаконнік. На сопках залацілася трава. Я падумаў, што з іхніх вяршынь, напэўна, відаць мора. Ад гэтай думкі самотна зашчымела ў грудзях.

Мне вельмі хацелася ўбачыць мора і свой карабель ля прычала. Тады я ўстаў з крэсла і ўключыў радыёпрыёмнік. Спяваў мужчына.

В морозы так нужны нам ваши письма тёплые,
Но только ты об этом лучше песню расспроси...

Я слухаў песню, і мае думкі былі дзесьці далёка-далёка ад гэтага белага пакоя. Я марыў пра вялікі шумны горад, дзе ноччу бягуць у неба, як жураўы, доўгія агні ліхтароў. Мне здавалася, што я чую шапаценне маладых ліп у дзіцячым парку, нечы прыглушаны смех, Ірыны крокі...

Нехта ціхенька абняў мяне. Я павярнуўся. За маёй спіной стаяла Люся. Яна таксама слухала песню. Люся абдымала мяне за плечы і сама не заўважала гэтага.

Мне не хацелася варушыцца. Я стаяў моўчкі і слухаў песню. Але яна скончылася, і Люся зняла з маіх плячэй рукі.

— Хлопцы твае ідуць,— сказала Люся.— Я іх у прыёмным пакоі бачыла. Зноў шумяць...

Здалося, што нехта як ударыў мне па патыліцы. Усё цела працяў боль, і, відаць, я змяніўся ў твары, бо Люся ўзяла мяне за руку.

— Ты не перажывай,— супакоіла яна.— Мой бацька сказаў, што іх прапусцяць.

— Ты вельмі добрая,— сказаў я.— Нават не ведаю, як табе дзякаваць.

Люся пачырванела, пачуўшы за шклянымі дзвярыма шум, адышлася да сцяны. У мяне закалацілася сэрца. Я глядзеў на гэтыя шкляныя дзверы, як зачараваны.

Першы ў пакой уваліўся Сімахін. У руцэ ён трымаў сумку.

— Во! — Сімахін здзіўлена ссунуў на патыліцу шапку.— Мы думалі, ён тут ад суму памірае, а ў яго шуры-муры... Ты толькі паглядзі, Аляксей!

Аляксей пераступаў з нагі на нагу. Відаць, для яго гэтыя першыя хвіліны былі такія ж цяжкія, як і для мяне. Ён стаяў, закрываючы сваёй магутнай постаццю Кемлівага хлопчыка. Той хацеў падбегчы, але, мабыць, чакаў, калі я што-небудзь скажу.

А ў мяне не было слоў. Горла ад хвалявання перасохла, і я толькі ківаў галавой.

Сімахін падышоў да мяне, ціхенька штурхнуў у грудзі.

— Ну, прывітанне на гэтым свеце,— сказаў ён.

Я ўбачыў, што на яго пагонах стала на адну зорачку больш. Няёмкасць адразу знікла, быццам яе ніколі і не было.

— Вітаю і вас, таварыш старшы лейтэнант,— радасна сказаў я.— Вось гэта прыемна.

Сімахін паставіў сумку ля сцяны, сеў на крэсла.

— Яшчэ адзін такі масавы заплыў качагараў,— засмяяўся ён,— і я, мабыць, адміралам буду.

— У наступны раз і мяне з сабой вазьміце,— падаў голас Мікола.

— Абавязкова,— паабяцаў я.

Люся выбегла з пакоя, праз хвіліну-другую прынесла два крэслы. Сімахін паглядзеў на яе, прыцмокнуў языком.

— Хвораму пацалункі патрэбны, як лякарства,— сказаў ён.

— Вядома,— нечакана згадзілася Люся і павярнулася тварам да акна.

Я паглядзеў на Аляксея. Ён сядзеў, склаўшы на каленях рукі, нізка нахіліўшы галаву, і здавалася, што яму цесна ў гэтым маленькім пакоі. Мне захацелася пачуць яго голас.

— Як ты сябе адчуваеш?— спытаў я.

Аляксей падняў галаву, потым нечага палез ў кішэню. Выцягнуў пачак цыгарэт.

— Вось д'ябал! — сказаў ён.— Забыў, што ў шпіталі курыць нельга.— Ён схаваў цыгарэты ў кішэню і паглядзеў мне проста ў вочы.— Мне доктар шклянку спірту даў, адразу ўся хвароба знікла...

— А ты малайчына! — сказаў Сімахін.— Я цябе ў разведку ўзяў бы.

Мне стала няёмка ад гэтай пахвалы. Мабыць, таму, што ў пакоі сядзеў Аляксей. Я ведаў, колькі яму каштавала пратрымаць мяне на вадзе, пакуль не падышоў карабель.

— Проста разгубіўся,— сказаў я.— Не ведаў, што рабіць. Хацеў памагчы, а зрабіў, пэўна, горш.

Мне здалося, што Аляксей павінен на мяне злаваць.

— Дзівак,— падбегшы, ляпнуў сябе па лобе Мікола,—гэта ж цябе заўважылі, калі ты кінуўся з палубы.

Відаць, Мікола вельмі ганарыўся мною. Ён глядзеў на мяне, як нарачоная на жаніха. Мне нават здалося, што Мікола перамяніўся. Мабыць, таму, што на караблі я заўсёды бачыў яго ў доўгай ватоўцы, а зараз на ім былі старанна адпрасаваныя чорныя штаны і такога ж колеру форменка з блакітным каўняром. І вочы ў яго былі не маленькія, а вялікія, прыгожыя.

— Кінь жартаваць,— сказаў я Міколу.— Ведаю я твае хітрыкі... Мікола перахрысціўся.

— Дальбог... Бачыш, як на абраз...

— Ён праўду гаворыць,— адгукнуўся са свайго крэсла Аляксей.— Ляжаў бы я зараз дзесьці без помніка.

Мы трохі памаўчалі. Кожны думаў пра сваё. Нарэшце, Сімахін устаў з крэсла.

— Мы тут табе гасцінцаў прынеслі,— сказаў ён.— Доктар абяцаў хутка выпісаць, дык ты ўжо як след еш. Заўтра я зноў прыйду. А сёння... Ты лепш у Міколы спытай...

Я паглядзеў на Міколу. Ён вінавата пераступаў з нагі на нагу.

— У кінатэатры фільм пра каханне ідзе, а мне старпом звальняльную запіску не даў. Дык вось я хаджу за старшым лейтэнантам, як нейкі хатні сабачка на ашыйніку.— Мікола задумаўся.— Ты не крыўдуй на мяне. Вельмі хочацца кіно паглядзець. А лейтэнант,— ён кіўнуў галавой у бок Сімахіна,— абяцаў білет купіць. Я заўтра таксама прыйду...

Мне вельмі хацелася ў кіно. І яшчэ хацелася падыхаць вільготным паветрам, але я сказаў:

— Давай. Ідзі ў сваё кіно. Усё роўна ад цябе ніякай карысці няма...

Мікола зрабіў выгляд, што пакрыўдзіўся. Надзьмуў губы.

— Я табе такую навіну прынёс,— сказаў ён,— а ты: ніякай карысці. На дзесяць сутак дадому паедзеш. Во як!..

Я не паверыў. Паглядзеў на Сімахіна.

— А як жа гаўптвахта? — спытаў я.

За Сімахіна адказаў Аляксей.

— Міколу пасадзім. Ён жа гатовы ахвяраваць за свайго таварыша. Вось няхай і прадэманструе...

— Не трэба яго крыўдзіць,— заступілася Люся. Яна ўсё яшчэ стаяла ля акна.— Ён такі маленькі...

— Яны пажартавалі,— сказаў Мікола.— Ці ж дрэнныя матросы лейтэнантаў у кіно водзяць?

Сімахін зарагатаў, а мне стала сумна, што Мікола ідзе ў кіно. З ім было весела. І яшчэ мне было цяжка заставацца ўдвух з Аляксеем. «Чаму, калі людзі пакрыўдзяць адзін аднаго, яны злуюцца? А калі зробяць нешта добрае, тады саромеюцца?» — падумаў я.

Люся пайшла праводзіць Сімахіна і Міколу. Мы засталіся з Аляксеем. Сядзелі на крэслах адзін насупраць аднаго і не ведалі, з чаго пачаць гаворку.

У пакоі непрыкметна сцямнела. Я паглядзеў у акно і ўбачыў, як на вяршыні сопак марудна напаўзае хмара. Яна была чорная, а па краях нейкая сіняя. Я падумаў, што, мабыць, хутка пойдзе дождж.

— Ледзь не забыў,— схамянуўся Аляксей.— Пісьмы табе...

Ён падаў мне два лісты. Я паглядзеў на адрас. Лісты былі ад маці.

— І больш нічога?— спытаў я. Мне здалося, што ў грудзях нешта адарвалася.

Я проста не меў права паверыць у тое, што Іра мне не пісала. Можа, паштальён згубіў лісты, а можа, яны змарнаваліся ў дарозе, але я павінен быў верыць Іры. Сам нават не ведаў чаму.

Я паглядзеў на Аляксея з надзеяй, і ён не вытрымаў, апусціў вочы.

— Папытаю ў хлопцаў. Можа хто-небудзь за цябе атрымаў і чакае, пакуль ты выйдзеш са шпіталя,— сказаў Аляксей.— Так часта бывае.

Аляксей нечакана палез у сумку. Пачаў нешта шукаць у ёй.

— Ведаеш, чаго Сімахіна ў кіно пацягнулі?— спытаў Аляксей.— Гэта ж пакуль лейтэнант па магазіне бегаў, дык мы паспелі бутэльку купіць. Схавалі вось у сумку.— Ён паклаў на ложак папяровы скрутак.— Вядома, нельга, але ж сёння, я думаю, нам і сам камандуючы дараваў бы. У цябе шклянкі знойдуцца?



Мне не верылася, што Аляксей, якога я заўсёды пабойваўся, прынёс бутэльку. Але менавіта гэты яго нелагічны ўчынак памог мне перасіліць сарамлівасць і няўпэўненасць.

— Зараз Люся прыйдзе,— сказаў я,— шклянкі прынясе.

Аляксей, засмяяўшыся, выцягнуў з сумкі... бутэльку вінаграднага соку.

— А я ўжо быў падумаў,— сказаў я,— як ад Люсі схавацца...

— Добрая Люся,— задумліва сказаў Аляксей.— Калі ты ў непрытомнасці ляжаў, яна папрасілася па начах дзяжурыць. Так усе ночы і правяла каля твайго ложка. А потым табе лепей стала, дык яна радыёграму на карабель прыслала. Мы ўжо ў паходзе ўсё ведалі.

У пакой убегла Люся. Твар у яе расчырванеўся, а ў руках яна трымала букецік палявых кветак. Яны былі кволыя і запыленыя.

— Бачыце,— сказала яна,— гэта лейтэнант мне нарваў. На сопцы, за шпіталем. Прыгожыя, праўда?

Кветкі былі нецікавыя. Падумалася, што, калі я падарыў бы такія кветкі Іры, яна пакрыўдзілася б. А Люся радавалася.

— Вельмі прыгожыя,— сказаў Аляксей.— А я не здагадаўся.

Я наракаў на сябе, што не магу пахваліць высахлыя кветкі, якія так падабаюцца гэтай дзяўчыне. Нават узрадаваўся, калі Люся, убачыўшы ў руках Аляксея бутэльку, спалохана закрычала:

— Зараз жа схавайце, каб я больш не бачыла!..

Аляксей зрабіў выгляд, нібы спалохаўся. Схаваў бутэльку за спіну.

— Люся,— сказаў я,— прынясі, калі ласка, шклянкі.

І тут Аляксей з-за спіны дастаў бутэльку соку. Люся пляснула ў далоні:

— Ну і штукар ты! Зараз прынясу шклянкі. Сок яму вельмі карысны.

Люся была простая, паслухмяная. Зусім не падобная на Іру. У яе не было той загадкавасці, што звычайна так падабаецца хлопцам. Усе яе ўчынкі былі зразумелыя і трохі наіўныя.

Вясёлы розыгрыш працягваўся. Нам гэтая гульня вельмі падабалася.

Люся прынесла шклянкі, і Аляксей наліў сабе, мне і Люсі, якая, прадаўжаючы розыгрыш, спрабавала адмовіцца.

— Выпі з намі,— ціха папрасіў Аляксей.— За Ігара выпі...

— Добра,— згадзілася Люся.— Нічога іншага не застаецца... А то вы яшчэ можаце падумаць, што я яму шчасця не жадаю.

— Трэба такі тост прыдумаць, каб чарцям млосна стала,— сказаў Аляксей. Ён наморшчыў лоб, задумаўся, а потым засмяяўся: — За дружбу. Лепшага нічога не прыдумаеш.

Мы выпілі. Я падумаў, што гэта найлепшы тост і што Аляксей сказаў яго зусім не так, як некалі Косця.

— Слухайце, а што такое качагар?— нечакана спытала Люся.

Яна паглядзела на мяне.

— Гэта значыцца — чалавек вышэйшай пробы,— адказаў Аляксей.— Такі, калі палюбіць ужо, дык назаўсёды. Падабаецца?

— Вельмі,— уздыхнула Люся.— Толькі я такіх яшчэ не сустракала.

Я нечакана згадзіўся. Мне не хацелася, каб Люся перажывала за мяне.

Мы разумелі адзін аднаго, але маўчалі.

— Значыцца, і тут на нашага брата начальства ёсць,— сказаў Аляксей.

Мне было дзіўна, што мы больш не гаворым пра здарэнне ў моры, быццам яго і не было. Але я разумеў, што ў гэтым быў вялікі сэнс, бо — зараз мы былі зноў разам.

Пайшоў дождж. У пакоі стала зусім цёмна.

Мабыць, мы яшчэ сядзелі б доўга, не гаворачы ні слова, але на калідоры пачуліся крокі, і Люся адразу падхапілася з крэсла.

— Вы пагаварыце яшчэ, а я пасяджу ў калідоры,— сказала Люся.

Здавалася, Аляксей толькі і чакаў, пакуль яна выйдзе з пакоя. Ён адразу падсунуў да мяне сваё крэсла і паклаў на калена руку.

— Ты яе вельмі любіш?— спытаў ён.

Я падумаў, што ён пытае пра Люсю, і пачырванеў, быццам Аляксей гэтым пытаннем дакараў мяне.

— Каго?— каб неяк выйграць час, перапытаў я.

Аляксей паглядзеў на мяне са здзіўленнем.

— Іру. Каго ж яшчэ...— буркнуў ён.

Я пачырванеў. Я зусім не думаў пра Люсю, але ж яна толькі што сядзела разам, і мне здалося, што Аляксей пытае іменна пра яе. Тым больш, ён ніколі раней не цікавіўся Ірай.

— Вельмі люблю,—адказаў я. І гэта была праўда. Я адразу ўспомніў, што хацеў папрасіць.— Ты мне прынясі заўтра з карабля яе фотаздымак.

— Добра,— сказаў Аляксей.— Але вось, чаму я гэтую гаворку распачаў. Жыццё ў мяне дрэнна склалася. Сам жа бачыш, зараз матрос, а быў некалі старшыной. Так...— Ён моцна сціснуў маё калена.— Дык вось жонка ў мяне ёсць. І сыну два гады. Такі смешны. Зусім пеўняў не баіцца. Бегае за імі па калгасным двары.— Твар Аляксея памякчэў.— Ажаніўся я, калі ўжо на флоце служыў. Сын нарадзіўся. Каб ты ведаў, як я хацеў яго ўбачыць. Нават спаць не мог. Усё дні лічыў да чарговага адпачынку... Пра дрэннае ці пра здраду нават і думкі не меў. Любіла яна мяне. І я яе. Нарэшце, далі адпачынак. Не паверыш, але падыходжу да дома і калені ад хвалявання дрыжаць. Грукаў я грукаў у дзверы, ніхто не адчыняе. Ну, думаю, пайшла некуды і малога з сабой узяла. Сеў тады на ганак, чамадан каля сябе паставіў і задумаўся. Чую, у суседняй хаце дзверы бразнулі. Выбягае на вуліцу суседская дачка Ганка. Бойкая такая дзяўчынёха. Я яе вось такой яшчэ ведаў.— Аляксей паказаў рукой.— Убачыла мяне і смяецца. «Ты, дзядзька Аляксей, ці не Зінку сваю чакаеш?» «А каго ж яшчэ?» — смяюся я. «Доўга чакаць будзеш,— гаворыць Ганка.— Яна да нашага заатэхніка ў госці пайшла. Вунь ягоная хата на ўзгорку...» І рукой паказвае... Быццам нешта аглушыла мяне. Схапіў я чамадан і... бягом. Падбег да хаты і не ведаю, што рабіць. Потым зазірнуў у акенца. Бачу: мая Зінка з заатэхнікам за сталом сядзіць, а на стале— бутэлька. Тады я закрычаў, ды як дам сваім чамаданам па акне. Цяжкі быў чамадан: падарункі я ў ім вёз.— Аляксей правёў далонню па лобе.— А потым не помню, што было. Ачуняў ужо ў поездзе. Ну і пачаў з рознымі бадзягамі гора заліваць, пакуль у камендатуру не забралі. Усяго пяць дзён у адпачынку быў...

Аляксей абняў рукамі галаву і задумаўся. Уся яго цяжкая, моцная постаць зараз нібы абмякла. Я глядзеў на яго і адчуваў сваю віnаватасць. Я зразумеў, што, акрамя мяне, толькі Сімахін нешта ведае.

— Ты прабач,— сказаў я.— Я не хацеў зрабіць табе балюча.

— А чаго мне хавацца,— глуха адгукнуўся Аляксей.— Ад сябе не схаваешся. Добра, што хоць цяпер гэта зразумеў. Вось толькі адно сабе не дарую: сына я не пабачыў. А тое, што ён пеўняў не баіцца, дык гэта Ганка мне напісала. Я ёй зараз падарункі для сына высылаю. Можа і непрыгожа, але іначай не магу...

Аляксей устаў з крэсла, падышоў да акна. Доўга глядзеў, як па шыбіне злосна лупцуе дождж.

— Трэба ісці,— нарэшце сказаў ён.— А расказаў усё табе для таго, каб жыццё сабе не сапсаваць. Што б ні здарылася, заставайся мужчынам. Вось, як там... не ведаю я тваёй Іры, нічога не магу сказаць пра яе, але ж, Ігар, глядзі...

Мне стала непрыемна, што Аляксей сумняваецца ў Ірынай вернасці.

— Яна ў мяне вельмі добрая,— сказаў я.— Проста, відаць, нешта здарылася. Бывае ж такое ў жыцці.

— Бывае,— згадзіўся Аляксей.— Здымак я табе заўтра прынясу. Можа што яшчэ трэба? Ты не саромся.

— Не,— уздыхнуў я,— больш нічога не трэба.

## 18

Нехта цёплай рукой гладзіў мяне па шчацэ. Я прыўзняўся на локці, потым расплюшчыў вочы. На крэсле сядзела Люся. Яна нават не збянтэжылася.

Шторы былі зацягнуты, і святло ледзь-ледзь прабівалася ў пакой. Таму цяжка было сказаць — ноч гэта ці дзень. Мне здалося, што я праспаў не больш, як гадзіну. Употай паглядзеў на Люсін наручны гадзіннік. Было дзве гадзіны ночы.

— Чаму ты не дома? — спытаў я.

Люся паправіла свае чорныя кароткія валасы.

— Гуляла,— адказала яна.— Ночы ў нас зараз светлыя...

Я прамаўчаў. Мне вельмі хацелася спаць.

Многае я перабраў у памяці, лежачы на гэтым шпітальным ложку. І ад гэтых успамінаў стамляўся больш, чым калі нёс вахту у катле. Мяне непакоіў лёс Аляксея і свой асабісты лёс. Кожны дзень я чакаў ліста ад Іры, а яго ўсё не было і не было. Я двойчы паспеў напісаць са шпіталя, але Іра не адказвала. «Так табе і трэба, дурань,— думаў я.— Няма на свеце кахання...»

Я дастаў з-пад падушкі Ірын фотаздымак. Глядзеў, як яна мне ўсміхаецца, успамінаў усе нашы спатканні, і на душы нібы цяплела. Я пачынаў зноў верыць ёй. Сагрэты надзеяй, чакаў наступнага дня, калі паштальён прынясе лісты, і, дачакаўшыся, зноў пачынаў сумнявацца. Тады я ўспамінаў Косцю. Ён быў вельмі прыгожы, і яму многае дадзена ў жыцці. «Можа і Іра?.. Не, толькі не гэта. Косця мой сябар, і я не маю права ў ім сумнявацца. Я павінен верыць...»

За сваімі клопатамі мне не было калі падумаць пра Люсю. Цяпер яна сядзела ля ложка і моўчкі глядзела на мяне, быццам мы бачыліся ўпершыню.

— Цябе нехта пакрыўдзіў? — каб больш не маўчаць, спытаў я.

— Не, — сказала яна.— Ніхто мяне не пакрыўдзіў. Я гуляла адна.

— Нельга гуляць ноччу адной,— пажартаваў я.

Люся сумна ўсміхнулася. Паправіла на грудзях каралі. Яны былі далікатнага блакітнага колеру і вельмі падыходзілі да белай сукенкі.

Я заўсёды бачыў Люсю ў халаце і неяк не заўважаў, што яна прыгожая. Для мяне яна заўсёды была медыцынскай сястрой, хоць і добрай, клапатлівай, але толькі не дзяўчынай. Нават цяпер, калі яна сядзела побач са мной у гэтай прыгожай сукенцы, я не мог прымусіць сябе думаць інакш.

— Пакажы мне сваю дзяўчыну,— нечакана папрасіла Люся.

Я моўчкі адкінуў падушку, узяў фотаздымак і аддаў Люсі. Яна глядзела ўважліва, не адрываючы вачэй, быццам хацела запомніць кожную рысу Ірынага твару. Мне стала няёмка, бо я ўсё разумеў, але нічога не мог зрабіць.

— Заўтра ты выпішашся,— гледзячы на фотаздымак, сказала Люся.— Раніцай, як толькі доктар прыйдзе.

— Дык чаго ж ты маўчала? — ашалела ўзрадаваўся я.— За такую навіну я цябе і пацалаваць магу, калі дазволіш...

Люся зрабіла выгляд, што не пачула мяне. Яна працягнула мне фотаздымак.

— Прыгожая...— сумна ўздыхнула Люся.— Вось бы мне такой нарадзіцца. Але ж, відаць, не той лёс...

Мне стала шкада Люсю. З'явілася жаданне абняць яе, супакоіць, як маленькую дзяўчынку.

— Ты таксама вельмі прыгожая,— сказаў я.— Мабыць, за табой усе хлопцы бегаюць?

— Быў адзін,— глуха адказала Люся,— але і той ад маёй прыгажосці ўцёк.

Я адчуў, што незнарок пакрыўдзіў Люсю. Закрануў нейкую глыбокую рану.

— Ты не крыўдуй на мяне,— узяўшы Люсю за руку, вінавата сказаў я.— З мяне кавалер кепскі...

Люся здзіўлена ўскінула бровы. Яе чорныя вочы нібы пасвятлелі.

— Ну вось, выдумляеш...— сказала яна.— Кожны шукае сваё шчасце. Мабыць, і мой знайшоў.

Яна ўстала з крэсла, падышла да акна. Шчыльней зацягнула шторы.

— Спі,— сказала Люся.— На вуліцы холадна, дык табе заўтра бушлат прынясуць хлопцы.

— Гэта ты на карабель званіла? — спытаў я.

Люся адмоўна пакруціла галавой і пайшла да дзвярэй.

Я ведаў, што яна хлусіць. Мяне крануў яе клопат, але ж я Люсю не любіў. Было пачуццё глыбокай удзячнасці, таварыскай прыязнасці, і нічога больш.

Я адчуваў, што, калі зараз спыню Люсю, схлушу ёй і сабе, нам будзе яшчэ горш. І я не паклікаў яе.

А раніцай прыйшоў Мікола. Прынёс бушлат.

— На, трымай сваю ватоўку,— сказаў ён.

Мы пайшлі па шырокай вуліцы, што вяла проста да мора. Я ўдыхаў на поўныя грудзі паветра, і, здавалася, больш салодкага пачуцця я ніколі не ведаў.

Я адразу забыўся і пра шпіталь, і пра Люсю. Мне хацелася толькі аднаго: хутчэй ступіць на палубу свайго карабля.

— Глядзі! — здзіўлена прысвіснуў Мікола.

Я павярнуўся. На прыступках шпіталя стаяла Люся. Маленькая і хударлявая, яна прыціскала да грудзей рукі, а мне здалося, што яна прыціскае букецік высахлых палявых кветак...

## 19

Ля трапа самалёта сабралася многа няўдачнікаў, такіх, як я. Усе транзітныя пасажыры, што не змаглі закампасціраваць білет. Спадзявацца не было на што, але мы чакалі.

— Можа хто спозніцца, тады возьмем,— крыкнула сцюардэса.

Яе звонкі голас абудзіў рашучасць. Я падхапіў чамадан, падышоў да сцюардэсы і абыякава спытаў:

— Ужо ляцім?

— Пяць хвілін засталося. Сядайце,— адказала яна.

Я пачаў падымацца па трапе.

— Матросік,— паклікала сцюардэса,— а білет?

Я адчуў, як унізе захваляваўся натоўп. Трэба было хутчэй бегчы ў самалёт. Хай потым паспрабуюць мяне выкінуць. Але я чамусьці спыніўся. Працягнуў сцюардэсе білет. Пасадачнага талона ў мяне не было. Ды і адкуль ён мог быць, калі наш самалёт толькі паўгадзіны назад прызямліўся на гэтым аэрадроме. Наступны самалёт трэба было чакаць амаль суткі.

Сцюардэса задумліва пакруціла ў руцэ білет і пільна паглядзела на мяне. Я толькі заўважыў, што ў яе прыгожыя ногі, доўгія і стройныя, а на галаве — блакітная пілотка з эмблемай аэрафлоту.

Відаць, мая старанна адпрасаваная матроская форма і бліскучыя якары на стужках бесказыркі сцюардэсе таксама спадабаліся. Яна аддала білет.

Самалёт здаўся мне нейкім старым. У багажным адсеку было цёмна, і гэта таксама было мне спадручна. Я паставіў свой чамадан і сеў. Супакоіўся тады, калі сцюардэса паднялася ў самалёт і зачыніла за сабой дзверы.

— Дзякуй,— сказаў я.— Вы мне вельмі памаглі.

— Дзякуй ваенкамату,— агрызнулася сцюардэса.— У мяне сын таксама на флоце служыць.

Я прыгледзеўся да яе. Адразу заўважыў, што пад тонкімі брывамі, якія былі старанна апрацаваны пінцэтам, вакол вялікіх зялёных вачэй маршчынкі сплялі тонкае павуцінне.

— Ты што ж, так і будзеш сядзець на чамадане? — спытала сцюардэса.

— А мне ўсё роўна,— сказаў я,— хоць на хвасце: абы дадому.

Сцюардэса рассунула шторы, за якімі пачынаўся салон. Павярнулася да мяне.

— Адно месца ёсць,— сказала яна.— Іначай я цябе не ўзяла б.

Я падняўся з чамадана і пайшоў за сцюардэсай. Салон быў утульны, напоўнены мяккім святлом. Я падумаў, што памыліўся, калі вырашыў, што гэты самалёт старэнькі. А можа, гэта мне здалося, бо ляцеў дадому. І гэтае незнаёмае пачуццё напаўняла мяне радасцю.

— Калі вы мяне не ўзялі б,— засмяяўся я,— дык я лёг бы ўпоперак узлётнай паласы. Далібог, лёг бы...

Я быў і сам упэўнены, што зрабіў бы іменна так. Гэтае выйсце падказаў мне Кемлівы хлопчык, калі я сыходзіў з карабля на бераг. Ён стаяў на палубе, махаў услед рукой і ўсё паўтараў: «Дык не забудзь, ледзь што, адразу ўпоперак узлётнай паласы...» Мяне кранула, што Мікола не зайздросціць мне, а клапоціцца, каб я хутчэй даляцеў.

Зараўлі маторы, і сцюардэса паказала мне вольнае месца. Я сеў, прышпіліў рамень. За сваімі клопатамі нават не паглядзеў на суседа. Ён сам падаў голас:

— Адкуль ты, служывы?

У голасе мужчыны чулася кпіна. Адказваць мне не хацелася. Я радаваўся, што лячу дадому, і ў мяне быў добры настрой. Аднак я не вытрымаў, павярнуўся. У крэсле сядзеў Сцёпка. Я пазнаў яго з першага позірку, хоць на Сцёпку быў чорны касцюм і такога ж колеру капялюш.

Я не бачыў Сцёпку з таго самага дня, як па ягонай «пратэкцыі» трапіў у качагары. Паспеў ужо забыць крыўду. Але зараз абразлівы тон мяне раззлаваў. Гэта ж яму не экіпаж. Ды, урэшце, я мог і не ведаць, што ён мічман. Вопратка на Сцёпку цывільная.

— Спачатку здымі капялюш, пудзіла,— сказаў я і адвярнуўся, нібы не пазнаў Сцёпку.

Самалёт набіраў хуткасць. Мяне адкінула на спінку крэсла.

Сцёпка маўчаў. Сказаць па-шчырасці, мне і не хацелася з ім гаварыць. Хай зразумее Сцёпка, што перад ім ужо не хлапчук, з якога можна было пасміхацца.

Вось толькі дрэнна, што Сцёпка ўсеўся ля ілюмінатара: цяпер не паглядзіш уніз. А мне вельмі хацелася ўбачыць, як застаюцца ззаду агні горада.

Я зручней умасціўся ў крэсле і заплюшчыў вочы. Маторы гулі роўна, закалыхвалі.

— Дык табе далі адпачынак? — нарэшце спытаў Сцёпка. Цяпер у ягоным голасе чулася зацікаўленасць і вінаватасць.

— А ты думаў, што я ўсё яшчэ тваіх два нарады адрабляю? — паглядзеў я на Сцёпку.

Не тое, каб я залішне задзіраў нос, проста хацелася, каб Сцёпка, як і мае сябры, ставіўся да мяне з павагай.

— Чаго ты злуеш? — збянтэжыўся ён.

Я ўспомніў першую ў сваім жыцці палярную ноч, шалёную завіруху, доўгую заснежаную сопку, з якой прыйшлося з'язджаць на далікатным месцы, агні незнаёмага горада...

— Так, злуюся,— сказаў я.— Мне нічога тады... было не трэба. Нічога... Толькі некалькі тваіх слоў, каб адчуць пад нагамі зямлю. Ты ж гэта ведаў. Не меў права не ведаць, мічман! Але ты проста плюнуў мне ў душу, як некалі пляваў у дзірачку шпакоўні... Шчасце, што не на адным табе флот трымаецца...

Мне хацелася сказаць яшчэ нешта больш крыўднае, абразлівае, але ж я стрымаўся. Сцёпка быў старшы за мяне па званню, хоць і ляцеў зараз у цывільным.

— Ладна,— сказаў я,— што было, то было.

Сцёпка сядзеў у сваім крэсле, скурчыўшыся, нібы яму стала холадна. Ён зняў з галавы капялюш і паклаў яго на калені. Флоцкі харч не пайшоў яму на карысць. Мне здалося, што Сцёпка яшчэ больш схуднеў.

— Вось,— ціха сказаў ён,— ты стаў старшыной, а я ўжо не мічман. Дэмабілізавалі. Як гаварыў наш нампаліт, з-за поўнай адсутнасці чуласці... Зараз лячу дадому, і сам добра не ведаю, што буду рабіць далей.

— Ты ж на флоце служыў,— сказаў я,— павінна быць спецыяльнасць.

Сцёпка пакруціў галавой.



— Пісар я. Ці ж гэта спецыяльнасць? — Ён крыва ўсміхнуўся.— Хіба толькі машыністкай уладкавацца можна.

Сцёпкава шчырасць мяне кранула. Але я разумеў, што яна ідзе не ад сэрца, а ад жадання падзяліцца сваім горам. Пражыць столькі гадоў і нічога не зразумець у жыцці, не атрымаць ніякай спецыяльнасці, гэта было сапраўды страшна.

Я асуджаў Сцёпку, але, разам з тым, мне было шкада яго. Не ўяўляў я сабе, што вось так можа пражыць чалавек у флоцкай форме.

— Пойдзеш на завод вучнем,— сказаў я.

Сцёпка задумаўся, аблізаў тонкія губы.

— Відаць, так і прыйдзецца зрабіць,— нарэшце сказаў ён.— Іншага выйсця няма.

Я міжволі пазяхнуў. Нават у паходзе я не часта адчуваў такую стомленасць. Мне хацелася хоць гадзіну паспаць.

— Ты прабач,— сказаў я,— але я чамусьці стаміўся.

Сцёпка ўсхапіўся, таропка сыпануў словамі:

— Ты спі, спі... Я гэта так... Не звяртай на мяне ўвагі...

Засынаючы, я падумаў, што Сцёпка зараз баіцца нават сам сябе, і чамусьці ўспомніў Аляксея.

Прачнуўся я, калі ўжо самалёт падрульваў да будынка аэрапорта. Пасажыры збіралі свае небагатыя пажыткі. У мяне пад рукамі нічога не было. Толькі бесказырка ляжала на паліцы.

— Прыехалі,— паглядаючы ў ілюмінатар, сказаў Сцёпка.— Для мяне тут апошні прыпынак...

Я нічога не адказаў. Мяне ахапіла радаснае хваляванне. Там, за ілюмінатарам, быў мой горад. Горад, у якім жыла Іра. Я нават баяўся паверыць, што я ўжо дома. Баяўся, што гэта сон і, калі я паварушуся, вернецца рэчаіснасць.

Я паверыў у сваё шчасце толькі тады, калі спусціўся па трапе. Мне хацелася кінуцца ў будынак аэрапорта з усіх ног, але я стрымаўся, бо за мной ішоў Сцёпка. Ён ледзь-ледзь цягнуў чамадан, разы ў тры большы за мой. Я хацеў памагчы, але Сцёпка адмовіўся.

— Свой скарб заўсёды лёгкім здаецца...

Мне дык так не здавалася. Чамадан быў цяжкі. Нічога асаблівага і не браў з сабой, а несці было нялёгка.

Мы выйшлі на плошчу. З яе брала пачатак шырокая стужка праспекта. Я не ведаў, што мне рабіць: ці то ісці пеша, ці то хутчэй ехаць да Іры.

Якраз падышоў тралейбус.

— Куды ты зараз? — нецярпліва спытаў я Сцёпку.

— Таксі трэба злавіць,— заклапочана адказаў ён.— З такім чамаданам толькі б да самага пад'езда падкаціць.

— А мне на тралейбус.

— Пачакай,— сказаў Сцёпка,— я падкіну цябе, куды трэба.

Я глядзеў на тралейбус, і мне здавалася, што ён зрушыў з месца. Я не вытрымаў, пабег.

— Як-небудзь сустрэнемся,— не паварочваючыся, сказаў я.

Застаўшыся ў тамбуры, я паставіў ля ног чамадан. Потым успомніў, што трэба ўзяць білет, і падышоў да кандуктаркі. Яна драмала, паклаўшы галаву на спінку сядзення. Я трохі пачакаў. Нарэшце кандуктарка падняла галаву і стомлена правяла далонню па твары.

Кандуктарка была ўжо ў гадах, на лоб спадалі сівыя пасмы валасоў. На галаве ў яе была завязана жоўтая хустачка, і гэта яе маладзіла.

— Табе не трэба білет,— сказала яна.

Я пачырванеў.
— Вы не хвалюйцеся,— сказаў я,— у мяне грошы ёсць.
Кандуктарка ўсміхнулася.
— Відаць, першы раз дадому едзеш?
— Першы.
— Дык вось, выйшаў такі закон, каб з матросаў грошы не браць. Не магу...— сказала яна і развяла рукамі.
Я ведаў, што такога закону няма. Пайшоў да свайго чамадана і падумаў, што мне сёння шанцуе на добрых людзей: спачатку дзіўная сцюардэса, а зараз гэтая немаладая кандуктарка. Успомніў, як некалі я ехаў у тралейбусе без білета, ледзь-ледзь не трапіў у рукі кантралёру. І — засмяяўся. Відаць, я вельмі патрэбны грамадству чалавек, калі ўсе так клапоцяцца.
Да Ірынага дома было хвіліны дзве хады. Я некалі правяраў па гадзінніку. Але зараз я бег са сваім цяжкім чамаданам па асветленай вуліцы, і мне здавалася, што я плятуся, як ніколі, марудна.
Калі я, нарэшце, дабег да Ірынага дома, ад маёй рашучасці нічога не засталося. Чаму яна не пісала? А можа, Іра тут ужо і не жыве? Пераехала з бацькамі ў які-небудзь другі горад.
Я спыніўся, потым у роздуме сеў на чамадан. Баяўся паглядзець на Ірыны вокны. Упэўненасць пакінула мяне. Нават сам не заўважыў, калі гэта здарылася — можа яшчэ на флоце, а можа толькі зараз.
Я падняў галаву. На сэрцы адразу пацяплела. У вокнах гарэла святло. У Ірынай спальні — блакітнае, у зале — жоўтае. Я паглядзеў на гадзіннік. Да ночы было яшчэ далёка. Можна паспець з Ірай пагуляць. На імгненне ўявіў сабе, як мы выйдзем разам на вуліцу, я вазьму яе пад руку, і ў мяне закружылася ў галаве. Не трэба нічога выдумляць. Хай будзе ўсё проста: «Іра, я прыехаў...»
Да гэтага я ўжо дадумаўся, калі падымаўся па лесвіцы на другі паверх. Вось і Ірыны дзверы. Белая кнопка электрычнага званка. Я націснуў на яе. Рука ў мяне дрыжала. Здавалася, ніколі я яшчэ не чакаў так доўга. Нарэшце, мне адчынілі.
— Косця? — здзіўлена сказаў я.— Што ты тут робіш?
Косця зрабіў крок назад. Ён быў падобны зараз на міма. Косця хацеў нешта сказаць, але я апярэдзіў:
— Слухай, а чаму ты ў піжаме?
Косця прыжмурыў блакітныя вочы, сарамліва засмяяўся.
— Распранулі зараз ля могілак,— сказаў ён,— дык прыйшлося забегчы...— Косця зрабіў жэст рукой.— А ты заходзь, заходзь...
— А Іра дома?
Мне здалося, што Косця схлусіў. Але спытаць нічога не паспеў.
— Дома,— адказаў Косця.— Дзе ж ёй яшчэ быць?
Я зайшоў у кватэру. Мне здавалася, што я сплю.
— Там яна,— паказаў рукой Косця.
Іра ляжала на тахце, чытала нейкі часопіс. Ля тахты на маленькім паліраваным століку стаяла «Спідола». У ёй шалелі амерыканцы. Іра заўсёды любіла грымоткую музыку.
Ногі мяне не слухаліся. Я абапёрся спіной аб сцяну.
— Іра,— ледзь чутна сказаў я,— я прыехаў...
Яна ўздрыгнула, адклала ўбок часопіс. Павярнулася тварам да мяне. Потым таропка саскочыла з тахты.
— Божа мой! — усхвалявана крыкнула Іра.— Гэта ты?..
— Ну, чаго ўжо там,— пачуў я за спіной Косцеў голас,— пацалуйцеся... Я адвярнуся...





Іра падышла да мяне, паклала на плечы рукі. Па Ірыных вачах я зразумеў, што Косця сапраўды адвярнуўся. Тады я пацалаваў яе.

— Іра,— прашаптаў я,— вось... бачыш...

— Бачу, дурненькі...— яна пагладзіла мяне па валасах.

Як мне хацелася, каб у пакоі не было Косці! Ён, відаць, зразумеў мяне. Падышоў да стала. У піжаме ён быў смешны.

— Дай мне бацькаў касцюм,— сказаў ён Іры.— Трэба ў магазін злётаць.

— Вазьмі сам,— адказала Іра,— у шафе ў спальні.

Косця пайшоў у спальню. Мы з Ірай селі на тахту. Так добра мне ўжо даўно не было. Мне захацелася выйсці на вуліцу, убачыць знаёмыя жоўтыя ліхтары.

— Ігар! — нечага пазваў са спальні Косця.— Хадзі сюды на хвілінку.

Мне не хацелася ўставаць з тахты. Я трымаў у сваёй руцэ Ірыны цёплыя пальцы.

— Ідзі,— ціхенька сказала Іра і апусціла галаву.

Цяпер я ведаў, што Косця мне схлусіў. Разумеў, чаму ён выйшаў у піжаме. Паплыла перад вачыма жоўтая люстра.

— Іра,— сказаў я,— гэта праўда?

Яна нічога не адказала. Нават не паглядзела ў мой бок. Толькі, па звычцы, склала на грудзях рукі.

Косця чакаў мяне ля шафы. На ім быў ладны касцюм. Гэта быў ягоны, Косцеў, касцюм. Штаны былі старанна адпрасаваны. Я чамусьці падумаў, што іх прасавала Іра.

Косця паглядзеў мне проста ў вочы.

— Гэта вельмі непрыемны абавязак...— Косця выцягнуў з кішэні хустачку,— але... Іра — мая жонка...

Я не хацеў гэтаму верыць. На душы было прыкра. «Ну, чаго ўжо там...— быццам здалёк, я пачуў голас,— пацалуйцеся... Я адвярнуся...» Гэта быў адзін з тых прыгожых Косцевых жэстаў, што некалі так мне падабаліся. Я толькі з болем падумаў, што сваю жонку не дазволіў бы цалаваць нават лепшаму сябру.

— А чаму ты не напісаў мне? — спытаў я.— Навошта была ўся гэта камедыя?

— Хутчэй трагедыя,— буркнуў Косця.— Паглядзеў бы я, што рабіў бы ты на маім месцы...

— Вып'ем за надзейнага вартаўніка,— сумна ўсміхнуўся я.— Вось мы і сустрэліся, вартаўнік...

Я ведаў, што больш не павінен заставацца ў гэтай кватэры. Трэба было ісці. Аднак Косця апярэдзіў мяне.

— Ты пасядзі трохі з Ірай, прафесар,— сказаў ён,— а я хутка прыбягу. Адзначым гэтую стрэчу.

Ён выбег на калідор, а я застаўся ў спальні. Ачуняў, пачуўшы, як бразнулі за Косцем дзверы.

Іра ўсё гэтак жа сядзела на тахце. Яна зусім не змянілася, і мне не верылася, што яна Косцева жонка.

— Вы даўно? — не ведаючы, што сказаць, спытаў я.

— Праз два месяцы, як ты паехаў...— адказала Іра.

Мільён іголак упіўся мне ў скроні. Мне хацелася падбегчы да Іры, схапіць яе за плечы, сказаць нешта вельмі злое, абразлівае. «Гэта ж, яна жыла ўжо з Косцем і — пісала мне...» — падумаў я. На дзіва, ад гэтай думкі я супакоіўся.

— Трэба ісці,— сказаў я. Мне яшчэ ніколі не было так дрэнна.



— Пачакай трохі,— сказала Іра,— зараз Косця прыйдзе.

— Не, я ж дома не быў.

Іра пачырванела. Паднялася з тахты, паправіла свае доўгія каштанавыя валасы. Потым узяла «Спідолу», пакруціла нейкую ручку. Ціха заспяваў мужчына:

«Под ночными крышами бродят звёзды рыжие...»

Я пайшоў на калідор. Узяў чамадан.

— Ты прыйдзеш яшчэ? — спытала Іра.— Мы з Косцем будзем вельмі перажываць, калі ты больш не прыйдзеш...

Я нічога не адказаў. Адчыніў дзверы, і мне чамусьці здалося, што я проста памыліўся кватэрай. І гэтая дзяўчына, з якой я толькі што пацалаваўся, толькі з твару падобная на Іру.

На вуліцы я спыніўся. Доўга глядзеў на Ірыны вокны, нібы развітваўся са сваім мінулым. Нават не заўважыў, калі падышоў Косця.

— Я ведаў, што ты не застанешся,— сказаў ён.— Чакаў цябе, як злодзей.

«Так яно і ёсць»,— сумна падумаў я. Мне не хацелася з ім гаварыць.

— Прафесар,— сказаў Косця,— мне не хацелася б, каб мы засталіся ворагамі.

— Ну вось, выдумаў! — сказаў я.— Мы застанемся лепшымі сябрамі... Ты вельмі добра зрабіў, што ажаніўся. Хай лепей ты, чым хто-небудзь іншы...

Косця разгубіўся. Задумліва паскроб падбародак.

— Ты ведаеш,— сказаў ён,— Іра мяне любіла.

Гэтаму я мог паверыць. Косця ў Ірыных вачах заўсёды быў сапраўдным мужчынам.

— А ты? — спытаў я і ўвесь сцяўся, нібы ад Косцевага адказу залежаў мой лёс.

— Таксама любіў... Інакш, я не ажаніўся б...

Мне трохі палягчэла. Нават сам не ведаю, чаму. Косця ўзяў з маіх рук чамадан.

— Багата вязеш,— усміхнуўся ён, потым пацікавіўся: — А дзе служыш?

— На беразе,— адказаў я, бо не мог з Косцем быць шчыры. Успомніў, што яму, напэўна, усё расказала Іра, і дадаў: — Раней служыў на караблі, цяпер спісаўся на бераг.

— Добра,— сказаў Косця.— Бачыш, адразу адпачынак далі. У тыле ўсё вельмі проста...

— Так,— згадзіўся я,— у тыле сапраўды ўсё вельмі проста...

Мы падышлі да тралейбуснага прыпынку. Спыніліся. Цераз вуліцу глядзеў у ноч вялізнымі каляровымі вокнамі магазін.

— Можа, зойдзем? — спытаў Косця.

— Калі-небудзь потым,— адказаў я, хоць і ведаў, што гэтага не будзе.

Пад'ехаў тралейбус.

— Кепска ўсё выйшла,— сказаў Косця.— Я ж ведаў, што гэты дзень усё роўна прыйдзе. Вось ён і прыйшоў...

Мне стала шкада Косцю. Можа, ён быў і не вінаваты.

— Усё зроблена правільна,— я прымусіў сябе ўсміхнуцца.— Бывай...

Тралейбус ужо крануўся, а Косця ўсё яшчэ, пераступаючы з нагі на нагу, стаяў на прыпынку.

## 20

Я адчыніў чамадан, і адразу здагадаўся, чаму ён такі цяжкі. Пад нацельнікі Мікола запхнуў нейкія жалязякі.

— Што гэта? — плеcканула рукамі маці.

— Сам не ведаю,— засмяяўся я.

Але я ведаў, бо не раз чуў пра такія флоцкія жартачкі. Толькі не мог зразумець, калі Мікола паспеў падкласці гэтыя жалязякі.

У чамадане была і запіска: «Прывітанне, братачка! Цэглы я не знайшоў. Ведама, карабель! Прыйшлося падкласці гэты металалом. Ты не хвалюйся: жалязякі не ржавыя... Кемлівы хлопчык».

Я зарагатаў. Мне здалося, што я спусціўся ў кубрык.

— Гэта — падарунак ад сябра,— растлумачыў я маці.

Маці не зразумела. Яна, відаць, пакрыўдзілася за мяне. А я быў гатовы насіць гэтыя жалязякі ў кішэні, калі б улезлі.

— Ты вечарам пабудзь дома,— сказала маці.— Я цябе хачу з адным чалавекам пазнаёміць.

Вечарам я нікуды не пайшоў. Ды і куды мне было ісці... Сядзеў на балконе і глядзеў на вуліцу. Мне было сумна, хацелася зноў на карабель. Не думаў я, што так хутка засумую дома.

Я не пачуў, калі прыйшоў матчын знаёмы.

— Добры вечар, Ігар,— павітаўся ён, выйшаўшы да мяне на балкон.— Што ж ты тут адзін стаіш?

Я ніколі раней не бачыў гэтага чалавека. Ён быў высокі, раздабрэлы. На скронях прабівалася сівізна. Але вочы былі зусім маладыя. Мабыць, таму ён адразу мне і спадабаўся.

— Задумаўся,— сказаў я.— Ніяк да цывільнага жыцця не прывыкну.

— А ты і не прывыкай,— засмяяўся ён.— Хутка зноў адвыкаць трэба будзе...

Я здзівіўся, што ён так многа пра мяне ведае. Мужчына, відаць, адчуў гэта.

— Аляксей Іванавіч я,— ціха сказаў ён.— Я прасіў маці, каб яна табе пра мяне не пісала. Чакаў, пакуль ты сам прыедзеш. Добра, што табе далі адпачынак. А то доўга прыйшлося б чакаць... Не мужчынская гэта размова на адлегласці... Згодзен?

Мы пайшлі ў залу. Мне адразу кінулася ў вочы, што маці апранула вельмі прыгожую сукенку. Яна глядзела на нас з затоенай надзеяй, шчокі яе паружавелі. Потым маці не вытрымала, адвярнулася і заплакала.

— Каця,— сказаў Аляксей Іванавіч,— не трэба... Усё вельмі добра. Такога мужчыну на ногі паставіла...

— Мама,— сказаў я,— чаго ты?

— Нічога,— задумліва адказаў за маці Аляксей Іванавіч.— У кожнага чалавека такое ў жыцці бывае. Толькі ў адных у маладосці, а ў другіх пад старасць...

Маці паспела ўжо супакоіцца. Падышла да мяне і, нібы маленькага, пагладзіла па валасах. Потым уздыхнула.

— Ты мяне павінен зразумець, сыночак...— амаль шэптам сказала яна.

Я паглядзеў на Аляксея Іванавіча. Ён заплюшчыў вочы і кіўнуў галавой.

— Мама,— сказаў я,— не хвалюйся. Я ўсё разумею. Дзякуй, што вы чакалі мяне...



Я нічога не разумеў. Мне вельмі хацелася плакаць. Тады, я ведаў, стане лягчэй. Каб трохі супакоіцца, узяў маці за руку. Мне сапраўды здалося, што я маленькі і бездапаможны.

Потым мы сядзелі за сталом, пілі з Аляксеем Іванавічам гарэлку, а маці глядзела на нас з нейкай патаемнай радасцю. Мне было так балюча, як даўно ўжо не было. Нават у Іры. Я раўнаваў маці. Мне хацелася, каб любіла яна толькі мяне, аднаго мяне. Але што я мог зрабіць? Маці ўжо ўсё вырашыла сама.

Я паглядзеў на Аляксея Іванавіча. Той употай пазіраў на маці, і на ягоных вуснах блукала радасная ўсмешка. Я адчуў, што гэтаму чалавеку можна верыць. Тады я ўстаў з крэсла.

— Вы прабачце,— сказаў я,— але мне трэба ісці на спатканне...

Аляксей Іванавіч паглядзеў мне проста ў вочы. Я вытрымаў ягоны позірк.

— Толькі ж доўга не гуляй,— сказала маці.

Аляксей Іванавіч усміхнуўся.

— Што, Ігар, з дысцыпліны ды ў дысцыпліну? Такі ўжо ў нас мужчынскі лёс.

— Ага,— сказаў я,— такі ў нас мужчынскі лёс...

Я адчыніў шафу, знайшоў у кішэні пінжака лісток, на якім быў запісаны адрас маёра. Пераапрануўся ў флоцкую форму. Адчуў сябе неяк адразу ўпэўнена.

— Я на тваім месцы, наогул, хадзіў бы ўвесь адпачынак у форме,— сказаў Аляксей Іванавіч.— Вельмі прыгожая форма...

Я і сам гэта добра ведаў. Паглядзеў на сябе ў маленькае люстэрка. Да мяне вярнуўся спакой.

На вуліцы ўжо было цёмна. Я ішоў па тратуары, і насустрач трапляліся парачкі. Аднак я не зайздросціў ім. Нават сам не ведаю, чаму. Мабыць, яшчэ не прайшоў боль ад Ірынай здрады.

Я прыблізна ўяўляў сабе, дзе знаходзіцца дом, у якім жыве маёр. Сеў на аўтобус. Мне хацелася як мага хутчэй убачыць маёра. З ім я мог быць шчыры.

Дзверы мне адчыніла маленькая сівая бабуля. Правяла мяне па калідоры да маёравага пакоя. Я чамусьці падумаў, што маёра няма дома. Разгубіўся і пацягнуў на сябе дзверы.

Маёр сядзеў за сталом, нешта пісаў.

— Іван Паўлавіч,— сказаў я.— Можна?

Ён хуценька павярнуўся. Радасна ўскочыў з крэсла. Кульгаючы, падышоў да мяне. Ён, мабыць, яшчэ не верыў, што гэта я.

— Ігар,— сказаў ён,— які ты малайчына! — Ён закашляўся, потым сумна ўсміхнуўся.— А я, бачыш, яшчэ трымаюся.

Маёр абняў мяне за плечы, падштурхнуў да крэсла.

— Ну, сядай,— ціха сказаў ён.— Расказвай, як жывеш...

Я не вытрымаў, абхапіў галаву рукамі. Мне здалося, што вось толькі цяпер я вярнуўся дадому.

Я расказваў усё, як на споведзі. Маёр слухаў моўчкі маю блытаную гаворку. Потым усхвалявана закульгаў па пакоі. Прыклаўшы да вуснаў хустачку, надрыўна застагнаў. Правёў рукой па грудзях.

— Пойдзем, пагуляем,— нарэшце сказаў ён.

На вуліцы мы доўга ішлі моўчкі. Нечакана маёр спыніўся, зазірнуў мне ў вочы.

— Ты маці не асуджай,— задумліва сказаў ён.— Яна свайго жаночага шчасця яшчэ і не бачыла. А шчасце — яно заўсёды да людзей са спазненнем прыходзіць. Але ж абавязкова прыходзіць... Ты вер мне, Ігар.

Я паглядзеў на зеленаваты, высахлы ад хваробы маёраў твар, на ягоную хударлявую скалечаную вайной постаць. «А чаго яно да вас не прыйшло?» — хацелася спытаць мне.

— Вось і я зараз шчаслівы,— нібы здагадаўшыся пра мае думкі, сказаў маёр.— Ты ж не забыў пра мяне, Ігар... Каб ты толькі ведаў, як гэта добра, калі пра цябе помняць...

Над галавой на доўгім будынку ашчаднай касы запалілася неонавая рэклама.

**«Грамадзяне!**

**Марскія падарожжы — лепшы адпачынак.**

**Білеты на цеплаходы вы можаце набыць у турысцкіх арганізацыях».**

Я глядзеў на гэтую блакітную неонавую рэкламу, як зачараваны. Адразу ўспомніў хлопцаў.

— Заўтра вазьму білет на самалёт,— сказаў *я*.— Гэта ж так здорава — марское падарожжа...

**У сакавіцкім нумары чытайце аповесць Клары ПІШЧЫКАВАЙ «МЕРА ШЧАСЦЯ І БОЛЮ».**



Пятро

ПРЫХОДЗЬКА

● *Твая вяршыня* ●● *Маё Прыдняпроўе*



●

*Паўлу Кабзарэўскаму*

Твой светлы дзень, твой поўдзень жніўны
Ўзыходзіць сёння над табой.
Больш не шумець свінцовым ліўням
Над Беларуссю і Нявой.
Хай град не б'е па нашых стрэхах,
Па цемю ўзятай вышыні.
Як пераспелыя арэхі,
З галін апалі тыя дні.
Трывог мы зведалі нямала,
Праз буры крочылі ў прасцяг.
Але высокіх п'едэсталаў
Не патрабуем ад жыцця.
Прасторам роднае Айчыны
Яшчэ мы пройдзем шмат дарог.
Твой кожны дзень — твая вяршыня,
Якую ўзяць ты ў працы змог.
З табой гамоняць ціха дрэўцы
І над Нявой і над Дняпром.
І адгукнецца песняй сэрца
Зямлі, дзе быў юнацтва дом.

●●

Ты мяне гадавала з любоўю
І свяціла мне зоркай здаля,
Дарагое маё Прыдняпроўе —
Магілёўская маці-зямля.
Ганаруся табою паправу,
Не скаронай цяжкою бядой.

Радасць працы й салдацкую славу
Падзяляў я заўсёды з табой.
Нібы матчыны рукі, цалую
Ясны сцяг пераможных баёў.
Ўсё жыццё цябе ў сэрцы нясу я,
Родны кут — Прыдняпроўе маё.



## Вікенці КАРПОВІЧ



● ———— ●●● ————

●● ———— ●●●● ————



●

Свет ахутаўся цішынёй,
Ноч прыкрыла свае павекі.
Размаўляю з табой адной,
Як з зямлёй размаўляюць рэкі,
Як мораў сваіх вачыма
Зямля размаўляе з сонцам,
Размаўляю з табой, Айчына,
Горача і бясконца.
Як сын перад роднай маці,
Стаю прад табой, адзінай,
Як жа ўсё сказаць мне
Пра вёсны мае і зімы,
Пра тое, чаго чакаю
І да чаго імкнуся?..
Жыццём сваім размаўляю
З роднай Беларуссю!

●●

Мудрая бязважкасць летуценняў,
І празрыстасць, і узнёсласць мар,
Для людзей любога пакалення,
Ты — як сонца, што ідзе з-за хмар.

На цябе, рамантыку шуканняў,
Абапёрся першы чалавек,
Калі ўзяў з зямлі ён цяжкі камень,
Каб зрабіць сякеру для сябе.

Людзі ў марах лодкі будавалі
І ўзляталі ў неба аж да хмар,
І зусім рэальна прымушалі
Працаваць бензінавы пажар.

Ён шугаў ў цыліндрах, біўся ў поршні,
Запрашаў над іншым моршчыць лбы...
І шыпелі штосьці пра бязбожжа
Вечна палахлівыя папы.

Людзі часта марылі аб цудзе —
Сёння песня ў космасе Ікарам,
Бо на тое і існуюць людзі,
Каб нястомна йсці услед за марай.

●●●

У белай кіпені сады,
Значыць — зноў пачалося лета...
Адлятаюць мае гады,
Як пялёсткі з дрыготкіх кветак.
Пастарэў. Што ты зробіш тут.
Часу рух не спыніць нікому.
Я — як той абламаны куст,
Над якім толькі пах чаромух,
Напамінак аб тым, што ён
Быў калісьці у майскім гудзе.
Свайго сэрца вясенні звон,
Як і ён, раздаю я людзям.
Як і ён, я пажарам срэбным
Рвуся ў неба, гару заўчасна...
Свайго ўзросту лічыць не трэба,
Калі ў сэрцы па-майску ясна.

●●●●

Бэз, як фантанаў пырскі,
Рвецца з галінак тонкіх,
У бэзе я бачу рысы
І пены марской, і сонца,
І ветру у ім парывы,
І роздум аб днях далёкіх...
Ці можна не быць шчаслівым,
Калі прыгажосць у вокнах?



Уладзімір
КУЗЬМЯНКОЎ

Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА



# ІШЛА ВЯСНА

АПАВЯДАННЕ



н нібыта не чуў сакратаркі і, здавалася, не збіраўся ісці да рэдактара. Схіліўшы набок галаву, Саломка штосьці хутка-хутка пісаў раскідзістымі літарамі, шнуруючы на паперы радкі-вяроўкі.

Потым адсунуў ад сябе паперу, зірнуў на Паўла:

— І чаго гэта раптам у шэфа знайшлася да мяне цікавасць? — Ён яшчэ памарудзіў, маўляў, нічога з рэдактарам не стане, калі і пачакае. Але ўсе ведалі, што Саломка аж трымціць перад рэдактарам.

— Можа прабіраць, га? Дык жа, здаецца...

Саломка замітусіўся і подбегам кінуўся за дзверы.

Вярнуўся ён хутка і яшчэ з парога весела крыкнуў Паўлу:

— Давай да шэфа!

— Чаго?

— Адкуль я ведаю? Я ж не рэдактар...

Саломка хітра ўсміхнуўся.

Рэдактар быў у добрым настроі.

— Ну-ну, заходзь, Паўло. Што гэта ты ходзіш, як дзед? Гарэць трэба, брат, гарэць, а не штаны праседжваць,— пачаў ён адразу, як толькі Павел пераступіў цераз парог.

Павел загадкава ўсміхаўся, маўчаў, яшчэ не ведаючы, куды хіліць рэдактар.

— Даўно ты не радаваў чытача. Даўно... Узяў бы ды і гахнуў.

— Чым?

Але рэдактар нібыта не чуў яго.



— Ты ж, здаецца, і фельетоны ў свой час пісаў, і тэмы маралі выдаваў. А цяпер што? Пораху не хапае? Рана, брат, рана ў дзяды запісваешся. Дык вось, давай-тка праветрыся. Набліжаецца сяўба, а ў нас пакуль што пра падрыхтоўку да яе — ні радка. Пад'едзь у саўгас. Хацеў Саломку выпхнуць, дык у яго, кажа, жонка захварэла. Прыйдзецца табе. Там, разумееш, факт такі. Тэхніка стаіць, а ўгнаенне на конях возяць, дзедаўскім спосабам. Яшчэ і палавіны не вывезлі. Адным словам, на тры... не, хопіць і двух. На два дні. І там паглядзі яшчэ: можа, выступленне заатэхніка зробіш.

Паўлу хацелася сказаць, якая розніца, на чым возяць тое ўгнаенне. Абы вывезлі. І чаму раптам рэдактару ўздумалася паслаць яго? Адзін ён у рэдакцыі, ці што? Потым сцяміў, што рэдактар усё роўна ад свайго не адступіцца, і выйшаў з кабінета.

А Саломка, здавалася, чакаў яго, стоячы каля акна.

— Ну, пісацель, чым цябе шэф парадаваў?

Саломка нядаўна выдаў брашуру і цяпер, невядома чаму, пачаў называць усіх «пісацелямі».

— У камандзіроўку пасылае.

— А я адкруціўся.

— А што з тваёй жонкай? Сур'ёзнае што?

— З жонкай? А-а-а, гэта шэф табе сказаў? Жонка сёння здаровая, а заўтра можа захварэць. Гэта такі народ... Не ў жонцы тут справа, разумееш? — Саломка насмешліва хмыкнуў.

— А ў чым?

— У чым, а чаму? Навучыўся ты задаваць пытанні. Таму, што я — Саломка. Разумееш? Са-лом-ка, на якой мулка спаць... Няма дурных ехаць цяпер мясіць гразь. Хіба я мала паездзіў? А табе яшчэ можна. Ты — малады.

Павел паглядзеў на Саломку і ўсміхнуўся, успомніўшы, што ніхто ў рэдакцыі, пачынаючы ад сакратаркі і канчаючы прыбіральшчыцай — цёцяй Фаняй, не называў яго па імю. Як быццам чалавек і не меў яго.

Дырэктара саўгаса не было. Як сказалі ў канторы, ні свет, ні зара пагнала ў раён, і з гаспадаркай Паўла знаёміў галоўны аграном, дзябёлы, чырванатвары мужчына ў скураным, як не да пят, паліто. Аб сваім намеры Павел прамаўчаў. Мала што рэдактар сказаў! Трэба яшчэ паглядзець, пераканацца. А потым, прызнайся, што будзеш крытыкаваць, і той жа ўраўнаважаны аграном пачне апраўдвацца, прыводзіць розныя прычыны. Каму хочацца, каб яго крытыкавалі? А іншы яшчэ гэтак хітранька пад'едзе: «Уявіце сябе на маім месцы. Што б вы рабілі?» А ліха яго ведае, што ён рабіў бы! Пэўна, і ў яго, калі не кавалася б, то пляскалася б.

Колькі разоў, вярнуўшыся з камандзіроўкі і да поўначы пабегаўшы па пакойчыку ў цяжкім роздуме, Павел прыходзіў назаўтра ў рэдакцыю з цяжкай ад бяссонніцы галавой і гаварыў, што крытычнага матэрыялу пісаць не варта. Саломка, гледзячы на яго пакуты, аднойчы не вытрымаў, пачаў павучаць:

— Цяжкі табе будзе твой хлеб. Усякую дробязь да душы бярэш. А ты не звяртай ні на што ўвагі. Рабі сваю справу. Вось, як я. Скажам, лье дождж. Калгаснік ці той старшыня калгаса, безумоўна, не вінаваты, што не ўбрана збожжа. Але ж яно не ўбрана. Гэта ўжо факт. І тут я маю права яго крытыкаваць. Разумееш? Маю.



— Ты як бярэш факты? — спытаў ён у Паўла.

— Ну, бяру...— Павел не ведаў, чаго дамагаецца ад яго Саломка.

— Калі табе трэба рабіць крытычны матэрыял, ты гаворыш пра гэта?

— Вядома, гавару.

— Ну і дурань! Хто табе праўду скажа? Цябе ж вакол пальца абвядуць. З іх жа тады і слова не выкалаціш. Дзівак ты, як я пагляджу. Я дык пра намер крытыкаваць — ні гу-гу. А яны думаюць, што я іх хваліць буду, і, прадчуваючы славу, аж распінаюцца. Тады толькі паспявай запісваць. Завядуць, пакажуць, раскажуць. І яшчэ чаркай пачастуюць. Не верыш? Паспрабуй калі.

А можа і праўда — паспрабаваць?..

І Павел схітраваў. Сказаў, што хоча пазнаёміцца, як саўгас рыхтуецца да сяўбы. Аграном можа з паўдня вадзіў яго па цэнтральнай сядзібе, паказваў тэхніку, канюшні і свінарнікі. Трактары былі адрамантаваны. Павел непрыкметна, нібы між іншым, выпытваў пра тое, што яго цікавіла. Каб не насцярожыць агранома, не запісваў, а запамінаў.

Калі гаваркі аграном вёў яго да фермы, каб пахваліцца механізацыяй, сустрэўся цэлы абоз. Падводы, запрэжаныя паркамі коней, везлі з фермы тарфакрошку. Людзі спаважна віталіся з Паўлам, саступалі яму дарогу, залазячы аж у сумёты.

Аграном усё сыпаў словамі, як гарохам, і Паўла спачатку весяліла яго бесклапотная шчырасць. Першы раз сустрэў чалавека і — на табе! — супынку няма. А таго і не ведае, што чакае яго. Пачытае праз некалькі дзён і жахнецца: «А я ж,— скажа,— думаў, што ён хваліць нас будзе». Прывыклі, каб усе іх хвалілі. А калі супраць шэрсці? Саломка, відаць, так заўсёды прыкідваецца.

Можна было ўжо ехаць. Усё зразумела: да сяўбы ў саўгасе рыхтуюцца дрэнна. Трактары стаяць, а яны на конях цыркаюцца, у гадзіну па чайнай лыжцы. Так, так, таварыш аграном. Кепска ў вас з вывазкай угнаеннаў. Ён, Павел, так і напіша. Шкада цябе, а пакрытыкаваць давядзецца: служба — не дружба. Толькі, няўжо сам аграном не разумее гэтага? Вось ён, Павел, прыезджы чалавек і то бачыць. А ён? Ведае ж, пэўна. Тады, чаму такі спакойны? А ўрэшце, якая яму справа, трывожыць што агранома ці не. На ліха яму лезці ў псіхалогію? Каму гэта патрэбна? Кожнаму ж сваё. Ён робіць сваю справу. Трэба адносіцца да ўсяго, як Саломка. Той не вельмі задумваецца. Прыехаў, убачыў — напісаў. Як бы там ні было. Усё роўна напіша. Потым яшчэ пахваліцца: Саломка колькі ні ездзіў, з пустымі рукамі не вяртаўся. А ён, Павел, горшы за яго, ці што?



Ён моўчкі тупаў побач з аграномам па рудой, раскоўзанай палазамі дарозе. Зноў мільганула сумненне: а можа, усё ж сказаць аграному ці хаця намякнуць, што хваліць ён іх не будзе? Так спакайней на сэрцы было б. А то выходзіць, што ён ілжэ гэтаму пажылому чалавеку. Той вунь душу наросхрыст, а ён падтаквае, а сам хітруе, пра другое думае. Нядобра неяк.

Павел прыпыніўся нават. Канешне, ён скажа. Трэба ж быць шчырым. Ён паглядзеў некуды ўбок, збіраючыся з думкамі. Аграном перахапіў яго погляд. Зразумеў па-свойму, радасна загаварыў:

— Гэта ж новы кароўнік будуем! На сто дваццаць галоў.

У Паўла чамусьці так і не хапіла рашучасці сказаць пра свой намер, сапсаваць аграному радасны настрой. І ён нават пачаў злавацъ на сябе. Чаго ён павінен так перажываць за гэтага агранома? Сват ён яму ці брат? Не бачыў дагэтуль і можа пасля больш не ўбачыць. Ды і не нагаворвае ён на яго. За справу пакрытыкуе.

Пасля такога суцяшэння Павел супакоіўся. Моўчкі ішоў за аграномам, стараўся слухаць яго, але штосьці замінала яму быць уважлівым. Агледзеўшы ферму і дзеля прыстойнасці пахваліўшы гаспадароў, Павел раптам заспяшаўся, сказаў, што пара ехаць. Аграном здзіўлена паглядзеў на карэспандэнта, падумаў, што за паўдня замарозіў хлопца, бо хоць і адпусціла, а ўсё роўна холадна, і запрасіў паабедаць. Павел падзякаваў і адмовіўся, хаця адчуў, як пры напаміне пра абед засмактала пад лыжачкай. Аграном паціснуў плячыма: маўляў, глядзіце, а калі што, дык хадземце, пакаштуеце нашых вясковых харчоў, мы не багатыя, але ж і не бедныя. Аграному хацелася зрабіць штосьці прыемнае карэспандэнту сталічнай газеты, бо з раённай да іх прыязджаюць часта, а са сталіцы гады ў рады, то няхай бы глядзеў што яшчэ, калі ўжо наважыўся нешта пісаць, а тым часам і дырэктар пад'едзе. Ён у іх вопытны. Колькі саўгас — столькі дырэктарам. Можа што дзельнае расказаў бы?

Павел спяшаўся, і аграном больш не затрымліваў яго. Толькі калі Павел скіраваў быў да аўтобуснага прыпынку, аграном па-жаночаму пляснуў у далоні: «Што вы? Садзіцеся ў мой «газік». Ці ж мы бяднейшыя за іншых, што сталічнага карэспандэнта не завязем». І ўгледзеўшы, як чырванее карэспандэнт, заўважыў: «Відаць, нядаўна працуеце, бо іншыя самі машыну просяць. Адны просяць, другія патрабуюць. Вы не прасілі, але ж і вам трэба хутчэй. Я гэта ведаю. У вас таксама работа. Ды яшчэ такая спешная. Ну, то бывайце. А надарыцца быць у нашых краях — заглядвайце, рады будзем».

«Газік» рэзка рвануў з месца. Павел ляпнуў дзверцамі і адчуў палёгку. Чаму ён вінаваціцца перад гэтым чалавекам? Можа, за тую шчырасць, з якой аграном адносіўся да яго. Можа, трэба было б сказаць, тады і аграном так не радаваўся б яму. А то і абед, і машыну... Дзіўная сустрэча. А ўсё маскіроўка, гулі ў артыста. Пад Саломку падрабляўся. Ат, ды ліха з ім! Не трэба думаць пра гэта.

Хлопец, можа яго равеснік, хвацка круціў баранку, і «газік», падскокваючы на выбоінах, жвава нёсся па разбітай за зіму дарозе. Шафёр быў незадаволены. Прыязджаюць тут усякія, дык спакою з-за іх не ведаеш... Паабедаць у пару ніколі не дадуць. Вязі іх, як быццам на аўтобусе не заехаў бы. Папрывыкалі. А можа ён і не думаў так. Але быў негаваркі. Паспрабуй, здагадайся, чаму: ад незадаволенасці ці ад сваёй ужо натуры такой? А можа і ад асцярожнасці: маўляў, што трэба — пытайце ў начальства, а мая справа старана, а то вам скажы

на грам, дык вы ж на дзесяць прыбавіце. Вазіў ужо, ведаю... Дык, каб трымацца за гэты баранак,— а за ім не надта ўломішся, вунь сябры на трактары пыл глытаюць,— дык, каб трымацца за гэты баранак і далей, лепш маўчаць.

Шафёр не спадабаўся Паўлу, і ён не стаў чапляцца да яго з роспытамі. Агранома ён таксама больш не ўспамінаў. Паўлу толькі падумалася, што трэба было б сустрэцца з дырэктарам. Як-ніяк ён гаспадар, у артыкуле давядзецца называць і яго, а як называць, калі ён нават і ў вочы таго дырэктара не бачыў. Рэдактар колькі разоў дакараў іх на лятучках, што некаторыя наводзяць крытыку, не пабачыўшы чалавека, не пагаварыўшы з ім. Асуджанаму і то даюць апошняе слова...

Павел вырашыў, што трэба абавязкова сустрэцца з дырэктарам, не таму, што гэтага патрабаваў рэдактар. Так хацелася Паўлу. Можа дырэктар не такі пакладзісты і гаваркі, як яго галоўны аграном. Павел лавіў сябе на тым, што матэрыялы ў яго ўдаваліся тады, калі штосьці абурала. Тады пісалася лягчэй. Можа, дырэктар раззлуе яго?

А тут ён, напэўна, катане фельетон. Фактура ёсць. Пачакай, як ён яго назаве? Павел ведаў сваю слабасць, без загалоўка не мог пісаць. Потым, ужо ў тэксце, колькі разоў яго «абыгрываў», і, калі часам здаралася загаловак мяняць, для Паўла было гэта пакутай. Дык які ж загаловак дасць ён цяпер? Можа, як у Пушкіна, «Скупыя рыцары»? Ха-ха! Класіка. А што, падыходзіць, калі не заражэа рэдактар...

Дарога не здоўжылася. З-за павароту «газік» выскачыў на асфальт. Уперадзе вырас райцэнтр. Перад самым горадам дарога крута падымалася ўгору, і «газік» доўга і натужана гудзеў, пакуль не выбраўся на роўнае. Абагнаўшы справа прадаўгаваты сквер, шафёр прытармазіў каля будынка райкома. Павел падзякаваў і сказаў, каб яго не чакалі.

Нарада яшчэ не скончылася, дырэктар саўгаса быў там, і жанчына, што сядзела ў прыёмнай, параіла далёка не адыходзіцца. Павел тупаў па вузкім райкомаўскім калідоры, скрыпеў маснічынамі, чакаў. Неўзабаве ў прыёмнай загаманілі, затоўпіліся каля вешалкі. Павел убачыў гэта праз адчыненыя дзверы і падаўся ў прыёмную. Сакратарка паказала вачыма на пажылога чалавека. Ён быў у чорным пінжаку, цёплых ватніках зялянковага колеру і добрых юхтавых ботах. Мужчына, нахіліўшы лысую галаву, прыціскаў барадой шалік, апранаў паліто. Павел павітаўся, сказаў, што хоча з ім пагаварыць. Дырэктар саўгаса нават не пацікавіўся, пра што, толькі папрасіў яго крыху пачакаць:

— Пабягу ў сталоўку. З раніцы і каліва ў роце не было.

Павел не пярэчыў, хаця дзесьці ў душы мільганула сумненне: ці не хітрыць дырэктар? Сказаў, што ў сталоўку, а сам на машыну — толькі яго і бачыў...

Журналісты, як паляўнічыя, чаго толькі ад іх не наслухаешся... Паўлу раптам успомніўся смешны выпадак, які расказаў адзін іхні супрацоўнік. Было гэта недзе пасля вайны. Паехаў той у калгас, шукае старшыню. У праўленні яго не было. Па дарозе на ферму сустрэў чалавека, спытаў, ці не бачыў той старшыню калгаса. «А вунь ён»,— паказаў чалавек на мужчыну, які ішоў да свірнаў. Карэспандэнт — за ім. Дагнаў. Так, маўляў, і так — сам галава патрэбны. А той здзіўлена паглядзеў на незнаёмца, усміхнуўся бяззубым ротам: «То вы ж, шаколік, толькі што з ім размаўлялі. А я — кладаўшчык, шаколік. Кладаўшчык». Абурыўся карэспандэнт, кінуўся да фермы, а старшыні і след прастыў. Толькі праз дзень, не без дапамогі райкома, злавіў ён





старшыню калгаса. Пачаў яму карэспандэнт выгаворваць. А той цяжка ўздыхнуў і прызнаўся: «Надакучылі розныя ўпаўнаважаныя. Ратунку няма. Адзін з калгаса, другі — у калгас. А тут яшчэ ваш брат... Нехта ўвёў ім у вушы пра нейкі вопыт, вот і прыстае кожны, як ліст з таго веніка, што ў лазні: раскажы ды пакажы. А што я раскажу? Глядзі во ўсё, што ёсць, няхай табе павылазяць. Дык не, ім думаецца, што старшыня такі-сякі, сакрэты нейкія ведае. А якія тут сакрэты? Жыцця няма ад гэтых гасцей. Здаецца, працаваў бы без адпачынку суткамі, абы толькі не прыставалі, не пыталі пра вопыт...»

Павел зноў мераў калідор: дырэктар жа, мусіць, абедаць будзе доўга... І калі той раптам затупацеў на парозе, аббіваючы з ботаў снег, Павел здзівіўся:

— Так скора паабедалі?

— Ат, няма ўжо там нічога! Давядзецца чакаць, пакуль дамоў не прыеду.

Дырэктар саўгаса ўсё яшчэ гневаўся, відаць, на тых, са сталоўкі, і Павел спагадліва памаўчаў. Яны, нібы дамовіўшыся, прайшлі ў самы канец калідора да акна, дзе стаяла некалькі крэслаў.

— Дык што ў вас да мяне? — загаварыў сам дырэктар.

— Я ўжо быў у вас у саўгасе, з тым-сім пазнаёміўся, таму хацеў пагаварыць з вамі...

Павел раптам завагаўся: гаварыць прама ці трымацца гэтак жа, як з аграномам?

— Калі ласка, я слухаю вас.

«Скажу прама. Чаго тут у схованкі гуляць...»

— Вось угнаенне... Вазіць яшчэ многа, абавязацельства ж вялікае. Вясна вот-вот. А ў вас яго на конях возяць. На трактарах было б хутчэй. А яны стаяць у вас.

Дырэктар саўгаса ўважліва слухаў Паўла, і па твары было цяжка зразумець, пра што ён цяпер думае, што адкажа. Потым нечакана ўсміхнуўся, і яго твар памаладзеў.

— Маўчыце вы, бяда з гэтым угнаеннем! Толькі што ад першага. Прыжмісты ён дзядзька. Давялося слязу пускаць. Але, як кажуць, не першы год замужам. Што-што, а прасіць навучыўся,— і, неяк пазмоўніцку падміргнуўшы Паўлу, радасна паведаміў: — Выпрасіў. На тым і сыграў, што палавіна яшчэ не вывезена. Азотных і калійных далі. Во, гэта дзела! Заўтра на станцыю ўсю тэхніку рушым. Яно, канешне, на бязрыб'і і рак рыба. Калі няма лепшага, то і торф — угнаенне. Але я вам скажу, зямля і ёсць зямля. Дзедаўскае ўгнаенне. Дык навошта яго на машынах ды трактарах цягаць, тэхніку разбіваць? Яна ў час сяўбы во як спатрэбіцца. А вот азотныя і калійныя. Гэта я вам скажу...— Потым, нібы спахапіўся, што выдаў свае хітрыкі карэспандэнту.— Дык як вам сказаць? Хто яго ведае, як тут... Возім і на конях крыху. Яно на трактары было б хутчэй. Дык, ведаеце, лю-

дзі прыходзяць, работу просяць. Да пенсіі ім мала асталося. Трэба ж неяк улічваць гэта. А каб вы ведалі, якія то людзі! Ды яны ж гэты саўгас на голым месцы колькі разоў з нічога ўзнімалі. А пасля вайны плуг і барану на сабе цягалі. Дык хто яго ведае, як тут...

Дырэктар раптам стомлена змоўк. Маўчаў і Павел. Ён не ведаў, пра што болей пытаць, як сябе паводзіць: вінаваціць дырэктара ці не. Ён жа гаспадар, і яму відней, што і як рабіць. Паўлу толькі цяпер успомнілася, што возчыкі сапраўды былі старыя. А ён нават не звярнуў на гэта ўвагі.

— Відаць, крытыкаваць будзеце? — неяк ціха і стомлена нават не спытаў, а хутчэй за ўсё сказаў дырэктар, як пра нешта добра яму вядомае, чаго ён даўно чакаў.

Павел не адказаў. Яму стала шкада гэтага чалавека, а на сябе самога ён пачаў злаваць. Хто ён такі, што дырэктар, гэты сталы чалавек, годны яму ў бацькі, павінен апраўдвацца перад ім? Чаму?

Павел крочыў вузкім, як разысціся двум чалавекам, тратуарам каля шэрага дашчанага плоту. На другі бок плоту чарнелі яблыні і вішні. У глыбіні саду відаць былі белыя аканіцы хат. У агародах і на полі дзе-нідзе прабілася ўжо з-пад снегу чорная ралля. Прэсна пахла вільгаццю. Снег балюча сляпіў вочы. Ішла вясна.

У памяці зноў усплылі словы дырэктара: «Да пенсіі ім мала асталося». Гэтымі днямі ад маці прыйшло пісьмо. Таксама піша: падала на пенсію дакументы. Яго маці пенсіянерка ўжо. І зашчымела нечага сэрца, ажыла раптам памяць дзяцінства...

У той год, калі вызвалілі іх тэрыторыю, дамоў з бежанцаў вярнуліся нямногія. Хаты былі спалены, і людзі ладзілі пад жытло зямлянкі, бо зямлянку было агораць хутчэй і лягчэй, чым пабудаваць хату. Памагаў усім аднаногі Пракоп — адзін мужчына на ўсю вёску. Яго і выбралі бабы старшынёй калгаса. Стомленай і знясіленай вярталася маці, употай ад цёткі Уліты, у якой яны тады жылі, плакала і ўсё ўспаміналa бацьку: хоць бы вярнуўся... Потым такую зямлянку пабудавалі і ім.

Пракоп кожны дзень загадваў бабам на работу, і яны слухаліся яго. Коней і валоў у той час не было, і яны аралі калгаснае поле на сабе. Дзесяць баб упрагаліся ў перакладзіну, да якой чаплялі плуг, адзінаццатая станавілася за плуг. Пракоп кожны раз адчуваў сябе няёмка перад жанчынамі і хоць як стараўся памагчы ім. Але як ён ні прыладжваўся, стаўшы побач з жанчынамі і беручыся за вяроўку, помачы было мала. Якая тут ужо помач, калі чалавек на адной назе скача? Бабы кожны раз ласкава спраўджвалі яго:

— Пракопка, мы самі...

І Пракоп, апусціўшы галаву, моўчкі калдыбаў прэч. У тыя дні маці ў фартуху прыносіла з поля маленькую, нібы жалуды, бульбу. Казала, з мышыных гнёздаў: бач, якія запаслівыя, колькі наспіжавалі! Маці варыла гэтую бульбу ў бляшанцы з-пад кансерваў, нішчымную, ледзь-ледзь папыліўшы соллю, бо і солі ўжадобку не было. Бульба была аж сіняя, але якая смачная!..

Павел падыходзіў да гасцініцы. Ён ведаў, што яму цяпер рабіць: забярэ сваю папку і падасца на вакзал. Ведаў: у рэдакцыі яго, пэўна, не пахваляць, што ён вернецца з пустымі рукамі. Зноў з'едліва будзе пасміхацца Саломка. І няхай. Але дырэктара саўгаса крытыкаваць ён не будзе.

І Павел раптам зарадаваўся: а ўсё ж добра, што паехаў ён, а не Саломка!



## Алесь РАЗАНАЎ



### ● *Шчасце* ●● ●●●



●

Твой недаступны лёс,
музыка,
пасуе велічы тваёй.
Як неадкладную пазыку,
як у глыбіні з галавой,
да ачмурэласці, да стомы,
аддаць усё,
усё аддаць,
і — неістотнаму самому —
хадзіць,
смяяцца,
уздыхаць.

●●

Мы —
ад Праметэя,
ад горных крыл.
Нашы ідэі
не сатруцца ў пыл.
(У любых няшчасцях
места ёсць —
баям!)
Ім
не прапасці —
не прапасці нам.
Нашай справе
жыць у вяках,
рэяць нашай славе
па мацерыках.
Час
падчас няроўны,

шлях —
не скрозь прамы,
ды адзінствам кроўным
згуртаваны мы:
імем Рэвалюцыі,
тых,
чый сціхнуў крок!..
Пальцы не сарвуцца,
не аслабне зрок.
І нам нельга крыва,
і нам нельга з краю...
Высока,
быццам крылы,
нас Ленін узнімае.

●●●

Да ўсходу
гарланяць пеўні,
а захад,
як боль,
прыціх...
Губляючы вас, напэўна,
губляем сябе саміх.
Пляліся рукамі людскімі
і лапці,
і кашалі.
Вы нашы браты,
якія
па нашых слядах не пайшлі.
Мо быў бы
наш крок дарэмны
і ўсхліпам быццё сплыло,
калі б,
паміраючы,
дрэвы
не слалі сваё цяпло,
калі б не паілі нас ветрам
у душныя ночы і дні,
калі б не ішлі у нетры
шурпатыя іх карані.
Вяртаемся беспярастанку,
як хворыя,
зноў і зноў
да вашае калыханкі,
да шэпту зялёных слоў.
Вы нас разумееце моўчкі,
нам большай любві не сустрэць!..
А красак дасціпныя вочкі
нам будуць у вочы глядзець.



Мікола МАЛЯЎКА

● ———

●● Атланты

●●● Слава

●●●● ———



●

Мы не загорнуты ў вату —
Дыхаем скразнякамі,
Шчасце куём не па блату,
А сваімі рукамі.

Пойдзем ад сосен, ад жыта —
Скажам у дзень пахавання,
Перад вандроўкай нібыта:
«Свет дарагі,
Да спаткання...»

Недзе праб'ёмся травою,
Недзе падымемся лесам,
Недзе, відаць, пад зямлёю
Станем рудою,
Жалезам.

І да нашчадкаў вернемся,
І у метале трывалым
Ім паслужым наверсе
Куляй,
Ракетай,
Аралам...

●●

Рамантыкі дух не ачах,
І мы не шукаем выгоды —
Цягаем на дужых плячах

Разлукі,
Завеі,
Калоды...

Тайга ў лістабой, крыгаход
Гартуе характар хлапечы.
І тужаць без тоўстых калод
У водпуску
Нашы плечы.

Нам з ношай і дыхаць лягчэй,
Як тым атлантам міфічным,
Што не расслабяць плячэй
Пад небам —
Цяжарам прывычным.

●●●

*Д. Карбышаву*

Устаў,
Замёр над чалавекам
Круты дзевяты вал:
— Забудзь свае палі і рэкі —
І даплывеш да блізкіх скал.

Дзевяты вал марудзіць,
Не б'е ваду,
Прыцiх —
На роздум вязню, мусіць,
Набавіў нейкі міг.

— Накрый халодным векам
Маю глыбокую труну,
А дарагім палям і рэкам
Не здраджу я.
Кляну...

Упаў,
Расцёкся лавай
Круты дзевяты вал.
А чалавек у чоўне славы
Даплыў да запаветных скал.

●●●●

А прывалы толькі зрэдку,
Цішыня — калі нядужы.
Зноў збіраюся ў разведку —
Адкрываць людскія душы.

Можа не ўпаду ніколі,
Можа, грэшнікам на дзіва,
Прапаўзу па мінным полі
Несумленных душ
Шчасліва.

Можа зло — асколак міны —
Нечакана сэрца спудзіць,
І пасадзяць успаміны
На маёй магіле людзі.

А пакуль
Іду ў разведку —
Адкрываць людскія душы.
І прывалы — толькі зрэдку,
Цішыня — калі нядужы...





Уладзімір ШЫЦІК

Мал. К. ЦІХАНОВІЧА



# СЛЯДЫ ВЯДУЦЬ НА ЗЯМЛЮ

## Аповесць

### I

Рэйсавы планеталёт «Талнах» не прыбыў да месца прызначэння ў касмапорт Нераіды — другога спадарожніка Нептуна.

Паведамленне аб гэтым здарэнні ўжо цэлую гадзіну ляжала на стале ў начальніка Службы бяспекі ўнутрысістэмных зносін Чаўра. Яго супрацоўнікі ў гэты час рабілі ўсё тое, што патрабавала інструкцыя: пасылалі запросы, правяралі акты тэхнічных аглядаў «Талнаха», медыцынскія заключэнні аб стане здароўя экіпажа і пасажыраў перад стартам і ў палёце, тэлеграмы з борта планеталёта.

Чаўр не вельмі спадзяваўся на выпікі. Каб было выяўлена якое-небудзь адхіленне ад нормы, ці дазволілі б старт «Талнаху»? Служба бяспекі наконт гэтага мела цвёрдыя ўказанні. Нічога невычайнага не адзначылі і паземныя станцыі назірання, каля якіх праходзіў планеталёт. Значыць, унутраных прычын, якія тлумачылі б здарэнне, быць не магло. Заставаўся яшчэ метэарыт. Буйны. Выпадковы. На яго мог натрапіць карабель. Аднак раней, чым гэта адбылося б, аўтаматычная аварыйная станцыя планеталёта паслала б на Зямлю свой сігнал. Атрымлівалася нейкае замкнёнае кола.

Чаўр уздыхнуў і падышоў да акна. Яно было шырокае, амаль на ўсю сцяну кабінета, і мела сферычную форму. Чаўр бачыў невысокія скалістыя кратэры, голыя апоўзлыя пагоркі і бліснастыя дарогі, што серпанцінавымі стужкамі віліся паміж імі. Здавалася, усё гэта было побач: зрабі толькі крок — і ты будзеш там, на залітай зямным зеленаватым святлом прасторы. Гэта святло заўсёды супакойвала, напамінаючы аб роднай Зямлі, ажыўляючы гэтыя спрадвеку мёртвыя горы Месяца. У Чаўра неяк адразу палягчэла на сэрцы. Хоць менавіта сёння ўсё выглядала больш змрочна, чым заўсёды. Урэшце, калі інструкцыя не дае адказу, чаму знік планеталёт, значыць — здарылася нешта такое, чаго яны не прадугледзелі, не ведаюць.

Ледзь чутны гудок напомніў, што прайшло яшчэ дзесяць хвілін. Чаўр усміхнуўся сам сабе. Якія б ні былі правільныя яго разважанні, факт, што «Талнах» знік, заставаўся неаспрэчным. Першы выпадак за апошняе паўстагоддзе. І Зямля, уся сонечная сістэма чакалі інфармацыі, тлумачэння, што ўсё ж такі здарылася. Чаўр пакруціў у руках тэлеграму з Нераіды, нібы між скупых дзелавых радкоў хаваўся іншы, асаблівы, сэнс. Што марудзяць супрацоўнікі? Ён павінен ведаць іх заключэнне перш, чым нешта рабіць.

Не абарочваючыся, Чаўр аддаў кібернетычнаму сакратару загад выклікаць Шарлана.

Праз хвіліну памочнік з'явіўся.

— Ёсць навіны? — спытаў Чаўр.

— Амаль ніякіх,— няўпэўнена сказаў Шарлан.

— Амаль? — Чаўр узняў бровы.

— Так. У дачыненні «Талнаха».

Чаўр адчуў, што пачынае злавацца. Шарлан быў заўсёды чалавекам справы. І раптам сёння, калі падзея сапраўды надзвычай сур'ёзная, мямліць нешта невыразнае. Разгубіўся ён, ці што? Таму больш рэзка, чым звычайна, Чаўр кінуў:

— Факты можаш выкласці? Ці папрасіць каго іншага?

— Не ведаю...— пачаў быў Шарлан, але, убачыўшы, як сцепануўся Чаўр, удакладніў:— Учора ў Цэнтральны архіў паступіла незразумелая радыёграма. Прыняты, відаць, толькі пачатак першай фразы: «Нас заха...» Але самае дзіўнае, што хваля, на якой пасланы гэты сігнал, тая ж самая, якой карысталіся зямныя маракі, пасылаючы «SOS».

— Ну і што?— Чаўр крыху супакоіўся.

— Мы праверылі. Ніводнае марское судна не пасылала сігналу. На думку таварышаў, якія займаліся праверкай, сігнал мог прыйсці толькі з міжпланетнай прасторы. І поўная фраза азначае: «Нас захапілі». Гэта, вядома, бязглуздзіца, якая не мае ніякага дачынення да «Талнаха». Часы марскіх піратаў скончыліся тысячу гадоў таму назад, а касмічных наогул не было.

— А сігнал? Адкуль узяўся? — спытаў Чаўр.

— Хлапечыя забавы.

Чаўр вярнуўся да стала задумлівы, сеў. Навокал адбывалася нешта недарэчнае, недаступнае яго разуменню. Планеталёт, радыёграма, піраты. Сапраўды бязглуздзіца... А яму трэба яшчэ ў ёй разбірацца.

Шарлан асцярожна, напамінаючы аб сабе, кашлянуў.

Не ўзнімаючы галавы, Чаўр спытаў:

— У архіве шмат такіх запісаў? Не высвятляў? А трэба.

— Слухаю,— ціха сказаў Шарлан і выйшаў.

Чаўр павярнуўся да акна. Якраз насупраць стаяла мачта радыёстанцыі. Яе срабрыстыя ажурныя контуры былі нібы выразаныя ў карычнева-чорных скалах. Чаўр зірнуў на вяршыню мачты, дзе знаходзілася антэна, і яму нават здалося, што ён бачыць, як струменяцца і расплываюцца ва ўсе бакі трывожныя хвалі. І ён зноў адчуў, што незадаволены сваім памочнікам. Трэба ж не толькі збіраць звесткі, а і думаць над імі. Так, думаць, рабіць вывады, здагадкі.

Узышло Сонца, раптоўна вынырнуўшы справа з-за крутога, але невысокага кратэра. Яркія промні памянялі фарбы, сцерлі адценні, пакінуўшы толькі чорныя і светла-шэрыя.

Чаўр выключыў унутранае асвятленне і падумаў, што ў жыцці людзей ніколі не бывае такой кантраснасці, у жыцці няма катэгарычнасці, кожная з'ява і ўчынак маюць і тон, і паўтон. Напэўна, і Шарлан чакае, што ён са сваім вялікім вопытам адразу разбярэцца, што і да чаго.

Чаўр зноў уздыхнуў. Відаць, ён несправядлівы да памочніка. Раскапаў





жа Шарлан гэты радыёзапіс. Хай сабе ён і не мае дачынення да справы, усё роўна гэта сведчыць аб шырыні пошукаў.

— Начальнік Чаўр, вас выклікае Зямля,— тэлеаўтамат перарваў роздум Чаўра.

— Давайце,— буркнуў ён і павярнуўся да насценнага экрана, падумаўшы, аднак, што Шарлан не адважыўся зайсці сам, а папрасіў паведаміць вынік праверкі некага з зямлян.

Экран засвяціўся, і на ім узнік твар старшыні Савета міжпланетных зносін. Старшыня некалькі секунд углядаўся ў Чаўра, потым сказаў:

— За апошнія дзесяткі гадоў архіў не адзначыў ніводнага безадраснага «SOS». Займіся агульным расследаваннем. Адпаведныя ўказанні дадзены ўсім службам.— Крыху памарудзіўшы, дадаў:— *Жадаю поспеху, начальнік Чаўр.*

Чаўр кіўнуў у знак падзякі і адключыў сувязь. Са старшынёй яны былі даўнія сябры. Разам вучыліся, разам хадзілі да зорак. У час аднаго з такіх паходаў і прычапілася да Чаўравага прозвішча слова «начальнік». Праўда, яго дадавалі толькі блізкія сябры, астатнія пра мянушку не ведалі. Гэта пазней ужо, калі Чаўр заняў цяперашнюю пасаду, ён стаў для ўсіх начальнікам. Але старшыня зараз меў на ўвазе ўсё-такі ранейшае.

Увогуле, тады таксама выпадак быў не з простых. Нават праз многа гадоў успамін пра яго прымушае хвалявацца, быццам гэта адбылося толькі што. Але ж калі быў дэсант на адзіную, пазбаўленую жыцця планету Альфы Цэнтаўра!

Іхняя група высадзілася тады на невялікім пясчаным востраве, вакол якога пляскалася неабсяжнае нафтавае мора. Касманаўты зацікавіліся, як гэта на планеце, дзе быццам бы не было арганічнага жыцця, і раптам нафта. Як тут не паспрабаваць адгадаць гэту таямніцу прыроды!

Не паспелі яны адысці ад ракетаплана на які кіламетр, як неба закрылі чорныя вялікія хмары. Але дождж не крапаў. Хмары былі з вуглякіслага газу, насычанага электрычнасцю. Праз некалькі хвілін у хмарах заблішчалі тысячы маланак, і ўсё навокал затрэслася ад грукату перуна. Чаўр разумеў, што падобныя з'явы, магчыма, абяцалі планеце жыццё ў будучым. Але яму і яго таварышам ад гэтага не было лягчэй.

Моцны электрычны разрад трапіў у мора. Яно не запалымнела, бо на планеце не было вольнага кіслароду, а толькі захвалявалася, засвяцілася яркім барвовым колерам. Высачэзныя хвалі ўзняліся з глыбіні і пакаціліся адна за адной на спадзісты пясчаны бераг. І, збягаючы назад, злізвалі пясок з каменнага долу.

Пясок — гэта крэмній і кісларод. У марскіх нетрах пясок распадаўся на свае састаўныя часткі, і тады аднекуль з вялізнай глыбіні на паверхню вырываліся пухкія вогненныя фантанчыкі — гэта гарэў кісларод. Аксамітнa-чорнае мора нагадвала квяцісты дыван, які падступаў усё бліжэй і бліжэй да выспы, дзе спыніліся людзі і аўтаматы, адразаючы вузкім бурлівым каналам іх ад ракетаплана. Засталася толькі вузенькая дарожка, па якой можна было яшчэ вярнуцца. Чаўр быў нават павярнуў ужо. Бадзяй, які ўзначальваў экспедыцыю, спыніў.

— Так мы нічога не высветлім,— сказаў ён.

Здавалася, у яго словах быў сэнс. Тым больш, што неба пачало святлець: хмары папаўзлі за небасхіл. І хаця мора не супакойвалася і ўжо размыла вузкую перамычку, людзям здавалася, што небяспека мінула. Яны засталіся.

Тым часам суцішылася і мора.

— Будзем працаваць,— рашыў Бадзяй.





Робаты хутка сабралі невялікую герметычную палатку, расставілі прыборы. Узяўшы пустую пасудзіну, Бадзяй пайшоў да берага, каб узяць пробу нафты.

— Хай робат,— паспрабаваў яго спыніць Чаўр.

Ён і цяпер не можа сказаць, што прымусіла яго папярэдзіць тады Бадзяя. Відаць, узяў верх недавер да чужой прыроды, які з'явіўся ў яго яшчэ ў час палётаў да планет сонечнай сістэмы. Бадзяй толькі ўсміхнуўся. Ён падышоў да берага, нахіліўся і, адвярнуўшы твар, зачэрпнуў нафты. Пайшоў назад, але за ім пацягнуўся ліпкі і сіняваты пад промнямі Альфы Цэнтраўра хвост-ручаёк.

Напэўна, у ім таілася нейкая пагроза чалавечаму жыццю. Бо асабісты ахоўны робат Бадзяя раптам кінуўся да ручайка і пачаў секчы яго сваімі механічнымі рукамі.

Нафта прыклеілася і да робата. Зразумеўшы, нарэшце, што здарылася, Бадзяй шпурнуў пасудзіну ў мора. Гэта не выратавала. Нафта мноствам струменьчыкаў паўзла па скафандры ўсё вышэй і вышэй.

— Усе назад! — крыкнуў Бадзяй і падаўся бліжэй да берага, рашыўшы ахвяраваць сабой, каб выратаваць таварышаў.

— Слухайце мяне! — загадаў Чаўр.

Зрэшты, ён меў на гэта права, бо, згодна з інструкцыяй, калі старшы дэсанта трапляў у безвыходнае становішча і не мог прымаць аб'ектыўныя рашэнні, яго павінен быў замяніць хто-небудзь з астатніх касманаўтаў. Але пра інструкцыю Чаўр успомніў пазней, а тады проста не мог дапусціць, каб таварыш загінуў.

Тым часам нафта ўжо абляпіла ледзь не ўвесь скафандр. Толькі гермашлем быў яшчэ чысты. Бадзяй стаяў, не варушачыся, каб не разліць нафту на каго-небудзь з сяброў.

Марудзіць было нельга. Яшчэ некалькі хвілін, і нафта, падобная на загуслы клей, залье ўсяго Бадзяя. І Чаўр рашыўся.

— Карнет, Альба, Серпіён! — паклікаў ён робатаў.— Хутчэй турбінны экскаватар!

Робаты кінуліся да аўтакара, на якім ляжаў экскаватар. Серпіён, прыпыніўшыся, адказаў:

— Будзе зроблена, начальнік Чаўр!

І пра гэта Чаўр даведаўся пазней, калі яны праслухвалі запіс тых падзей. А ў той момант яму было не да такіх дэталей. Вось з таго часу для сяброў і стаў ён — начальнік Чаўр. Яны помняць мінулае. І Бадзяй, якога ён тады выратаваў і якому не ведае як памагчы зараз. Бо Бадзяй, яго стары паплечнік, і ёсць камандзір таго самага «Талнаха».

Калі ты ў цэнтры падзей, хай сабе і вельмі-вельмі небяспечных, табе лягчэй. Ты сам бачыш, адкуль і якая ідзе пагроза, ведаеш, што маеш рабіць. На той планеце ён не разгубіўся. Накіраваны пясчаны віхор, узняты турбінамі землярыйнага экскаватара, збіў нафту з Бадзяевага скафандра. Гэта была рызыка. Некалькі хвілін Бадзяй быў нібы ў сярэдзіне палаючага смалянога факела, які гарэў з тэмпературай, дастатковай, каб аплавіць жалеза. Скафандр, на шчасце, вытрымаў, хаця Бадзяй і страціў прытомнасць. Ён ачуняў ужо на заралёце. А яны ўсё-такі здолелі ўзяць пробу з таго дзіўнага мора. Нафта аказалася зусім не нафтай, як разумеюць яе на Зямлі. Гэта вадкасць па сваіх якасцях набліжалася да вышэйшых бялковых структур.

Яно было грознае, тое мора. Лёс Бадзяя вісеў на валаску. Але Чаўр тады быў спакайнейшы, чым зараз. Відаць, далі аб сабе знаць гады, якія прынеслі вопыт і забралі нервы. Чаўр пакруціў галавой, адганяючы ўспаміны, і, адчуўшы, як пакрысе вяртаецца раўнавага, выклікаў Шарлана.

Звесткі, якія прынёс памочнік, не тлумачылі, чаму знік «Талнах». Планеталёт стартаваў зусім спраўны, за ўвесь час палёту аж да самага апошняга моманту нішто ў рабоце машын ці паводзінах пасажыраў не давала падставы чакаць якога-небудзь незвычайнага здарэння. Стараючыся загладзіць сваю нядаўнюю рэзкасць, Чаўр спытаў:

— Што ты думаеш?

Шарлан развёў рукі.

— Няўжо не маеш, як кажуць, ніводнае версіі? — шчыра здзівіўся Чаўр.— А мо спадзяешся, што я і сам усё ведаю? Памыляешся. Я асабіста не разумею тут ні кропелькі. Ты любіш старыя прыгодніцкія кнігі?

— Наогул, люблю.

— Што значыць — наогул? — Чаўр стараўся быць стрыманым. Памочнік зноў здаўся яму занадта правільным, нібы загадзя запраграміраваным. З такім спадарожнікам да зорак не паляціш. Там патрэбны не толькі акуратнасць і стараннасць, якіх у Шарлана хапае, а і рамантычнасць, што часам мяжуе з безразважнасцю. Ці ёсць яна ў яго? Дзіўна, ужо год яны працуюць разам, а ён не можа гэтага сказаць. Чаўр апусціў вочы, каб не выдаць свае думкі, і паўтарыў пытанне:— Што ты зрабіў бы на маім месцы?

Яго настойлівасць, відаць, вывела Шарлана з раўнавагі, бо ён, адказваючы, загарачыўся.

— Прыдумаў бы дзве-тры версіі, як героі прыгодніцкіх кніг, якія я люблю наогул, і распрацаваў бы,— сказаў Шарлан, зірнуўшы на Чаўра.

— Цікава,— павесялеў Чаўр.— Твае прапановы?

— Проста не ведаю,— шчыра прызнаўся Шарлан.

— Давай памазгуем разам,— сказаў Чаўр.— Ты ведаеш, якія прынятыя меры?

— Так. Улічана, што, магчыма, на «Талнаху» сапсаваліся рухавікі. Па ўсіх імаверных напрамках інерцыйнага палёту з пазаземных станцый накіраваны караблі-выратавальнікі. Прастора зандзіруецца лакатарамі, прагледжваецца ў тэлескопы. Калі «Талнах» не ператварыўся ў пару або пучок праменняў, дык яго знойдуць.

— А ты ўпэўнены, што знойдуць?

— Чамусьці — не...

— І я,— згадзіўся Чаўр.— Нервы, ці што, падводзяць? Не магу сядзець, склаўшы рукі, пакуль ідуць гэтыя пошукі. Не такі Бадзяй чалавек, каб спасаваць перад простымі абставінамі. Для гэтага трэба, каб здарылася нешта незвычайнае.

— Начальнік Чаўр!— раптам ускочыў з месца Шарлан.— Дазволь мне заняцца нясконачанай радыёграмай.

— Дапусцім,— кіўнуў галавой Чаўр,— радыёграма мае нейкае дачыненне да «Талнаха». Але хто мог захапіць яго? Гэта неверагодна!

— Я не сцвярджаю. Але падумай сам. Па ўсёй сонечнай сістэме ўжо разнеслася вестка пра «Талнах». За пошукамі сочаць і старыя і малыя. І ніхто не сказаў, што менавіта ён пасылаў тую радыёграму, пачатак якой нам удалося запісаць. Дык хіба не лагічны вывад, што яе пасл́алі з планеталёта? А калі гэты вывад звязаць з самім фактам, што планеталёт знік, то...

— Гэтак ты дагаворышся немаведама да чаго,— перапыніў яго Чаўр.

— Я не хачу забягаць наперад,— Шарлан ужо супакоіўся,— але праверыць павінен.

— Добра, ідзі правер.

...Мінулі суткі. Чаўр меў ужо шматлікія заключэнні экспертаў, паведамленні выратавальных караблёў, назіральных станцый. «Талнах» не ўзарваўся і не анігіляваў, не сутыкнуўся з метэарытам. Уся прастора на мільярды кіламетраў вакол трасы была прасвечана самым старанным чынам. Заставалася адно: «Талнах» збочыў з трасы і знік у невядомым кірунку.





Чаўр разумеў, што калі гэта здарылася, то пошукі ўскладняцца. Планеталёт нават за тыя суткі, якія мінулі з моманту, калі ён меўся прыбыць на Нераіду, мог аддаліцца ледзь не на край сонечнай сістэмы. На самой жа справе пасля апошняй сувязі з ім мінула амаль двое сутак. Суцяшала толькі адно — «Талнах» не загінуў, і раней або пазней яго ўдасца знайсці.

Зайшоў Шарлан. Чаўру кінулася ў вочы, як паблядиеў, асунуўся твар у памочніка. Відаць, і ў Шарлана не было часу на адпачынак.

— Вось,— ён падаў Чаўру спіс.— На мой погляд, нічога суцяшальнага...

Чаўр узяў спіс і пачаў чытаць. Гэта былі людзі самых розных прафесій. Механікі, геолагі, кібернетыкі, астраномы, урачы, нават настаўнік. Адны з іх ляцелі да месца працы, другія — у адпачынак. Шарлан зрабіў вялікую работу. Ён нават даведаўся, якія рэчы ўзялі гэтыя людзі з сабою. Ні ў каго з іх не было прыёмніка, не кажучы ўжо аб перадатчыку. Версія Шарлана, такім чынам, абрывалася ў самым пачатку. Чаўр задумліва выцягнуў губы. Пасл́аць сігнал мог толькі нехта з «Талнаха». Экіпаж? Не. Яны, хутчэй, выкарысталі б звычайную касмічную аварыйную хвалю. Пасажыры? Слабая сіла сігналу сведчыла на карысць гэтага меркавання, яго можна было, як сцвярджалі спецыялісты, пасл́аць толькі недасканалым, самаробным перадатчыкам. Але ніхто з пасажыраў быццам бы не захапляўся радыё. Відаць, у нечым яны з Шарланам памыляюцца.

Чаўр доўга перачытваў спіс, нібы там паміж прозвішчаў магло хавацца яшчэ нешта. Не адводзячы вачэй ад спісу, спытаў:

— Колькі было пасажыраў?

— Тут шэсцьдзесят дзевяць.

— «Талнах» мог узяць семдзесят.

— Я запісаў шэсцьдзесят дзевяць,— растлумачыў Шарлан.— А ўсяго іх было сапраўды семдзесят. Я не браў пад увагу хлопчыка, які ляцеў да бацькі на Нераіду.

— Хлопчыка? — Чаўр аж усміхнуўся.— Ён адзін можа натварыць больш, чым сотня дарослых. Хіба ты забыўся, які сам быў?

Шарлан збянтэжыўся.

— Я праверу,—сказаў ён, адыходзячы да дзвярэй.

— Абавязкова. І ведаеш,— Чаўр затрымаў Шарлана,— дзейнічай так, быццам мяне няма. Як адказны за пошукі. Не бойся памылак. Мы іх робім усе.

Успыхнуў экран. Чаўр адпусціў памочніка і спытаў:

— Што там?

— Нейкая дзіўная тэлеграма...— паведаміў сакратар.

Яшчэ да прыходу Шарлана са спісам Чаўр паслаў запрос у Цэнтральны архіў: ці не заўважаліся ў межах сонечнай сістэмы за апошні час якія-небудзь непазнаныя прадметы? Адказ прыйшоў кароткі і катэгарычны: не.

Чаўр апусціў галаву. Хвіліну назад, даючы даручэнне памочніку, ён быў упэўнены, што неўзабаве будзе ведаць, як і чаму знік «Талнах». А зараз засумняваўся. Эра лятучых галандцаў, здаецца, даўно скончылася. Ніякія галюцынацыі, нават калі яны здольныя ўздзейнічаць на чалавека, кібернетычным сістэмам не пагражаюць. Гэта азначае толькі адно — паводзіны экіпажа планеталёта і яго капітана былі зусім асэнсаваныя, мелі пэўную падставу. Аднак чаму тады Бадзяй не паведаміў пра змену курсу, чаму маўчыць зараз? Зноў Чаўр не мог звязаць два канцы ў адзін вузел. Расслабіўшыся, ён урэшце падумаў, што адказвае толькі за тэхніку, а тут павінны займацца псіхолагі. Задасць ён Бадзяю, калі той вернецца!

— Начальнік Чаўр,— Шарлан уключыўся ў відэасувязь аднекуль з другога канца будынка станцыі. Ён быў усхваляваны, нецярплівы.— Цікавыя звесткі.

— Га? — Чаўр не адразу зразумеў памочніка,— цікавыя, кажаш? Доб-

ра, добра,— узняў ён руку, спыняючы Шарлана.— Закажы ракетаплан на Зямлю. У дарозе і пагаворым.

Праз чвэрць гадзіны спецыяльны ракетаплан начальніка Службы бяспекі ўнутрысістэмных зносін імчаў Чаўра і Шарлана на Зямлю.

Шарлан сядзеў насуплены, незадаволены абыякавасцю начальніка да ягоных навін. Чаўр скоса зірнуў на памочніка і сказаў:

— Выкладвай, што там новага!

Шарлан ажывіўся і высыпаў на стол пачак фотаздымкаў. На ўсіх быў адзін і той жа хлопчык — гадоў дванаццаці або трынаццаці, з тварам, густа ўсыпаным рабаціннем, жывымі, хітрымі вачыма. Відаць, хлопчык непаседлівы, свавольны.

— Такі выдумшчык,— данеслася да Чаўра.— Ты толькі паслухай, што пра яго расказваюць. У гэтага хлопчыка кішэні заўсёды напханыя радыёдэталямі. Аднойчы нарабіў мініяцюрных прыёмнікаў, параскідваў іх у класе за дошкай, пад настаўнікавым сталом, напхаў у кішэні таварышаў. А сам з мікрафонам, звязаным па радыё з электронным бюро школьных кансультацый, сеў насупраць настаўніка. Настаўнік задае пытанне, а з усіх бакоў — гэта пачыналі працаваць прыёмнікі — гучыць адказ. Тады Юрась яшчэ ў чацвёртым класе быў.

— Значыць, гэта Юрась,— спытаўся Чаўр,— той самы, з «Талнаха»? Аднак, ты паспеў...

— Юрась Батура,— не зважаючы на рэпліку, працягваў Шарлан.— Зараз ён у сёмым. Я ўпэўнены, што сігнал — яго работа. Нешта падобнае ён ужо раз зрабіў. На ўроку астраноміі. Настаўнік настроіў радыётэлескоп, каб даць вучням паслухаць пульсар галактыкі МЕ. І раптам у выпраменьванні пульсара на хвалі вадароду ўпляліся староннія сігналы. «Кантакт! Мы ўстанавілі кантакт!» — закрычалі вучні. Нават настаўнік быў паверыў. А потым выпадкова зірнуў на Юрася і здагадаўся: той сядзеў спакойна і толькі хітра жмурыў вочы. Ён, як сцвярджаюць яго сябры, што хочаш, можа выкінуць. Між іншым, ён казаў перад адлётам, што будзе паведамляць аб сабе.

Гэта сапраўды магло быць. Чаўр пагаджаўся з памочнікам. Але гэта ўсё роўна ні на крок не набліжала іх да мэты. Калі нават дапусціць, што радыёграму паслаў Юрась, дык адразу ўзнікала мноства новых пытанняў: чаму ён пасылаў яе, што перашкодзіла дакончыць фразу, чаму ён маўчыць зараз? Але самым галоўным было тое, што ў сонечную сістэму ніколі не прылятаў ніводзін чужынец, які мог захапіць планеталёт.

— Ты сумняваешся? — здзівіўся Шарлан, па-свойму зразумеўшы маўчанне Чаўра.

— Я проста разгубіўся,— шчыра прызнаўся Чаўр.— Мне неабходна параіцца з сябрамі. З тымі, хто, як і я, правялі ў прасторы разам з Бадзяем шмат гадоў.

## II

Сядзелі, не запальваючы святла. У пакоі было гэтак жа цёмна, як і на дварэ. За акном, недзе далёка ўнізе, з глухім бухканнем разбіваліся аб скалы цяжкія хвалі, і паляўнічы домік, пабудаваны на крутым байкальскім беразе, раз-пораз уздрыгваў.

— Як на Арландзе,— хрыплаваты бас парушыў цішыню.

Чаўр уявіў сабе твар гэтага чалавека. Не такі, які быў у яго зараз — распаўнелы, парэзаны глыбокімі маршчынамі, а ранейшы, тых часоў, калі яны былі разам на Арландзе — планеце жоўтага Працыёна — малады, з кучаравай барадой. Паміж сабой яны яго называлі Эсквайр, звяртаючыся ж да





яго — не адважваліся: усё-такі капітан. Тады яны ўпершыню ступілі на зямлю чужога свету і радаваліся, як дзеці, нават ён, цяперашні сур'ёзны старшыня Савета міжпланетных сувязей Павел Рэпс.

— Помніце, Бадзяй хацеў абавязкова адшукаць цывілізацыю? — падаў голас іх колішні нязменны штурман Артур Плыга.

— І палічыў звычайныя тэктыты за прадукт дзейнасці невядомых атамных рухавікоў. Гісторыя паўтараецца, так, здаецца, жартавалі мы з яго? — прыгадаў далёкі выпадак Рэпс.

— Хацеў бы я знаць, што за што палічыў ён зараз,— неяк ужо занадта нервова прамовіў Чаўр. Яго раздражняла ўсё — і ўласная бездапаможнасць, і падсвядомае жаданне таварышаў адцягнуць пачатак горкай размовы. І ад гэтага не мог стрымаць раптоўную непрыязнасць, якую адчуваў да сяброў. За іх успамінамі яму бачыўся прыхаваны намёк: «Мы тут сядзім, чэшам языкі, а Бадзяя ўжо, можа, няма».

— Не гарачыся,— Чаўр адчуў на сваім плячы вялікую і цяжкую руку Плыгі.— Нас засталося толькі чацвёра, лічачы Бадзяя. Ён, можа, трапіў у бяду. Мы павінны выручыць яго разам. Праўда, Эсквайр?

— Ага, прагаварыўся,— варухнуўся Рэпс, і нават у цемры Чаўру здалося, што ён сваёй мажной постаццю запоўніў увесь пакой.— Я даўно ведаў, яшчэ з той праклятай Цэнтаўры, што вы мне далі гэтую мянушку. Бадзяй у непрытомнасці прагаварыўся. Я схіліўся над ім і чую: «Гэта ты, Эсквайр?» Ну, думаю, чалавек трызніць, дрэнь яго справы. А ён зноў: «Гэта ты, Эсквайр Рэпс?» Тут да мяне дайшло, што да чаго.

— Ну і вытрымка ў цябе, Эсквайр Рэпс? Столькі год маўчаў! — засмяяўся Плыга.

— Можна было і сёння не спяшацца,— буркнуў Чаўр.

Плыга прыціснуў яго плячо. А Рэпс сказаў:

— Не хавай сябра загадзя, начальнік Чаўр. Успомні, як ты сам яго ратаваў: і там, на Цэнтаўры, і пазней, на Гарыстай, дзе на яго напалі двуххвостыя страшыдлы. У той час ты не разгубіўся. Дык чаму табе зараз здраджваюць нервы?

— Даруйце,— прашаптаў Чаўр,— я, напэўна, вельмі пастарэў.

— Усе мы пастарэлі, начальнік Чаўр. Нават твой любімы робат Серпіён,— Рэпс паклаў сваю далонь на Плыгавы пальцы, якія ўсё яшчэ сціскалі плячо Чаўра. Гэта Артур увёў у праграму Серпіёна слова «начальнік». Ён прадбачыў, кім ты станеш.

— Вось калі ўсплываюць штукарствы нашай маладосці,— абыякава сказаў Чаўр, быццам гаворка ішла пра нешта старонняе.

— Тайнае робіцца яўным, як казалі старажытныя лаціняне,— засмяяўся Рэпс і ўжо сур'ёзна сказаў:— Ну, хопіць. Давайце аб справе. Ты, Артур, нешта маеш?

— Надоечы ў мяне быў штурман «Аскольда», прыносіў дзённік капітана Зарапіна. Прыкладна чвэрць века таму назад, сцвярджае Зарапін, паблізу Сатурна лакатары яго карабля намацалі зямны планеталёт. Гэта была старая канструкцыя мінулага стагоддзя. Зарапін паслаў да планеталёта светлавы імпульс, але той не адказаў і неўзабаве знік з экрана.— Плыга перадыхнуў і дадаў:— Больш яго Зарапін не сустракаў.

— Я запрошваў архіў,— перапыніў Чаўр.— Сустрэча не зарэгістравана.

— Архіў рэгіструе толькі дадзеныя, якія маюць пацвярджэнне. А хто мог пацвердзіць гэта, калі Зарапін не паспеў зафіксаваць на плёнцы планеталёт?

— Можа, гэта быў грузавік? — уставіў Рэпс.

— Зарапін пазней правяраў у навігацыйным аддзеле. Ніводзін з зямных караблёў не павінен быў там знаходзіцца.

— Здань! Лятучы галандзец! — іранічна засмяяўся Чаўр.— Зарапін не паддаўся прывіду, а Бадзяй клюнуў.

— Мы нічога не ведаем, начальнік Чаўр,— спакойна сказаў Плыга.— Не будзем спяшацца з вывадамі. Бадзяй даволі вопытны касманаўт, каб памыляцца.

— Слушна, Артур,— заўважыў Рэпс.— Не будзем папракаць адзін аднаго. Думаю, аднак, без увагі выпадак з Зарапіным пакідаць нельга.

— Дзіўна...— сказаў Чаўр.

— Іншага пакуль няма,— адказаў Плыга і ўключыў лямпу.

На дварэ не сціхаў вецер. Здаецца, што гэта ноч хоча на крылах ветру ўварвацца ў асветлены пакой, каб і тут аднавіць сваё панаванне. А пакуль ёй гэта не ўдавалася — сарваць будыніну і кінуць у бездань.

— Гаварыў — збяромся ў мяне,— пацёпаў плячыма Плыга,— не захацелі. Усё вам падавай натуральнае. Эстэты, рэлятывісты праклятыя! У прастору не пускаюць, дык яны тут дэкарацыю патрабуюць. Цешцеся, каб на вас пярун з усімі яго калясніцамі!

— Ты што ўсхадзіўся? — Рэпс недаверліва пазіраў на таварыша. Ён вельмі добра ведаў яго і чакаў нейкага падману. І не памыліўся. Глянуўшы па баках, ён заўважыў у кутку столік, на якім нешта ляжала, прыкрытае белай сурвэткай.

Перахапіўшы яго позірк, Плыга ўсміхнуўся:

— З-за вас па ўсім кантыненце прыйшлося матляцца,— ён падбег да століка, выкаціў яго на сярэдзіну і зняў сурвэтку.

На століку стаяла бутэлька старога вінаграднага віна і тры гранёныя крыштальныя кубкі.

— Мае цяперашнія сучаснікі не разумеюць яго смаку,— Плыга пляснуў па бутэльцы,— а нам, старым зямлянам, сам бог, калі ён яшчэ быў, завяшчаў выпіць за тых, хто ў прасторы.

Залацістае віно іскрылася, як згустак сонечнай плазмы.

— Дзе ты толькі здабыў гэта, штурман? — паківаў галавой Чаўр.

— Мая лоцыя не падвядзе,— Плыга ўзняў бакал,— трымайцеся мяне.

Пілі, зусім як у даўні час — не спяшаючыся, думаючы кожны пра сваё. Паставіўшы бакалы, памаўчалі.

— Ну, хопіць,— Рэпс устаў з-за стала.— Трэба за справу брацца.

Ён гаварыў спакойна, не павышаючы голасу, нібы не шумела за сценамі бура. Чаўр і Плыга падняліся таксама, на момант убачыўшы ў ім свайго былога капітана.

— Зробім так,— Рэпс на хвіліну змоўк і нахмурыўся.— Плыга праверыць лёс кожнага карабля за апошнія... Артур, кажаш, канструкцыя была старая?.. За апошнія сто пяцьдзесят год. Чаўр вывучае непацверджаныя факты. Вось так, хлопцы. А зараз пара.

Назад Чаўр вяртаўся адзін. Сустрэча з сябрамі, асабліва ўпэўненасць Рэпса, падбадзёрылі яго. Ён яшчэ не ведаў, як гэта будзе, але ўжо верыў, што знойдзе Бадзяя. Праўда, не тым шляхам, які бачыць Рэпс. Зарапін і яго дзённік тут ні пры чым. Каб Зарапін сустрэў іншы карабель, той, пэўна, адказаў бы на яго запытанне. Нават асвоены космас па-ранейшаму дзейнічаў на чалавека сваёй неабсяжнасцю, сярод якой магутныя планеталёты былі, як пясчынкі. Не адказаць на запытанне мог толькі міраж, бо кожны касманаўт радаваўся, сустракаючы ў космасе другога.

Чаўр шкадаваў, што не нагадаў таварышам пра шырока вядомы выпадак, які адбыўся гадоў семдзесят таму назад. На Меркурыі разбіўся карабель-аўтамат. Людзей на ім не было, і таму не спяшаліся забіраць абломкі. І вось праз некаторы час нехта з пілотаў, праляцаючы міма Меркурыя, заўважыў у прасторы паблізу ад планеты той самы карабель-аўтамат. Потым яго бачылі іншыя касманаўты. Нават былі падумалі, што карабель не загінуў, а толькі атрымаў пашкоджанні і цяпер, адрамантаваны робатамі, зноў выйшаў у космас. Але справа аказалася значна прасцейшай: у зменлівай крышталічнай атмасферы Меркурыя абрысы корпуса карабля, падсвечаныя сонечнымі праменнямі, праектаваліся на верхнім слаі. Самы звычайны зямны міраж у касмічным варыянце. Нешта падобнае мог напаткаць Бадзяй. Канешне, на сваё запытанне ён не атрымаў адказу. Падумаўшы, што адбылася аварыя, ён памчаўся ўжо за караблём.

Унізе замігцелі агні сталіцы, дзе знаходзіўся і касмічны цэнтр. Тут Чаўр і жыў, бываючы на Зямлі.

Вінталёт, робячы шырокія кругі, пачаў апускацца. Чаўр уключыў тэлесувязь. Экран успыхнуў, праз секунду на ім з'явіўся твар Шарлана.

— Што Бадзяй? — спытаў Чаўр.

— Нічога новага,— адказаў памочнік.

«Як гэта падобна на Бадзяя! — падумаў Чаўр.— Маўчыць, бо асцерагаецца атрымаць загад вярнуцца».

Работы ў Чаўра аказалася шмат. Акрамя спраў, звязаных з пошукамі, якія вяла Служба бяспекі, ён наводзіў даведкі, сустракаўся з ветэранамі космасу, звязваўся з імі па тэлесувязі.

За паўтара века бясследна не знік ніводны касмічны карабель, нават з тых, што адпраўляліся да зорак. Якім бы цяжкім ні аказаўся іх лёс, яны заўсёды знаходзілі магчымасць паведаміць аб сабе.

Ніхто з касмічных ветэранаў не пацвердзіў, што Зарапін не памыліўся. Самога Зарапіна ўжо не было сярод жывых. Усе дэталі, якія, магчыма, крыху праяснілі б справу, ён забраў з сабой.

А на другі дзень пошукаў станцыі назірання за космасам падкінулі Чаўру і яго службе новую загадку. Яны прынялі сігнал. На гэты раз, аднак, удалося дакладна зафіксаваць, адкуль ён быў пасланы: раён Сатурна. Сігнал, як і той першы, быў нешматслоўны. На той жа хвалі невядомы карэспандэнт перадаваў: «Прыцяжэнне ўзрастае».

Чаўр адчуў, што зноў нічога не разумее. Чаго іх панесла да Сатурна — да яго самога або бліжэйшых спадарожнікаў, дзе ніколі не было нават пастаянных назіральных станцый? Да таго, «Талнаху», каб апынуцца там, трэба было пакрыць некалькі мільярдаў кіламетраў: Сатурн знаходзіўся ў баку ад трасы Зямля — Нептун.

— Што будзем рабіць?— задаў Чаўр пытанне Шарлану, які займаўся арганізацыяй пошукаў.

— Я загадаў патрулям, якія базіруюцца на Ганімедзе, адправіцца бліжэй да Сатурна, узяць пад нагляд Энцэлад і Мімас,— сказаў памочнік і, нібы быў вінаваты ў гэтым, збянтэжана дадаў:— Сатурн зараз далёка ад пастаяннай пасажырскай трасы, таму там мала патрулёў.

Чаўру можна было не тлумачыць, ён ведаў гэта. Аднак ён з цікавасцю зірнуў на Шарлана: яму падабалася, што памочнік дзейнічае сам, робіць усё, што належыць. Ад прыкрай думкі, што вось, мабыць, ён скоўваў ініцыятыву памочніка, Чаўр нахмурыўся.

— Я памыліўся? — устрывожыўся Шарлан.

— Ты ўзначаліш пошукавую групу.

Шарлан кіўнуў галавой і знік з экрана відэасувязі.

Чаўр, заклаўшы рукі за спіну, пачаў мераць крокамі пакой ад акна да дзвярэй і назад. Гэта была яго даўняя прывычка, набытая яшчэ ў паходзе да Альфы Цэнтаўра. Ён не любіў спецыяльных гімнастычных практыкаванняў, якія ў пэўны час выконвалі ўсе члены экіпажа і якія памагалі падтрымліваць цела і сэрца ў нармальным стане. І ўрач параіў яму хадзіць. Гэта займала значна больш часу, але затое спадабалася Чаўру. Доўгія гадзіны, вольныя ад вахты і іншых занятках, ён хадзіў па калідорах, лесвіцах, мінаючы ліфты і пад'ёмнікі. Хадзіў нават па сваёй каюце. Неабходнасць хадзіць

стала з часам такой жа патрэбай, як есці або спаць. Ён іншы раз, задумаўшыся, сам не заўважаў, што пачынае хадзіць па пакоі.

Адправіўшы Шарлана, Чаўр не перакладаў сваю адказнасць на плечы памочніка. Чаўрава сэрца рвалася ў прастору, дзе быў Бадзяй. Ён адчуваў бы сябе значна лепш, змяніўшы Шарлана, які мчаўся да Сатурна на хуткасным выратавальніку. Але ён не мог дазволіць сабе гэтай палёгкі. Яго месца ўсё яшчэ было на Зямлі: у лёсе «Талнаха» па-ранейшаму не бачна было нічога пэўнага.

Чаўр не ствараў новых гіпотэз, не развіваў старых, выказаных заўчора сябрамі. У святле апошніх падзей іх меркаванні здаваліся яму занадта паспешлівымі. Зрэшты, ён лічыў гэта натуральным, бо ніхто з іх не ведаў нават прыблізна, што адбылося на самай справе. Ён ведаў адно: трэба чакаць, і чакаў.

Час ад часу ўключаўся ў відэасувязь і задаваў адно і тое пытанне:

— «Талнах»?

Планеталёт не падаваў аб сабе вестак.

Потым яго выклікаў Рэпс. Чаўр убачыў яго заклапочаны, хмуры твар. Рэпс сказаў, што з аднаго патруля заўважылі на Энцэладзе нешта падобнае на выбух. На праяўленай плёнцы выразна відаць клубы пылу, якія павольна асядаюць на паверхню гэтага спадарожніка Сатурна.

— Урэзаліся,— занадта спакойна, як аб нечым, што яго не датычыць, зазначыў Чаўр.

— Што ты!— усклікнуў Рэпс.— Гэта памылка. Ты ж ведаеш, што такое Энцэлад. Пульсацыю сатурнавай атмасферы на такой адлегласці можна палічыць за выбух.

— На патрулях хлопцы дасціпныя,— сказаў Чаўр.— А потым апошняя радыёграма...

— Раней ты не верыў, што яна з «Талнаха».

— Шарлан пераканаў. Я павінен быць...

— Дазвольце ўключыцца ў размову,— прагучаў голас супрацоўніка сувязі, і праз імгненне ён дадаў:— Ажыў невядомы перадатчык. На Энцэладзе. Дубліруе музыку касмічнага маяка. Паслухайце...

Нават узмоцненая і ачышчаная ад перашкод музыка была ледзь чутная. Яна вярталася на Зямлю, як далёкае рэха.

— Каардынаты? — Чаўр падаўся да экрана.

— Супадаюць з раёнам выбуху.

Сувязіст адключыўся. Чаўр з Рэпсам зноў засталіся сам-насам.

— Дазваляю,— сказаў Рэпс.— Адпраўляйся на месца.— І раптам шырока ўсміхнуўся:— Не, гэта яшчэ далёка не ўсё. Я веру ў Бадзяя.

## III

Калі Чаўр прыляцеў на Энцэлад, у Шарлана ўжо быў разбіты цэлы лагер. Ён знаходзіўся паблізу ад месца, дзе адбылася катастрофа.

— Людзі? — спытаў Чаўр.

Шарлан адвёў позірк і вінавата сказаў:

— Пакуль не знайшлі.

Чаўр не стаў удакладняць, што азначае «пакуль не знайшлі», падумаўшы, што ў памочніка было мала часу. Ён ледзь дачакаўся, пакуль яго хуткасная ракета апусцілася на пасадачную пляцоўку. Не паспелі яшчэ асесці часцінкі, што падняў рухавік ракеты, як Чаўр быў ужо ля выхаду.

— Асцярожна,— папярэдзіў пілот,— тут амаль няма прыцяжэння.

Шэры, змрочны дыск Сатурна займаў амаль палавіну неба, пасылаючы на Энцэлад скупое попельнае святло — ён шчыра дзяліўся са сваім спада-





рожнікам тым, што атрымліваў ад Сонца сам. Аднак і гэтага хапала, каб бачыць усё навокал. Пасадачную пляцоўку абкружалі дзікія скалы, векавыя глыбы зледзянелай атмасферы, якая некалі была і ў гэтай маленькай планеты. Чаўру здавалася, што тут зусім няма адлегласці. Энцэлад быццам абрываўся адразу за бліжэйшым таросам, як астэроід. Але Чаўр ішоў, ішоў, і блізкі краявід адсоўваўся далей і далей. Было нават дзіўна, як Шарлан здолеў сярод гэтага хаосу выбраць месца і для пасадачнай пляцоўкі, і для лагера.

Абмінаючы расколіны, Чаўр спяшаўся насустрач Шарлану.

— Дзе? — спытаў ён у памочніка.

— Вось там, у катлавіне,— паказаў Шарлан улева.

І Чаўр здзівіўся: як добра ўжо арыентуецца памочнік на тутэйшай незнаёмай мясцовасці! Даўнія падарожжы па чужых планетах ажылі ў яго памяці, быццам і не было гэтых дваццаці год з лішкам, у якія ён не пакідаў ужо сонечнай сістэмы. Чаўр адчуў лёгкую зайздрасць і сум. Некалі ж і ён пракладваў першую сцяжынку для іншых. А зараз вось яго ўжо вядзе памочнік, ахоўваючы, як важную персону, каб ён не трапіў у расколіну ці не зваліўся з абрыву.

Катастрофа адбылася ў катлавіне. Глыбокая і вузкая, яна была зусім недаступная для тых выратавальных тэхнічных сродкаў, якія меў у сваім распараджэнні Шарлан. Чаўр гэта вызначыў адразу, акінуўшы вачыма ўсю катлавіну. Рэшткі «Талнаха» ляжалі глыбока ўнізе.

— Пражэктары? — узняў галаву Чаўр.

Шарлан махнуў некаму рукой, і восем яркіх кругоў успыхнулі вакол катлавіны, а на яе дне заблішчалі рознакаляровыя абломкі некалі дакладных і прыгожых дэталей і канструкцый.

— Пайшлі! — Чаўр першы скочыў на выступ скалы.

— Вазьмі правей,— падказаў Шарлан,— там зроблены спуск.

Чаўр моўчкі збочыў, і Шарлан паспяшаўся ўслед за ім.

— Выбух быў вельмі моцны,— пачаў быў ён расказваць.

— Не трэба,— перабіў яго Чаўр,— я хачу ўсё паглядзець сам.

Калі да разбітага планеталёта засталося метраў трыццаць, Чаўр спыніўся. Не трэба было быць вялікім спецыялістам, каб здагадацца, што карабель спачатку ўдарыўся аб камяністае дно, а потым ужо ўзарваўся. Шарлан не памыліўся, кажучы пра сілу выбуху. Напэўна, усё паліва, уключаючы і аварыйны запас, распалася адначасова. Каб карабель узарваўся на раўніне, дык ці можна было б знайсці яго абломкі. Цесная і глыбокая катлавіна не дала ім разляцецца. Ды і выбух чамусьці быў гарызантальнай накіраванасці. Страшэнная тэмпература эпаліла і аплавіла метал. Людзі, нават апранутыя ў самыя тэрматрывалыя скафандры, усё роўна не маглі яе вытрымаць. Чаўр зірнуў на Шарлана.

— Мы не знайшлі нікога,— быццам зразумеўшы яго думкі, сказаў памочнік.

Чаўр кіўнуў галавой і пачаў спускацца ніжэй. Тут усё выглядала яшчэ больш страшна. Сцены карабля, зробленыя з самага трывалага матэрыялу, які толькі ведалі на Зямлі, былі пагнутыя і разарваныя, знішчаны пераборкі паміж адсекамі. Замест карабля была проста груда металу. Чаўр прабіраўся паміж абломкаў, падсвечваючы сабе ліхтаром. Відовішча яго прыгнятала. Ён хацеў, і баючыся і чакаючы гэтага, убачыць астанкі каго-небудзь з экіпажа ці пасажыраў. Сляпая сіла не пакінула нічога. Усё начыста падмёў імгненны смерч.

Чаўр выбраў зручнае месца і прысеў. Хацелася сабрацца з думкамі. Катастрофы такога роду былі ўжо надзвычай рэдкія, калі не сказаць — неверагодныя. Трэба было, каб тысячы прычын, не сумяшчальных паміж сабой, раптам чамусьці спалучыліся і прывялі да гэтага выніку. Ён паспраба-



ваў уявіць сябе на месцы Бадзяя, і адразу паток пытанняў абрушыўся на яго. А ён спатыкнуўся ўжо на першым: што прымусіла капітана змяніць курс? Не знайшоўшы адказу, Чаўр зноў пачаў прыглядацца да гэтых абломкаў, якія, як сцвярджалі прыборы, шэсцьдзесят сем гадзін таму назад былі яшчэ «Талнахам». Ён прыглядаўся доўга — яму здавалася, што вось зараз нешта знойдзе. Не маглі ж так раптам знікнуць і людзі, і іх рэчы.

Трацячы ўсялякую надзею, Чаўр падаўся туды, дзе стаялі члены пошукавай групы. І раптам пад скручанай, як вінт, тоўстай бэлькай ён заўважыў корцік. У Чаўра ёкнула сэрца. Ён нагнуўся і выцягнуў невялічкі корцік, свой падарунак Бадзяю, калі той стаў капітанам пасажырскага касмічнага лайнера. Корцік быў зроблены з металу, які Чаўр у свой час знайшоў на Арландзе. Ён ведаў, што Бадзяй ніколі з ім не расставаўся.

— Ну і метал! — здзівіўся Шарлан, убачыўшы знаходку,— уцалеў?..

— Га? — Чаўр не адразу ўцяміў, што гаворыць памочнік. Ён пакруціў корцік, нібы шукаючы на ім нейкія знакі, і паднёс яго да Шарланавых вачэй.— Глядзі.— Ручка, зробленая з чорнага дрэва, бліснула ў пражэктарным святле.— Яна таксама вытрымала?

— Дзіва! — зазначыў нехта ззаду. Чаўр не паспеў разгледзець, хто: у скафандрах людзі былі падобныя адзін на аднаго.

— А на скале, вунь ля таго крайняга пражэктара, радыёстанцыя працуе,— зноў сказаў той жа голас.

— Як гэта я забыўся,— схамянуўся Шарлан,— тая самая, што маяк транслірує. Юрасёва работа. Вядома, яго.

— Пакажы,— Чаўр хацеў усё бачыць на свае вочы.

Па высечаных прыступках яны хутка, пераскокваючы цэлыя метры, палезлі, як паплылі, уверх. Незаўважнае прыцяжэнне маленькай планеты хіба толькі не давала ім узляцець.

Невялікую скрыначку, якая выпраменьвала радыёхвалі, Чаўр убачыў у неглыбокай нішы. Ён пераключыў сваю перагаворную рацыю на касмічны маяк, і ў шлемафоне загучала музыка. Яна і тут была глухаватая, пранізаная дыханнем прасторы, якая ўрывалася ў перадачу шматлікімі шумамі і патрэскваннямі.

Чаўр узяў скрыначку ў рукі. Яна, відаць, не мела раней ніякага дачынення да таго, што зараз ляжала ў ёй: мініяцюрнага прыёмнічка, такога ж перадатчыка і атамнай батарэйкі. Усе гэтыя рэчы ў скрыначку нехта паклаў зусім нядаўна. Імправізаваная станцыя магла працаваць яшчэ вельмі доўга, наводзячы людзей на след незразумелай трагедыі.

— Пашукайце вакол,— папрасіў Чаўр, а сам адправіўся да сваёй ракеты. Ён адчуваў, што нервовая напружанасць вышэйшая за яго сілы.





На Энцэладзе была кароткая ноч. Чаўр зірнуў на гадзіннік. Пакуль ён быў у катлавіне, аказваецца, мінулі тры тутэйшыя ночы — на гэтай планетцы часткі сутак мяняліся надзвычай хутка.

У цемры Чаўру было лягчэй. Не прыгнятаў сваёй агромністай масай Сатурн, які, здавалася, вось зараз возьме і лізне атмасферным пратуберанцам планетку, і тады нічога не застанецца на ёй: ні абломкаў «Талнаха», ні людзей.

Чаўр ніколі не лічыў сябе баязліўцам. Ён бачыў у сваім жыцці сапраўды страшныя планеты, побач з якімі Сатурн, мусіць, выглядаў райскім месцам. І зараз на яго дзейнічаў не страх, а, відаць, нічым не апраўданая гібель «Талнаха». Ён не мог уявіць сабе, чаму Бадзяй, які раней ніколі не пасаваў перад небяспекай, раптам схібіў тут.

І яшчэ было горка ад таго, што міне некалькі гадзін, і ён, Чаўр, аддасць каманду, каб спынілі пошукі і расследаванне. Потым, вярнуўшыся на Зямлю, ён падпіша акт, складзены памочнікам. І Бадзяя ўжо не стане афіцыйна.

Цяжка соваючы ногі, нібы ўсё гэта было на Зямлі, а не на маленькім Энцэладзе, Чаўр падняўся па трапе. Азірнуўся. Вакол катлавіны рухаліся, кружыліся агеньчыкі. На скалах і крышталападобных глыбах замерзлага аміяку слізгалі светлавыя плямы, трывожачы іх спрадвечную цемру.

Чаўр прыслухаўся. Шукальнікі перагаворваліся, падказвалі адзін аднаму, дзе шукаць яшчэ. Чаўр паслухаў іх крыху і раптам падумаў, што не знойшлі нічога і не знойдуць.

Ён не памыліўся. Калі Сатурн дасягнуў зеніта, Шарлан папрасіў дазволу скончыць марныя пошукі.

Не вагаючыся, Чаўр згадзіўся.

Перад адлётам Чаўр зноў пабываў у катлавіне. Адзін. Яму хацелася развітацца з Бадзяем. Не верылася, што Бадзяй ужо нябожчык.

## IV

Кватэра Чаўра была ў старым і зацішным раёне сталіцы. У той час людзі выбіралі сабе жытло бліжэй да прыроды. Вялікая колькасць дасканалых транспартных сродкаў — і агульнага карыстання, і індывідуальнага — дазваляла без асаблівых затрат часу дабірацца ў любы пункт планеты. Таму месца працы перастала ўплываць на месца жыхарства. І людзі сяліліся ў тайзе, на берагах вялікіх азёраў і мораў, выбіраючы ўмераны або гарачы клімат.

Чаўр, як і яго нямногія даўнія сябры, быў рэлятывістам, гэта значыць, чалавекам з мінулага. Адправіўшыся некалі на субсветлавым караблі да зорак, ён на дзесяцігоддзі апярэдзіў сваю эпоху, апынуўся ў будучыні. Моды, імкненні, звычкі новага часу былі яму чужыя. Ён захоўваў старое ў сабе, як успамін аб маладосці, аб людзях, якіх перажыў. Стары раён менавіта і спадабаўся яму тым, што нагадваў колішняе звычайнае гарадское жыццё — шумнаватае, бурлівае, аб'яднанае. Ён аддаваў перавагу чалавеку на вуліцы, а не на відэаэкране.

Сучаснікі лічылі гэта дзівацтвам. А ён, успамінаючы доўгія гады, замкнёныя сценамі зараклёта, пустэльныя прасторы Месяца, цягнуўся да людзей. Вокны яго кватэры, што была пад дахам вышыннага дома, выходзілі на праспект. У хвіліну роздуму Чаўр любіў глядзець, як унізе праносяцца машыны, віруе людскі натоўп. І ўвесь час адчуваў, што можа і сам у любы момант апынуцца там, убачыць побач другога чалавека, перакінуцца з ім словам.

Ён жыў адзін, без сям'і. У яго не засталося нават сваякоў. Ён усім ахвяраваў дзеля космасу. Але не адчуваў цяжару ад свае адзіноты. Толькі часам хацелася быць сярод людзей.

Чаўр ведаў гэтыя хвіліны. Яны наставалі, калі нешта не ладзілася, надаралася няўдача. Калі прыходзіла вестка, што яшчэ аднаго паплечніка не стала. За доўгія гады касмічных вандраванняў ён многае перажыў, здаралася, губляў сяброў. Гэта было, урэшце, як казалі філосафы, неабходная заканамернасць. Але ён ніколі не мог прымірыцца са стратамі. І тымі, якія панёс, адпраўляючыся ў прастору, і тымі, якія патрабавала ад іх прастора.

Яшчэ больш недарэчным уяўляўся выпадак з «Талнахам». Яму не было ў чым папракаць сябе, як начальніка Службы бяспекі. Выпадак, відаць, быў такі, які не прадугледзеш загадзя. Яго можна было зразумець, толькі будучы на «Талнаху». Бадзяй не здолеў гэтага зрабіць. Тады тут поўная віна і яго, Чаўра, і Рэпса, і Плыгі. Хто-хто, а яны павінны былі правільна ацаніць цяперашняга Бадзяя, бо ведалі яго ранейшага. Можа, не трэба было давяраць яму планеталёт? Чаўр прыдзірліва перабраў усе «за» і «супраць». Не, нішто не давала яму права нават у думках задаць гэта пытанне. Бадзяй, нягледзячы на свае сталыя гады, заставаўся Бадзяем. Тым адважным і разважлівым пілотам, які не дапускаў памылак, высаджваючы першыя дэсанты на чужыя планеты, які мог рызыкнуць часам сабой і ніколі — іншымі. Дык што здарылася зараз?

Гэта пытанне Чаўр задаў і сябрам, якія прыйшлі да яго, каб даведацца пра акалічнасці гібелі «Талнаха». Вынікі работы камісіі па расследаванні былі ўжо амаль гатовыя. Шарлан, здавалася, не прамінуў ніводнай дробязі, складаючы акт. Заставалася толькі зрабіць вывады. Гэта ўжо была справа Чаўра. Ён збіраўся яе выканаць пазней, прызначыўшы час Шарлану. Але раней хацеў абмеркаваць усё з Рэпсам і Плыгам.

Яны праглядалі здымкі. Чаўр каменціраваў, стараючыся глядзець на ўсё вачыма аб'ектыўнага чалавека, каб не навязаць сваю думку сябрам. Ён расказваў пра выгляд рэштак планеталёта, пра вызначэнне сілы выбуху, пра скрынку з імправізаванай аўтаматычнай станцыяй, пра цалюткі, непашкоджаны корцік. Ён імкнуўся перадаць толькі факты і ад гэтага непакоіўся. Быццам не сказаў нешта важнае. Ён стараўся ўспомніць гэта важнае і не мог і, нарэшце, змоўк. Калі маўчанне ўжо занадта зацягнулася, Рэпс спытаў:

— Ты што?

Чаўр растлумачыў.

Рэпс нахмурыўся.

— А ну, давай усё спачатку. Запіс захаваўся? — сказаў ён.

— У Шарлана. Я зараз паклічу яго.

Зноў яны сядзелі ў цёмным пакоі, праглядаючы здымкі. Толькі на гэты раз у пакоі гучалі запісаныя на плёнку ўсе размовы, якія вёў і чуў Чаўр на Энцэладзе.

Калі скончылі, Рэпс спытаў:

— Што-небудзь новае заўважыў?

— У чым жа супярэчнасць? — не адказаў яму Чаўр, заняты сваімі думкамі.— Ты хочаш нешта дадаць? — раптам звярнуўся ён да Шарлана, убачыўшы, што той неспакойна варухнуўся.

— Пакуль не, начальнік Чаўр.

— Начальнік, начальнік...— незадаволена чмыхнуў Чаўр і наморшчыў лоб: — А ну, яшчэ раз. Толькі запіс, з самага пачатку.

У цішыні прагучала першая фраза — словы пілота: «Асцярожна, тут амаль няма прыцяжэння».

Чаўр уздыхнуў. Няма прыцяжэння...

— А памятаеце,— ён раптам захваляваўся,— другую радыёграму?

«Прыцяжэнне ўзрастае...» Гэта ж глупства. Ай, які я дурань! Энцэлад маленькі, як астэроід, не можа нават захапіць планеталёт у спадарожнікі.

— Але магло здарыцца, што «Талнах» меў вялікую хуткасць. Успомні, якую адлегласць ён пакрыў за два-тры дні! І проста ўрэзаўся ў планетку.

— Правільна,— згадзіўся Чаўр.— Урэзацца мог, па ўласнай ініцыятыве і толькі пры ўмове, што рухавікі сапсаваліся і нельга было збочыць. Але навошта радыёграма?

— Яе пасылаў хлопчык,— сказаў Рэпс.

— Які, дарэчы, ведае будову ўсіх касмічных караблёў, законы нябеснай механікі і шмат яшчэ чаго,— загаварыў Шарлан.

— Што ты хочаш гэтым сказаць? — спыніўся перад ім Рэпс.

Не так упэўнена ўжо, крыху збянтэжаны, Шарлан запытаў:

— А чаму скрынка не разбілася і станцыя раптам запрацавала праз дзве гадзіны пасля таго, як было зафіксавана выбуховае воблака?

— Сапраўды, чаму? — ашаломлены, Рэпс абвёў позіркам сяброў.

— Многае мне ў гэтай гісторыі не падабаецца,—паківаў галавой Чаўр.— Памочнік Шарлан любіць старыя дэтэктывы, лагічныя загадкі. Супакойся, я не лічу гэта заганай. І ён па-свойму і, мне здаецца, у нечым правільна зірнуў на падзеі. Да яго сумненняў я мушу дадаць свае. Нейкая дзіўная катастрофа. Зніклі бясследна ўсе, хто знаходзіўся на борце. І ў той жа час корцік. А месца гібелі, як знарок падабранае, каб выбух быў лакальны.

— Не хочаш жа ты сказаць, што і экіпаж, і пасажыры пакінулі «Талнах» да выбуху? — спытаў Плыга.

Чаўр толькі паціснуў плячыма.

— У гэтай гісторыі не відаць канца,— сказаў ён.

Рэпс падышоў да Чаўра, паклаў на яго руку, што бязвольна ляжала на стале, сваю і параіў:

— Падпісвай акт.

Чаўр узняў вочы.

— Так. Сёння. І адразу перадай паведамленне па ўсёй сонечнай сістэме, што «Талнах» загінуў, бо быў парушаны рэжым працы рухавікоў. Тым самым будзе апраўданы выбух на Энцэладзе.

— Ну, ведаеш...— Чаўр не дагаварыў.— Гэта...

— Што ты хочаш сказаць? У нас, аднак, няма іншага меркавання,— голас Рэпса стаў жорсткім.— Знойдзем — прызнаем, што памыліліся. Ты сам лічыш, што тут шмат што не паддаецца тлумачэнню.

— Слухай, Эсквайр, ты, відаць, забыўся, у які час мы жывем,— умяшаўся ў размову Плыга.— Больш чым паўстагоддзя мінула з тае пары, як апошняя на Зямлі і ва ўсёй сістэме Цэнтральнаамерыканская рэспубліка стала на шлях сацыялістычнага развіцця. Але і да гэтага ніхто з нас нічога не чуў пра разбой, нават на Зямлі. А тут космас...

— Я нікога не абвінавачваю. Проста, калі Чаўр з Шарланам выказвалі свае сумненні, я падумаў, што лятучы галандзец існаваў у далёкім мінулым. І яшчэ я падумаў, што асабіста ведаў капітана Зарапіна. Між іншым, ты сам, штурман,— Рэпс нібы хацеў падкрэсліць, што размова ідзе зараз не паміж старшынёй Савета і яго падначаленымі, а паміж старымі сябрамі,— ты сам адшукаў запіс зарапінавага запросу невядомаму караблю, зроблены тады юпітэрыянскай станцыяй.— Рэпс памарудзіў і, змяніўшы тон, закончыў: — Таму вельмі прашу вас, начальнік Чаўр і памочнік Шарлан, уважліва праверце ўсе легенды аб зніклых караблях. Калі Зарапін сапраўды бачыў карабель, ён мог належаць толькі зямлянам. У архівах пра яго няма нічога. Але можа ў некага былі падставы маўчаць пра старт. Тады мы ўсё роўна павінны гэта высветліць, нават калі гэта не мае ніякіх адносін да «Талнаха».

— Дзіўнае заданне,— сказаў Чаўр Шарлану, калі Рэпс і Плыга паехалі.





— Я ўпершыню чую пра карабель-здань Зарапіна. Неяк не вяжацца ён з «Талнахам» у адзін трос.

— Давай падсумуем,— Чаўр злаваў.— Ні Рэпс, ні Плыга, ні я, ні нават ты не прымаем версію ўсур'ёз. Ці не так? І ўсё-такі будзем яе распрацоўваць, каб абвергнуць.

Шарлан адказаў не адразу. Ён нібы не чуў апошняй фразы. Потым задумліва сказаў:

— Ці пацвердзіць...

— Ведаеш, памочнік Шарлан, каб гэта я сказаў, мне можна было б даравацъ. Я бачыў усякіх людзей, бо я старэй за цябе, напэўна, на сотню год. Але ты... Адкуль такі недавер да людзей?

— Прабач, начальнік Чаўр,— ціха адказаў Шарлан.— Мой дзед жыў у Цэнтральнай рэспубліцы. Ён не быў прыхільнікам яе ўладароў. Яго смерць была нечаканай.

— Разумею... Але гэта не павінна шкодзіць тваёй аб'ектыўнасці.

— Што ты, начальнік Чаўр!

— Веру. Думаю, паколькі гутарка ідзе пра касмічны карабель, нам трэба пабываць менавіта на тэрыторыі былой Цэнтральнай рэспублікі. Наведаем касмадромы.

Шарлан паківаў галавой.

— Ты не згодзен? — спытаў Чаўр.

— Карабель, пра які ніхто не ведае, мог узняцца толькі з тайнага касмадрома. Аднак, як мне вядома, пра такія чутак не было.

— Слушна,— згадзіўся Чаўр.— Значыць, трэба пашукаць гэты самы тайны касмадром. Вылятаем заўтра. Не, сёння ўвечары. Паспееш?

Далей будзе.

**У бліжэйшых нумарах публікуюцца вершы Святланы ЛОБАЧ, Еўдакіі ЛОСЬ, Віктара ЯРАЦА.**



Міхась

ПАРАХНЕВІЧ



## Прычалены паром



●

Усё здараецца, таварыш:
Вясна сустрэч і восень страт.
За сівізной прыходзіць старасць.
Не па гадах.
Без круглых дат.

То сыпле дожджык нудны, часты,
То ўдарыць сонца з вышыні.
О вы, жыццёвыя кантрасты,
Сустрэнеш вас на кожным дні.

Ёсць глыбіня, ёсць рыфы-мелі,
Пасля грымот прыходзіць ціш.
Хіба б інакш мы разумелі,
Што мы — шчаслівыя ў жыцці?



*Памяці Янкі Непачаловіча*

Як знаць, што ў сонечную раніцу
Раптоўна з хмары ўдарыць гром?
Прыстаў на хвалях, ледзь хістаецца,
Як лодка, лёгкі твой паром.

Ад Дараганава да Мінкавіч
Табе маршрут прызначыў лёс.
Чаго прымоўк, Іван Данілавіч?
Што не бярэш сталёвы трос?



Ты чуеш: позняю зязюляю
Яшчэ звініць прырэчны лес?..
І ты пад градам, як пад кулямі,
Паплыў жыццю наперарэз.

Паплыў ад берага да берага,
Дзе ў лузе кветкі, як вянкі,
Не знаўшы, колькі там адмерана
На тым шляху, дзе землякі.

І вось ужо ён не хістаецца,
Застыў паром пасля дарог...
Як знаць ты мог, што так здараецца:
Замест пралогу — эпілог?



*Валянціне*

А быць магло б: адно імгненне,
Другой сцяжынкі паварот —
І ты прыйшла б не явай — ценем
Ля тых нахіленых варот.
Прыйшла б, як ходзіць весні вецер
Па кронах дрэў, па мураве,
І я б не знаў, што побач дзесьці
Мой лёс прапісаны жыве.
Яго б шукаў па ўсіх дарогах,
І толькі б так яно было:
Свет іншы — за маім парогам
І ў хаце — іншае святло.
І ўсё б па-іншаму на свеце:
І снегу скрып, і пах лугоў,
І ў твар бы дзьмуў другі мне вецер,
З другіх азёрных берагоў.



Віктар

ШАЎЧЭНКА



● *Заклінанне* ●● *Бачу яго жывога*



●

Калі табе крылы дадзены,
Не сядзі на зямлі ўвесь свой век,
Не рабі сябе сам абкрадзеным,
У неба ляці,
Чалавек!

●●

Бачу, грукоча поезд фінскі,
Стары паравозік працуе сумленна.
Яму давядзецца стаць вечным сфінксам:
Рабіць рэвалюцыю едзе ў ім Ленін.

Бачу: Кастрычніка свежы павеў
Ставарае дзяржаву сярпа і молата...
Бачу жывога таварыша Леніна
Ва ўсіх перамогах народа-волата.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Сцяпан КУХАРАЎ
- Валянцін ФІЛІПОВІЧ
- Алена БЕРВІНАВА
- Мікола ЗЫЛЬ
- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Зянон ПАЗНЯК
- Уладзімір СТЭЛЬМАХ
- Нэля ІСАЧАНКА
- Ядвіга МАЦВЕЕВА
- Вікенці ВАРЫКАШ
- Станіслаў ЛЕМ
- Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ
- Янка ШПАКОЎСКІ
- Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ
- Яўген КРУПЕНЯ
- Валеры ПАЎЛІЧЭНКА
- Мікалай ГРУШЭЎСКІ
- Міхась ЧАРНЯЎСКІ





У Шушанскім. Малюнак Мікалая Жукава.

*Адпачынак ці асалода ніколі не былі для Леніна самамэтай, чымсьці асобным ад усяго яго працоўнага рэжыму. Мэта і стыхія яго жыцця — нястомная барацьба за партыю, за справу пралетарыяту, за рэвалюцыйную перабудову свету ў інтарэсах працоўных. Праследуючы гэтую мэту, ён не шанаваў ні сваіх сіл, ні здароўя, ні нават жыцця. Але час ад часу стомлены арганізм і разладжаная нервовая сістэма настойліва патрабавалі адпачынку і прымушалі адрывацца ад напружанай працы, што перагружала яго сілы. І калі акалічнасці, што не залежалі ад яго волі (напрыклад, у ссылцы), дазвалялі яму пазабаўляцца больш, чым у які-небудзь іншы час, ён і гэтыя, як кажуць, звышрэжымныя гадзіны адпачынку стараўся зрабіць дзейнымі перыядамі ўмацавання здароўя, трэніруючы свае сілы для наступнай гарачай пары.*

***П. Лепяшынскі „На рубяжы двух вякоў“.*** З успамінаў.



# УСЕНАРОДНЫ НАКАЗ

Дзень 25 лістапада 1969 года, калі ў велічным Крамлёўскім Палацы з'ездаў адкрыўся III Усесаюзны з'езд калгаснікаў, яркай старонкай увойдзе ў летапіс калгаснага будаўніцтва. Усесаюзны форум сельскіх працаўнікоў праходзіў у знамянальныя дні — напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Сюды з'ехаліся прадстаўнікі ўсіх трох пакаленняў земляробаў — пасланцы ўсіх саюзных рэспублік, прадстаўнікі 61 нацыянальнасці Саюза ССР.

Тут былі ветэраны калгаснага руху, тыя, што закладвалі падваліны новай вёскі: першыя трактарысты, першыя камбайнеры, першыя старшыні калгасаў, стаханаўцы сацыялістычных палёў. Яны былі першапраходцы. На іх нападалі з абрэзамі, іх палілі агнём, збівалі... Але гэта былі цвёрдыя, нязломныя людзі, якія паверылі ў Леніна, у яго словы аб тым, што не выйсці селяніну з галечы, калі не пачаць гаспадарыць супольна, на калектыўнай аснове. Дзеля гэтага, дзеля здзяйснення ленінскай мары яны не шкадавалі жыцця.

Група дэлегатаў, відаць, маладыя старшыні калгасаў, бо між іх мой знаёмы — старшыня калгаса «Светлы шлях» з-пад Маладзечна, Герой Сацыялістычнай Працы Уладзімір Калачык. Яны акружылі каржакаватага, з пасівелай галавой старога чалавека ў светла-шэрым гарнітуры, у якога на грудзях дзве зоркі Героя і знак дэпутата Вярхоўнага Савета СССР. Стары ажыўлена і весела размаўляе з моладдзю, жартуе. Гэта — Макар Анісімавіч Пасмітны. Яму ўжо семдзесят пяць гадоў, але ён бадзёры, вочы свецяцца жвавасцю. Колішні батрак, удзельнік грамадзянскай вайны, Макар Пасмітны сорак пяць гадоў таму назад у сваёй вёсцы стварыў арцель і з таго часу з'яўляецца нязменным старшынёю калгаса імя XXI з'езда КПСС на Адэсчыне.

— Макар Анісімавіч! — звяртаецца да старога майстра зямлі чарнявы малады чалавек у старанна адпрасаваным цёмным касцюме. — Скажыце, калі ласка, пра непадзельныя фонды ў вашым калгасе.

Пасмітны хітра жмурыць вока, усміхаецца. Відаць, пытанне яму спадабалася. Гэта, як кажуць, яго «канёк».

— Непадзельныя фонды, — чуецца характэрны басок гаспадара, — гэта наша аснова. Калі хочаце, каб калгас моцна стаяў на нагах, не шкадуйце адлічэнняў у непадзельныя фонды. У нашым калгасе на кожны двор з гэтых фондаў прыпадае па 17,5 тысячы рублёў...



**У перапынку між пасяджэннямі III Усесаюзнага з'езда калгаснікаў. Свінарка калгаса «Прагрэс» Мінскай вобласці Герой Сацыялістычнай Працы А. Букатая, палявод калгаса «1-га Мая» Мінскай вобласці М. Цвірка, брыгадзір калгаса «Дружба» Львоўскай вобласці Герой Сацыялістычнай Працы Р. Бараноўскі, даярка калгаса «Семежава» Мінскай вобласці М. Кіеня, брыгадзір калгаса «Старс» Латвійскай ССР Л. Табуне.**

**Фотахроніка БЕЛТА.**

У кулуарах з'езда можна было чуць: «Школа Малінінай», «Школа Гіталава», «Школа Асіюк», «Школа Ахунавай»... Што гэта такое?

Хто быў у Палацы з'ездаў у час работы Усесаюзнага з'езда калгаснікаў, хто слухаў прамоўцаў — ветэранаў і маладых майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці, а гэта былі дзелавыя, павучальныя і яркія прамовы, той яшчэ раз навочна мог пераканацца, што сённяшняя вёска — зусім новая вёска, якая мае ўжо многія зручнасці, як у горадзе, што вясковыя людзі — зусім новыя людзі, якія ў працэсе калектыўнай, грамадскай вытворчасці сталі свядомымі і адукаванымі будаўнікамі новага жыцця. Цяперашні калгаснік — гаспадар свайго шчасця. Яму не трэба хвалявацца за заўтрашні дзень, за лёс дзяцей, сям'і. Таму селянін цяпер не хавае сваіх «сакрэтаў» ад суседа, ад грамады, а шчодра дзеліцца з усімі, бо ведае, што ў калектыве, у свабоднай супольнай працы — яго сіла і ўлада над зямлёй, крыніцай агульнанароднага дастатку.

Сэрца поўнілася гордасцю за нашу Савецкую Радзіму, за калгасны лад, за яго перамогі, атрыманыя пад кіраўніцтвам роднай Ленінскай партыі, калі слухаў я такіх людзей, як Аляксандр Гіталаў, як Канстанцін Борын — праслаўлены камбайнер 30-х гадоў, а цяпер дацэнт сельскагаспадарчай акадэміі, як Цярэнці Мальцаў — знатны сібірскі палявод, Герой Сацыялістычнай Працы, акадэмік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (ён адкрываў кароткім прачулым словам гэты калгасны з'езд), як наша зямлячка Лідзія Асіюк — знатная даярка калгаса імя Жданава Брэсцкага раёна, якая так хораша выступіла з высокай трыбуны з'езда і якой так шчыра і горача апладзіравала шасцітысячная зала Крамлёўскага Палаца з'ездаў. Яны, ветэраны і майстры, шчодра дзеляцца сваім вопытам з маладымі, сваімі паслядоўнікамі, і таму для іх ад моладзі такая павага і прызнанне. Яны — сапраўдныя настаўнікі.

Мне шмат расказвалі пра дзяўчыну-ўзбечку з калгаса імя Кірава Ташкенцкай вобласці Турсуной Ахунаву. Яна яшчэ камсамолкай першая сярод дзяўчат Узбекістана села за штурвал складанага агрэгата і авалодала майстэрствам машыннай уборкі бавоўны. А гэта лічылася справай выключна мужчынскай. Турсуной была першай, за ёй пайшлі дзесяткі, сотні дзяўчат і жанчын, сталі механізатарамі шырокага профілю. За штурвал агрэгата сеў і хлопец, які пасля стаў яе мужам.

Для маладых у нашай савецкай дзяржаве шырокая дарога. Ім Радзіма дае багатую, здабытую ў баях і працы спадчыну — усю зямлю, усю краіну. Трэба падкрэсліць, што на гэтым III Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў камсамол быў прадстаўлены асабліва дастойна. Было 700 маладых дэлегатаў, у тым ліку 300 камсамольцаў. Было шмат механізатараў. А гэта ў сваёй большасці — маладыя людзі, пра іх лепш не скажаш — гвардзейцы палёў!

Самай маладой з дэлегатаў Святлане Анданавай — чабану бурацкага калгаса «Гігант» у Забайкаллі — пад час з'езда споўнілася дзевятнаццаць. Дзяўчыне з беларускага калгаса «Чырвоны сцяг» Галіне Шык столькі ж год. Яна працавала даяркай, а цяпер парашыла стаць трактарысткай. Скончыла курсы і ўжо водзіць машыну. Яна, як Надзея Давыдава — дваццацігадовая трактарыстка, як усе дэлегаты, усе механізатары, што прадстаўлялі на з'ездзе амаль дзвюхмільённую армію гвардзейцаў калгасных палёў, з затоеным дыханнем і ўвагай слухалі прамову Генеральнага Сакратара ЦК КПСС таварыша Л. І. Брэжнева, у якой быў дадзены глыбокі марксісцкі аналіз пройдзенага пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі шляху калгаснага сялянства і ўсіх працаўнікоў вёскі і пастаўлены новыя адказныя задачы ў развіцці сельскай гаспадаркі нашай краіны.

Усім, асабліва маладым дэлегатам, пасланцам калгаснай вёскі з розных куткоў краіны, глыбока ў сэрца запалі словы Леаніда Ільіча, калі ён гаварыў пра ролю камсамола ў справе падрыхтоўкі для сяла механізатарскіх кадраў. Дружнымі, гарачымі воплескамі дэлегаты сустрэлі заклік, звернуты да маладых: «Можна быць упэўненымі, што камсамол возьмецца за гэтую справу і ў самым недалёкім будучым тысячы камсамольцаў і мо-



**Генадзь Саладуха — трактарыст калгаса імя Калініна Карэліцкага раёна.**

ладзі сядуць на трактары, камбайны, аўтамабілі, стануць меліяратарамі, электрыкамі, механізатарамі жывёлагадоўчых ферм. Гэтым, таварышы камсамольцы, вы акажаце вялікую дапамогу нашай партыі і народу».

Партыя сказала — трэба, камсамол адказвае, як заўсёды, — ёсць! Беларуская моладзь, адобрыўшы заклік партыі, ужо бярэ канкрэтныя абавязацельствы па авалоданню тэхнічнымі ведамі. Тысячы камсамольцаў і камсамолак рыхтуюцца стаць механізатарамі, меліяратарамі, набыць сумежныя прафесіі. З цікавай ініцыятывай выступілі камсамольцы Гродзеншчыны. Абмеркаваўшы на пленуме абкома ЛКСМБ пытанне пра работу камсамольскіх арганізацый вобласці па падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі, абласная камсамольская арганізацыя вызначыла свае канкрэтныя рубяжы: з ліку юнакоў і дзяўчат падрыхтаваць 550 механізатараў-жывёлаводаў; накіраваць па камсамольскіх пуцёўках у прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы 6150 маладых перадавікоў вытворчасці; на вучобу ў сельскагаспадарчыя тэхнікумы і інстытуты — 3327 маладых працаўнікоў вёскі; стварыць у кожным раёне на базе лепшых механізаваных ферм школы перадавога вопыту для маладых жывёлаводаў, пры ўсіх райкомах камсамола — саветы маладых спецыялістаў.

Паход моладзі за авалоданне сельскімі тэхнічнымі прафесіямі пачаўся. Лозунг дня: «Даеш тэхнічны ўсенавуч!» становіцца канкрэтным абавязкам кожнай камсамольскай арганізацыі, — ёй па сіле самыя адказныя і самыя важныя задачы калгаснага будаўніцтва на сучасным этапе.

...Назаўсёды ў памяці застанецца важная палітычная падзея — III Усесаюзны з'езд калгаснікаў. Цяпер, перабіраючы ў думках свае ўражанні, хочацца перапытаць у сябе: «У чым жа гістарычнае значэнне гэтага, самага прадстаўнічага ў жыцці калгаснай вёскі з'езда, якую карысць ён дасць сялянству краіны ды і ўсяго свету?»

На з'ездзе, як мы ведаем з даклада мандатнай камісіі, было 2202 радавыя калгаснікі — гэта паляводы, жывёлаводы, механізатары, калгасныя будаўнікі. У Крамлёўскай зале ўсё стракацела і пераліvалася золатам, бляскам ордэнаў, зорак Герояў, медалёў... «Усё золата вёскі!..» — нехта ўголас выказаў сваё захапленне, гледзячы на людзей, урачыста ўзнёслых, у самых лепшых сваіх абновах, у нацыянальным адзенні, пры ўсіх узнагародах і знаках пашаны. Я яшчэ дадаў бы: «Цвет і слава краіны, якая пад кіраўніцтвам роднай партыі цвёрда трымаецца ленінскага курсу».

Пасля ўсебаковага абмеркавання і ўнясення паправак з'езд аднагалосна прыняў новы прыкладны Статут — закон калгаснага жыцця на цяперашнім этапе камуністычнага будаўніцтва, а таксама рашэнне аб утварэнні Савета калгасаў — выбарнага калектыўнага органа ў раёнах, абласцях, краях, рэспубліках з мэтай далейшага развіцця калгаснай дэмакратыі, калектыўнага абмеркавання найбольш важных пытанняў калгаснага жыцця. Зацверджан склад саюзнага Савета калгасаў, у які ўвайшлі 125 чалавек.

III Усесаюзны з'езд калгаснікаў — самы прадстаўнічы ў гісторыі калгасаў, яшчэ адно яркае праяўленне бацькоўскіх клопатаў партыі і Савецкага ўрада пра росквіт калгаснага ладу, пра калгаснае сялянства. І натуральна, што ў адрас Камуністычнай партыі, яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта, у адрас роднага Савецкага ўрада было выказана шмат цёплых, шчырых слоў, якія ішлі ад чыстага сялянскага сэрца. З'езд ад імя шматмільённага сялянства запэўніў Цэнтральны Камітэт партыі, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР, Савет Міністраў СССР у тым, што савецкае сялянства поруч з рабочым класам, з усім савецкім народам яшчэ шчыльней згуртуецца вакол ленінскага Цэнтральнага Камітэта партыі і пад вялікім сцягам Леніна пойдзе наперад, да новых перамог у будаўніцтве камунізма.

Горача, ад усяго сэрца вітае рашэнні з'езда моладзь. Весткі, якія ідуць з розных куткоў нашай рэспублікі, з камсамольскіх арганізацый, сведчаць пра высокую патрыятычную актыўнасць моладзі ў барацьбе за новы магутны ўздым сельскай гаспадаркі, за росквіт калгаснай вёскі.

**Сцяпан КУХАРАЎ.**



# ТВОЙ КРУГАГЛЯД

Адзін камсамольскі актывіст сказаў неяк жартам: вопыт прыходзіць з узростам, а ўзрост камсамольскага работніка — гэта сігнал для пераходу на іншую работу.

У гэтым жарце, як і ва ўсякім, ёсць доля праўды. Калі зацікавіцца стажам камсамольскіх работнікаў Брэсцкай вобласці, то будзем мець наступны малюнак: інструктары райкомаў і гаркомаў камсамола маюць адзін год, загадчыкі аргаддзелаў — 1 год 4 месяцы, загадчыкі школьных аддзелаў — 1 год 5 месяцаў, другія сакратары райкомаў, гаркомаў — 1 год 3 месяцы, першыя сакратары райкомаў, гаркомаў — 2 гады 1 месяц.

Практыка паказвае, што пачынаючым камсамольскім работнікам раней трэба было не менш года, каб асвоіць азы камсамольскай работы; другі год — ішоў на ўдасканаленне форм і метадаў работы. Спецыяльная ж падрыхтоўка дае магчымасць значна скараціць абодва гэтыя перыяды, грунтуючыся на «падмурку» найноўшай інфармацыі, паглыбленні ведаў па марксісцка-ленінскай тэорыі, на лепшым вопыце.

У нашай рэспубліцы створана камсамольская школа. За тры гады яна стала сапраўднай кузняй камсамольскага актыву. У ёй прайшлі падрыхтоўку звыш тысячы чалавек, якія цяпер паспяхова працуюць у камсамольскіх арганізацыях рэспублікі.

У школе тры аддзяленні — дзённае, вячэрняе і завочнае. На дзённым аддзяленні займаюцца работнікі ўсіх звенняў райкомаў і гаркомаў камсамола (тэрмін навучання 1—3 месяцы); на вячэрнім — камсамольскі і піянерскі актыў г. Мінска (тэрмін навучання 4—6 месяцаў); на завочным — інструктары і загадчыкі сектараў абкомаў (тэрмін навучання 1 год).

Лекцыі ў школе чытаюць вядучыя выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, Мінскага педінстытута, Мінскай вышэйшай партыйнай школы, вопытныя партыйныя, савецкія і камсамольскія работнікі.

Слухачы школы вывучаюць некаторыя пытанні філасофіі, палітэканоміі, навуковага камунізма, міжнароднага камуністычнага руху, гісторыі КПСС, гісторыі ВЛКСМ, педагогікі, логікі, псіхалогіі, эканомікі, атэізму, а таксама тэорыю і практыку камсамольскай педагогікі. Асаблівая ўвага звяртаецца на творчае засваенне асноўных пытанняў марксісцка-ленінскай тэорыі, вывучэнне прац класікаў марксізма-ленінізма ў непарыўнай сувязі з рашэннямі ЦК КПСС і надзённымі праблемамі.

Сённяшні камсамольскі работнік павінен быць не толькі энтузіястам, здольным арганізатарам, але і добрым прапагандыстам, які валодае словам, умее пераконваць і весці за сабой моладзь, глыбока аналізаваць з'явы жыцця, знаходзіць новае.

У нас склалася пэўная сістэма навучання лектарскаму майстэрству. На практычных занятках пад кіраўніцтвам вопытных выкладчыкаў праводзіцца разбор выступленняў. Затым слухачы рыхтуюць палітінфармацыі па такіх, напрыклад, тэмах: «Два светы — два юнацтвы», агляд часопіса «Равеснік» і г. д. Зноў ідзе разбор, а ў заключэнне праводзіцца канферэнцыя на тэму: «Вучыцца ў Леніна майстэрству рэвалюцыйнай прапаганды».

Працуючы з першакрыніцамі, слухачы набываюць навыкі самастойнай навукова-даследчай работы. Традыцыйнай на ўсіх патоках стала правядзенне навукова-тэарэтычнай канферэнцыі на тэму «Выкарыстанне элементаў навуковай арганізацыі працы ў камсамоле». Распрацаваць тэматыку дакладаў

і рэфератаў, а таксама правесці канферэнцыю нам дапамагаюць выкладчыкі ўніверсітэта, педінстытута, партыйнай школы.

Вось як прайшла ў нас навукова-тэарэтычная канферэнцыя на патоку, дзе вучыліся загадчыкі школьных аддзелаў. Вядома, што тут у цэнтры ўвагі сталі пытанні арганізацыі і планавання работы школьных аддзелаў, выкарыстанне інфармацыі ў дзейнасці камсамольскіх арганізацый, найбольш эфектыўныя формы праверкі выканання рашэнняў камсамольскіх камітэтаў. Былі і такія тэмы, як «Слова ў камсамольскай прапагандзе», «Роля логікі ў пабудове дакладаў, вусных выступленняў».

На працягу трох месяцаў слухачы збіралі матэрыял, кансультаваліся з навуковымі кіраўнікамі, авалодвалі методыкай. Пры гэтым выявілася, што хоць у камсамольскім друку шырока асвятляліся навуковыя формы планавання, сістэмы кантролю і інфармацыі, але многія работнікі райкомаў скарыстоўваць іх не ўмелі. У працэсе падрыхтоўкі канферэнцыі былі распрацаваны прыкладныя схемы перспектыўных комплексных планаў, планаў-графікаў, планаў-аднадзёнак, абмяркоўваліся канкрэтныя дэталі планавання.

Між іншым, слухачы таксама прапанавалі цікавыя формы атрымання і перапрацоўкі інфармацыі, рэкамендацыі па кантролю і праверцы прынятых рашэнняў. Актыўнасць на канферэнцыі была добрая — выступіла 20 чалавек. У ёй прынялі ўдзел работнікі ЦК ЛКСМБ, вучоныя, слухачы вячэрняга аддзялення. Матэрыялы канферэнцыі абагульнены і выдадзены.

Дбаючы пра тое, каб увесь час паляпшаць і ўдасканальваць падрыхтоўку камсамольскіх кадраў, калектыў школы праводзіць сацыялагічныя даследаванні. Яны ідуць у двух напрамках: з аднаго боку, высвятляецца, як слухачы засвойваюць праграмны матэрыял, што выкладаецца ў школе, з другога — як скарыстоўваюцца атрыманыя веды на практыцы.

Выкладчыкі школы выязджалі ў райкомы і абкомы, дзе працуюць былыя слухачы, знаёміліся з іх практычнымі справамі, удзельнічалі ў пленумах, семінарах, нарадах, выступалі з лекцыямі і дакладамі.

Мы абралі тры аб'екты даследавання сацыялагічным шляхам: па-першае, апыталі слухачоў, якія яшчэ займаюцца ў школе; па-другое, выпускнікоў, якія папрацавалі пасля вучобы пэўны тэрмін; па-трэцяе, сакратароў райкомаў камсамола, якія ведаюць былых слухачоў па іх практычнай рабоце. Даследаваннем было ахоплена 80 працэнтаў слухачоў і 50 працэнтаў сакратароў райкомаў рэспублікі. Праграмай прапаноўваліся наступныя чатыры групы пытанняў:

1. Вывучэнне вучэбных планаў і праграм з мэтай вызначэння глыбіні іх зместу, даступнасці і практычнай вартасці. Для гэтага была распрацавана спецыяльная шыфравальная табліца.

2. Вывучэнне думкі выпускнікоў і слухачоў аб праслуханых лекцыях, семінарскіх занятках. Апытанне праводзілася з дапамогай анкеты.

3. Думкі выкладчыкаў аб ступені зацікаўленасці і актыўнасці слухачоў.

4. Аналіз экзаменацыйных ацэнак з мэтай вызначэння ўзроўню ведаў.

Выявілася, што найбольш глыбокія веды слухачы і выпускнікі маюць па марксізму-ленінізму і па тэорыі і практыцы камсамольскай работы. Гэта можна, мабыць, вытлумачыць тым, што гэтыя прадметы вядуць найбольш вопытныя выкладчыкі ВНУ і тым, што слухачы зацікаўлены ў старанпай вучобе.

А з якім намерам камсамольскі работнік едзе на вучобу ў школу? У выніку апытання выявілася, што толькі 7,7 працэнта не ставілі перад сабой ніякай канкрэтнай мэты. Цікава, што 51,6 працэнта піянерважатых — слухачоў вячэрняга аддзялення — не ставілі перад сабой задачу вывучыць перадавы вопыт. Многія з іх намераны памяняць месца работы. І мы зрабілі для сябе вывад: у нашых праграмах павінна знайсці адлюстраванне прапаганда працы важатага, камсамольскага работніка, яе рамантыка і цяжкасці. Нам трэба часцей наладжваць сустрэчы з вопытнымі піянерважатымі, камсамольскімі важакамі, больш дбаць пра якасць лекцый, каб яны былі не толькі пазнавальнымі, але і выхаваўчымі.

Заняткі па практыцы камсамольскай работы ўключаюць у сябе абмен вопытам, класныя заняткі, вучэбныя паездкі, абарону рэфератаў, удзел у падрыхтоўцы навуковых канферэнцый і іншае. Назіранні сведчаць, што слухачы з большым стажам работы менш цікавяцца заняткамі па абмену вопытам, а навічкі абыякавыя да класных заняткаў.

Пошукі эфектыўнасці работы навялі нас на думку вывучыць узровень самаацэнкі ведаў, атрыманых у школе. Мы папрасілі слухачоў вызначыць той уплыў, які аказала на іх вучоба. Для гэтага было прапанавана чатырнаццаць пытанняў.

Аналіз атрыманых адказаў паказаў, што найбольшых вынікаў слухачы дамагліся ў набыцці арганізатарскіх здольнасцей. 65 працэнтаў з ліку апытаных ацанілі свае поспехі ў гэтым напрамку на «добра» і «выдатна». Для нас гэта аказалася некалькі нечаканым. Было натуральна, што слухачы высока ацанілі пашырэнне свайго







Ідуць экзамены ў групе сакратароў райкомаў.

агульнаадукацыйнага ўзроўню, навыкі лектарскага майстэрства, вывучэнне перадавога вопыту, вывучэнне НАП у камсамоле. Але ўсё гэта, аказваецца, зрабіла свой уплыў на развіццё арганізатарскіх здольнасцей — вось што важна. Кожны слухач меў у школе канкрэтнае грамадскае даручэнне і яго выконваў. Значыць, у аснове грамадскай актыўнасці камсамольскага работніка ляжаць разнастайныя веды, уменні і навыкі.

На пытанне, які ўплыў аказала школа на фарміраванне асобы выпускніка, каля 50 працэнтаў слухачоў далі адказ, што яны сталі больш смела вырашаць практычныя справы. Адзін з сакратароў райкома камсамола ў анкеце так ахарактарызаваў свайго работніка: «Да вучобы не арыентаваўся ў элементарных камсамольскіх пытаннях, пасля школы стаў вырашаць пытанні сур'ёзна».

Каб праверыць дзейнасць практыкуемых у школе форм заняткаў, слухачам былі дадзены два пытанні: «Якія формы семінарскіх заняткаў па марксісцка-ленінскай тэорыі часцей за ўсё практыкаваліся ў вашай групе?» і «Якія з гэтых форм аказаліся найбольш эфектыўнымі?»

Атрыманыя адказы сведчаць, што большасць слухачоў эфектыўнымі формамі заняткаў лічаць дыскусіі па вострых праблемах сучаснасці, а таксама дыспуты і тэарэтычныя канферэнцыі.

Піянерважатыя сцвярджаюць, што ім найбольшую карысць даюць субяседаванні, класныя заняткі. Пры гэтым трэба заўважыць, што да дыскусійных заняткаў у асноўным імкнуцца хлопцы — сакратары райкомаў (72,6 працэнта), камсамольскія сакратары ГПТУ (52,5 працэнта). Сярод старшых піянерважатых 54,8 працэнта задаволены субяседаваннем і толькі 12,8 працэнта маюць цягу да дыскусійнага метаду. Дыскусію, яе эфектыўны метад, побач з субяседаваннем называюць загадчыкі школьных аддзелаў з вышэйшай адукацыяй.

Мы пацікавіліся, як слухачоў задавальняюць лекцыі па педагогіцы, псіхалогіі і логіцы. З ліку апытаных 51 працэнт слухачоў лічаць для сябе карыснымі гэтыя лекцыі. Характэрна, што сярод зацікаўленых аказаліся не толькі загадчыкі школьных аддзелаў, старшыя піянерважатыя, але і сакратары камсамольскіх арганізацый тэхнічных вучылішчаў.

Усім, хто апытваўся, прапаноўвалася ўнесці свае заўвагі наконт паляпшэння работы школы. Амаль усе сакратары райкомаў прапануюць павялічыць тэрмін навучання ў школе, наблізіць праграмы да камсамольскай практыкі. Камсамольскія сакратары тэхнічных вучылішчаў уносяць прапановы аб паляпшэнні арганізацыі культурнага адпачынку слухачоў. Загадчыкі школьных аддзелаў і старшыя піянерважатыя прапануюць увесці больш паказальных мерапрыемстваў, часцей абменьвацца вопытам, больш часу адводзіць на практычныя заняткі.

Праблема падрыхтоўкі камсамольскіх работнікаў і актыву надзённая і хвалюючая. Вучоба ў Рэспубліканскай камсамольскай школе пры яе пашырэнні адкрывае добрыя перспектывы і можа стаць рашаючым сродкам падрыхтоўкі як штатных камсамольскіх работнікаў і актыву, так і іх рэзерву.

**Валянцін ФІЛІПОВІЧ,**
**дырэктар Рэспубліканскай камсамольскай школы пры ЦК ЛКСМБ.**



# ДОМ У ЗАВУЛКУ ІЛЬЧА

«Тут кожны камень Леніна ведае...» — гэты ўзнёслы радок Маякоўскага цалкам стасуецца да горада, які названы імем Леніна.

Дзвесце сорак памятных ленінскіх мясцін ёсць сёння ў Ленінградзе. Паводле рашэння ЦК КПСС і Савецкага ўрада адзінаццаць памятных мясцін у горадзе і яго ваколіцах ператвораны ў мемарыяльныя музеі. Адзін з такіх помнікаў — кватэра-музей У. І. Леніна ў завулку Ільіча, 7 (былы Вялікі Казачы завулак).

Як вядома, у жніўні 1893 года Ленін пераехаў з Самары ў Пецярбург, каб тут, у буйнейшым палітычным і прамысловым цэнтры краіны, ствараць баявую арганізацыю рэвалюцыянераў-марксістаў. Па дарозе ў Пецярбург ён спыніўся ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе тутэйшыя марксісты далі яму пісьмо да свайго земляка М. Сільвіна, члена марксісцкага гуртка студэнтаў-тэхнолагаў. З дапамогай Сільвіна Уладзімір Ільіч наладзіў сувязь з пецярбургскімі марксістамі і неўзабаве ўступіў у іх гурток, які складаўся пераважна са студэнтаў тэхналагічнага інстытута. У гурток уваходзілі: В. Старкоў, С. Радчанка, Г. Кржыжаноўскі, Г. Красін, А. Ванееў, П. Запарожац, М. Сільвін, А. Манчанка і іншыя.

«З'яўленне ў нас восенню 1893 года У. І. Ульянава, — успамінае Г. Кржыжаноўскі, — можна параўнаць з жыватворчым па сваіх выніках навальнічным разрадам. З гэтага моманту для нас пачалося новае жыццё».

Пра тое, як ставіліся да Уладзіміра Ільіча яго сябры па рэвалюцыйнай барацьбе, пісаў у сваіх успамінах другі ўдзельнік гуртка — М. Сільвін: «Вось ён — наш правадыр, наш лідэр, наш тэарэтык, за ім мы не прападзем. Так думаў кожны, і нас перапаўняла вялікая радасць, што якраз у нашым гуртку, у нашай арганізацыі мы маем яго светлую галаву».

У Пецярбурзе Ленін пасяліўся ў доме нумар 58 па Сергіеўскай вуліцы і пражыў тут да пачатку кастрычніка 1893 года. Потым памяняў яшчэ тры кватэры і 14 лютага 1894 года пераехаў у Вялікі Казачы завулак, дом 7/4, кватэра 13 (цяпер завулак Ільіча, д. 7).

Здалёк відаць вялікая гранітная дошка з бронзавым барэльефам маладога Леніна. На ёй высечана: «У гэтым доме ў кватэры № 13 з 14 лютага 1894 года па 25 красавіка 1895 года жыў і працаваў Уладзімір Ільіч Ленін». У кастрычніку 1938 года гэтая кватэра ператворана ў мемарыяльны музей У. І. Леніна.

Трохпавярховы непрыкметны дом. Уваход пад арку ў двор. Вузкія ўсходцы вядуць на трэці паверх, у трохпакаёвую кватэру. Адзін з пакояў займаў тут Ленін, два другія — гаспадыня з сям'ёю.

Пакой, у якім жыў і працаваў Ленін, узноўлены па ўспамінах гаспадыні і некаторых сяброў-рэвалюцыянераў, якія бывалі ў Леніна ў тыя гады. Ён вельмі сціпла і проста абсталяваны. У левым кутку каля акна — стол, за якім Уладзімір Ільіч працаваў, на стале — лямпа, чарнільны прыбор, некалькі кніг. Справа ад стала — этажэрка з кнігамі, ля супрацьлеглай сцяны — просты, жалезны ложак. Каля ложка на трыножніку — міска і збан для мыцця. Апрача гэтага, у пакоі стаялі тры венскія крэслы.



Так выглядаў пакой, калі тут працаваў Ленін.

Звычайна Уладзімір Ільіч уставаў гадзіне а 7—8 раніцы і працаваў да адзінаццаці. Потым ішоў у чытальню пры кнігарні газеты «Новости» па Вялікай Марской вуліцы (цяпер вуліца Герцэна, 33). Пры ўваходзе купляў за пяць капеек свежы нумар «Новостей» і тады карыстаўся бясплатна ўсімі газетамі. Дома ў яго было шмат кніг. Вечарамі, калі не была прызначана якая-небудзь сустрэча ці сход, ён да позняга працаваў пры святле лямпы-газоўкі.

Уладзімір Ільіч у тыя гады жыў на легальным становішчы, працаваў памочнікам прысяжнага паверанага. Савет прысяжных паверанага пры С.-Пецярбургскай судовай палаце выдаў яму пасведчанне наступнага зместу: «Гэтае пасведчанне дадзена Уладзіміру Ільічу Ульянаву, які закончыў курс юрыдычных навук, праваслаўнага веравызнання, у тым, што ён з 3 верасня лічыцца ў спісе памочнікаў прысяжных паверанага і зараз працуе памочнікам прысяжнага паверанага М. Ф. Валькенштэйна».

Аднак пра адвакацкую працу Уладзімір Ільіч неўзабаве зусім перастаў дбаць. Гэтае званне і пасада былі толькі прыкрыццём для яго напружанай рэвалюцыйнай дзейнасці.

Да прыезду Леніна марксісцкія гурткі Пецярбурга былі толькі невялікімі групкамі, якія прапагандавалі вучэнне Карла Маркса сярод вузкага кола перадавых рабочых. Пазней, успамінаючы пра гэты перыяд, Ленін пісаў: «Я працаваў у гуртку, які ставіў сабе вельмі шырокія, усеабдымныя задачы, — і ўсім нам, членам гэтага гуртка, прыходзілася пакутліва да болю цярпець ад усведамлення таго, што мы аказваемся саматужнікамі ў такі гістарычны момант, калі можна было б, перайначваючы вядомае выслоўе, сказаць: дайце нам арганізацыю рэвалюцыянераў — і мы пераверням Расію!»

Да стварэння такой арганізацыі і прыступіў У. І. Ленін. Яго дзейнасць у Пецярбурзе ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя супала з пачаткам уздыму масавага рабочага руху. З развіццём капіталізму ў краіне хутка рос і пралетарыят. Усё больш актыўна ўзнімаліся пралетарскія масы на барацьбу з капіталізмам. Але гэтыя выступленні былі разрозненыя, мелі стыхійны характар. Ленін паставіў перад марксістамі задачу — надаць барацьбе рабочых супроць капіталістаў арганізаваны характар, унесці ў яе рэвалюцыйныя ідэі навуковага сацыялізма. Паслядоўна і няўхільна ствараў ён баявую, рэвалюцыйную марксісцкую партыю.

Каб забяспечыць перамогу марксізма і стварыць пралетарскую партыю ў Расіі, трэба было да канца разграміць народніцтва, ідэйна развянчаць яго, паказаць тэарэтычнае і палітычнае банкруцтва светапогляду народнікаў. Гэтую задачу вырашыў Уладзімір Ільіч у сваім выдатным творы «Што такое «прыяцелі народу» і як яны ваююць супраць сацыял-дэмакратаў», напісаным вясною і летам 1894 года на кватэры ў былым Вялікім Казачым завулку.

Тут жа Уладзімір Ільіч напісаў у канцы 1894 на пачатку 1895 гадоў і другую сваю працу — «Эканамічны змест народніцтва і крытыка яго ў кнізе п. Струве», у якой выкрыў буржуазна-ліберальны твар «легальных марксістаў».

У. І. Ленін уважліва назіраў і вывучаў жыццё рабочых. «Дома бываў мала, штодзённа некуды хадзіў», — даносілі паліцэйскія шпікі. А бываў

Уладзімір Ільіч на фабрыках і заводах, наведваў кватэры перадавых пралетарыяў, вывучаў іхняе жыццё, настроі і быт. І да яго часта прыходзілі рабочыя-рэвалюцыянеры У. Шалгуноў, У. Князеў, І. Якаўлеў і другія.

Увосень 1895 года ўсе марксісцкія гурткі Пецярбурга аб'ядналіся пад кіраўніцтвам Леніна ў адзіную арганізацыю, якая атрымала пазней назву «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа». Гэта была гістарычная надзея ў жыцці расійскай сацыял-дэмакратыі. «Саюз барацьбы» стаў зародкам марксісцкай рэвалюцыйнай партыі, якая абапіраецца на рабочы рух, зародкам Камуністычнай партыі.

Расказы людзей, што сустракаліся з Леніным у Пецярбурзе, уваскрашаюць вобраз чалавека вельмі простага, шчырага і ўважлівага. І яму людзі плацілі тым жа.

Калі захворваў хто-небудзь з таварышаў, Ленін спяшаўся наведаць яго.

«На другі дзень пасля наведвання ўрачоў,— успамінае С. Няўзорава-Шасцёрніна,— сяджу я ў сваім маленькім пакоі, захутаўшыся ў цёплую хустку. Сілы зусім яшчэ мала. Раптам адчыняюцца дзверы і ўваходзіць Уладзімір Ільіч,— я была зусім разгубленая. А ён бярэ крэсла, садзіцца побач са мною і так хораша і цёпла распытвае мяне пра маё здароўе, пра маё самаадчуванне... Да гэтага часу так выразна памятаю яго мілы, ласкавы твар. Глыбока кранула мяне яго сяброўская ўвага. Ён тады шмат працаваў, быў тады вельмі заняты і ўсё ж такі знайшоў хвіліну забегчы да хворага таварыша».

Вясною 1895 года Ленін захварэў на запаленне лёгкіх. М. Сільвін па просьбе Ільіча выклікаў з Масквы Марыю Аляксандраўну. Яна прыехала разам з Ганнай Ільінічнай і прабыла з сынам да яго выздараўлення.

Часта наведвалі Уладзіміра Ільіча ў часе яго хваробы Н. Крупская, сёстры Няўзоравы. У сваіх успамінах С. Няўзорава-Шасцёрніна піша: «...у сакавіку месяцы Уладзімір Ільіч захварэў на запаленне лёгкіх у цяжкай форме. За ім (пакуль не прыехала яго маці Марыя Аляксандраўна) не было каму даглядаць. І вось мы па чарзе забягалі да яго і рабілі ўсё, што было трэба: мянялі кампрэсы, паілі чаем, бегалі па лякарствы і г. д. І ўсе спяшаліся зрабіць для яго што-небудзь прыемнае. За паўтара года, якія ён пражыў у Піцеры, усе так шчыра палюбілі і шанавалі яго. Ды інакш і быць не магло».

Кватэру-музей У. І. Леніна дзень пры дні наведваюць сотні экскурсантаў, людзі розных узростаў і прафесій—рабочыя, калгаснікі, служачыя, воіны Савецкай Арміі, студэнты, школьнікі, слухачы школ, семінараў сістэмы партыйнай асветы. Прыходзяць са спыткамі, падрабязна запісваюць тлумачэнні экскурсаводаў, задаюць безліч пытанняў, глыбока цікавяцца жыццём і дзейнасцю Ільіча.

Пра велізарную любоў да Уладзіміра Ільіча сведчаць шматлікія запісы ў кнізе водгукаў. Маладая наведвальніца з Мінска піша, што «...хочацца яшчэ і яшчэ раз паўтарыць ужо не раз выказаную ў гэтай кнізе думку: «так, гэта быў лепшы з лепшых, вялікі з вялікіх, у той жа час самы просты і сціплы чалавек на зямлі. Я нізка схіляю галаву перад яго светлай памяццю».

**Алена БЕРВІНАВА,**
**загадчыца кватэры-музея**
**У. І. Леніна.**

# ПЕРШЫ ЎРОК

**БЫЛЬ**

Палёты закончыліся. Я зморана прылёг на аэрадромнае поле. Мяккая сцішанасць майскага вечара зазвінела ў вушах. На поўныя грудзі ўдыхаю пах маладой травы, смалістага хвойніку.

Я пазіраю ў пацямнелае неба, на якім адзінока вісне бялёсая хмарка. Касы промень зморанага сонца заблытаўся ў ёй, пасля прашыў яе і сігануў у бясконцасць.

«Пайсці ў бясконцасць»...

Дзе, калі я першы раз пачуў гэтае слова «бясконца...»

З рэчышча маіх думак і ўспамінаў міжволі ўсплыў заклапочана-лагодны голас дзеда: «Унучак, вучэнне яго па глыбіні думкі сваёй бясконца, як і неба, што над намі, і вечна жывое з тае прычыны, што яно патрэбна для шчасця людзей». Чаму словы гэтыя дзіцячая памяць учэпіста так трымае вось ужо амаль трыццаць гадоў? Я ляжу і намагаюся прыпомніць усе акалічнасці.





...Вёска... Вёска наша, як і сотні гадоў назад, стаіць каля самага лесу. Я лаўлю плёскат Нёмана, прыгаваю шапаценне лістоты садоў каля кожнай хаты; бачу, як антэнамі тэлевізараў на шыферных дахах яна ўзіраецца ў твары і слухае галасы нашай планеты. Нешта ціхмянае і гордае ёсць у яе сённяшнім дні.

У гады вайны яна таксама нічым не вылучалася з многіх вёсак любай Беларусі. Карныя атрады фашыстаў-рабаўнікоў часта заходзілі ў «партызанскую зону» і заўсёды да самых зубоў шчацініліся зброяй. Калі іх абозы ўспаўзалі за два кіламетры ад вёскі, на пагорак, за знешнім спакоем вёскі выступалі без унімку і шырыліся з кожнай хвілінаю рашучасць і няскоранасць. У гэтыя хвіліны яна як бы ўсё бліжэй тулілася да лесу сваімі зямлянкамі-норамі, закуранымі трубамі печаў сярод рэштхаў спаленых хат.

●

Гэту жахлівую вестку з райцэнтра ў вёску досвіткам прынёс сувязны партызан. Мама скочыла да майго ложка, згрэбла мяне соннага і дрыготка прашаптала:

— Блакада, сынок... Карр-ні-кі!..

Я выскачыў з хаты, а праз якую хвіліну мы ўжо беглі прыгуменнямі да лесу, уздагон вяскоўцам.

Памятаю, на ўзлессі я азірнуўся, і з пагорка добра відаць была калона коннікаў. На сталёвых шлемах і штыках пагрозліва бегалі крывавыя водбліскі сонечнага ранку.

На крыжавіне лясных дарог мама крыху асталася ад вяскоўцаў, прыпынілася і скрозь поўныя вочы слёз пазірала на мяне. Яна паглядзела так, быццам бачыла мяне астатні раз.

— Ты ўжо ладны, сынок... Шэсць год табе. Дарогу да дзеда ведаеш. Там з'ясі хлеба. А я падамся да бацькі ў атрад...

Я спалохаўся і зачмыхаў... Мама пацалавала мяне. Я голасна плакаў на ўвесь лес, прасіўся не пакідаць мяне і бег за ёй і ўсімі, пакуль яны не зашыліся ў гушчары. Разгублены, я пастаяў, павярнуўся і выйшаў на дарогу. Цяпер я плакаў не таму, што баяўся ваўкоў.

Раптам усе пахі вясны — маладой травы, яшчэ не астылай смалы хвойніку і першых кветак на аэрадромным полі — як бы знесла лёгкім вецярком. Я ўдыхаю пах хлеба. Так-так! Пах хлеба... Ужо больш чвэрці стагоддзя, як я не адрозніваю водару чорнага і белага хлеба. Пах хлеба ваенных год змешвае ўсе адценні. Дух гэтага хлеба, які пякла бабка з дзёртай бульбы і вотруб'я, я адчуў цяпер як ніколі моцна...

Я сяджу за сталом у дзеда. На ручніку ляжыць нарэзаны скібачкамі хлеб, побач кубачак з малаком.

З вуліцы чуваць трэск барабана, віск флейты-свісцёлкі і размерны тупат ног. Мне здаецца, што калона з гікам падыходзіць да сцяны дзедавай хаты, барабанным шротам сыпле па сцяне, у шыбы вокнаў, і вось-вось акаваныя сталлю чаравікі загрукацяць па сцяне, па даху хаты і з хрустам, звонам ступяць на зашклёныя рамы. Я ўвесь сцяўся і зажмурыўся. Дзед стаіць каля акна, моўчкі слухае і ўсю касавурыцца ўздагон калоне.

— Кажаш, блакада?.. Гэта іх перадсмяротныя сутаргі, унучак. Перад пагібеллю заўсёды так...

Дзед узрушана прайшоўся па хаце, а пасля нахінуўся да мяне і горача выдыхнуў мне ў твар:

— Няма, унучак, на свеце такога народу, які б сілаю паставіў нас на калені! Залязцелі да нас з гікам, а пакоцяцца з енкам! — І мутныя старэчыя вочы ўраз асвяціліся святлом веры.

Недзе на вёсцы закрычалі куры. З вуліцы дакаціўся глухі трэск аўтамата. Дзед пастаяў у зняменні і, скмеціўшы, што я не спускаю з яго воч, кіўнуў галавой на дзверы: «пойдзем». І сам першы ступіў за парог.

Каля пунькі мы прыпыніліся. Дзед усё таптаўся нейкі час на адным месцы і пільна азіраўся. Пасля глянуў на мяне і злосна прабурчаў:

— Во, да чаго дажыліся... У сваёй хаце трэба баяцца!..

Мы адчынілі пуньку. Тхнула трухой леташняга сена. Я не ведаў, што і да чаго, але дзедава таямнічасць гаварыла мне, што ён павінен сказаць нешта звыштаямнічае. Знізу я бачыў, як дзед, стоячы на драбінах, расхінаў салому падстрэшша і дастаў неўзабаве адтуль нейкі скрутак.

Калі вярнуліся ў хату, ён выправіў бабку на дворышча «патупаць на каравуле», а сам бразнуў засаўкаю.

Я ледзь не шалеў ад нецярплівасці. Дзед марудзіў. Моўчкі ён дастаў з шуфляды стала акуляры, уздзеў іх на нос і на стале ўрачыста і беражліва разгарнуў той скрутак.

Я ўбачыў кнігу. Вокладка была абшарпаная, пажоўклая ад часу, але вялікія чырвоныя літары на ёй зіхцелі.

— Як сабе ні было, унучак, а мы дома. Пара табе і грамаце вучыцца.

Яго шурпатая далонь ахінула маю руку і злёгку выпрастала мой большы палец. Дзед падводзіў палец да кожнай чырвонай літары і прасіў гаварыць за ім:

— Л-е-н-і-н.

— Што прачыталі, унучак? — зірнуў з надзеяй дзед. Мусіць, дзед убачыў маю разгубленасць і таму сказаў за мяне:— Ленін, унучак!..— і вочы яго асвяціліся ціхай радасцю.

Аб Леніне ён гаварыў увесь гэты дзень і не адзін яшчэ раз пасля. Як я даведаўся потым, кнігу гэтую дзед яшчэ задоўга да майго прыходу да іх не адзін раз чытаў тамусяму з аднавяскоўцаў. Чытаў, не зважаючы на тое, што ў вёсцы аж кішэла фашыстаў.

...Даўно няма ў жывых майго бацькі, маці і дзеда... Дзеда застрэлілі за дзень да таго, як гарнізон пакінуў вёску і пакаціўся на захад. Аднак мой першы ўрок, дзедаў урок, застаўся. І словы ўрэзаліся ў памяць.

Цяпер, калі я бяруся за томік Леніна, прыгадваю дзедавы словы: «Вучэнне яго па глыбіні думкі сваёй бясконца...»

●

Вечарэла. Дарэшты растаяла хмарка. Патыхала свежасцю. Сонца не згасла, а толькі закацілася, запаліўшы зоркі далёкіх сусветаў.

Я пазіраю на зоркавы высеў і яшчэ раз прыкмячаю, што сусвет бясконцы, «...як і неба, што над намі, і вечна жывое з тае прычыны, што яно патрэбна для шчасця людзей».

**Мікола ЗЫЛЬ.**

***У наступным нумары***
***мы надрукуем***
***пісьмы***
***беларускай моладзі***
***ДА ЛЕНІНА.***





# Я ІДУ ПА ЛЕНІНСКІМ ПРАСПЕКЦЕ

ФОТАРЭПАРТАЖ ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА

**Дзіўная ты, памяць!.. Забываешся на ласку, усмешку, на добрае слова. А боль і жах доўга-доўга жывуць крыўдай у душы, застаюцца з табой на ўсё жыццё.**

**Памятаю, уздоўж былой Савецкай, ад Дома ўрада да Камароўкі, перад вачамі паўставаў жудасны пейзаж. Мёртвыя чарапы разбітых дамоў крывавілі чырванню цэглы і курыліся дымам, а на Залатой Горцы, як божы здзек, вытыркаўся ў неба шпіль разбуранага касцёла. Блішчалі трамвайныя рэйкі, панура валакліся па вышчарбленым бруку палонныя немцы, а ліпеньскае сонца, запыленае, чырванаватае, вісела ў небе, як асвятляльная ракета.**

**Гэта быў 1944 год. Ад Мінска паступова адыходзілі на захад грымоты. Стомленыя вайной мінчане пачалі аднаўляць сталіцу. З расплаўленых цаглін, з попелу паўставалі абрысы новага Мінска і яго галоўнай вуліцы — Ленінскага праспекта.**

**Былую Савецкую пашырылі, нанава спланавалі, засыпалі глыбокія ямы, зрэзалі ўзгоркі. Галоўная вуліца выйшла далёка за межы даваеннага Мінска. Чатыры новыя плошчы ўзніклі на яе шырокіх грудзях. Набудавалі мінчане палацаў, пасадзілі новыя**



Ранішняя пошта мінчан.

Пульсуе праспект.





Арганіст Алег Янчанка пачынае працу а сёмай гадзіне раніцы. І сын Кірыла—побач.

бульвары і паркі, паступова знялі трамвайныя рэйкі, перакінулі праз Свіслач новы мост, а рачныя берагі апранулі ў бетон.

Ад плошчы Леніна да абсерваторыі ў шэсць радоў пульсуе жыццё на праспекце. Жыццё праспекта імклівае, насычанае. Амаль штогод паміж Камсамольскай вуліцай і Цэнтральнай плошчай каткі трамбуюць новы слой асфальту — гэта самае людное месца ў Мінску. Асабліва цікава тут 1 верасня ўвечары, калі ўсё сталічнае студэнцтва сустракаецца пасля летніх канікул.

На праспекце знаходзяцца сем вышэйшых навучальных устаноў і Акадэмія навук БССР, кінатэатры, цырк, філармонія, рэспубліканскі дом фізкультуры, стадыёны, дзве буйнейшыя беларускія друкарні, некалькі выдавецтваў і рэдакцыі амаль усіх рэспубліканскіх газет і



Фундаментальная бібліятэка імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. У аддзеле старадаўніх кніг працуе Аліна Чарняева.



У друкарні выдавецтва ЦК КП Беларусі праца ідзе круглыя суткі. Ля машыны накладчыца Валянціна Сівец.

Яны толькі што з Палаца шлюбу — Віталь і Людміла Кадан. Свой шлюбны букет урачыста паклалі на граніт манумента Перамогі.



часопісаў, студыя «Беларусьфільм», паўсотні магазінаў самага рознага профілю і самых розных назваў: «Чаравічкі», «Паўлінка», «Крышталь», «Дружба», «Лянок»...

Восень, увогуле, самая прыгожая пара на Ленінскім праспекце. Раніцай блакітныя туманы мякка ахінаюць чырвоныя клёны, а як сцямнее і ліхтар месяца выплыве на мінскі небасхіл, шорах лістападу прыглушае пацалункі закаханых...

А пасля надыходзіць свята Кастрычніка, і мінчане выходзяць на праспект з чырвонымі сцягамі і чырвонымі бантамі, і вітае іх вясёлы звон аркестраў, чароўныя кветкі феерверкаў.

Пад Новы ж год, калі снег прыцярушыць сціплы помнік Янку Купалу, насупраць, ля Палаца прафсаюзаў, падапрэ неба зіхатлівая ёлка, а вакол яе закружаць карагоды канькабежцаў.

Надыдзе вясна, і зноў будзе свята, з салютамі, з артылерыйскімі залпамі, і мінчане будуць паказваць на сваім праспекце магутныя МАЗы, прыгажуны трактары.

А як на календары чырвоная лічба «9» абвесціць дзень Перамогі, усе мінчане, зняўшы шапкі, прыйдуць да абеліска на плошчы Перамогі, каб успомніць тых, хто загінуў, і сказаць яшчэ і яшчэ раз, што праз гады і стагоддзі яны самі, іх дзеці і дзеці дзяцей не забудуць тое жахлівае, што прынёс свету фашызм.



Святочны салют.



Каток і ёлка не Ленінскім праспекце.





Плошча імя Леніна.

І сапраўды, вунь з Палаца шлюбаў выходзіць шчаслівая пара і накіроўваецца да помніка, каб, схіліўшы галовы, пакласці на халодны граніт свае шлюбныя кветкі.

А то раптам заспяваюць жалобна трубы, у чырвонае з чорным апрануцца сцены дамоў... Праспект праводзіць у апошні шлях яшчэ аднаго славутага чалавека...

Так, колькі б вуліц у нас ні было — незабрукаваных вясковых і гарадскіх, самых старадаўніх і з гмахамі сучасных дамоў абапал — усе вуліцы беларусаў сыходзяцца тут у Мінску на Ленінскім праспекце.

І таму заўжды такі стракаты і гаманлівы натоўп на гэтай вуліцы. А выліваецца гэты натоўп магутным патокам на плошчу, якая носіць таксама дарагое нам усім імя — імя Леніна.

Тут узвышаецца помнік Ільічу, помнік, які перажыў пакуты вайны і зноў уваскрос, як уваскрос, узняўся з руін Мінск. Увесну юныя мінчане-піянеры прыносяць жывыя кветкі, даюць сваю першую клятву на вернасць Радзіме і партыі. Ленін як бы выйшаў з Дома ўрада створанай ім Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Ён узняўся на трыбуну і звяртаецца да маладога пакалення — дзесяцітысячнай арміі студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Леніна.

Плошча Леніна ўвабрала ў сябе слаўную гісторыю нашай рэспублікі.

Узыходзіць і заходзіць сонца, а Ленінскі праспект жыве ўсё тым жа напружаным рытмам.

І калі бачу я, як з вуліцы Валадарскага выязджае на праспект таксі, у якім бацька нязграбна трымае свайго першынца, што толькі-толькі пакінуў сваю першую калыску — радзільны дом, зноў прыгадваецца Савецкая вуліца. Тая, якой была яна чвэрць стагоддзя назад. І мне радасна, што новы грамадзянін Мінска ніколі не ўбачыць той жудаснай карціны, якая вострым асколкам урэзалася ў маю памяць. Ён падрасце і затупае сваімі ножкамі па шырокім, гаманлівым, мірным праспекце, што носіць імя самага вялікага чалавека Савецкай краіны.





# ЗЯМЛІ КАРЭННІ

Чорная восень. На небе шэрыя, ірваныя хмары. Звечарэла. Але не сціхае вецер. Свішча з-за цёмнага далягляду і нябачнага берага, белымі хвалямі гоніць перад сабой халоднае Мястра. Вербы рыпяць і стогнуць, аж скрабе па сэрцы.

Удалечыні гарбаты шматок зямлі — старое мядзельскае замчышча. Яно вылучаецца на жоўтай плямцы небасхілу паміж шэрагранатовых хмар. Там было сонца. Апошні раз бліснула бляклым золатам і знікла. Зарагатаў пераможна ў вярбовых суках Васіліск, застукаў пашчэнкамі, сыпнуў карою на дол і дзіка завыў, як вые адзін, самотны, перад калядамі, воўк. Пайшоў густы мокры снег. Зямлю забірала зіма, і гэта была іх першая шлюбная ноч.

Потым была раніца наступнага дня. Марозная і пагодная. Саламяныя стагі на карычнева-белай раллі, прыцярушаныя снегам, глядзяцца з купальскай гары, як бурштыновыя слёзы. Трапечуць апошнія жоўтыя лісткі на вішнёва-чырвоных бярозках. Вакол бяскрайнія далі і маўчанне...

Потым надыдзе зіма, прыйдзе вясна, вернецца лета і зноў настане восень, залатая і непаўторная, зменяцца далягляды і адаб'юцца навек у душы чалавека. Той, хто нарадзіўся і жыў тут, не мог не ўспрыняць усяго гэтага хараства, не мог не быць мастаком.

Пара дзяцінства і юнацтва — той шчаслівы і непаўторны час, калі фармуецца дух чалавечы. Успрыманне і адчуванне прыроды, якое склалася ў тыя часы, не заменяць пасля ні тысячы мудрых кніг, ні дасведчанасць у навуках.

Калі чалавеку за трыццаць і пражыў ён большасць з іх у абставінах сучаснага шумнага горада, то, нават вырваўшыся пасля з гэтага акружэння «на прыроду», ён усё ж зразумее толькі матэрыяльную сутнасць яе. Аб'ектыўная ж, духоўная сутнасць прыроды ўжо не фармуе яго дух. Беззваротна мінуў той час, калі чалавек, яшчэ не жывучы інтэлектам, інстынктыўна ўспрымаў гэтае аб'ектыўнае існаванне і праз яго несвядома пранікала ў істоту магутная карціна жыцця Сусвету.

Чалавеку, пра якога хочацца расказаць і які цяпер вядомы беларускі графік, дараваў лёс нарадзіцца і жыць сярод гэтай сціплай і суровай велічы. Вёска Качаны — за трынаццаць кіламетраў на поўнач ад Мядзела. Бацька яго, Пётра Шаранговіч, тут з шаснаццаці гадоў кавалём. З чатырох гадзін раніцы і да вечара гудзела гарно і звінела кавадла. Разам з бацькам — у кузні дзесяцігадовы сын. Раздуваў мяхі, удвух гнулі і насякалі сярпы — праца цяжкая і нудная. Пачыналася пара сенакосу, і яны ішлі з мужчынамі махаць косамі. Як і ва ўсіх сялянскіх сем'ях, дзеці прывучаліся да працы рана. Кожны стараўся хутчэй стаць нароўні з дарослымі, а яно так і было: у чатырнаццаць гадоў — гаспадар.

Зразумела цяпер, адкуль у Васіля Шаранговіча такая багатая галерэя сялянскіх вобразаў і тыпаў, адкуль тое аб'ёмнае, самавітае, свежае ўспрыманне і вобразнае выяўленне жыцця — ад тых дзіцячых і юнацкіх часоў, працы і размоў з мужыкамі, мядзельскімі рыбакамі, дзядамі.



Малюнак да аповесці З. Бядулі «Салавей».

Вобразы зямлі, людзей, карціны дзяцінства запалі ў сэрца. У купальскую ноч зямля гарэла агнямі. Бралі куль, саджалі на доўгую жэрдку і падпальвалі зверху. Гэта была нібы пераклічка паміж вёскамі. Потым на гары раскладалі агонь. Ён гарэў аж да раніцы. Хлопцы прыносілі цымбалы і гармонік, дзяўчаты спявалі. Жарты і смех, песні аж да святла...

Першую цікавасць і замілаванне да мастацтва і малявання Васіль пераняў ад маці, Ніны Васільеўны. Яна, сялянка, пасвойму добра ўмее і любіць маляваць, цудоўна тчэ і вышывае па ўласных узорах. Доўгія зімовыя вечары перад Новым годам бавіліся маляваннем, вырабам цацак на ёлку, дзе давалася поўная воля фантазіі і натхненню. А час быў пасля вайны — ні алоўкаў, ні фарбы, ні паперы. Паступова замілаванне расло і забірала хлопца ўсё больш і больш. Неяк дайшлі да Качаноў чуткі, што аб'явіўся ў Мядзелі вялікі мастак — нехта ці то Баранаў, ці то Сямёнаў, і што напісаў гэты артыста дзве карціны ў мядзельскай чайной. І надта ж «файныя». Хлопец не вытрымаў і спляжыў зімой пешшу трынаццаць кіламетраў у Мядзел. Прыйшоў, убачыў і — рот разявіў. Вось гэта мастак! «Ну-у, я так ніколі не буду ўмець»,— у роспачы падумаў малы. Адна карціна называлася «Три богатыря», другая — «Утро в сосновом бору».

Назад хлопец пайшоў ужо ноччу, не заўважаючы марозу, уражаны.

Можа яны вісяць там і цяпер, калі толькі не перадалі якому-небудзь калгаснаму клубу, але крыху пазней прыйшлося Васілю зноў убачыць гэтыя копіі з копій, і ён сапраўды не мог ні надзівіцца, ні насмяяцца з сябе ж самога...

Апантанасць прыйшла потым. Рашаючую ролю сыграла для Васіля знаёмства з мядзельскім настаўнікам матэматыкі Астроўскім, страсным мастаком-аматарам. Ён арганізаваў у школе гурток малявання. На трэці дзень пасля арганізацыі гуртка ў ім засталіся сам Астроўскі і Шаранговіч. Але гурток бурна існаваў. Малявалі, чыталі, гаварылі і зноў малявалі. Карысць, якую зрабіў для будучага мастака настаўнік Астроўскі, цяжка пераацаніць. Ён проста прымусіў хлопца ехаць у Мінск.

Пасля вайны сям'я жыла бедна, часам хлеба неставала. Васіль скончыў восьмы клас. Маці сабрала ў посцілку патрэбныя рэчы. Астроўскі даў грошы на дарогу і нават сам паехаў.

Паездка не прапала дарма. У Мінску Васіль пахадзіў з Астроўскім па музеях, выстаўках, накуплялі алоўкаў, фарбаў, пэндзляў. Вярнуліся ў Мядзел. І тут пачалося. Пісалі эцюды, копіі, займаліся малюнкам, акварэллю — з дня ў дзень, з раніцы да вечара. Бывала, што і вечара было мала, і Васіль заставаўся начаваць у Астроўскага. Скончыў дзевяты клас на выдатна, толькі з адной чацвёркай. І ўжо калі паехаў у вучылішча, маляваў толькі

З ілюстрацый да паэмы Янкі Купалы «Адвечная песня».



З ілюстрацый да твораў Максіма Багдановіча.

па-свойму, не глядзеў ні на кога. Вынік: 5—5—5. А да гэтага хлопец спаў і сніў, што малюе, трызніў маляваннем. Мог цэлы дзень прастаяць, малюючы, не адчуваючы, што галодны, пакуль маці не адцягвала за вушы. Гэта была апантанасць.

Шчаслівы чалавек, які адчуў у сабе гэтую творчую прагу, гэты спапяляючы агонь душы і нерваў, гарэць у якіх — пакута і асалода. Калі цяпер насустрач мне з-за стала падымаецца гэты трыццацігадовы чалавек з хлапечым тварам і сівізной на скронях, і калі вочы яго, чырвоныя ад бяссонных начэй, а сам ён бледны і схуднелы стаіць сярод пакоя, у глыбіні душы я зайздрошчу яму. Добра, калі творчасць забірае чалавека ўсяго без астатку, калі жыццё хоць на імгненне робіцца аб'ёмным і магутным, напаўняецца ўрачыстым прадчуваннем прыбліжэння да ісціны, да адкрыцця.

У творчым працэсе Васіль Шаранговіч лічыць для сябе самым важным працэс духоўнай канцэнтрацыі. Ён задумвае перш за ўсё вобраз (а не кампазіцыю) і не ведае, у якую канкрэтную форму ўсё гэта выльецца. Так можна месяцамі хадзіць і, здавалася б збоку, нічога не рабіць, але ўвесь час думаць, рабіць нейкія адзнакі, накіды. Праходзіць час, і вобраз (кнігі, тэмы, гравюры), які ўзнік у свядомасці, паступова праясняецца, знаходзіць адпаведныя формы выяўлення. І калі ў агульным ужо ўсё ясна, тады застаецца толькі садзіцца і працаваць бесперапынна.

Па-сапраўднаму Шаранговіч заявіў пра сябе як мастак ужо ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце сваёй дыпломнай працай. Гэта была серыя гравюр на тэмы драматычных паэм Янкі Купалы. Запомніўся партрэт паэта. Лёгкім фонам дадзены матывы з беларускага жыцця, якое адлюстравана ў купалаўскіх творах: жанчына з прасніцай, каваль з кавадлам, жнеі, хаткі. Усё гэта — як на кляновым лісце. Буйным планам — Купала. Паэт у характэрнай позе, абапёршыся шчакой аб кулак, глыбока задумаўся. Трагічная складка губ, сумныя, разумныя вочы, у якіх думка і боль. Паэт тут паказаны і як дзеючая асоба сваіх драматычных паэм, як уласна сам Купала, і як вобраз свайго паэтавага пірычнага «Я». Адчуваецца тонкае пранікненне мастака ў псіхалогію паэта і чалавека. Ля рук Купалы каласкі, як кнігі. Унізе радкі:

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.



Кожны год у розных выдавецтвах Мінска выходзіць некалькі кніг, афармленых Шаранговічам. Апошнія з іх — «Вясковыя навелы» М. Ракітнага, «Салавей» З. Бядулі, «Уладзімір Ільіч Ленін» У. Маякоўскага. Прaглядаючы «Салаўя» і «Вясковыя навелы», у каторы раз пераконваешся, што тэма беларускай вёскі, практычна, невычэрпная для мастака. Тут і свежасць формы, і тонкае пранікненне ў псіхало-



З ілюстрацый да кнігі Якуба Коласа «З майго летапісу».

гію, калейдаскоп жыццёва-праўдзівых вясковых тыпаў і сітуацый, адначасова свой, адметны, можа нават крыху рацыянальны аўтарскі стыль, сугучнасць ідэі і выяўлення.

Зварот да тэмы рэвалюцыі і паспяховае вырашэнне вобраза Леніна сведчаць пра творчую сталасць мастака. Кніга задумана і вырашана, як вялікі фрыз. Фігуры даюцца ў адным маштабе, за выключэннем першай (Ленін — мысліцель) і апошняй (Ленін — трыбун). Побач з чоткай кампазіцыйнай пабудовай і арганізацыяй усёй кнігі звяртае на сябе ўвагу ўменне мастака тонка перадаваць рытмы як усяго фрыза, так і кожнай яго часткі, кожнага сюжэта паасобку. Гэта дасягаецца перш за ўсё кампазіцыйна і, асабліва, размяшчэннем і чаргаваннем светлавых плям. «Паднявольная праца» (назавём так ад сябе.— **З. П.**) характарызуецца змрочным каларытам — целы рабочых з напружанымі мускуламі, выпуклымі спінамі. Разваротная гравюра, дзе людзі ідуць на рэвалюцыйны бой, выпучаецца трывожным рытмам, светлавыя плямы неспакойныя, скачуць, разрываюць плоскасць ліста. У развароце «Ленін з народам» прысутнічае дваякі рытм — ад хаатычнага да арганізаванага. Злева ад фігуры Леніна ён беспарадкавы. Вінтоўкі стаяць па-рознаму, хаатычнае размяшчэнне светлавых плям на адзенні. Направа ад Леніна рытмічную экспрэсію надае спадаючы штандар у руках мужыка. Далей святло і кампазіцыйная пабудова ствараюць арганізаваны, спакойны рытм. Гэта падкрэсліваецца складкамі шынялёў дзвюх крайніх фігур, мадэліроўкай галоў, кулямётнымі стужкамі, якія апярэзаны на адзін бок. У гравюры «Чырвонаармейцы з бубнам» рытм ужо чоткі, цалкам арганізаваны, упэўнены.

Усе, аднак, рытмічныя пабудовы ствараюцца вельмі тонка, неназойліва, нават няўлоўна для вока, але кожная гравюра жыве сваім унутраным рытмам. Запамінаецца галерэя тыпаў кнігі-фрыза. Абліччы людзей набліжаюць да нас разуменне тэмы рэвалюцыі, дазваляюць яшчэ раз па-новаму задумацца над ёй і над яе людзьмі.

Здольнасць узняць і вырашыць важныя гістарычныя рэвалюцыйна-эпічныя тэмы абавязвае мастака звярнуцца ўжо глыбока і па-сапраўднаму да сваёй зямлі, да Нарачаншчыны. Да рыбакоў, што цягнуць калаўротам з-пад лёду невад, да кавалёў, што высякаюць з кавадла зоркі, да ўсёй гісторыі слаўнай зямлі з курганамі і замчышчамі, гарадзішчамі, купальскімі агнямі, вятрамі.

Зразумела, што гэта патаемнае носіш пад сэрцам асцярожна, каб нічога не страціць, не забыць, і прыйдзе той адзіны час, калі думкі ператворацца ў вобразы, і вобразы ажывуць, як ажываюць на веснавой зямлі карэнні, і новыя парасткі буйна расцвітуць пад сонцам.

**Зянон ПАЗНЯК.**
**Фота аўтара.**

**Пра першыя крокі беларускага кіно — неўзабаве ўспаміны Міхаіла КРЭСІНА.**



# ТЭАТРАЛЬНАЯ ЛЕНІНІЯНА



У вобразе Леніна народны артыст СССР П. Малчанаў.

## I

Вобраз Леніна з маленства ўваходзіць у жыццё кожнага савецкага чалавека. Мінаюць гады, гісторыя аддаляе нас ад таго часу, калі жыў Ільіч, а жывая цікавасць да яго расце што далей, то ўсё болей і болей.

Вось чаму мастацтва, заўсёды такое чулае да патрабаванняў часу, ужо больш за тры дзесяцігоддзі настойліва шукае шляхі і сродкі праўдзівага ўвасаблення вобраза Леніна.

Упершыню Ленін загаварыў са сцэны Вахтангаўскага тэатра ў Маскве. Створаны Барысам Шчукіным у 1937 годзе вобраз Леніна («Чалавек з ружжом» М. Пагодзіна) стаў знамянальнай падзеяй у жыцці савецкага тэатральнага мастацтва. А неўзабаве выдатны акцёр Максім Штраух стварыў вобраз Леніна ў спектаклі «Праўда» А. Карнейчука на сцэне Маскоўскага тэатра Рэвалюцыі.

Пра вобраз правадыра марылі і беларускія майстры сцэны.

«Вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна, — успамінае П. С. Малчанаў, — мяне надзвычай хваляваў, асабліва пасля таго, як я ўбачыў на экране і на сцэне Шчукіна ў ролі Леніна. Я стаў сур'ёзна думаць аб тым, як бы самому паспрабаваць стварыць вобраз вялікага правадыра. У тэатры падтрымалі гэтае імкненне і вырашылі паставіць п'есу М. Пагодзіна «Чалавек з ружжом». Гэтае рашэнне мяне вельмі ўсхвалявала і ўзрадавала. Я паехаў на два тыдні ў Маскву і Ленінград... Вярнуўся дадому, узбагачаны новымі ведамі, уражаннямі. Я прывёз з сабой шмат кніг, фатаграфій і пласцінак з прамовамі У. І. Леніна. Доўга ўглядаўся я ў здымкі Андрэеўскіх скульптур...».

Пачаліся напружаныя рэпетыцыі, абдумванне кожнага слова, кожнага жэста. Так крок за крокам у творчым супрацоўніцтве з рэжысурай і ўсім калектывам тэатра выкрышталізоўваўся вобраз вялікага правадыра, набываючы ўнутраную глыбіню, пластычнасць.

І вось — першы спектакль. Коласаўцы паказалі яго ўдзельнікам гарадскога партыйнага актыву Мінска (1938 год). Мне таксама пашанцавала

быць на гэтай прэм'еры. Першыя ж сцэны захапілі гледачоў нейкім узвышаным хваляваннем. Здавалася, нібы кожны акцёр у эпізодзе ці масавай сцэне жыў вобразам Ільіча.

На сцэну выйшаў Ленін. Крыху прыжмураныя вочы, схіленая галава і рука ў кішэні. Ленін — Малчанаў праходзіў па калідоры Смольнага. І хоць ён не сказаў яшчэ ніводнага слова — па зале нібыта прайшоў электрычны ток. Усе ўсталі і пачалі апладзіраваць. Гэта былі своеасаблівыя вопЛескі. У зале паверылі, што на сцэне — жывы Ільіч. Але вось артыст загаварыў — так гаварыць, думаць, усміхацца мог толькі ён, Ільіч. І зноў загрымелі вопЛескі. Хвіліна. Другая... Потым настала нейкая асаблівая, урачыстая цішыня. І Ленін пачаў свой дыялог з салдатам Шадрыным (арт. М. Звездачотаў).

Гледачы паверылі ў вобраз, створаны П. Малчанавым, з першай сцэны, з першых хвілін трапілі ў палон яго абаяльнасці, шчырасці і палымянай ваяўнічай думкі. Гэтая сустрэча з «жывым Леніным» запомнілася па сённяшні дзень тым, хто быў на тых першых спектаклях. Малчанаву ўдалося дасягнуць не толькі знешняга падабенства, хоць і гэта немалаважна, але і праўдзіва перадаць рысы ўнутранага характару вобраза Леніна, яго кіпучы тэмперамент, рэвалюцыйную непрымірымасць, любоў да людзей, жыццярадасны гумар. У вобразе Леніна, створаным П. Малчанавым, былі зліты ў адно цэлае правадыр рэвалюцыі, трыбун і шчыры, просты чалавек.

Работа Малчанава над вобразам Леніна не спынялася на працягу многіх год. У час Айчыннай вайны Павел Сцяпанавіч працаваў ва Ульянаўскім драматычным тэатры. І там, на радзіме Леніна, ён іграў ролю Ільіча ў спектаклі «Чалавек з ружжом».

«Ульянаўск узбагаціў маю памяць, — успамінае П. Малчанаў, — новымі матэрыяламі аб Леніне. Неаднаразова і падоўгу бываў у кватэры-музеі Леніна. У гэты час у другім доміку, там, дзе нарадзіўся Уладзімір Ільіч, жыў яго родны брат Дзмітры Ільіч Ульянаў. Мяне пазнаёмілі з ім, і я пачаў бываць у яго дома.

І вось аднойчы я звярнуўся да Дзмітрыя Ільіча і яго сям'і з просьбай паглядзець мяне ў ролі Леніна. Дзмітры Ільіч быў прыкаваны да пасцелі цяжкай хваробай і толькі зрэдку рабіў кароткія прагулкі. І ўсё ж ён згадзіўся паглядзець спектакль і прыехаў з сям'ёю ў тэатр. Я хваляваўся, як на прэм'еры ў Мінску...

Пасля заканчэння ленінскіх сцэн я зайшоў да Дзмітрыя Ільіча ў ложу. Я запытаў яго думку. Дзмітры Ільіч павольна сказаў:

— Ну што ж, асноўныя, істотныя рысы Уладзіміра Ільіча вы перадаяце, па-мойму, правільна.

Гэтая кароткая ацэнка была і застаецца лепшай ухвалай маёй сціплай працы».

Другім спектаклем, у якім П. Малчанаў іграў ролю Леніна, былі «Крамлёўскія куранты». Тут М. Пагодзін больш поўна, смела і ярка раскрывае вобраз Ільіча як правадыра рэвалюцыі, дзяржаўнага дзеяча, «крамлёўскага летуценніка». Гэта, безумоўна, ускладняла задачу тэатра, рэжысуры і асабліва выканаўцы ролі Леніна акцёра П. Малчанава. І хоць калектыў тэатра быў падрыхтаваны да гэтай адказнай работы, а ў П. Малчанава быў ужо вялікі вопыт работы над вобразам Леніна, патрэбна было зноў пачынаць усё спачатку. І тэатр пачаў — ад сцэны да сцэны, ад дзеі да дзеі.

Вобраз Леніна ў выкананні П. Малчанава непарыўна звязаны са сваім часам. Гэта Ленін скрозь голад і разбурэнні, што прынесла народу вайна, бачыць цудоўную будучыню Расіі і не толькі верыць, а стварае яе разам з усім савецкім народам і партыяй.

Побач з імкненнем у будучыню П. Малчанаў раскрывае ў вобразе Леніна геніяльную прадбачлівасць, розум, чалавечую шчырасць і абаяльнасць. Вялікую дзяржаўную і партыйную задачу Ленін рашае не сам, а разам з народам, выхоўвае ў кожнага чалавека думку, што толькі пры яго ўдзеле могуць быць вырашаны грандыёзныя планы будаўніцтва новай, сацыялістычнай краіны.

Спектакль «Крамлёўскія куранты» быў адноўлены М. Міцкевічам і паказаны ў вызваленым Віцебску.





Калі ў фінале пачалі біць крамлёўскія куранты, а потым зайгралі Інтэрнацыянал і ў зале загарэлася электрычнасць — усе ўсталі і доўга апладзіравалі акцёрам, і асабліва выканаўцу ролі Леніна П. Малчанаву. За сценамі тэатра ляжаў разбураны і цёмны горад (электрычнасці ў Віцебску яшчэ не было), але гледачы выходзілі на вуліцу ўзрушаныя, з узнятымі галовамі, натхнёныя ленінскімі ідэямі, якія асвятлялі ім шлях у заўтрашні дзень — дзень адnаўлення свайго горада.

З кожным новым спектаклем узбагачаўся вопыт і майстэрства артыста. Паказаць Леніна такім, якім бачылі яго сучаснікі, — на заводах, у чырвонаармейскіх часцях, на плошчах, у асабістых сустрэчах, — да гэтага імкнуўся П. Малчанаў у кожнай новай рабоце над вобразам Леніна. Яскравым прыкладам гэтага з'яўляюцца і «Вечная крыніца» Д. Зорына, і «Навальнічны год» А. Каплера, і «Залп «Аўроры» М. Бальшанцова і М. Чыяурэлі.



**Ролю Леніна выконвае народны артыст СССР Б. Платонаў.**

Амаль 25 год свайго жыцця аддаў Павел Сцяпанавіч Малчанаў стварэнню беларускай тэатральнай Ленініяны. На шляху былі цяжкасці і няўдачы («Год 1919»), але яны не спынялі творчых пошукаў артыста. Гэта была складаная, цяжкая, але высакародная праца.

## II

Слаўную старонку ў беларускую тэатральную Ленініяну ўпісаў Барыс Віктаравіч Платонаў. Працуючы над вобразам Леніна, ён меў перад сабою прыклад выдатных майстроў савецкага тэатра Б. Шчукіна, М. Штрауха, Б. Смірнова, А. Бучмы, П. Малчанава... Артыст, безумоўна, вывучаў іх вопыт, але ішоў сваім шляхам. Шлях гэты быў нялёгкі. «Сапраўднае мастацтва не даецца без цяжкасцей, — гаварыў у свой час К. Станіслаўскі, — яно патрабуе ўдумлівай, адданай і нават гераічнай творчай працы». Так было і ў Б. Платонава. Ён шмат працаваў, — аддана, настойліва і натхнёна, каб стварыць вобраз Леніна ў спектаклі «Трэцяя патэтычная» М. Пагодзіна. І дамогся свайго.

У вобразе Леніна, створаным Б. Платонавым, гледачоў захаплялі кіпучы розум, энергія і непахісная воля да перамогі. Увесь час перад намі жыве і дзейнічае чалавек, які страсна любіць свой народ і аддае яму ўсе сілы, ўсё жыццё. Платонаўскі голас, хада, рухі, шчырая ўсмешка пераконваюць нас, што такім быў Ільіч.

Вось Ленін на заводзе. Ён размаўляе з рабочымі пра будучыню і пра цяжкасці сённяшняга дня, спрачаецца, жартуе з маладым рабочым Прошкам, які «не хоча кіраваць дзяржавай. Бутыркі баіцца...» А вось да яго на кватэру прыходзіць урач Ірына Сестрарэцкая (арт. З. Браварская), каб выпрасіць памілаванне свайму малодшаму брату Валерку (арт. В. Тарасаў). Малады камуніст не ўстаяў перад спакусамі нэпманаў і стаў хабарнікам. Гледачы з асаблівым хваляваннем сачылі за гэтай сцэнай.

«Ірына. Я разлічваю на вашу літасць. Выслухайце мяне... Ён малады... юны. Палкае, чыстае сэрца.

Ленін: Мне цяжка засмучаць вас, але лгаць не ўмею. Не веру я ў чыстае сэрца хабарнікаў, нават каб я быў у вашым становішчы, калі роднаму чалавеку пагражае смерць, дык не падманваў бы сябе. Ён — не чысты чалавек...

Ірына: Не гаварыце так. Я звяртаюся да вашых пачуццяў чалавека.

Ленін: Чалавека...

Ірына: Добрага, чуллівага чалавека.

Ленін: Звычайна бачаць чалавека там, дзе ён добры, а калі ён не павінен быць добрым?..»

Як ні цяжка было Леніну, ён даў Ірыне зразумець, што не можа і не мае права быць заступнікам хабарнікаў. Караючы аднаго, трэба думаць пра лёс мільёнаў сумленных савецкіх людзей.

Па-майстэрску вёў Платонаў і сцэну ў кабінеце Крамля. Тут мы бачылі Ільіча як правадыра, філосафа, мужнага чалавека. Вось ён сядзіць у крэсле, не гаворачы ніводнага слова, і колькі думак у гэтай паўзе, задумёных вачах, якія праз цяжкую хваробу і стомленасць глядзяць у далёкую будучыню сацыялістычнай Расіі; колькі яшчэ патрэбна будзе змагацца з ворагамі рэвалюцыі, каб гэтая будучыня была шчаслівая... Ільіч разумее, што ён цяжка хворы, але ён верыць у невычарпальныя сілы народу, які здолее завяршыць пачатую справу.

Ад сцэны да сцэны, як скульптар, ляпіў Б. Платонаў вобраз Ільіча, узбагачаў яго на кожным спектаклі жывымі рысамі, фарбамі, дэталямі, усё набліжаючыся да таго вобраза, які жыве ў сэрцы народу. Вось чаму пасля таго, як апускалася заслона, гледачам не хацелася развітвацца з узнёслым, рамантычным спектаклем, і яны падоўгу апладзіравалі ўсхваляванаму Б. В. Платонаву.

П'еса І. Папова «Сям'я», пастаўленая тэатрамі імя Янкі Купалы і Якуба Коласа, напісана на фактычным матэрыяле з жыцця сям'і Ульянавых. Гэта не толькі цікавая аповесць пра цудоўную і мужную рускую сям'ю, але і старонкі барацьбы рабочага класа Расіі 80-х — 90-х гадоў з царскім самаўладствам. Аўтар паказвае маладога Леніна ў сям'і, сярод блізкіх людзей і сяброў, праводзіць яго праз выпрабаванні, у якіх расце і гартуецца характар будучага правадыра рэвалюцыі.

Творчай перамогай тэатра імя Якуба Коласа быў вобраз маладога Валодзі Ульянава ў выкананні Ф. Шмакава. Ён прасякнуты жыццесцвярджальнасцю, лірызмам, а іншы раз і суровай задуменнасцю. Асабліва пранікнёнай і хвалюючай была ігра Шмакава ў тых сцэнах, дзе Валодзя сустракаецца з маці і братам Аляксандрам.

Над увасабленнем вобраза Уладзіміра Ільіча працавалі таксама вядомыя нашы майстры сцэны: П. Маркін (тэатр імя Ленінскага камсамола) у спектаклі «Крамлёўскія куранты», Д. Арлоў у «Крамлёўскіх курантах» (Рускі тэатр імя М. Горкага), А. Трус у «Крамлёўскіх курантах», «Святле з Усходу» (тэатр імя Якуба Коласа), С. Бульчык у «Крамлёўскіх курантах», «Імем рэвалюцыі» (Магілёўскі драматычны тэатр), М. Цурбакоў у «Крамлёўскіх курантах», «Кветках жывых», «Імем рэвалюцыі» (Гомельскі драматычны тэатр) і другія.

З апошніх спектакляў, прысвечаных ленінскай тэме, перш за ўсё хочацца адзначыць «Шостае ліпеня» М. Шатрова, пастаўлены на сцэне тэатра імя Якуба Коласа (рэжысёр С. Казіміроўскі). Гэта адна з лепшых п'ес на гісторыка-рэвалюцыйную тэму, якая дакументальна расказвае пра разгром бальшавікамі пад кіраўніцтвам Леніна левых эсэраў і контррэвалюцыйнага мяцяжу. У той самы адказны момант гісторыі Ленін становіцца яшчэ больш дзейсны, мэтанакіраваны і рашучы. Думка яго працуе свабодна, натхнёна і разважліва. «Савецкая ўлада — справа ўстойлівая, рабочыя і сялянская беднатa стварылі яе не на год і не на дзесяць год. Назад шляху не будзе!» — з такімі ленінскімі словамі звяртаецца да народу партыя.

Гледачы з хваляваннем сочаць за падзеямі, якія адбываюцца ў спектаклі. І ў гэтым, безумоўна, заслуга Ф. Шмакава, які выконвае ролю Леніна. Артыст Шмакаў набліжаецца ў сваім увасабленні да ленінскай прастаты, натуральнасці і чалавечнасці. Праўда, іншы раз гэтае ўражанне парушаецца знешняй позай, фармальным жэстам. Аднак радуе тое, што з кожным новым спектаклем увага артыста ўсё болей канцэнтруецца на ўнутраным змесце вобраза Ільіча.





Спектакль па п'есе «Шостае ліпеня» ажыццёўлены і ў Рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага. Пакуль цяжка сказаць, якое месца займае гэты спектакль у Лениніяне рэспублікі, але адно зразумела — спектакль горкаўцаў яшчэ раз напамінае нам пра непарыўную сувязь усіх нашых здзяйсненняў з вечна жывой крыніцай — Леніным. Праўда, ёсць у спектаклі свае пралікі і страты. Разам з удалымі, праўдзівымі сцэнамі сустракаюцца ілюстрацыйныя, дзе глыбокі гістарычны паказ падзей падмяняецца вонкавым. Гэта, на жаль, мае дачыненне і да выканаўцы ролі Леніна А. Дуброціна. Праўда, артыст не лічыць сваю працу закончанай — ён удасканальвае, узбагачае яе новымі пошукамі, імкнецца падкрэсліць у вобразе Леніна гуманізм, дэмакратычнасць, уменне цярплівa і ўважліва ставіцца да кожнага чалавека.



**Ленін у спектаклі «Шостае ліпеня». Выканаўца — народны артыст БССР Ф. Шмакаў.**

Самы малады выканаўца ролі Леніна — артыст А. Логінаў («Крамлёўскія куранты» на сцэне тэатра імя Ленінскага камсамола) акцэнтуе ўвагу на ўменні Леніна глядзець у будучыню, бачыць далёка наперад. Каштоўнае ў працы А. Логінава тое, што ён набліжаецца ў сваім увасабленні вобраза Леніна да натуральнасці, прастаты, непасрэднасці. Натхнёна і ўдумліва працуе зараз акцёр над новай роллю Леніна ў спектаклі «Брэсцкі мір» па п'есе К. Губарэвіча.



**Сцэна са спектакля «Брэсцкі мір». У ролі Леніна народны артыст БССР А. Логінаў.**

У гродзенскім тэатры над вобразам Леніна ў спектаклі «Паміж ліўнямі» А. Штэйна працаваў Я. Кімберг. Галоўнай задачай акцёра было стварыць вобраз Леніна-філосафа, рэвалюцыянера, рамантыка. Трэба сказаць, што асобныя сцэны ўдаліся артысту. Узяць хоць бы сцэну бяссонніцы Леніна, якую акцёр праводзіць праніклёна і пераканаўча. І ўсё ж гэта толькі пошук, толькі пачатак шляху да творчага раскрыцця вобраза У. І. Леніна.

Кожны наш тэатр, кожны дзеяч сцэны імкнецца ўнесці свой уклад у скарбніцу сцэнічнай Ленініяны, сказаць сваё слова грамадзяніна-мастака пра Леніна, пра яго вечна жывыя ідэі.

**Уладзімір СТЭЛЬМАХ,**
**заслужаны дзеяч мастацтва БССР.**

●●●

# НА ПАЧАТКУ ДАРОГІ

Лёгка, што пушынкі, узлятаюць яны ўверх і, нібы неахвотна, апускаюцца долу. Грацыёзна пакланіўшыся, яны гэтак жа грацыёзна выбягаюць за кулісы. І толькі там, нябачныя для гледача, яны дазваляюць сабе крыху расслабіцца, дыхнуць на ўсе грудзі і выцерці з твару пот. Але зноў гучаць воплескі і, суняўшы дыханне, унутрана сабраўшыся, яны выбягаюць пад асляпляльнае святло пражэктараў, каб зноў і зноў чараваць і захапляць прыгажосцю і паэзіяй танца.

Сярод іншых відаў сцэнічнага мастацтва балет — адзін з самых цяжкіх. Тут нельга працаваць напаўсілы, а трэба «выкладвацца» да канца, аддаваць усё, на што здольна цела, думкі, пачуцці. І як ні парадаксальна: чым цяжэй, тым і лягчэй. Вось чаму глядач бачыць танец такім лёгкім, такім паветраным, нібыта гэтаму і не трэба вучыцца, нібыта яно даецца само сабой. Вось чаму мала хто здагадваецца, якой неймавернай, тытанічнай працай дасягаецца лёгкасць, вытанчанасць, віхурная імклівасць танца і нястрымны палёт. Яшчэ менш хто ведае пра тое, што вучыцца гэтаму трэба ўсё жыццё: ад першага ўрока ў харэаграфічным вучылішчы да апошняга дня работы ў тэатры. Чым больш таленавіты артыст, тым больш ён вучыцца. Усё жыццё, з дня ў дзень.

Чацвёрты год працуе ў Беларускім акадэмічным тэатры оперы і балета балярына Людміла Бржазоўская. Гэта час не настолькі вялікі, каб можна было гаварыць пра нейкія вялікія завершаныя работы, але дастатковы для таго, каб праявіць свае здольнасці, паспрабаваць сілы, зрабіць пэўныя для сябе вывады. Яна яшчэ танцавала ў кардэбалеце, але нечым амаль няўлоўным вылучалася ў масавым танцы сярод аднолькава апранутых балярын, якія выконвалі аднолькавыя танцавальныя рухі. А ў канцы першага сезона Люда ўжо станцавала партыю Сальвейг у «Пер Гюнце». Потым былі яшчэ вядучыя ролі. Але давайце лепш сустрэнемся з самою Людай і пагаворым пра балет, пра тое, які гэта нялёгкі хлеб.

Маленькая, кволая... Нават дзіву даешся, адкуль бярэцца ў ёй столькі сіл, энергіі, калі яна танцуе ў балеце! Люда глядзіць на мяне засяроджана і ўважліва. Яна ўспамінае і думае ўголас:

*— Мая першая сустрэча з балетам? Было гэта даўно, я яшчэ не хадзіла ў школу. Мама павяла мяне на спектакль «Лебядзінае возера». Усё было незвычайнае — дзівосная музыка, беласнежныя лебедзі. І — запомнілася на ўсё жыццё. Мне спадабаўся балет, але не настолькі, каб захацелася патанцаваць самой. Захапленне прыйшло пазней, калі я займалася ў балетнай студыі Палаца піянераў. Спачатку туды хадзіла, каб не наведваць заняткі па музыцы. Гэта цяпер я разумею, як патрэбна музыка артыстам балета, а тады...*



Сольвейг.

*Дык, вось, ставілі мы аднойчы ў студыі балет «Рэпка». Я танцавала маленькае кураня. Захварэла дзяўчынка, якая танцавала кошачку, і гэтую ролю даручылі мне. Чым болей я танцавала, тым болей захаплялася танцамі. І калі скончыла тры класы, пайшла ў харэаграфічнае вучылішча. Вельмі здзівілася, калі ўбачыла вялікую чаргу. Затое радасці не было канца, як прачытала сваё прозвішча ў спісе прынятых у вучылішча. Ну, думаю, цяпер я буду танцаваць.*

*Але ў першыя ж дні прыйшло расчараванне. Мы не танцавалі. Нас ставілі ўздоўж сцяны ля доўгага драўлянага бруса, таго бруса, ля якога (гэта я зразумела пазней) гадамі шліфуецца майстэрства, і мы гадзінамі размахвалі нагамі, пасля чаго цяжка было ступіць. Толькі і чуваць было: «Уцягнуць жывот, апусціць плечы, стаць па першай пазіцыі...» Нас вучылі, як спалучаць музыку з рухамі рук, ног, паваротам галавы, корпуса. Нялёгка пасцігалася мова пластыкі. Іншы раз сем патоў вылецца, а ты ўсё паўтараеш і паўтараеш адно і тое ж, адзін і той жа рух, які ніяк табе не ўдаецца. Расцяжэнне звязак, разрыў мышачных валокнаў, да крыві сцёртыя ногі, стомленасць, слёзы, роспач — вось з чаго*

*пачынаўся балет. На дапамогу прыходзілі настаўнікі і свая ўласная злосць, упартасць. Трэба пераадолець фізічны і псіхалагічны бар'ер — толькі тады адчуеш дзівосную ўладу над целам.*

— Люда, а каго вы лічыце сваім настаўнікам?

*— Вучылася я ў заслужанай артысткі БССР Ніны Фёдараўны Младзінскай. Вучаніца Ваганавай, яна дала аснову складанага мастацтва класічнага танца. У яе быў душэўны падыход да нас, маленькіх, і ўрокі яе былі незвычайныя. Ніна Фёдараўна вучыла, каб кожны наш рух быў прадуманы, асэнсаваны, каб гледачы разумелі яго гэтак жа, як і словы. Мяне яна яшчэ навучыла цаніць і разумець прыгожае. «Сцэна — гэта тое, дзеля чаго варта жыць», — часта паўтарала яна.*

*У старэйшых класах маёй настаўніцай стала народная артыстка БССР Ірына Мікалаеўна Савельева. Яна дала мне вельмі многа ў сэнсе тэхнікі. Без адточанай тэхнікі не будзе ні віхурных фуэтэ, ні імклівых піруэтаў, ні паветраных скачкоў.*

*Да выпускнога канцэрта мяне рыхтаваў Уладзімір Іванавіч Бурцаў. Яго я таксама лічу сваім настаўнікам, бо ён вучыў цярплівасці, настойлівасці, працавітасці. Мы падрыхтавалі сёмы вальс з «Шапеніяны», па-дэ-дэ з «Лебядзінага возера» (танец Адыліі і Зігфрыда) і «Паміраючы лебедзь» Сен-Санса.*

«Паміраючы лебедзь» стаў адным з самых любімых танцаў Людмілы Бржазоўскай. Гэты танец ведае ўвесь свет. Яго танцавалі славутыя балярыны розных краін: нашы — Галіна Уланава, Наталля Дудзінская, Мая Плісецкая, француженка Івет Шавірэ, англічанкі Марго Фантэйн і Алісія Маркава, кубінка Алісія Алонса і іншыя. Тым, хто бачыў яго ў выкананні Люды Бржазоўскай, успаміналася чамусьці Мая Плісецкая: магчыма таму, што ў Люды вельмі пластычныя, вельмі пявучыя рукі...

— Звычайна выпускнік харэаграфічнага вучылішча прыходзіць у тэатр і танцуе спачатку ў кардэбалеце. Тут выпрацоўваецца пачуццё ансамбля, уменне слухаць музыку. Вось вы, Люда, яшчэ сама маладая, лічыце правільным гэты шлях?

*— Так. Толькі мне хацелася б дадаць вось што. На маю думку, маладому артысту, побач з яго ўдзелам у масавых танцах, трэба даваць магчымасць танцаваць няхай сабе і маленькае, але — сола. Тады будзе ўдасканальвацца набытае ў школе майстэрства. Калі ж час праходзіць, а сольных выступленняў няма, то многае губляецца, забываецца. А наверстаць страчанае цяжэй, чым набыць новае. Асабіста мне пашанцавала, бо ўжо на першым годзе работы ў тэатры я станцавала Сальвейг. Садзейнічаў гэтаму шчаслівы выпадак. Выканаўца ролі Сальвейг народная артыстка БССР Л. Ражанава была ў зарубежнай паездцы, а тут набліжалася прэм'ера. Я атрымала магчымасць паспрабаваць свае сілы і за гэта вельмі ўдзячна тэатру. Часу заставалася менш чым месяц, працаваць даводзілася бесперастанку, а тут яшчэ — так недарэчы — траўма. Але жаданне станцаваць было настолькі моцнае, што я скінула гіпс і выйшла на сцэну. Не памятаю, як танцавала — мяне вяла чароўная музыка Грыга...*

«Лебядзінае возера» на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра оперы і балета ідзе даўно. Многа змянілася за гэты час Адэт-Адылій. Н. Младзінская, З. Васільева, Л. Ражанава, Б. Карпілава, І. Савельева, А. Карзянкова, Н. Давыдзенка—кожная з іх пасвойму хвалюе, бо кожная ўносіць у вобраз сваю індывідуальнасць, знаходзіць рысы, блізкія сабе і сугучныя часу.

На юбілейным, 500-м спектаклі «Лебядзінага возера» партыю Адэты-Адыліі танцавала маладая актрыса Людміла Бржазоўская. Узяўшы лепшае ў сваіх папярэдніц, яна «прапусціла» гэтыя вобразы праз сваё сэрца і ўнесла ў спектакль свежасць фарбаў, маладосць, сучаснасць разумення. У «Лебядзіным возеры» выкананне вельмі лірычнае, сугучнае музыцы Чайкоўскага.

*— Я бясконца слухала музыку, каб адчуць стыль і манеру кампазітара,—* гаворыць Людміла.*— І паступова пачынала разумець, пра што яна гаворыць, адчула душу сваіх гераінь. Вельмі хвалявалася, калі ўпершыню трэба было танцаваць Адэту-Адылію. Яшчэ раз праслухала пласцінку. У думках пратанцавала ўвесь балет яшчэ да таго, як апранула «лебядзіную» пачку.*

— Дарэчы, Люда, як для Вас пачынаецца спектакль?

*— Не з выхаду на сцэну. Штодзённы ўрок, рэпетыцыі — усё гэта звычайнае, будзённае, тое, без чаго няма акцёра балета. І вось у цябе вечарам спектакль. Увесь дзень адчуваеш нейкі незвычайны ўздым. Выношваеш вобраз, баючыся страціць хоць бы маленькую рысачку. Ні аб чым больш не думаеш. За некалькі гадзін да пачатку спектакля прыйдзеш у тэатр, загрыміруешся,*



*разагрэешся, аж пара з цябе паваліць, і раптам адчуеш незвычайную лёгкасць у целе. Пройдзешся ў думках па вобразе — і вось ужо адчуваеш, як ён з кожнай мінутай табе ўсё бліжэй і бліжэй. Тады старайся захаваць гэты стан душы і выходзь на сцэну.*

— Танец — гэта захапленне, палёт. Праўда, Люда? Але ж гэта і трыццаць два фуэтэ — ні больш, ні менш — толькі трыццаць два, дакладна падлічаныя. Як псіхалагічна суіснуюць гэтыя крайнасці ў адчуваннях артыста?

*— Калі доўга працуеш над вобразам, то, як правіла, танцуеш не думаючы. Ды так і трэба танцаваць. Існуе танец, яго стыхія — і нічога больш. Калі ж вобраз не вынашаны, тэхнічна не адпрацаваны, то, канечне, прыходзіцца думаць, сачыць за сваімі рухамі. Наогул, усё гэта бывае, як і ў іншых прафесіях — чым больш навыкаў, спрактыкаванасці, тым больш лёгка, завучана выконваецца работа. Праўда, у нас, артыстаў балета, як бы ты ні захапіўся, усё роўна трэба сябе кантраляваць. Вось у мяне аднойчы на «Лебядзіным возеры»... Дайшла я да таго месца, дзе трэба рабіць фуэтэ. Адчуваю: пайшло добра, лёгка. Ад радасці ўсміхаюся, вярчуся і... не ўтрымалася, павяло мяне ўбок, а тут яшчэ насок трапіў у ямку. Мала што не зрабіла ўсе 32 фуэтэ, ды лебедзь не загрымела... Так што захапляцца — захапляйся, а кантролю над сабой не страчвай.*

— Якое месца вы адводзіце ў спектаклі партнёру?

*— Добры партнёр — частка твайго вобраза і частка твайго поспеху. У дуэце вельмі важна ўзаемаразуменне, кантакт. Трэба ведаць і адчуваць руку партнёра, давяраць ёй. У вучылішчы і ў часе зарубежных паездак я танцавала з Сашам Яфрэмавым. На юбілейным спектаклі «Лебядзінага возера» маім партнёрам быў народны артыст БССР Валеры Давыдаў, чалавек вельмі чулы, тактоўны, з ім танцаваць адна радасць. У гэтым жа спектаклі я танцавала і з нашым маладым акцёрам Юрам Траянам. З ім я танцавала ў «Рамэа і Джульеце».*

— Звычайна ў кожнага акцёра ёсць сваё амплуа. Якое ваша, Люда?

*— Кажуць, мне ўдаюцца лірычныя партыі. Магчыма, гэта і так. Але ж, шчыра кажучы, хацелася б паспрабаваць сябе ў ролях рознага плана — лірычнага, экспрэсіўнага, вострахарактарнага.*



**Трапяткі лебедзь.**

*Вельмі хочацца станцаваць Жызель у аднайменным балеце, Джульету.*

— Яшчэ такое пытанне: ці звязваеце вы нейкім чынам балет з іншымі відамі мастацтва? Калі так, то як гэта выяўляецца?

*— Перш за ўсё, балет цесна звязаны з музыкай. Без музыкі няма балета. Кажуць, амерыканцы спрабуюць ствараць балет без музыкі, маўляў, танец сам па сабе музыка. Не ведаю, не ведаю... Чалавек, калі ён захоча танцаваць, а няма музыкі, ён будзе танцаваць «пад язык». Танца без музыкі я не ўяўляю.*

*Цяпер, скульптура. Можна прыняць тую ці іншую позу так, як гэта сказана ў падручніку ці харэаграфічнай распрацоўцы. А можна яе і вылепіць ярка, пластычна. Трэба шукаць ліній, якія найбольш адпавядаюць пэўнай позе, жэсту, і адкідваць лішняе.*

*Жывапіс... Яго я таксама звязваю з балетам. Фарбы, безумоўна, уплываюць на спектакль, на вобраз. Апрача таго, жывапіс — гэта маё другое захапленне. Мой бацька — мастак і вельмі хацеў, каб я стала мастачкай, тым больш, што я нядрэнна малявала. Але цяпер, паглядзеўшы, як я імкнуся танцаваць, ён неяк сказаў: «Ды ты ў нас таксама мастак, толькі ў сваёй галіне». Не пры-*



Сцэна з балета «Пер Гюнт».

*майце гэтыя словы ўсур'ёз: у вачах бацькоў дзеці заўсёды таленавітыя. Але я сапраўды люблю сваю работу, у ёй — маё жыццё.*

— Скажыце, Люда, які дзень быў самы шчаслівы ў вашым жыцці?

*— Цяжка сказаць. Радасных дзён было многа... Хаця, пачакайце... Было гэта ў Турцыі. На заключным канцэрце я танцавала «Паміраючага лебедзя» Сен-Санса. Калі скончыла, грымнулі, як гром, воплескі. Мяне выклікалі, і я станцавала другі раз. І зноў воплескі — гарачыя, бурныя, шчырыя. На канцэрце прысутнічалі людзі розных краін, і я была вельмі шчаслівая, што я — савецкая балярына, што маё мастацтва зразумелае і блізкае ўсім, што яно нікога не пакідае раўнадушным. Гэта быў самы радасны дзень у маім жыцці.*

Людміла Бржазоўская толькі пачынае свой шлях у мастацтве. Аднак прыроджаны артыстызм і здзіўляючая працавітасць даюць падставу спадзявацца, што з маладой актрысы вырасце сапраўдны мастак.

**Нэля ІСАЧАНКА.**

Фота **В. ЖДАНОВІЧА.**

**Фотанарыс**

**«ДЗЯЎЧАТЫ З КАМВОЛЬНАГА» —**

**у наступным нумары.**




## 1970

### САКАВІК

**8**

Міжнародны жаночы дзень.

**10**

50 гадоў з дня нараджэння А. Н. Марціновіча, беларускага пісьменніка.

**21**

130 гадоў з дня нараджэння (1840) Ф. К. Багушэвіча, паэта-дэмакрата, класіка беларускай літаратуры. Памёр у 1900 годзе.

**22**

100 гадоў з дня прыняцця (1870) рускай секцыі ў I Інтэрнацыянал.

50 гадоў з дня нараджэння (1920) А. В. Пысіна, беларускага паэта.

**28**

60 гадоў з дня нараджэння (1910) М. А. Вішнеўскага, беларускага пісьменніка.

**29**

70 гадоў з дня нараджэння (1900) У. У. Корш-Сabліна, вядомага кінарэжысёра, народнага артыста СССР.

**Сакавік**

30 гадоў з часу арганізацыі (1940) Інстытута эканомікі Акадэміі навук БССР.



А. Н. Марціновіч.



Ф. К. Багушэвіч.



У. У. Корш-Саблін.



А. В. Пысін.



М. А. Вішнеўскі.

# ДЛЯ ЦЯБЕ, БУДУЧЫ ІНЖЫНЕР

Значная частка моладзі адразу пасля заканчэння сярэдніх школ паступае ў інстытуты і тэхнікумы. Але каб трапіць у інстытут, трэба вытрымаць конкурсныя экзамены. Яны па сіле толькі тым, хто мае сур'ёзную сістэматычную падрыхтоўку.

Пры многіх інстытутах адкрыты падрыхтоўчыя курсы, якія маюць на мэце памагчы рабочай і сельскай моладзі стаць студэнтамі. Пры Беларускім політэхнічным інстытуце таксама ёсць вячэрнія і завочныя курсы, якія працуюць ужо трынаццаты год. Штогод на гэтых курсах займаюцца каля дзвюх тысяч юнакоў і дзяўчат. У асноўным гэта лепшая частка рабочай і сельскай моладзі, якую пасылаюць на вучобу прадпрыемствы, калгасы ці саўгасы. На курсах асноўная ўвага аддаецца фізіка-матэматычнай падрыхтоўцы. Вывучаецца таксама хімія, руская мова і літаратура. Навучанне вядзецца па праграме для паступаючых у вышэйшыя тэхнічныя навучальныя ўстановы. На падрыхтоўчых курсах заняты лепшыя педагогі політэхнічнага інстытута, а таксама спецыялісты іншых навучальных устаноў. Выкладанне наладжана з улікам спецыфікі паступлення ў політэхнічны інстытут.

Зразумела, што паспяхова займаюцца на курсах толькі тыя, хто сістэматычна наведвае лекцыі і выконвае дамашнія заданні. Большасць слухачоў падрыхтоўчых курсаў паспяхова вытрымлівае конкурсныя экзамены ў політэхнічны інстытут, а таксама ў іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі. Напрыклад, з шасцісот выпускнікоў курсаў 1968 года ў політэхнічны інстытут залічаны студэнтамі чатырыста дваццаць чалавек. А ў 1969 годзе з тых, хто скончыў вячэрнія падрыхтоўчыя курсы, было залічана 500 чалавек.

Акрамя вячэрніх курсаў, пры політэхнічным інстытуце ёсць і завочныя. Яны створаны для сельскай моладзі рэспублікі. Слухачы завочных курсаў займаюцца па адной праграме. Яны забяспечваюцца метадычнымі дапаможнікамі па матэматыцы, фізіцы, хіміі, рускай мове і літаратуры. Гэта памагае сістэматычна засвойваць вучэбны матэрыял. У метадычных дапаможніках ёсць кантрольныя пытанні па кожнай тэме, прыклады, рашэнні тыповых і найбольш цяжкіх задач. Пасля кожнай тэмы навучэнцы выконваюць канкрэтныя заданні, якія рэцэнзуюць вопытныя выкладчыкі інстытута: яны даюць разгорнуты аналіз памылак, падказваюць ход рашэння задач, раяць, якую літаратуру трэба прачытаць.

У выхадныя дні для слухачоў завочных курсаў у памяшканні інстытута праводзяцца кансультацыі. А ў канцы навучальнага года іх выклікаюць у інстытут на аглядавыя заняткі па матэматыцы, фізіцы, хіміі, рускай мове і літаратуры.

Завочная падрыхтоўка дае таксама добрыя вынікі. Так, напрыклад, летась з пяцісот пяцідзесяці слухачоў, якія займаліся завочна на курсах, студэнтамі Беларускага політэхнічнага інстытута сталі чатырыста чалавек. Многія паступілі ў іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Варта яшчэ сказаць і пра такую форму падрыхтоўкі будучых студэнтаў, як кароткатэрміновыя курсы. Іх таксама наладжвае наш інстытут, пераважна для сельскай моладзі. Пазалетась на працягу ліпеня ў Смаргоні такія курсы наведвала трыццаць чалавек. Юнакі і дзяўчаты займаліся штодзённа па шэсць гадзін. Заняткі праводзілі вопытныя настаўнікі мясцовых школ. Месяц напружанай работы даў добрыя вынікі. З трыццаці слухачоў дваццаць сем паступілі ў Беларускі політэхнічны інстытут. Кароткатэрміновыя курсы працавалі ў Астравецкім, Нясвіжскім, Чашніцкім і некаторых іншых раёнах, на Лукомльскай ДРЭС, дзе партком будоўлі памог нашаму інстытуту арганізаваць падрыхтоўчыя курсы.

На жаль, яшчэ не ўсюды нашы захады сустракаюць належную ўвагу і разуменне. Летась у Барысаўскім раёне мы хацелі стварыць кароткатэрміновыя падрыхтоўчыя курсы, але кіраўнікі раёна нам на памаглі, і добрая справа не была здзейснена.

Клопаты аб падрыхтоўцы тэхнічнай інтэлігенцыі — гэта агульныя клопаты.

**Ядвіга МАЦВЕЕВА,**
**загадчык падрыхтоўчых курсаў**
**Беларускага політэхнічнага**
**інстытута.**

# НАШ ПРАКТЫКУМ

## ФІЗІКА

**Задачы, якія прапаноўваліся на ўступных экзаменах летась у Мінскім радыётэхнічным інстытуце.**

1. Ракета запушчана вертыкальна ўверх з паскарэннем 40 м/сек$^2$. Якой максімальнай вышыні дасягне ракета, калі паліва згарае за 2 мін? Праз які час ад пачатку руху ракета ўпадзе на зямлю? Лічыць паскарэнне свабоднага падзення пастаянным і роўным 10 м/сек$^2$.

2. Сярэдняя вышыня спадарожніка над паверхняй Зямлі роўна 1700 км. Вызначыць яго хуткасць і перыяд абарачэння, калі радыус Зямлі роўны 6370 кіламетраў.

3. Пругкі мяч падае з вышыні 2 м. Пры кожным удары аб падлогу мяч траціць 19% энергіі. Праз які час мяч зусім спыніцца?

4. Дзве лінейкі — медная і жалезная — пакладзены адна на другую так, што супадаюць толькі з аднаго боку. Вызначыць даўжыню лінеек пры 0° С, ведаючы, што рознасць іх даўжыні пры любой тэмпературы складае 10 см. Каэфіцыент лінейнага расшырэння медзі $17.10^{-6}$, а жалеза $12.10^{-6}$ град$^{-1}$.

5. Аб'ём паветра ў пакоі 100 м$^3$. Якая маса паветра выйшла з яго пры павышэнні тэмпературы з 10° С да 20° С, калі атмасферны ціск роўны 770 мм рт. сл.?

6. Паміж абкладкамі плоскага кандэнсатара знаходзяцца дзве пласцінкі: шкляная таўшчынёй 1 мм і мармуровая таўшчынёй 4 мм. Да абкладак прыкладзена напружанне 1000 в. Вызначыць падзенне напружання на абедзвюх пласцінках, калі праводзімасць шкла і мармуру адпаведна роўна $10^{-10}$ ом$^{-1}$м$^{-1}$ і $10^{-8}$ом$^{-1}$м$^{-1}$.

7. Гальванометр з унутраным супраціўленнем 100 ом, разлічаны на ток $2.10^{-5}$а, падключаны ў якасці вымяральніка да тэрмапары з эрс 0,02 в і ўнутраным супраціўленнем 1 ом. Якім супраціўленнем трэба зашунтыраваць гальванометр, каб стрэлка не выходзіла за межы шкалы?

8. На якой глыбіні пад вадой знаходзіцца вадалаз, калі ён бачыць адлюстраванымі ад паверхні вады тыя часткі гарызантальнага дна, якія размешчаны ад яго на адлегласці 15 м і больш? Рост вадалаза 1,8 м. Паказчык праламлення вады 1,33.

9. Светлавая кропка знаходзіцца на вышыні 20 см над плоскапаралельнай пласцін-

кай. Ніжняя паверхня пласцінкі пакрыта срэбрам. На якой адлегласці ад верхняй паверхні пласцінкі знаходзіцца ўяўны адлюстровак светлавой кропкі, калі таўшчыня пласцінкі 2 см?

**Рашэнні будуць змешчаны ў наступным нумары.**

**Падрыхтаваў Вікенці ВАРЫКАШ,**
**дацэнт Мінскага радыётэхнічнага інстытута.**

# РАШЭННІ ЗАДАЧ ПА МАТЭМАТЫЦЫ

**ЗАДАЧА № 1.**

Трэба знайсці бакавую паверхню $S$ піраміды $QAMND$ з вяршыняй у кропцы $Q$ і асновай $AMND$. Асновай дадзенай піраміды з'яўляецца квадрат $ABCD$. Далей, $AD \parallel MN$, выходзіць, што $MN \parallel BC$. Чатырохвугольнік $BCNM$ — трапецыя. $\triangle AMQ = \triangle BNQ = \triangle DNQ$. Падлічым плошчу трохвугольніка $BNM$, ведаючы, што плошча $S_{\triangle QMN} = a^2$.




Маем

$$S_{\triangle BQC} = \frac{b^2}{4}; \quad \frac{S_{\triangle BQC}}{S_{\triangle MQN}} = \frac{b^2}{4a^2} = \frac{(BC)^2}{(MN)^2}; \quad \frac{BC}{MN} = \frac{b}{2a}.$$

$$\frac{S_{\square BCNM}}{S_{\triangle BNM}} = \frac{MN + BC}{MN} = 1 + \frac{BC}{MN} = 1 + \frac{b}{2a} = \frac{2a+b}{2a}.$$

$$S_{\triangle BQN} = S_{\triangle MQN} + S_{\triangle BNM} = a^2 + S_{\triangle BNM} = a^2 + \frac{S_{\triangle BMN}}{S_{\square BCNM}} \times$$

$$\times S_{\square BCNM} = a^2 + \frac{2a}{2a+b}\left(\frac{b^2}{4} - a^2\right) = \frac{ab}{2}.$$

Цяпер знаходзім плошчу $S$:

$$S = S_{\triangle AQD} + 2 \cdot S_{\triangle BQN} + S_{\triangle MQN} = \frac{b^2}{4} + ab + a^2 = \left(\frac{b}{2} + a\right)^2.$$

**ЗАДАЧА № 2.**

Знайсці ўсе сапраўдныя значэнні $x$, для якіх чыста ўяўны лік

$$[\log_{0,5} \cdot \log_4 \cdot \log_5 (x^2 + 9) - 1]\, i$$

паказваецца кропкай, якая ляжыць на верхняй частцы ўяўнай восі. Усе патрэбныя нам значэнні $x$ знойдзем, рашыўшы няроўнасць

$$\log_{0,5} \log_4 \log_5 (x^2 + 9) - 1 > 0.$$

Умовы задач гл. № 1 часопіса.





Рашым гэтую няроўнасць, выкарыстоўваючы ўласцівасці лагарыфмічнай функцыі:

$$\log_{0,5} \log_4 \log_5 (x^2 + 9) > 1,$$
$$0 < \log_4 \log_5 (x^2 + 9) < 0,5,$$
$$1 < \log_5 (x^2 + 9) < 2,$$
$$5 < x^2 + 9 < 25,$$
$$x^2 < 16,$$
$$-4 < x < 4$$

**Адказ:** $-4 < x < 4$.

**ЗАДАЧА № 3.**

Рашэнне ўраўнення

$$4 (\log_2 \cos x)^2 + \log_2 (1 + \cos 2x) = 3.$$

Лічачы $\cos x > 0$ і ведаючы, што $1 + \cos 2x = 2\cos^2 x$, атрымаем $4 (\log_2 \cos x)^2 + 2 \log_2 \cos x + 1 = 3$, або $2 (\log_2 \cos x)^2 + \log_2 \cos x - 1 = 0$. Абазначыўшы $\log_2 \cos x = t$ і рашыўшы ўраўненне

$$2t^2 + t - 1 = 0,$$

знойдзем $t_1 = -1$, $t_2 = \frac{1}{2}$. Таму што $\log_2 \cos x$ дадатным быць не можа, то

$$\log_2 \cos x = -1;$$
$$\cos x = \frac{1}{2}.$$
$$x = \pm \frac{\pi}{3} + 2\pi n.$$

**Адказ:** $x = \pm \frac{\pi}{3} + 2\pi n$; $n = 0;\ \pm 1;\ \pm 2;\ \ldots$.

**ЗАДАЧА № 4.**

Возьмем асявое сячэнне $\triangle SAB$ конуса. Праз $x$ абазначым шукаемы вугал. Тады $\angle SAO = x$; $O$ — цэнтр асновы конуса; $O_1$ — цэнтр упісанага ў конус шара; $O_1P$ — радыус шара; $O_1P \perp AS$; $AO_1$ — бісектрыса вугла $\angle SAO$; $AO$ — радыус асновы конуса; $AS$ — утваральная;




$$\frac{AP}{PO_1} = \frac{AO}{PO_1} = \operatorname{ctg} \frac{x}{2};$$

$$\frac{AS}{PO_1} = \frac{AP + PS}{PO_1} = \frac{AP}{PO_1} + \frac{PS}{PO_1} = \operatorname{ctg} \frac{x}{2} + \operatorname{tg} x.$$

Паводле ўмовы задачы складаем ураўненне:

$$\pi \cdot AO \cdot AS + \pi (AO)^2 = 8\pi (PO_1)^2,$$

або, дзелячы абедзве часткі на $\pi (PO_1)^2$, атрымаем

$$\frac{AO}{PO_1} \cdot \frac{AS}{PO_1} + \left(\frac{AO}{PO_1}\right)^2 = 8; \quad \operatorname{ctg} \frac{x}{2}\left(\operatorname{ctg} \frac{x}{2} + \operatorname{tg} x\right) + \operatorname{ctg}^2 \frac{x}{2} = 8.$$

Ведаючы, што $\operatorname{tg} x = \frac{2 \operatorname{tg} \frac{x}{2}}{1 - \operatorname{tg}^2 \frac{x}{2}}$, знойдзем $\frac{2}{\operatorname{tg}^2 \frac{x}{2}} + \frac{2}{1 - \operatorname{tg}^2 \frac{x}{2}} = 8.$

Апошняе ўраўненне можна запісаць у выглядзе

$$4\operatorname{tg}^4\frac{x}{2}-4\operatorname{tg}^2\frac{x}{2}+1=0,$$

або

$$\left(2\operatorname{tg}^2\frac{x}{2}-1\right)^2=0,$$

адкуль

$$2\operatorname{tg}^2\frac{x}{2}=1,\quad \operatorname{tg}\frac{x}{2}=\frac{\sqrt{2}}{2}$$

$\left(\operatorname{tg}\frac{x}{2}\right.$ адмоўным быць не можа, бо $\left.0<x<\frac{\pi}{2}\right)$.

$$\frac{x}{2}=\operatorname{arctg}\frac{\sqrt{2}}{2}.$$

**Адказ:** $x=2\operatorname{arctg}\frac{\sqrt{2}}{2}$.

**ЗАДАЧА № 5.**

Мы маем у левай частцы няроўнасці квадратны трохчлен адносна $x$. Ён будзе адмоўны пры ўсіх $x$, калі дыскрымінант трохчлена адмоўны. Таму шукаемыя значэнні $a$ знойдзем з няроўнасці

$$\log^2_{0,5}a+2\log_{0,5}a-3<0.$$

Абазначыўшы $\log_{0,5}a=t$ і рашыўшы няроўнасць $t^2+2t-3<0$,

знойдзем $-3<t<1$,

або $-3<\log_{0,5}a<1$,

$(0,5)^{-3}>a>0,5$;

$0,5<a<8$.

**Адказ:** $a=1;\ 2;\ 3;\ 4;\ 5;\ 6;\ 7$

**ЗАДАЧА № 6.**

Ведаючы, што $\cos 2x=\sin\left(\frac{\pi}{2}-2x\right)=2\sin\left(\frac{\pi}{4}-x\right)\cos\left(\frac{\pi}{4}-x\right)=-2\sin\left(x-\frac{\pi}{4}\right)\cdot\cos\left(x-\frac{\pi}{4}\right)$, атрымаем:

$$2^{\operatorname{tg}\left(x-\frac{\pi}{4}\right)}-3\left(\frac{1}{4}\right)^{-\frac{1}{2}\operatorname{tg}\left(x-\frac{\pi}{4}\right)}+2=0,$$

або

$$2^{\operatorname{tg}\left(x-\frac{\pi}{4}\right)}-3\cdot2^{\operatorname{tg}\left(x-\frac{\pi}{4}\right)}+2=0;$$

$$-2\cdot2^{\operatorname{tg}\left(x-\frac{\pi}{4}\right)}+2=0;$$

$$2^{\operatorname{tg}\left(x-\frac{\pi}{4}\right)}=1;\ \operatorname{tg}\left(x-\frac{\pi}{4}\right)=0;$$

$$x-\frac{\pi}{4}=k\pi,\quad x=\frac{\pi}{4}+k\pi.$$

**Адказ:** $x=\frac{\pi}{4}+k\pi$;

$k=0;\ \pm1;\ \pm2;\ \ldots$

**ЗАДАЧА № 7.**

Рашэнне ўраўнення $\frac{1}{\cos x}+\frac{1}{\sin x}=2\sqrt{2}$.

Лічачы $\cos x\neq0$ і $\sin x\neq0$, перапішам ўраўненне ў выглядзе





$$\frac{1}{\sqrt{2}}\sin x+\frac{1}{\sqrt{2}}\cos x=2\sin x.\ \cos x,$$

або

$$\sin\left(x+\frac{\pi}{4}\right)=\sin 2x.$$

Рашаючы апошняе ўраўненне, атрымаем

$$x_1=-\frac{\pi}{4}+2k\pi,\quad k=0;\ \pm1;\ \pm2;\ \ldots$$

$$x_2=\frac{\pi}{4}+\frac{2k\pi}{3},\quad k=0;\ \pm1;\ \pm2;\ \ldots$$

Значэнні $x_1$ з'яўляюцца таксама значэннямі і для $x_2$, таму, аб'ядноўваючы, атрымаем

$$x=\frac{\pi}{4}+\frac{2k\pi}{3}.$$

**Адказ:** $x=\frac{\pi}{4}+\frac{2k\pi}{3}$;

$k=0;\ \pm1;\ \pm2;\ \ldots$

**У сакавіку мы надрукуем парады тым, ХТО МАРЫЦЬ СТАЦЬ БІЁЛАГАМ.**



Зноў
вам нагадаю
птушак шлях стракаты.—
За ваўчком —
трамваяў электрычных рысь.
Хто з вас некалі
турэмных вокнаў краты
і не драпаў
і не грыз?!



Ленін
і цяпер
жывей ад усяго.
Нашы веды —
сіла
і аружжа.

Васіль ШАРАНГОВІЧ. З серыі ілюстрацый да паэмы У. Маякоўскага «УЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ ЛЕНІН». Пераклад Петруся Броўкі.



Каб час гэты
стаў нам
карысцю вялікай,
каб дні перадышкі
не сталіся марнымі,
сябе не муштроўкай,
свядомасцю выкуй,
стройся радамі
Чырвонай Арміі.



Воблакі і дым змяшаліся,
усё роўна,
як аднаго палка
радавыя.
Неба ўжо
робіцца падвойным,
засланяюць воблакі
дымы густыя.

# ПРАБЛЕМЫ ФАНТАСТЫКІ І КЛОПАТЫ ФАНТАСТА



## ІНТЭРВ'Ю З СТАНІСЛАВАМ ЛЕМАМ

**Летась у кастрычніку мне давялося наведаць Польскую Народную Рэспубліку. Калі дэлегацыя прыбыла ў Кракаў, я выкарыстаў выпадак, каб сустрэцца з пісьменнікам, творчасці якога была прысвечана мая дыпломная работа.**

**Станіслаў Лем жыве на ўскраіне Кракава ў невялікім двухпавярховым доме. Яго рабочы пакой на другім паверсе. Першае, што кінулася ў вочы — шмат, вельмі шмат кніг на польскай, рускай, англійскай, французскай мовах. Усе чатыры сцяны да самай столі застаўлены стэлажамі. На пісьмовым стале — невялікая пішучая машынка, аркушы чыстай паперы. Сам Станіслаў Лем невысокі, лабасты, з уважлівымі цёмнымі вачыма.**

**Усведамляючы ўсю традыцыйнасць першага пытання, я ўсё-такі задаў яго:**

**— Як вы прыйшлі да жанру навуковай фантастыкі?**

— У кожным лёсе ёсць нейкая выпадковасць. Дваццаць гадоў назад я спрабаваў пісаць вершы, напісаў раман «Непатрачаны час», але падсвядома мяне вабіла тое, што цяпер называюць навуковай фантастыкай. Цікавілі пытанні сацыяльна-філасофскага плана, біялагічнае развіццё чалавека і яго каштоўнасць. А першы фантастычны раман напісаў нечакана для сябе самога. У Закапанэ я выпадкова сустрэў аднаго чалавека, разгаварыліся з ім пра фантастыку, пра тое, што ў Польшчы яна развіта мала. Я заявіў, што мог бы напісаць фантастычны раман. Размова на гэтым як быццам закончылася, а праз некаторы час атрымліваю з Варшавы прапанову заключыць кантракт на напісанне фантастычнага твора. Гэты чалавек быў дырэктар выдавецтва. І я напісаў «Астранаўтаў». Потым пайшлі апавяданні, другі раман — «Магеланава воблака»... Адным словам, як кажуць рускія, знайшоў жывінку. Вельмі многа няўдалых рэчаў, я думаю, працэнтаў трыццаць. У апошні час узнікла жаданне напісаць тэарэтычную кнігу па навуковай фантастыцы.



**— Якая з Вашых кніг Вам самім больш за ўсё падабаецца?**

— «Салярыс». А вам? — задаў Станіслаў Лем пытанне ў адказ.

**— «Вяртанне з зорак»,— адказаў я.**

— Аповесць «Салярыс» мне падабаецца самому, бо адкрывае новую тэму. Галоўная праблема фантастыкі — знайсці нешта новае, а ў гэтым жанры, у яго сучасным стане, знайсці новае надзвычай цяжка. Я лічу дасягненнем, што паказаў істоту і разумную і некантактную. Калі многа чытаеш фантастычнай літаратуры — новага амаль няма. Тэмы паўтараюцца. Хочацца ўнесці новае, прабіць сцяну. Сутыкненне людзей розных фармацый, формы кантактаў з жыхарамі іншых планет — усё гэта нясе новыя сэнсавыя магчымасці. Яны цікавыя і тым, што ляжаць паміж навуковай фантастыкай і фактамі.

**— Якія патрабаванні Вы прад'яўляеце да навуковай фантастыкі? Ці не лічыце Вы, што сучасны стан гэтага жанру літаратуры — рэч, у сваю чаргу, даволі фантастычная?**

— Сучаснае развіццё фантастыкі — заканамернае, і найвышэйшае яе развіццё назіраецца там, дзе яна чытаецца з найбольшай цікавасцю: у СССР, ЗША, Японіі. У гэтых краінах фантастыка папулярная, яе многа чытаюць. А там, дзе гэтага няма, няма цікавасці і для пісьменнікаў. Напрыклад, у ФРГ, Італіі, Францыі фантастыка яшчэ не прымаецца ўсур'ёз, але ў той жа час танная нізкапробная літаратура, коміксы наводняюць літаратурны рынак. Фантастыка — гэта літаратура праблем чалавека і навукі, літаратура пра будучыню. І калі народ чытае фантастыку — значыць, ён глядзіць уперад, значыць, звязвае свой лёс з лёсам навукі.

**— Магчыма, фантастыку недаацэньваюць?**

— Не кожны, хто бярэцца чытаць фантастыку, добра разбіраецца ў навуцы. Гэта нялёгка пры яе сучасным стане. Неабходна перапрацоўваць шмат інфармацыі. А што датычыць пісьменніка... з самых добрых намераў не заўсёды атрымліваюцца адпаведныя вынікі. Патрабаванні да фантастычнага твора? Навізна сюжэта, але фантастычнасць павінна быць не мэтай, а ўсяго толькі сродкам яе дасягнення. Сама мэта — імкненне больш дэталёва, больш поўна ведаць чалавека. Калі твор прадкажа, якім будзе стан фізікі праз тысячу гадоў, ён будзе геніяльным прадбачаннем, прагнозам, але, напэўна, не стане геніяльным раманам. Твор павінен быць напісаны пісьменна і добра, каб не было сумна яго чытаць. Бывае, ідэя цікавая, а кніга напісана сумна. Гэтым часта грэшаць навуковыя работнікі (акрамя Азімава, Яфрэмава). Напрыклад, Вінер. Асабіста мяне цікавіць комплекс ідэй і сюжэта. Як пісьменніку — хочацца ўвесь час знаходзіць нешта новае. Хачу паскардзіцца: гады ідуць і ўсё цяжэй пісаць, цяжэй апрацоўваць сюжэт, каб ён быў новы, каб не было ўжо вядомых сітуацый.

**— Як вы прыйшлі да ідэі бетрызацыі?**

— Спачатку я не меў намеру пісаць на гэтую тэму, гэта значыць, гэтай ідэі не было. Проста хацеў напісаць, як чалавек вяртаецца на сваю планету, дзе не быў 100 гадоў, і пра тое, якія змены за гэты час адбыліся ў культуры, норавах, чаго дасягнулі навука і тэхніка. Гэтая ідэя сама па сабе вельмі ці-

кавая і ў чыста фантастычным і ў псіхалагічным плане. У працэсе работы, натуральна, узнікла неабходнасць паказаць змены, што адбыліся. Адсюль вынікі, якімі я іх бачу. Мне здаецца, кніга не зусім удалася ў структурных адносінах, не зусім стройная кампазіцыйна, некаторыя калізіі зніжаны і зводзяцца да любві, якая памагае навесці мост паміж людзьмі, што вярнуліся, і тымі, што засталіся. Пры завяршэнні кнігі з'явіліся цяжкасці, як закончыць яе, і яна ляжала цэлы год без канцоўкі, пасля прыйшло ў галаву зрабіць так, як зроблена. Дарэчы, «Салярыс» паўтара года ляжала без канцоўкі,— ніяк не мог прыдумаць. Асаблівасць «Вяртання з зорак», на маю думку, і яе недахоп, тое, што я не адважыўся сказаць, на чыім баку праўда: тых, хто застаецца на Зямлі, ці тых, хто ляціць да зорак. І тое і другое мае свой сэнс, і я не хацеў перашкаджаць чытачу знаходзіць адказ для сябе асабіста.

Я не хачу сказаць, што ўсё, што я пішу, гэта — альбо алегорыя, альбо абавязкова будучыня. Чытач не павінен канкрэтна вызначаць рамкі аднаго і другога — у гэтым майстэрства пісьменніка. Вузка пастаўленыя праблемы гістарычнага развіцця, якія страцілі актуальнасць у сувязі з новай эпохай, могуць мець значэнне і праз сто гадоў. Нельга да канца вызначыць сэнс кнігі. Гэта апошняе залежыць ад пункту гледжання чытача.

**— Цяпер шмат гавораць і пішуць пра небяспеку, што чакае чалавецтва на шляху ў будучыню, небяспеку, якая можа «адмяніць» будучыню, знішчыўшы людзей, або ператварыць гэтую будучыню ў пекла. Пра гэта асабліва многа пішуць фантасты.**

— Гэта праўда, фантасты часта іграюць ролю Касандры. Але справа ў тым, што небяспека існуе і будзе існаваць. Не ўсё залежыць ад людзей і ўрадаў. Атамная раўнавага сучаснасці можа парушыцца, гэта раўнавага страху. Галоўная небяспека ў пашырэнні ядзернай зброі па ўсім зямным шары, калі ёю будуць валодаць хворыя маніяй велічы розныя «ўплывовыя асобы» ў ваенных мундзірах, якім наогул няма справы ні да чалавецтва, ні да лёсу сваёй радзімы. Але гаварыць пра небяспеку — не значыць займацца пахаваннем жывога. Усе спадзяюцца на лепшае. Пісьменнік не можа не думаць пра ўсе гэтыя магчымасці. Менавіта таму было б цікава паляцець у космас і вярнуцца праз сто гадоў. На мой погляд, вельмі важная пагроза, якую я называю «мегабітнай бомбай». Гэта перавытворчасць інфармацыі. Калі гаварыць пра мастацтва — каштоўных твораў будзе станавіцца ўсё больш і больш, так што нават самы заўзяты спажывец культурных каштоўнасцей не здолее справіцца з гэтай лавінай. Адначасова будуць тварыць сотні Рафаэляў, Моцартаў, Фермі, і можа атрымацца, што паэты будуць тварыць толькі для паэтаў, мастакі — толькі для мастакоў, а ў цэлым не хопіць жыцця, каб пазнаёміцца з усім тым, што ўзнікае ў адной якой-небудзь галіне мастацтва. Між іншым, перавытворчасць інфармацыі ў галіне творчасці — непазбежны вынік перанаселенасці планеты.

**— Вы сказалі, што паляцелі б у космас з тым, каб вярнуцца праз сто гадоў?**

— Мне, як фантасту, было б вельмі цікава, я хачу нават сказаць, прафесійна цікава было б паляцець і на свае вочы ўбачыць той свет будучыні, пра які ідзе столькі спрэчак. Вядома, паляцець і вярнуцца. Вельмі хацелася б, але, на жаль, гэта цяпер нерэальна.

**— Скажыце, калі ласка, як Вы ўспрынялі палёт Гагарына?**





— Не думаў, што дажыву да гэтага дня, і быў надзвычай здзіўлены, гэта быў проста эмацыянальны ўдар. Пасля даводзілася асабіста сустракацца з касманаўтамі. Бо — фантастыка фантастыкай, але калі ў сапраўднасці адбываецца такая падзея, яна ўзрушвае і выклікае пэўны перагляд поглядаў на будучыню.

**— А «Зорныя дзённікі Іёна Ціхага» напісаны адразу або яны пісаліся паступова?**

— Упершыню Іён Ціхі ўпамінаецца ў зборніку «Сезам». Дарэчы, гэты зборнік я лічу няўдалым, ён мне не падабаецца — там няма смеласці фантазіі, няма таго, што я называю фантастыкай смелага. У гэтым зборніку было тры ці чатыры апавяданні пра Іёна Ціхага. Іх я зняў, дадаў новыя і выдаў пад назвай «Зорных дзённікаў». Пазней прыёмам «пастаяннага героя» напісаны цыкл апавяданняў пра зорнага навігатара Піркса. Гэты прыём апраўдвае сябе — няма патрэбы вяртацца кожны раз да вытокаў характару.

**— Вучоныя-адзіночкі: Каркаран, Дэкантор, Лімфатэр — гэта таксама прыём?**

— Каркаран, Дэкантор — алегорыя філасофска-кібернетычнай выдумкі. Крыху звар'яцелы вучоны — літаратурны прыём. Гэтыя тыпы вучоных ёсць і ў «Эдэме» і ў «Салярысе». А наогул яны немагчымыя «буйным планам». Немагчыма аднаму ляцець да зорак, рэдкая з'ява, каб адзін чалавек зрабіў вялікае адкрыццё. Поспехі навукі суправаджаюцца яе імклівай дыферэнцыяцыяй, немагчыма, як у часы Адраджэння, аднаму чалавеку сфакусіраваць усе веды эпохі. Ёсць лётчыкі і ёсць вучоныя, але ў космасе павінна быць мінімальнае размеркаванне функцый. Гэта цяжка, але я думаю, што, безумоўна, вузкіх спецыялістаў усё-такі не будзе.

**— Што вы скажаце пра артыкул К. Андрэева «Лем супраць Лема»?**

— Артыкул «Ці небяспечная тэхніка без небяспекі?» я напісаў скорасным метадам па просьбе «Литературной газеты». К. Андрэеў зусім правільна заўважыў супярэчнасці тэарэтычных палажэнняў артыкула і ідэй у маіх кнігах. Наогул кажучы, гэта тыповая для мяне з'ява, калі мне даводзіцца выступаць або пісаць, не падрыхтаваўшыся. Так, напрыклад, адбылося з выступленнем на семінары ва ўніверсітэце, дзе я павінен быў, не маючы часу на падрыхтоўку, рабіць даклад «Біялогія і каштоўнасці». І калі часопіс «Студыя філёзофічна» папрасіў у мяне гэты даклад, я не адразу яго паслаў, а перапрацаваў, і ад першапачатковага засталося не больш пятнаццаці працэнтаў.

**— Фантасты любяць пісаць пра войны паміж цывілізацыямі. Што Вы скажаце пра гэта?**

— Войны паміж цывілізацыямі, якія выйшлі ў космас, малаверагодныя. Фізіка гэтыя войны забараняе. Працягласць пералётаў, зброя, якая будзе спажываць каласальную колькасць энергіі, робяць войны бессэнсоўнымі. Значыць, пытанне можна паставіць і наадварот: як ваяваць, калі ваяваць нельга? Развіццё тэхналогіі ідзе ў тым напрамку, што і на Зямлі весці войны становіцца ўсё цяжэй.

**— Скажыце, калі ласка, хто Вам падабаецца з савецкіх фантастаў?**

— Люблю братоў Стругацкіх. Вельмі цікавы іх раман «Цяжка быць богам». Ён адпавядае ўсім крытэрыям, якія я патрабую ад твора навуковай фантастыкі: навізна, філасафічнасць. Добра,— я кажу як пісьменнік,— добра напісана, моцна. У савецкай фантастыцы з'явіліся жанчыны, гэта прыемна здзіўляе. Пра Івана Яфрэмава гаварыць цяжка — гэта ўжо амаль класік. Добрыя Бяляеў, Снегаў, Г. Гор. Яго «Урыванне ў Персей» — нешта накшталт кампрэсіі ідэй, але кніга расцягнута. У жыцця высокія тэмпы, і літаратура павінна адлюстроўваць гэта.

**— А што Вы скажаце пра заходнюю фантастыку?**

— На Захадзе пішацца вельмі многа фантастычнай літаратуры і з яе працэнтаў дзевяноста — бязглуздзіца, дэтэктывы з пашыранай сферай дзеяння гангстэраў і шпікаў. Вельмі падабаецца Рэй Брэдберы. Ён цудоўны стыліст і шмат страчвае ў перакладах, асабліва страчваецца лірычнасць. У некаторых рэчах у яго празмеру мала драматычнасці і сентыментальнасці.

**— Цяпер дазвольце задаць Вам некалькі чыста журналісцкіх пытанняў. Што вы думаеце як фантаст пра «лятаючыя талеркі»?**

— Не веру я ў гэтыя «лятаючыя талеркі», гэтак жа, як не веру ў тэлепатыю. Тут я вялікі рацыяналіст. Асабліва здзіўляе адна дэталь: па газетах, былі аварыі «лятаючых талерак», але чамусьці няма ніякіх абломкаў, асколкаў.

**— Ваш любімы пісьменнік, вучоны, мастак, кампазітар?**

— Вільям Шэкспір, Норберт Вінер, Іеранім Босх, Фрыдэрык Шапэн.

**— Ваша любімая кніга?**

— «Дон-Кіхот».

**— Літаратурны герой?**

— Гамлет.

**— І яшчэ: «Што ж такое ўсё-ткі «сепулькі»?**

Станіслаў Лем ўсміхаецца. «А я і сам не ведаю, што такое гэтыя сепулькі,— гаворыць ён.— Слова гонару, не ведаю».

Гутарку вёў **Станіслаў САЛАДОУНІКАУ.**



# ВАРУШАЧЫ ПАМЯЦЬ



**Аляксей Коршак і Ісмаіл Александровіч. 1938 год.**

Табе, Аляксей, пяцьдзесят... Ты крыху ссутуліўся, памажнеў. На скронях ледзьледзь пасвятлелі твае русявыя валасы, у вачах па-ранейшаму глыбокі роздум, а ля вуснаў застыла ўсмешка, поўная ўвагі і дабраты...

На маёй кніжнай паліцы звыш дзесятка тваіх зборнікаў вершаў, раман (а мо вялікая эпічная паэма) пра вайну, які ты пачаў пісаць яшчэ тады, у 1943 годзе. Часцяком ты заходзіш да мяне, я да цябе, сустракаемся ў рэдакцыях, чую твой голас у тэлефоннай трубцы:

— Давай паедзем у Капыль... Чаго? Проста паходзім, з людзьмі пагаворым. Можа што і напішацца... Заглянем у маю Закопанку...

Так магло быць, але так ніколі не будзе. Няма і дзесяці зборнікаў, ёсць толькі тоненькая кніжачка «Абпаленыя пялёсткі», выдадзеная пасмяротна.

Аляксею Коршаку магло быць сёлета пяцьдзесят (нарадзіўся ён 22 лютага 1920 года), але яму будзе заўсёды толькі дваццаць пяць. Бо загінуў таленавіты паэт і мой добры сябар напрадвесні, 27 лютага 1945 года ў далёкай і хмурай Усходняй Прусіі. Яго шчаслівейшыя аднагодкі становяцца дзядамі, а Аляксей, малады, спакойны і, як заўсёды, крышачку задумёны, пазірае на мяне.

Капыляне старэйшага пакалення памятаюць, як у канцы Какорыцкай вуліцы неяк хутка выраслі сцены двухпавярховай школы. Было гэта, здаецца, у 1933 годзе. Складзеная з яловых круглякоў будыніна выглядала весела і прывабна, у класах былі прастор і сонца. З усяе ваколіцы пацягнуліся дзеці ў новую дзесяцігодку.

Прыйшоў у 1935 годзе з Доктаравіцкай сямігодкі ў восьмы клас і Аляксей (я тады вучыўся ў сёмым). Знаёмства наша адбылося ў першы ж дзень вучобы. Мой старэйшы брат Ісмаіл вучыўся таксама ў восьмым класе і пасля ўрокаў прывёў Аляксея да нас у хату: нейкім чынам новы вучань уведаў, што ў нас шмат кніг.

Брата некуды паслала маці, таму я павёў Аляксея ў бакоўку, дзе на самаробных паліцах стаялі кнігі. Сарамяжы і скупы на слова, хлопец узяў тады ў нас добры дзесятак кніг, і — о, дзівак! — усё гэта былі зборнікі вершаў. Праз некалькі дзён ён зноў выбіраў кнігі, а праз які месяц-два стаў у нашым доме сваім чалавекам. Забярэцца ў бакоўку і корпаецца на паліцах. Вучоба яму давалася лёгка, над падручнікамі ён сядзеў мала, увесь час аддаваў чытанню.

Зімовымі вечарамі маці запальвала ў грубцы, ставіла чыгунок бульбы, я прыносіў са склепа міску капусты. Калі сілком усаджвалі Аляксея за стол, ён браў якую бульбіну і лыжку шаткаванкі. За чужым сталом, на людзях, адчуваў сябе заўсёды няёмка. Іншым чалавекам ён выглядаў, калі збіралася ў нас свая вучнёўская братва. Аляксей тады мог парагатаць, расказаць што-небудзь смешнае.

Кватараваў Коршак непадалёку ад нас, на Дубніцкай вуліцы. Побач жылі хлопцы з Доктаравіцкай школы ці проста знаёмыя і аднакласнікі. Збіралася вясёлая кампанія, якая завальвалася на вячоркі да дзяўчат ці чвэрыла якія жарты дома. Аляксей уцякаў тады да нас або ішоў у нардом, дзе была даволі багатая бібліятэка.

Зрэдку хлопцам удавалася ўцягнуць у свае начныя паходы Аляксея. Колькі было пасля з яго кепікаў і жартаў! А ён маўчаў і загадкава пасміхаўся. Аднойчы пасля такой начной вылазкі Аляксей прыбег да нас вясёлы і ўсхваляваны. Мы зачыніліся ў бакоўцы, і ён даў майму брату сшытак, у якім была вясёлая паэмка «Капрызы фартуны» — пра школьных сяброў і іхняе жыццё. Хапіла перцу ўсім: і знаёмым вучням, у тым ліку мне з братам, і нашым настаўнікам. Падзеі разгортваліся на фоне капыльскіх навін, падаваліся з лёгкім гумарам і дасціпным жартам. Брат паспеў дачытаць паэму да палавіны, як у хату ўварваліся раз'юшаныя героі паэмы. Пачалася валтузня, хлопцы хацелі адабраць і знішчыць сшытак, але дужы Аляксей не даўся. Праўда, пасля героі паэмы дабраліся-такі да таго сшытка і пусцілі яго з дымам...

Нядаўна, пераглядаючы Коршакаў архіў, я натрапіў на чарнавікі, дзе захаваліся кавалачкі паэмы. Пачыналася яна гімнам роднаму мястэчку:

*Капыль, Капыль! Мой любы дружа,*
*Люблю я строгі выгляд твой,*
*Тваёго нардому корпус дужы,*
*Сады з зялёнаю ліствой...*
. . . . . . . . . . . . . .
*Як я люблю дзяўчат спяванкі,*
*Што падпіраюць ноччу плот,*
*Тваю брахалаўку й Русанкі,*
*Куды калісь хадзіў Санот...*
*О, светлае пары гулянкі,*
*О, далечы забытых год!*

Удалося разабраць яшчэ некалькі мясцін. Вось капыльскі побыт таго часу:

*Быў ясны дзень, прыгожы, светлы,*
*Як пчолы, гуў вакол кірмаш,*
*Хіляўся Эмала так ветла,*
*Як слуп, стаяў Карповіч наш,*
*Лузаў гарбузікі Заброцкі,*
*І цераз плошчу, як жабрак,*
*Цягнуў карзіну Максімовіч,*
*Высокі й тонкі, як гусак.* *

Было ў паэме многа гумару, сатырычных мазкоў, мясцін з падтэкстам, якія маглі зразумець толькі мы. Адначасова было шмат жывых і рэальных герояў, яркія малюнкі капыльскіх мясцін, проста памятных дэталей («было ля больніцы гумно — гарэла сённячы яно...»). Усё гэта надавала твору нейкі своеасаблівы каларыт.

Аляксей, вядома, узлаваў некаторых хлопцаў сваёй паэмай, але замацаваў свой аўтарытэт паэта. Многія з нас рыфмавалі для насценгазеты, і кожны ведаў, колькі над гэтым трэба было папасядзець. А тут за якія тры вечары з'явілася паэма! Дый якая!

Поспех першага твора акрыліў Аляксея, і ён прапанаваў выдаваць рукапісны літаратурны часопіс. Так з'явіўся першы нумар «Юнага племя», які прыгожа аформіў мой брат. Аляксей даў вершы, я прозу, хлопцы — гумар, сатыру і пароды. За зіму мы выпусцілі тры нумары. Вясной 1937 года праца наша трапіла ў рукі школьнаму начальству. Надоўга ўсчалася цеганіна і тузаніна. Найбольш шышак сыпанулася на Аляксееву галаву, на яго сталі насядаць настаўнікі.

Па-ранейшаму ён прыходзіў да нас, да позняга праседжваў у бакоўцы за кнігамі, мала гаварыў, зусім перастаў смяяцца. На нашыя роспыты адмоўчваўся ці пераводзіў гаворку на іншае. І раней ён не вельмі ахвотна паказваў каму свае вершы, а цяпер не хацеў пра іх гаварыць і аднекваўся:

— Не пішу ніякіх вершаў...

Аднак мы хутка даведаліся, што Коршак зрэдку друкуецца ў слуцкай раённай газеце, атрымлівае лісты з мінскіх рэдакцый. Пра гэта расказвалі хлопцы, што з ім кватаравалі. А вясною 1938 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явіліся два яго вершы. Мы ад душы радаваліся яго поспеху.

Потым надышло расстанне з капыльскай школай і школьнымі сябрамі. 22 чэрвеня 1938 года адбыўся выпускны вечар, у звязку з гэтай падзеяй Аляксей напісаў верш, які так і не адважыўся прачытаць...

* У Капылі брахалаўкай называлі цэнтр, дзе звычайна ўвечары збіралася моладзь; Санот і Максімовіч — вучні; Эмала — капыльскі жыхар; Карповіч і Заброцкі — настаўнікі.





Улетку ён разы са два прыходзіў да нас, каб дамовіцца з Ісмаілам наконт паездкі ў Мінск (брат таксама закончыў школу і збіраўся паступаць у інстытут). Пасля я атрымаў ад Коршака некалькі лістоў з Мінска (на жаль, яны не захаваліся), ён вучыўся на літфаку педінстытута імя М. Горкага. Неўзабаве і я прыехаў вучыцца ва ўніверсітэт. Аляксей узяў нада мной апеку і знаёміў са сталіцай. Аднак у Мінску я доўга не затрымаўся: праз месяц мяне прызвалі ў армію і накіравалі ў Куйбышаў. Там я з радасцю чытаў Аляксеевы лісты.

Вось адзін з іх, датаваны 4 студзеня 1940 года. Жыў тады Коршак у студэнцкім інтэрнаце па вуліцы Энгельса, 52-а, пакой 4: *«Шлю табе некалькі сваіх вершаў. Праўда, яны не зусім апрацаваны, не хапае часу і ўмоў. Я імі яшчэ сам незадаволены....*

*У нас у інстытуце арганізуецца выданне літаратурнага часопіса. Ужо выбралі крыху матэрыялу, на днях прыступім да друкавання.*

*Чытаў зборнік вершаў Максіма Танка «На этапах»... Гэта ўжо другі зборнік М. Танка, які я прачытаў (уперад я чытаў «Пад мачтай», выданне 1938 г.). Вельмі таленавіты паэт».*

Лісты прыходзілі не так часта; летам, на канікулах, Аляксей не пісаў, але затое з Мінска дасылаў вестку кожны месяц. Звычайна гэта былі змястоўныя і сур'ёзныя думкі, трапныя назіранні над жыццём і студэнцкім побытам. Дзякуючы шчасліваму выпадку, у мяне захаваўся ліст, які я атрымаў у Баку. Аляксей пісаў: *«...Зараз на вуліцы гразь, дождж — нікуды не выйсці цяпер. А што такое гразь і дождж на Студэнцкай вуліцы (я там жыву), ты павінен ведаць. Не вуліца, а балота нейкае — Студэнцкае Палессе. А тут яшчэ грошы хутка скончацца, і, як падумаеш аб гэтым, дык кепска становіцца на сэрцы.*

*Ты ж ведаеш пастанову аб стыпендыі. Многія галаву згубілі. Але я не адступаю. Не даюць грошай? Напляваць! Пражывем і без іх. Людзі не так жылі, як мы, і заўсёды знаходзілі выхад з становішча... Наогул, трэба адзначыць, што кожная з'ява ў жыцці мае два бакі: дадатны і адмоўны. Такім чынам, і гэтая з'ява, аб якой мы гаворым, мае свой дадатны бок. А іменна: цяпер вучыцца не будуць розныя выпадковыя людзі, а іх, трэба прызнацца, многа ёсць. Па-другое, павысіцца якасць вучобы, будзе менш невукаў... Студэнты сталі цяпер больш вольнымі. Я хацеў сказаць, адчулі сябе смялей. Прапускаюць лекцыі, нікога не баючыся (у прыватнасці я)...*

*Што новага ў літаратурным жыцці? Выйшлі з друку зборнікі вершаў М. Багдановіча, М. Танка (на беларускай мове ў Мінску і на рускай — у Маскве), П. Пестрака, Н. Тарас, апавяданні М. Лынькова і інш. Выйшаў пяты нумар «Полымя рэвалюцыі», у ім змешчаны канец нядрэннага рамана Р. Мурашкі «Салаўі святога Палікара». Хутка павінны з'явіцца ў свет новыя кнігі А. Куляшова і П. Панчанкі, гісторыя беларускай дарэвалюцыйнай літаратуры для сярэдняй школы і інш.*

*Бывай! Аляксей.*

*Пішы па адрасу: БССР, Мінск, Студэнцкая, дом 42, кв. 6. 18.XI.40 г.»*

Радкі яшчэ з аднаго пісьма, напісанага перад самай вайною:

*«...Апошні месяц у мяне быў заняты больш, як калі. Патрэбна было здаваць экзамен, пісаць семінарскую работу, хадзіць на лекцыі і, акрамя гэтага, працаваць. Як табе вядома, я працую літкансультантам у «Чырвонай змене»...*

*Цяпер у нас, у інстытуце, пачаўся паход за беларускую мову. Быў загад дырэктара, каб пэўныя лекцыі чыталіся на беларускай мове. Гэта мне вельмі падабаецца...*

*Чытаю Спінозу...»*

●

Вайна застала Аляксея ў Мінску. На трэці дзень ён з сябрамі пехатою падаўся на ўсход, у кірунку Магілёва. Але прабіцца не ўдалося, давялося вярнуцца да бацькоў у родную Закопанку, што на Капыльшчыне.

Сустрэліся мы зноў у кастрычніку 42 года. Паспытаўшы баланды з гнілых буракоў і кукурузнага шалупіння, я ўцёк з лагера ваеннапалонных у Крывым Розе і пасля амаль двухмесячных начных пераходаў даваллокся ў вёску Сярэднікі, дзе зваліўся з ног. Там нейкі дзядзька злітаваўся нада мною і прывёз дамоў, у Капыль. На трэці дзень яшчэ ўранку прыпёрся Аляксей і адразу пытаецца пра мяне. Гэта вельмі здзівіла маіх бацькоў, пра маё вяртанне яны нікому яшчэ не гаварылі, бо баяліся, што мяне забяруць у слуцкі лагер ваеннапалонных.

У дзвярах паказалася знаёмая постаць, на твары радасная ўсмешка. Аляксей, дарагі браток! Мы сардэчна павіталіся. Тры гады як не бачыліся. Не так многа прайшло часу, а колькі неспадзяванага на свеце! У Капылі немцы. У сваю хату я прыйшоў тайком...

— Ну, Сцяпан, цябе і размалявалі! — заклапочана прамовіў Аляксей і прысеў на край ложка (пасля галадання, ацёкаў і жаўтухі я стаў лысы і азызлы тварам).

Слова за слова — і пачалася гутарка. Рахункі невясёлыя. Аляксей пакуль што працуе настаўнікам у Вуглоўскай пачатковай школе. Ён зрабіў выразны акцэнт на словах «пакуль што», падкрэсліваючы, што праца гэта да пары да часу... Гаворка перайшла на франтавыя навіны (восенню 42 года яны былі таксама невясёлыя), успомнілі знаёмых, школьных сяброў...

Маці прынесла пачастунак, я падняўся з ложка. Бяседа наша крыху ажывілася. Я распытваў Аляксея, што ён напісаў новае, але ён, як звычайна, не любіў гаварыць пра свае вершы і перавёў размову пра Я. Купалу («Ці праўда, што паэт памёр?»). Гэта для мяне была навіна...

Зімою з 42 на 43 год мы яшчэ некалькі разоў сустракаліся. Аднойчы напрадвесні Аляксей прыйшоў нейкі асабліва ўзбуджаны і, можна сказаць, радасны. Было гэта ў другой палове дня, і я ўгаварыў яго заначаваць у нас (да Закопанкі ад Капыля добрыя кіламетраў дзесяць). У тую ноч мы сядзелі з Аляксеем да позніх пеўняў. Ён прызнаўся, што чытаў некалькі нумароў «Праўды» з матэрыяламі пра разгром немцаў на Волзе, пахваліўся, што апошнія дні яму трохі пішацца. Задумаў напісаць вялікую рэч пра вайну.

Пасля Аляксей прапаў надоўга. Што з ім і дзе ён, я нічога не ведаў. На другі дзень вызвалення Капыля Савецкай Арміяй наш партызанскі ўзвод атрымаў заданне выехаць у Доктаравічы, каб наладзіць сувязь з камандаваннем воінскай часці, што там размясцілася і расчышчала кусты на лузе для палявога аэрадрома. Ад Доктаравіч рукой падаць да Закопанкі, і я адпрасіўся наведаць свайго сябра.

Я застаў яго ў садзе пад яблыняй. Яму заўтра ў армію. Мой прыход быў для яго такой жа радаснай неспадзяванкай, як некалі яго для мяне пасля вяртання ў Капыль. Тут жа, на мяжы пад яблыняй, мы пажадалі адзін аднаму самага лепшага і развіталіся... назаўсёды. Аляксей прасіў застацца: у абед збярэцца радня, пасядзімо, пагаворым. Я не мог. Каб жа ведаў тую бяду!..

Пехатою дайшоў Аляксей да Белавежскай пушчы, даганяючы сваю вайсковую часць — палявая пошта № 16131 «ы». Спачатку я атрымліваў ад яго скупыя словы, а потым прыйшоў салдацкі трохкутнік такога зместу:

*«6.XII.44 г.*

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*Жыццём вясны маёй убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачываю...*

*Вось гэтыя словы, дарагі мой сябар, нашага выдатнага Якуба Коласа я паўтараю са сваімі сябрамі амаль кожны дзень. Калі знаходзішся ад роднага краю на многія сотні кіламетраў, калі навокал цябе не рассцілаюцца шырокія палі роднае Случчыны, а кругом чужыя прасторы і іншыя людзі, калі перад тварам знаходзіцца яна, чужая, суровая, незразумелая і варожая Усходняя Прусія, тады асабліва вырастае ў сэрцы замілаванне да свайго далёкага роднага краю, за лёс і жыццё якога вядзем мы зараз зацятае змаганне...*

*Зараз у нас яшчэ цёплае па-восеньскаму надвор'е. Снег прабаваў церусіць, але зараз жа і гінуў. Вецер, гразь, часам дождж. Аднак і распісаўся я. Хопіць. Пяройдзем да справы. Я толькі што атрымаў твой ліст ад 15 лістапада. Цікавыя навіны паведамляеш ты мне, і я шчыра дзякую табе за гэта. Прышлі мне, браток, выразак такіх, якія мяне цікавяць. Ты ведаеш, якія. Адносна кніжак. Шкада, што многія з іх у цябе загінулі. У мяне дома нічога цікавага, на жаль, не засталося. Аднак схадзі калі-небудзь да нашых, пераглядзь мае кніжкі і забяры цікавейшыя. Бацькам, замест дазволу, пакажы мой ліст. Там дзесьці і мае вершы і сшыткі. Можаш іх забраць усе.*

*Дарэчы, Сцёпа, ёсць там недалёка ад цябе адна антыкварная рэч. У адной вёсцы Слуцкага раёна маецца камплект «Нашай нівы». Вось пастарайся дастаць яе, калі яна яшчэ цэлая. Шукай яе па гэткім адрасу: пас. Міхайлаўка Сярэдніцкага с/с, Канончык Павел.*

*У гэтай справе табе можа дапамагчы мая стрыечная сястра. Падумай над гэтым.*

**P. S** *Пахваліўся надвор'ем, а тут якраз пачаў ляпіць снег. Ну, бывай! Пішы. З нецярпеннем чакаю твайго пісьма.*

*Твой сябар Аляксей».*

Праз некалькі дзён прыйшоў новы ліст:

*«4.1.45.*

*Добры дзень, дарагі сябар!*

*Даўно ўжо не меў ад цябе лістоў. І сам не прыдумаю прычыны гэтаму. Праўда, цяпер я на новым месцы, і пісьмы твае на стары адрас да мяне не дойдуць...*

*Зараз я знаходжуся на фронце ва Усходняй Прусіі. Пішу табе ліст у бліндажы пад гром артылерыйскай кананады. Штосьці ўзбэнчыўся сёння нямчур і не хоча ціха сядзець. Жыццё франтавое пакуль ніштаватае. Трывожнае, праўда, але ж без гэтага нельга.*

*Маю адну просьбу: пішы хутчэй і больш і не забудзь прысылаць чаго-небудзь пачытаць з мінскіх газет і часопісаў. Прыслаў бы табе сваіх вершаў, але не маю больш паперы. Іншым разам напішу больш і прышлю вершы...»*

Апошні трохкутнік быў таксама кароценькі:

*«18 лютага 45 г.*

*Здароў, Сцёпа!*

*Што гэта змоўк ты? Ніводнага слова ад цябе не дабіцца...*

*Навіны маю невялікія і шмат апісання не зоймуць. Знаходжуся я зараз на фронце ва Усходняй Прусіі.*

*Змаганне зараз ідзе надзвычай жорсткае...*

*Меў лісты ад Астапенкі. Ён ужо выпускае зборнік вершаў. Зайздросна становіцца, калі прачытаеш пра гэта. А мне тут нават ліст чыркануць і то не выбачыць часу.*

*Ну што ж, будзем чакаць. Будзем жывы, то сваё нагонім».*

Чакаў я, чакаў абяцаных Аляксеевых вершаў і не дачакаўся. Не было і лістоў. У сэрца закрадвалася трывога: ва Усходняй Прусіі ішлі зацятыя баі. Пісаў у Капыль лісты і прасіў даведацца, што чуваць пра Коршака. На майскія святы 1945 года я прыехаў дамоў, тут мяне чакала страшная вестка: нібыта Аляксей загінуў пад Цэхановам. Пасля стала вядома, што разведчыка Аляксея Ігнатавіча Коршака падкасіў нямецкі аўтаматчык 27 лютага 1945 года каля вёскі Ласлейндорф ва Усходняй Прусіі...

Нядаўна я наведаў Закопанку, пасмуткаваў разам з Тацянай Максімаўнай. Яна і сёння аплаквае сына... Перагледзеў запісы, чарнавікі, чыставыя рукапісы Аляксея. Многае тут вартае ўвагі і публікацыі. Яшчэ больш такіх чарнавых матэрыялаў, якія нельга надрукаваць, але якія сведчаць, якое сур'ёзна, старанна і многа працаваў малады паэт, наколькі шырокі быў дыяпазон яго творчых інтарэсаў. Тут матэрыялы да слоўніка беларускай мовы, народныя песні, тэзісы артыкула пра дарэвалюцыйную беларускую паэзію, пачатак нарыса пра Капыль і многае, многае іншае... Колькі задум, планаў, чарнавых фрагментаў і загатовак для будучых твораў...

Як крыўдна і балюча, што песня таленавітага паэта абарвалася на паўслове...

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.**







**Рыгор БАРАДУЛІН.**
**ЛІНІЯ ПЕРАМЕНЫ ДАТ.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.**

# ПЕРШАРОДНАСЦЬ ВОБРАЗНАГА МЫСЛЕННЯ

Вось ён зноў перад намі, такі знаёмы, не адзін раз чытаны і перачытаны Рыгор Барадулін. І крыху незнаёмы, абноўлены. Але, як заўсёды, гаваркі, назіральны, дасціпны. «Лінія перамены дат, перамены адносін да родных мясцін, да аглухлых хацін, да бароў, да сумоты, самоты, да сяброў, да сябе самога», лінія перамены паэта, ягоных інтарэсаў, настрояў...

Але ж у новай кніжцы паэт у самым істотным застаецца верны сабе: ідзе, як і раней, ад жывога назірання, спрабуючы рэчы, з'явы, успрымаючы іх усімі пяццю адчуваннямі. Жывапісуе з натуры, а натуру выбірае самавітую, крамяную, сакоўную: «Крэкчацца грэблі смачна, як свацці пасля першаку». Пануюць не стылістычныя фігуры ці афарызмы, а рэаліі, якія рэдка калі пераходзяць у іншасказанні.

Рэчы, з'явы надзяляюцца чалавечымі ўласцівасцямі, зберагаючы, аднак, сваю прадметную існасць. Яны сутыкаюцца, спалучаюцца па нечаканых прыкметах: паэт не адразу аперыруе думкамі і пачуццямі, а перадае іх праз сцэну, эпізод, замалёўку... Але, могуць сказаць, так недалёка да капіравання прыроды, ілюстрацыі перажыванняў і натуралізму. Мы згодны: недалёка. Становішча ратуе рамантызацыя, дасціпнасць і, я нат сказаў бы, першароднасць вобразнага мыслення, дакладнасць і лаканізм: «разведчыку развярнула жывот. Пісталет да скроні:—Не трэба, мама... Не плач... Выходзь з заклятых балот.—Сынок... і мяне таксама... На міг змаўчалі абое, але куля ў абойме, куля ў ствале...».

Паэт аддае перавагу бытавой і нават практычнай дакладнасці, якая, па той жа прычыне, робіцца паэтычнай («Багатая Камароўка», «Старая Латвія», «Палескія ўражанні» і да т. п.).

Асацыятыўнасць і прадметнасць спалучаюцца: асацыяцыі спараджаюць не толькі прадметы, але і словы, паняцці. Так, здаецца, выпадкова выбухнула бяссоннай ноччу слова «блакада», але з яго, па сутнасці, распачалася паэма. Слова вырасла ў вялікую карціну, у карагод прадметаў, з'яў, малюнкаў. Хуткасць гэтага карагоду то паскараецца, то запавольваецца—усё ад дынамікі лірычнага перажывання. Што ні слова—самацвет, што ні выраз—вобраз... Як яны прыходзяць, так іх паэт і занатоўвае, не надта клапоцячыся пра лагічную паслядоўнасць, узаемасчапленне.

У сучаснай паэме адбываюцца яшчэ не ўсвядомленыя ні паэтамі, ні вучонымі змены. Сучаснік шукае гармонію ў мнагастайнасці, яго не задавальняе хай сабе і стройны, але абмежаваны традыцыйнымі рамкамі сюжэт. Водгукам на гэтыя запатрабаванні з'явілася ў свой час «За далячынню—далячынь» А. Твардоўскага. Спробай стварыць такую паэму, толькі ў значна меншым аб'ёме і, як бачна, у іншым аспекце, уяўляецца «Лінія перамены дат» Р. Барадуліна. І хоць у паэта былі ўзоры для пераймання, напісана паэма самастойна, па-барадулінску. Такія радкі, як: «Распараны, разамлелы, жмурыцца сонцу Уладзік» (пра Уладзівасток), не зблытаеш ні з чыімі іншымі; або пра сонца: «Ідзі прамяніста на Ушаччыну прама. Добрай раніцы, мама». Аўтар аб'ядноўвае самы разамаіты матэрыял адзінствам пафасу, ідэі. І ўсё ж гэта самая неарганізаваная паэма ў Р. Барадуліна. Паміж асобнымі яе часткамі яўныя правалы, некаторыя з іх сшыты белымі ніткамі (у аўтара гэта абазначана шматкроп'ем).

Аднак паэт, трэба аддаць яму належнае, настойліва шукае цэльнасць і гармонію, і ў «Блакадзе» ў пэўнай меры яе знайшоў. Замест уступу тут—«Бяссонніца», а затым тры кругі блакады,—цярпення, маўчання, сэрца,—у якасці трох частак твора. Такім чынам дасягаецца адзінства і суадпаведнасць знешняй і ўнутранай формы. Карціны падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці, так, як яно было (гэта вельмі ў духу Барадуліна—так, як было, праз успаміны, уражанні). З узрастаннем экспрэсіўнасці, уражлівасці гэтых карцін нарастае і лірычнае напружанне: «плачуць па дзецях нямецкія кулямёты буйнакаліберымі слязамі»; «ноччу плавае поўня, як сыр. Не дастаць Улляне яе. Каб не чулі, як плача сын, каб самой не заплакаць—пяе...» (гэта праз успрыманне галоднага чалавека). Уся прырода ўдзельнічае ў падзеях: «салавей цёхкае. За хмару схавала раніца вока, крывёю зацёклае». Альбо яшчэ: «Ты крывёю паліты, Палік, хоць гадам сваім страціў лік, можа, бацьку майго прыпомніш? Не адказвае мне Палік...»

Тут праявілася ўласцівая для паэта цікавасць да першароднай асацыятыўнасці і анімічных вераванняў продкаў, да іх трохі наіўнай натурфіласофіі. Ад кніжкі да кніжкі цікавасць гэта ўсё больш узрастае, узмацняецца. «Лінію перамены дат» яна пранізвае наскрозь. «Я так хацеў сёння ўчуць яе шум. Няма ігрушыны—упала галавою на захад» («Смерць ігрушыны»). Праз страту рэчы, да якой прыкіпела сэрца, яшчэ мацней адчуваеш яе каштоўнасць. Тым больш, калі гаворка ідзе не проста пра грушыну, а пра чалавека, роднага, блізкага: «Не стала хаты, бацька дамоў не вярнуўся, а яна так і не зацвіла ні разу». Чалавеку заўсёды шкада ўсяго жывога і добрага, бо ўсё ў гэтым свеце непаўторна, усё звязана з чалавечым лёсам: «Бывай, ігрушына, бывай, зялёнае полымя». Герой «узвінчвае» сябе да такога стану, у якім адкрываецца ўнутраная сувязь з'яў. І тады тыя ж хаўтуры па грушыне гучаць як жалоба па жывым чалавеку.

Жыццё ў паэта, звычайна, прадстае ў пачуццёва-канкрэтных формах самога жыцця і адначасова ў формах народнай свядомасці: тут табе і хітраватае народнае прыбядненне, і напускны фаталізм. Паглядзіце, як па-свойску і арганічна ўпісаліся ў яго «Блакаду» народныя замовы, загадкі, прымаўкі: «На моры на Кіяні, на быстрым буяні стаіць ліпавы куст...», або: «Стала Купалка бедаваць:—А дзе ж мне ночку начаваць?..» Не прыкмячаеш нат, што яны, ды і тая ж «Смерць ігрушыны», напісаны без рыфмы, бо маюць усе адзнакі паэтавай творчай індывідуальнасці, уліваюцца ў агульную вершаваную плынь. Думаецца, што яны маюць такое ж права называцца барадулінскімі, як і вось гэтыя, густа насычаныя рыфмамі і гукаперайманнем радкі: «Чайкі жнуць у два сярпы чараты густыя. Крыўду, мурава, сцярпі: стома ў стозе стыне. І вязуць зару чаўны проста ў двор дзявочы. З хвалямі заручаны вёслы, вёсны, вочы». («На радзіме дружбака»). Нават сваёй формай верш напамінае народную скарагаворку: увесь трымаецца на гуках «р», «в», «з»; інструментоўка, рыфмы па-народнаму каламбурныя, хлёсткія. Наступныя гукі набягаюць на папярэднія, узмацняючы і яшчэ больш насычаючы іх. Паэт любіць такую вясёлую гульню слоў, калі нават гукі ўступаюць у працэс тварэння вобраза, падказваючы патрэбныя асацыяцыі: «Жылі спакойна, ціха, так ціха, хоць заплач, карга-карагачыха і карагач-каргач».

Герой Барадуліна неяк спакваля і па-працяцку асвойтаўся з прыродай і яе з'явамі, пачуваючы сябе, як свой сярод сваіх у асяроддзі жывёл і раслін. Прырода адкрываецца перад ім ва ўсёй сваёй першароднай свежасці, паўнакроўнай цялеснасці; уся яна ачалавечаная: «сонца хвалі штурхаюць з пляча на плячо, як дзяўчо»; «вецер з нябеснага стропу змёў смугі кузлаччо. Пакуль там какетка Еўропа паверне да сонца плячо». Чалавек як бы ўбірае ў сябе ўсю прыроду, увесь свет, захоплены няўтольнай прагай жыцця, насалоды ўсім прыгожым і здаровым. Ён—за свабоднае праяўленне чалавечай існасці, за рэабілітацыю плоці, ці бо то, як у паэта сказана, за «эмансіпацыю ног»: «У доўгіх і змрочных сукнях (век—свёкар: «і сам не гам...») панура было і сумна вясёлым дзявочым нагам». Але новы час—новыя норавы: «За модай паспець—не спазніцца! Салодкі хлапечы спадман! Угору ўсплываюць спаднічкі, нібы на дасвецці туман. Не месца тут кіслай міне. Як сабе ні мані, а ножкі ў спадніцы-міні ты паспрабуй абміні».

Па свойму, вельмі спецыфічна праяўляюцца ў лірыцы Барадуліна сацыяльныя матывы. Праўда, сацыяльнасць гэтая пераважна «бытавая», «этычная». Лірычны герой трывае-трывае і раптам выбухае каскадам пачуццяў, беручы і чытача за жывое: «Мы ў корак пасады штопарамі ўвінчаны, мы ў гарадах так намагнічаны, што не верым компаснай стрэлцы, каб з небяспекаю не сустрэцца. Ад магнітнага поля бегатні, штурхатні, сумятні, хоць уцякай на полюс да цішыні». Гумар пераходзіць у сарказм: «Да дрыжыкаў надакучыла сябе адчуваць маладою бульбай, якую пад мерны графінны булькат крытыкі шчодра акучваюць», «надакучылі маладыя пафаснікі траскучыя!» Гумар, сарказм нярэдка бывае дакорліва лірычным, кранальным: «Зноў вяшчае прыёмнік, што і як за марамі, а ў бальніцы раённай партызан памірае. Быў на сцюжах, на слотах, толькі не на Каўказе. Ён прымаў у балотах зледзянелыя гразі».

Сіла Барадуліна менавіта ў гэтым уменні праз трапную дэталь, жыццёвы выпадак вымаляваць характар, сацыяльны тып, паставіць праблему. Успомнім, як сялянскія дзяўчаты ў яго «за гарадской прапіскаю» ідуць ў нянечкі і як затым на іх, непрывычаных да новых парадкаў, знешне нязграбных, але чыстых душой, пачынае наступаць мяшчанства: «вас у пад'ездах ціскаюць, салдаты просяцца ў наначкі. Вас на алейках сватаюць, кахаюць у сціхлых скверыках. Смяюцца піжоны цыбатыя з «произношения скверного». Ёсць над чым задумацца? Так, ёсць. Асабліва над апошнім:

І песню, што жала, бабіла,
Ішла басанож за баронамі,
Удовіны вочы бавіла,—
Ціха спяваеце, нібы забаронена.

Барадулін усё часцей задумваецца над жыццём, яго складанасцю: «Хто дасць адказ, ці маю права я бясхмарна жыць за некага другога?» Гэта пытае чалавек, якому перасадзілі чужое сэрца: «хоць сам сябе нанова вывучай, цяпер жыву ў трывожным неспакоі — абраза, самазабыццё, адчай — ці знала сэрца, што гэта такое?»

Аўтар пазбягае адкрытай умоўнасці — усё адбываецца ў сне, але гэта такі сон, які можа многае прасвятліць у яве. Разглядаецца, па сутнасці, вострая праблема маральнай адказнасці за сябе і за людзей. Вось тут бы і знайсці які-небудзь новы, своеасаблівы ключ да вырашэння яе. Але замест гэтага — зусім лішняя, нецікавая канцоўка:

Паволі прывыкаю
да ўсяго,
Да сэрца новага
прывык ужо я.
Ды кожны міг
баюся за яго,
Бо гэта ж сэрца не маё —
чужое.

Аўтар спакусіўся на лёгкі ход, які нічога не дае для развіцця лірычнага перажывання.

Ёсць у Барадуліна розная лёгкасць:

здабытая ў цяжкім поце, дадзеная вялікім талентам, і ёсць такая, якая таму і лёгкасць, што ўнутры яе пустата: «першага снегу мяккі змрок, смелага смеху ціхі крок». Ці ўпрыгожвае такое зборнік?

Некаторым вершам паэта, які, як трапна зазначыў некалі ў рэцэнзіі на яго кнігу крытык Анатоль Клышка, «востра адчувае сучаснасць у дэталях», часам нестае вялікай, сінтэзуючай думкі. Праблема гэта складаная і сур'ёзная не толькі для аднаго Барадуліна.

Янка ШПАКОЎСКІ.




**Э. К. ДАРАШЭВІЧ.**
**АНІОЛ ДОЎГІРД — МЫСЛІЦЕЛЬ ЭПОХІ АСВЕТЫ.**
**«Навука і тэхніка», Мінск, 1967.**

# СПРЭЧКА ДОЎГІРДА З КАНТАМ

Філасофская спадчына Аніола Доўгірда ўяўляе сабой цікавую з'яву ў гісторыі філасофскай думкі Беларусі і Польшчы. Час, у які жыў і тварыў Доўгірд, прыпадае на канец XVIII — пачатак XIX стагоддзя. У гэты час у Беларусі і Польшчы, побач з творамі французскіх і рускіх асветнікаў і матэрыялістаў XVIII стагоддзя, пачалі пашырацца творы нямецкага філосафа І. Канта. Ідэі Канта атрымалі тут спецыфічную інтэрпрэтацыю: ад іх веяла духам барацьбы з матэрыялізмам і асветай. У Беларусі і Польшчы з'явіліся як прыхільнікі, так і праціўнікі гэтых тэорый. З прапагандай кантыянскіх ідэй выступалі Ю. Шаняўскі, Ф. Яронскі і іншыя. Сярод тых, хто вёў барацьбу супраць кантыянства з пазіцый Асветы знаходзіўся найбольш глыбокі знаўца кантаўскай філасофіі ў Беларусі і Польшчы наш зямляк Аніол Доўгірд.

Нарадзіўся Аніол Доўгірд 11 снежня 1776 года ў маёнтку Юркаўшчына Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні ў сям'і незаможнага двараніна Андрэя Доўгірда. Пачатковую і сярэднюю адукацыю атрымаў у школах Мсціслаўля, Магілёва і іншых гарадоў, а потым працягваў навучанне ў Віленскай акадэміі.

Перыяд навучання А. Доўгірда супаў са значнымі падзеямі ў гісторыі Беларусі і Польшчы. У выніку трох раздзелаў Рэчы Паспалітай беларускія землі былі ўз'яднаны з Расіяй. Выдатныя прадстаўнікі польскай эпохі Асветы, пад уплывам якіх знаходзіўся Доўгірд, успрынялі перадавыя ідэі не толькі заходніх, але і рускіх мысліцеляў — Ламаносава, Дзясніцкага, Казельскага і іншых. У акадэміі ў гэты час выкладалі такія прагрэсіўныя вучоныя-прыродазнаўцы, як Марцін Пачобут, Стэфан Баруэл, браты Снядэцкія і іншыя. Яны абудзілі ў Доўгірда цікавасць да вывучэння свецкіх навук: фізікі, філасофіі, логікі і замежных моў. У той жа час і духоўная адукацыя наклала свой адбітак на светапогляд Доўгірда: шмат у чым сыходзячыся з мысліцелямі веку Асветы, польскімі матэрыялістамі С. Сташыцам і С. Калантаем, ён, аднак, у адрозненне ад іх, не змог канчаткова пазбавіцца клерыкалізму.

Пасля заканчэння акадэміі Доўгірд распачаў настаўніцкую дзейнасць. Шмат гадоў працаваў настаўнікам у розных школах Беларусі, выкладаў фізіку, матэматыку, геаграфію, замежныя мовы і, нарэшце, у 1818 годзе атрымаў запрашэнне на работу ў Віленскі ўніверсітэт чытаць лекцыі па логіцы і псіхалогіі, а яшчэ праз тры гады — поўны курс практычнай і тэарэтычнай філасофіі. У гэты час ён быў ужо вядомы сваёй працай «Разбор твора Феліксa Яронскага «Пра філасофію», у якой даў падрабязны аналіз кнігі польскага філосафа-кантыянца, прафесара Кракаўскага ўніверсітэта. У наступных працах Доўгірд развіў ідэі, якія вызначыліся ў гэтай кнізе.

Асноўная філасофская праца Доўгірда — «Трактат аб уласцівых мысленню правілах, альбо логіка тэарэтычная і практычная». Першы том «Логікі» быў надрукаваны ў Полацку ў 1828 годзе, два наступныя засталіся ў рукапісу, іх тэксты і дагэтуль не знойдзены. Змест іх стаў вядомы дзякуючы Э. Дарашэвічу, які знайшоў канспекты лекцый А. Доўгірда.

Памёр Доўгірд у 1835 годзе.

Філасофія Доўгірда супярэчлівая, бо ён адчуваў на сабе ўплыў не толькі процілеглых напрамкаў — ад французскіх асветнікаў да хрысціянскіх філосафаў, але і адлюстраваў тое сацыяльна-палітычнае становішча, у якім жыў і тварыў. Э. Дарашэвіч раскрывае дуалістычны, кампрамісны характар доўгірдаўскай філасофіі як адлюстраванне сацыяльна-палітычных супярэчнасцей Расіі таго часу.

У вырашэнні галоўнага пытання філасофіі Доўгірд быў дуалістам. Ён прызнаваў існаванне незалежных як матэрыяльнай, так і духоўнай субстанцый. Аднак дуалізм Доўгірда непаслядоўны, і часам ён робіць значныя ўступкі матэрыялістычнаму сенсуалізму.

На падставе знойдзеных рукапісаў філосафа Э. Дарашэвіч паказаў, што стыхійна-матэрыялістычныя погляды Доўгірда асабліва ярка праявіліся ў яго разважаннях пра сувязі мовы і мыслення, пра развіццё чалавечай свядомасці. Тут у Доўгірда паяўляюцца нават элементы дыялектыкі. Напрыклад, ён падкрэсліваў, што як разумовыя здольнасці, так і мова чалавека не былі адвечна такімі, якімі мы іх маем цяпер, яны ўвесь час развіваліся і ўдасканальваліся ў грамадстве.

Аднак якімі арыгінальнымі ні былі для свайго часу думкі Доўгірда, але галоўнай мэтай яго філасофскай творчасці была крытыка асноў ідэалізму і скептыцызму. Доўгірд быў не толькі прыхільнікам Ф. Бэкона, Д. Лока, Э. Кандыльяка, але і актыўным абаронцам іх тэорый ад нападак ідэалістаў. Ён выступіў з крытыкай многіх ідэалістычных сістэм, але ні адна з іх не была падвергнута ім такой дэталёвай і грунтоўнай крытыцы, як сістэма Імануіла Канта, з творамі якога Доўгірд пазнаёміўся яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя.

Філасофія Канта зрабіла на Доўгірда вялікае ўражанне. Ён высока цаніў распрацоўку Кантам праблем прыродазнаўства ў дакрытычны перыяд, яго вялікія заслугі ў развіцці тэорыі пазнання. Разам з тым, Доўгірд бачыў у філасофіі Канта і ідэалістычныя прынцыпы, супраць якіх ён павёў барацьбу з пазіцый матэрыялістычнага сенсуалізму.

Э. Дарашэвіч даволі грунтоўна паказвае, якую ўпартую і працяглую барацьбу вёў Доўгірд супроць кантаўскай філасофіі, што прапагандавалі ў Беларусі і Польшчы мясцовыя кантыянцы. Кант, як вядома, дапускае існаванне рэчаў у сабе (наўменаў) незалежна ад свядомасці. Але паколькі прастора трактуецца ім суб'ектыўна-ідэалістычна, то выходзіць, піша Доўгірд, што «Наўмены... не могуць быць сапраўды знешнімі адносна чалавечага розуму. Але калі яны не з'яўляюцца такімі, то ў каго ж тады не ўзнікне думка, што яны павінны знаходзіцца ў тым самым розуме, бо дзе ж яшчэ знайсці для іх месца? Аднак калі мы дапусцім гэта апошняе, то як жа будзем адрозніваць гэтыя рэчы ад нашых уяўленняў? Бо розум ёсць здольнасць мыслення, а тое, што знаходзіцца ў мыслі, з'яўляецца толькі ўяўленнем».

Непрымірымая крытыка Доўгірдам кантаўскай філасофіі сапраўды дае нам падставу сказаць, што Доўгірд адным з першых у гісторыі філасофіі распачаў крытыку Канта з матэрыялістычных пазіцый. Доўгірд прасачыў уплыў філасофіі Канта на далейшае развіццё ідэалізму і выступіў з аналізам супярэчнасцей у ідэалістычных сістэмах паслядоўнікаў Канта. Перш за ўсё, аўтар «Логікі» абвінавачвае іх у адыходзе ад таго каштоўнага, што ўнёс у развіццё чалавечай думкі выдатны нямецкі філосаф.

Аўтару кнігі пра Аніола Доўгірда ўдалося пазбегнуць многіх памылак і хібаў дзякуючы таму, што на іх у свой час указала як беларуская, так і польская крытыка. Аднак у кнізе, як і ў больш ранніх артыкулах Дарашэвіча, мы зноў не сустракаем тлумачэння некаторых спрэчных пытанняў біяграфіі Доўгірда. Напрыклад, што Доўгірд нарадзіўся не 11, а 2 снежня, што імя яго бацькі было не Андрэй, а Станіслаў, што Доўгірд знаходзіўся ў Вільні не з 1809, як піша Дарашэвіч, а з 1801 г. і г. д. У кнізе таксама недастаткова ясна паказаны перадумовы з'яўлення філасофіі Асветы ў Беларусі, яе ўплыў на светапогляд мысліцеля. Недастаткова таксама даследавана пытанне аб уплыве філасофіі Доўгірда і іншых прадстаўнікоў эпохі Асветы, да якіх ён стаяў бліжэй, на філасофскую і грамадска-палітычную думку Беларусі свайго і пазнейшага часу.

Напісаная добрай літаратурнай мовай, на аснове новых архіўных матэрыялаў, кніга Э. Дарашэвіча адлюстроўвае адну з найбольш цікавых старонак беларускай гісторыі філасофіі.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ,**
**аспірант кафедры гісторыі філасофіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.**

Яўген КРУПЕНЯ

# ПОШУКІ ПРАЎДЫ

## ІТАЛЬЯНСКАЕ КІНО ЎЧОРА, СЁННЯ І...

Быў семінар кінакрытыкаў. Мы глядзелі чатыры-пяць фільмаў у дзень: савецкія — раніцай, замежныя — вечарам. Аднойчы кіраўнік семінара сказаў: «Зараз мы паглядзім замежны фільм, дубліраваны на рускую мову. Ён пойдзе без звычайных цітраў. Вам належыць адгадаць, чый гэта фільм, у якой краіне ён пастаўлены?»

Успыхнуў усімі колерамі вясёлкі экран. Спякотнае неба, гарачыя пяскі Мексікі. Пагоні, перастрэлкі, мардабой... Кагосьці забіваюць, за кімсьці палююць, і — рэкі крыві.

Пасля трох частак усім стала ясна, што гэта фільм у духу «старога Джона Форда»: не добры, але і не прымітыў. Адзін з крытыкаў прыпісаў яго Галівуду, другія Мексіцы. І якое ж было наша здзіўленне, калі ў фінале карціны пайшлі звычайныя надпісы: «Залатая куля. Сцэнарый Сальватора Лаўрані і Франка Салінас, рэжысёр Даміяна Даміяні. Вытворчасць «МЧМ». Італія».

Каўбойскія фільмы, як гэта ні дзіўна, трывала прыжыліся на італьянскіх экранах. Вестэрн з яго пагонямі і перастрэлкамі ў стылі «дзікага Захаду» запаланіў італьянскі экран, пацясніўшы гангстэрскія і дэтэктыўныя стужкі, амаль поўнасцю выцесніўшы міфалагічныя баявікі. У 1968 годзе каўбойскія фільмы дасягнулі рэкорда — 80 карцін, г. зн. больш палова ўсіх фільмаў, што выпускаюцца ў Італіі. І чым больш выпускалася іх на экран, тым больш прымітыўнымі яны станавіліся. Адчуваўся ўплыў Галівуда, асабліва ў тых сцэнах, дзе паказвалася жорсткасць і разбой. Спекулюючы на любві падлеткаў да прыгодніцкага жанру (а вестэрны ж разлічаны галоўным чынам на падлеткаў), пастаноўшчыкі імкнуцца паказаць як мага больш забойстваў, катаванняў, крыві. Праўда, некаторым рэжысёрам не па душы тое, што яны паказваюць на экране. Але ж кажуць, што, хто плаціць грошы, той заказвае і музыку. А грошы плацяць прадзюсары, і пастаноўшчыкам, калі ім сорамна за сваю работу, нічога іншага не застаецца, як схавацца ў цітрах пад амерыканскімі псеўданімамі.

Італія — адна з мацнейшых у свеце кінематаграфічных дзяржаў.

Сусветную славу італьянскаму кіно прынёс неарэалізм. Паэт, раманіст і рэжысёр П'ер Паола Пазаліні, адзначаючы характэрныя рысы гэтай прагрэсіўнай плыні ў кіно Італіі, гаворыць, што ў пасляваеннай італьянскай кінематаграфіі «гучаў боль пралетарыя», «кіпеў запал марксістаў», што гэта было мастацтва, на якім «ляжаў знак пралітай партызанскай крыві». Народжанае змаганнем, мастацтва неарэалізму стала, як сказаў на III з'ездзе савецкіх пісьменнікаў Марыа Аліката, тым мастацкім напрамкам у Заходняй Еўропе, у якім з найбольшай сілай выявіліся важныя зрухі ў свядомасці шырокіх колаў інтэлігенцыі, абумоўленыя антыфашысцкай барацьбой, рухам супраціўлення і імкненнем да глыбокага сацыяльна-палітычнага абнаўлення. Кінафільмы, створаныя італьянскімі неарэалістамі, — сапраўднае адкрыццё новых пластоў рэчаіснасці. «Рым — адкрыты горад», «Выкрадальнікі веласіпедаў», «Шуша», «Зямля дрыжыць», «Горкі рыс» і многія дзесяткі іншых — цяпер агульнапрызнаныя шэдэўры кіно.

Ішлі гады. Неарэалізм слабеў, згасаў, выраджаўся. У кіно прыходзілі новыя людзі, а заснавальнікі неарэалістычнай плыні пакідалі кіно і ішлі на тэлебачанне, у літаратуру, у тэатр. Але галоўнай прычынай краху неарэалізму трэба лічыць тыя сацыяльныя змены, якія адбыліся ў Італіі. Тэма салідарнасці, спагады да чужога лёсу, чужога гора, якая ўвасобілася ў лепшых творах неарэалістычнага кіно, не знаходзіць прыхільнікаў у свеце «некамунікабельнасці», у свеце страчаных сувязей не толькі чалавека з чалавекам, але і чалавека з тым светам рэчаў, які навокал яго.



«Горкі рыс».

Італьянскае кінамастацтва 60-х гадоў перажывае ідэйны, фінансавы і арганізацыйны крызіс. Таму яно такое стракатае, няроўнае і супярэчлівае. У італьянскім кіно рэзка вызначаюцца два накірункі: адкрыта-камерцыйная прымітыўная прадукцыя, разлічаная на непатрабавальнага гледача, у асноўным на падлеткаў 14—15 гадоў, і так званыя «ангажыраваныя» фільмы, якія служаць пэўным ідэалам і маюць палітычную афарбоўку. Праўда, апошнія стужкі не аднародныя па сваіх мастацкіх якасцях, а заключаныя ў іх ідэі іншы раз цьмяныя, а часам памылковыя. Але «ангажыраваных» карцін выпускаецца мала. Асноўнае месца ў рэпертуары італьянскіх кінатэатраў займае камерцыйная прадукцыя, якая складае да 80—90 працэнтаў усіх фільмаў. Натуральна, што астатнім дзесяці-дваццаці працэнтам цяжка прабіцца на экраны з прычыны засілля «касавых» фільмаў. Таму паступова з экрана зніклі «сярэднія» карціны», г. зн. тыя, дзе ўмела дазіраваны займальнасць і сур'ёзнасць, дзе хоць знешне захаваліся прызнакі неарэалізму. Вядома, такія стужкі, як, напрыклад, «Учора, сёння, заўтра», «Хлеб, каханне і фантазія» ці «Шлюб па-італьянску», не назавеш неарэалістычнымі. Але ў іх захаваліся атрыбуты гэтай прагрэсіўнай плыні, якая прынесла італьянскаму кіно сусветную славу.

Пад канец 60-х гадоў на першае месца выходзіць прыгодніцкі жанр, хоць да гэтага часу ён у камерцыйным кіно займаў даволі сціплае месца. На экраны кінатэатраў хлынулі вестэрны «жоўтыя» (гангстэрскія і дэтэктыўныя) і «чорныя» — фільмы жахаў. Але і яны хутка заштампаваліся, пачалі страчваць свайго гледача. Тады пастаноўшчыкі звярнуліся да «нацыянальнай» тэмы і навад-

«Яны ішлі на Усход».



нілі экраны фільмамі пра жулікаў, дзе з выключным веданнем справы дэманструецца тэхніка абрабавання банкаў, храмаў, цягнікоў. Такія фільмы, як «Аперацыя «Святы Януары», «Абрабаванне па-італьянску», «Любой цаной» і многія іншыя расказваюць з усімі падрабязнасцямі, як крадуць. Дзе і што крадуць — не важна. Важна ўкрасці. І стужкі, якія выпушчаны ў канцы 1968 года: «Бандыты ў Мілане», «Бандыты ў Рыме», «Ноч створана для... крадзяжоў», «Як мы ўкралі атамную бомбу», «Як украсці англійскую карону» і дзесяткі іншых, услаўляюць жорсткасць, цынізм, а часта нясуць і антысавецкі зарад.

Мне прыгадваецца зласлівая кінастужка рэжысёра Марка Вікарыа «Сем залатых хлопцаў» — перайманне ці то «Сямі самураяў» Акіра Курасавы, ці то амерыканскай «Цудоўнай сямёркі». У ёй жа сем прайдзісветаў спрабуюць украсці ні больш, ні менш, як параход з «савецкім золатам», які нібыта быў прысланы на Кубу для рэвалюцыі ў Лацінскай Амерыцы. У гэтай выдумцы густа замешаны секс, забойствы, жорсткасць з антысавецкімі і антыкубінскімі выпадамі.

На шчасце, такія фільмы не карыстаюцца поспехам у гледачоў. Яны аддаюць перавагу стужкам, якія сталі кінакласікай, такім, як «Рым — адкрыты горад», «Пайза», «У Рыме была ноч» Раберта Раселіні, «Аповесць пра бедных закаханых», «Увага! Бандыты!» Карла Лідзані, «Чачара» Альберта Маравіа і «Пустэльнікі Альтоны» Жан-Поля Сартра ў пастаноўцы Віторыа Дэ Сіка, «Чатыры дні Неапаля» Нані Лоя, «Яны ішлі на Усход» Джузэпе Дэ Санціса, «Яны ішлі за салдатамі» («Салдаткі») Дзурліні, г. зн. стужкам, што выкрываюць захопніцкую вайну, у якую ўцягнуў народы Мусаліні.

Палітычныя матывы гучаць і ў апошніх работах рэжысёра Франчэска Разі. Яго фільмы, створаныя на аснове дакументальных фактаў, карыстаюцца нязменным поспехам і ў самой Італіі, і далёка за яе межамі. Фільмы Франчэска Разі «Рукі над горадам» — пра барацьбу камуністаў у муніцыпалітэце Неапаля супраць правых, якія пакрываюць махінацыі спекулянтаў, і «Сальватора Джуліяна», пра сіцылійскую мафію, — знаёмы і нашаму гледачу.

Прагрэсіўныя майстры італьянскага кіно, нягледзячы на цяжкасці фінансавыя і цэнзурныя, імкнуцца па меры сваіх сіл і магчымасцей не браць удзелу ў камерцыйным кіно. Яны іншы раз гадамі чакаюць прадзюсара, каб паставіць той ці іншы фільм, які адпавядае іх палітычным і маральным перакананням. Так было з фільмам пра подзвіг братоў Чэрві, расстраляных фашыстамі за ўдзел у Супраціўленні. Многія рэжысёры імкнуліся ўвекавечыць іх подзвіг на экране, але не было грошай для пастаноўкі, і, да таго ж, цэнзура чыніла тут усялякія перашкоды. Толькі праз дваццаць гадоў пасля выхаду ў свет успамінаў бацькі загінуўшых братоў (у фільме ролю Альчыдэ Чэрві выконвае савецкі акцёр Алег Жакаў) рэжысёру-камуністу Джані Пучыні (цяпер ужо нябожчыку) удалося знайсці прадзюсара і стварыць праўдзівы антыфашысцкі фільм.

Джані Пучыні ў мінулым дакументаліст. Таму ў яго фільме так яскрава бачны ўплыў хранікальнага кіно. Але ў адрозненне ад дакументальнага, узнаўленне сапраўдных падзей, як гэта робіць Франчэска Разі, Пучыні цікавяць не самі партызанскія аперацыі змагароў Супраціўлення і нават не трагічная смерць братоў Чэрві. Яго цікавіць паказ лёсу аднаго з братоў, — камуніста Альда, — які з простага сялянскага хлопца стаў свядомым змагаром-антыфашыстам.

Фільм пра братоў Чэрві карыстаецца вялікім поспехам, асабліва ў вёсцы, сярод моладзі, якая не бачыла ўсіх жахаў мінулай вайны.

Засталіся вернымі традыцыям неарэалізму Віторыа Дэ Сіка, Лукіна Вісконці, П'етра Джэрмі і іншыя прагрэсіўныя майстры экрана. Мы нядаўна бачылі стужку Віторыа Дэ Сіка «Пустэльнікі





Альтоны», дзе выкрываецца сувязь фашызму з манаполіямі. Гэтую ж тэму ўзяў для свайго новага фільма «Пагібель багоў» рэжысёр Лукіна Вісконці. У яго новай карціне апавядаецца пра маральнае разлажэнне і пагібель сям'і рурскіх магнатаў, каралёў вугалю і сталі, адной з тых, што падрыхтавалі прыход Гітлера да ўлады.

У прагрэсіўным італьянскім кіно вялікае месца займала і займае сёння «сіцылійская» праблема. Пастаноўшчыкі такіх фільмаў, як «Пад небам Сіцыліі» («Імем закона»), «Рокка і яго браты», «Сальватора Джуліяна» і іншых таленавітых карцін, расказваюць пра галечу і бяспраўе сіцылійскіх сялян, выкрываюць мафію, паказваюць цесную яе сувязь з клерыкаламі-памешчыкамі. І сёння гэтая тэма глыбока хвалюе многіх кінематаграфістаў Італіі. Так, рэжысёр Эліа Петры па аповесці сіцылійскага пісьменніка Леанарда Шаша ставіць цікавы фільм «Кожнаму сваё». Па яго ж рамане рэжысёр Даміяна здымае драматычную кінааповесць «Дзень Савы» («Сава прыходзіць удзень»). Гэтыя фільмы апавядаюць пра злачынствы мафіі ў сучаснай Сіцыліі. Недахопам сіцылійскіх фільмаў з'яўляецца тое, што ў іх дэтэктыў часта зацямняе галоўнае — шчыльны кантакт нанятых забойцаў з латыфундыстамі. Гэта зніжае сацыяльнае гучанне праўдзівых стужак.

У апошнія гады ў італьянскім кіно з'явілася новая тэма, якой не было і не магло быць раней. Гэта — выкрыццё каланіялізму і неакаланіялізму. Яна ўзнікла пад уздзеяннем нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў Афрыкі. Пачатак антыкаланіяльным фільмам паклала карціна рэжысёра Джыла Пантэкорвы «Бітва за Алжыр», якая атрымала мноства прызоў і ўзнагарод на міжнародных кінафестывалях. Гэты фільм выкрывае расізм, паказвае, што каланіялізм гэта не што іншае, як фашызм сёння.

Следам за «Бітвай за Алжыр» рэжысёр Валенціна Арсіні ставіць праўдзівую кінааповесць «Пакутнікі зямлі» — пра барацьбу гвінейскіх партызан супраць партугальскіх каланізатараў. Той жа Джыла Пантэкорва здымае карціну «Спалены востраў» («Куэмада») з амерыканскім акцёрам Марлонам Бранда ў галоўнай ролі. Калі стала вядома, што папулярны Марлон Бранда даў згоду здымацца ў італьянскім фільме, гэта для многіх было сенсацыяй. Вядомы артыст некалькі гадоў таму назад пакінуў кіно, каб поўнасцю прысвяціць сябе барацьбе супраць расавага прыгнечання народаў. Карціна «Спалены востраў» хоць і прыгодніцкая, але па задуме пастаноўшчыка гэта востры, надзённы антыкаланіяльны фільм, дзеянне якога раз-



«Чатыры дні Неапаля».

«Пад небам Сіцыліі».



гортваецца ў пачатку мінулага стагоддзя на адным з астравоў Карыбскага мора, дзе пануюць норавы і жорсткасць англійскіх і іспанскіх каланізатараў. Зразумела, што для мужнага амерыканскага акцёра ўдзел у гэтым кінафільме — адзін са спосабаў сказаць неакаланіялізму: «Не!»

За апошнія гады ў італьянскае кіно прыйшло шмат творчай моладзі — сцэнарысты, рэжысёры, акцёры. Яны спрабуюць свае сілы ў розных жанрах, эксперыментуюць, «бунтуюць» супраць «старых», спрабуюць стварыць «сваё», «новае кіно». Але не ўсе іх карціны, нават калі яны зняты з добрымі намерамі, выклікаюць цікавасць у гледача, таму што большасць з іх не нясе ніякай іншай ідэі, акрамя стомленасці і нявер'я. Прыклад шукаць далёка не трэба. Адзін з першых фільмаў «новага кіно» — «Перад рэвалюцыяй», зняты паэтам Бернардам Берталучы, паказаў разгубленасць і ваганне пастаноўшчыка, выявіў яго цьмяныя, спрэчныя думкі.

«Перад рэвалюцыяй» — гэта расказ аб правінцыяльным юнаку Фабрыцыа, які паходзіў з буржуазнай заможнай сям'і. На пачатку ён бунтар-адзіночка. Яго бунт скіраваны супраць застою жыцця, супраць бацькоў, якім усё лёгка даецца, і нават супраць асноў пануючай сістэмы. Потым у душы героя настае крызіс, за якім пачынаецца поўная капітуляцыя, адмова ад сваіх ідэалаў, вяртанне ў забяспечаны буржуазны свет, супраць якога нядаўна паўставаў, які ненавідзеў, з якім вёў жорсткую барацьбу. Страціўшы сябра-аднадумца, парваўшы са сваёй псіхічна хворай цёткай, якая была яго каханкай, Фабрыцыа ўсё больш і больш аддаляецца ад свайго ідэйнага настаўніка, педагога-камуніста, і нарэшце жэніцца на багатай дзяўчыне. Такі шлях «бунтара».

Але якімі цьмянымі і спрэчнымі ні былі б думкі самога пастаноўшчыка Бернарда Берталучы, яго работа ўсё ж у нейкай ступені прагрэсіўная з'ява ў «новым кіно» маладых кінематаграфістаў Італіі. Хоць галоўны герой Фабрыцыа і церпіць духоўны крах, усё ж фільм «Перад рэвалюцыяй» не песімістычны. У ім ёсць чаканне, надзеі на будучыя змены і прызнанне іх неабходнасці. Нездарма рэжысёр у эпіграфе да фільма гаворыць: «Хто не жыў перад рэвалюцыяй, той не ведае, што такое шчасце жыць».

Аптымізм фільма заключаецца яшчэ і ў вобразе непахіснага камуніста, школьнага настаўніка. Ён гаворыць сваім вучням пра перамогу дабра і справядлівасці. Дзеці, як паказана ў Бернарда Берталучы, уносяць у панылую рэчаіснасць пробліск надзеі. Рэжысёр сцвярджае сваім фільмам, што ім належыць будучыня, бо яны будуць жыць не «перад рэвалюцыяй», а ў час і пасля яе.

Фільм «Перад рэвалюцыяй» спарадзіў многа перайманьнікаў. Аднак эпігоны былі менш аптымістычныя, чым Бернарда Берталучы. У іх карцінах пышна квітнеюць роспач і песімізм. Прыкладам можа служыць фільм братоў Тавіяні «Мяцежнікі», які нядаўна з вялікім шумам прайшоў на экранах Італіі, выклікаўшы шматлікія спрэчкі гледачоў і кінакрытыкі.

Героі фільма «Мяцежнікі» камуністы-інтэлігенты. Пасля смерці Пальміра Тальяцці яны перажываюць глыбокі ідэйны крызіс, што зліваецца з іх асабістай духоўнай безвыходнасцю. Чатыры розныя, не падобныя адзін на аднаго, чалавекі паўстаюць перад намі. Адзін з іх, філосаф Эрмана, марыць заняцца фатаграфіяй, каб «наблізіцца» да рэчаіснасці. Эрмана бачыць усю пошласць буржуазнага жыцця, яго крывадушша і ханжаства. Гэта анархіст па сваім характары. Ён не можа пагадзіцца з патрабаваннем партыі быць дысцыплінаваным, арганізаваным. У анархічным бунце Эрмана шмат наіўнага.

Эрмана супрацьпастаўлены прафесіянальны кінарэжысёр Людовіка, які ўвесь аддаецца рабоце. Здымаючы чарговы «касцюмны» фільм, на гэты раз пра Леанарда да Вінчы, Людовіка даведваецца, што ён сам безнадзейна хворы. У карціне яго драма зліваецца з драмай пахавання Пальміра Тальяцці.

Ёсць у «Мяцежніках» нейкі Эторэ. Ён лацінаамерыканскі рэвалюцыянер-эмігрант. Эторэ не жадае падпарадкоўвацца тактычным дырэктывам сваёй партыі. Ён прыхільнік рэвалюцыйнай узброенай барацьбы. Таму ён вырашае вярнуцца на сваю радзіму, каб са зброяй у руках змагацца за яе свабоду. Аднак Эторэ мучыць страх перад цяжкасцямі, якія яго чакаюць, а магчыма, і смерцю. Адсюль — яго зласлівасць, яго затоеная крыўда і духоўны разлад.

Выклікае сімпатыі ў карціне толькі Себасцьяна. Ён правінцыяльны работнік партыі, чалавек ураўнаважаны, валявы, энергічны. Аднак і ён перажывае асабістую драму — жонка Паола ўцякае да сваёй сяброўкі-лезбіянкі.

Неакрэсленая пазіцыя аўтараў у адносінах да сваіх герояў робіць фільм «Мяцежнікі» даволі спрэчным. Але сам рэжысёр упэўнены ў адваротным. Ён гаворыць, што яго фільм, яго героі павінны як бы падкрэсліваць розныя настроі сярод левай італьянскай інтэлігенцыі. На самай справе, карціна «Мяцежнікі» атрымалася змрочная, глыбока скептычная. Яе персанажы далёкія ад жывых герояў. І хоць аўтар называе іх камуністамі, на самай справе яны не адпавядаюць гэтаму высокаму званню. Гэта надломленыя, песімістычна настроеныя хлюпікі, у кожнага з якіх свая, іншы раз выдуманая, трагедыя.

Яшчэ далей пайшоў у сваёй стужцы «Птушкі вялікія і малыя» П'ер Паола Пазаліні. Ён зрабіў, па сутнасці, карціну аб сваім ідэйным крызісе. Мне давялося ўбачыць фільм «Птушкі вялікія і малыя» на адным з вечароў італьянскага кінамастацтва ў маскоўскім Доме кіно. Спачатку я наогул нічога не разумеў, так перагружана карціна сімваламі, ускладнена метафарамі. Потым, пасля паўторнага прагляду, пасля таго, як я пазнаёміўся з прэсай, а яна была багатай і супярэчлівай, — сёе-тое пачало праясняцца. Пад гэты час ужо выступіў у друку сам П'ер Паола Пазаліні і даў адказы на многія спрэчныя пытанні. І ўсё ж мяне і цяпер не пакідае ўражанне,



«Умберта Д.» У ролі Умберта Д. прафесар філалогіі Фларэнцыйскага універсітэта Карла Баптысці.

што пастаноўшчык у сваёй карціне ўзяў за мэту высмеяць усялякія догмы, пачынаючы ад рэлігійных і канчаючы філасофскімі.

Мяркуючы па фільме «Птушкі вялікія і малыя», лёгка паверыць, што П'ер Паола Пазаліні наогул адмаўляецца ад усякай ідэалогіі, у тым ліку і ад марксісцкіх пазіцый, на якіх ён стаяў.

П'ер Паола Пазаліні старэйшы майстар італьянскага кіно. Яго не залічыш да «мутнай хвалі» маладых рэжысёраў, якія робяць фільмы пра сучаснасць, не маючы пра яе ніякай пэўнай думкі. Пазаліні

«Самая прыгожая».



ведае, што ён хоча сказаць. Але, убачыўшы рэакцыю гледачоў і кінакрытыкі на свой «філасофскі» фільм, Пазаліні заявіў, што карціна «Птушкі вялікія і малыя» аўтабіяграфічная і самакрытычная, бо тут гаворка ідзе ўсяго толькі пра духоўны крызіс самога пастаноўшчыка і ні ў якім разе не бярэцца пад сумненне марксісцкая ідэалогія, якой рэжысёр трымаўся і трымаецца.

Трэба сказаць, што «марксізм» П'ера Паола Пазаліні ў апошнія гады, мяркуючы па яго пастаноўках, стаў расплывісты. У гэтым панянцці для яго ўмяшчаецца побач усё — *пачынаючы* ад рэлігійных догмаў і канчаючы сексам. Так што пра сапраўдны марксізм тут гаварыць не выпадае.

У апошнія гады многія маладыя італьянскія рэжысёры выступаюць з адкрыта анархісцкіх пазіцый. Так, малады пастаноўшчык Андрэа Фрэцца ў сваіх карцінах, а яшчэ больш — у сваіх выступленнях у друку заяўляе, што кінематаграфісты павінны не проста здымаць карціны, а рыхтаваць гледача да ўзброенай партызанскай (?!) барацьбы. І яго словы не разыходзяцца са справай. Прыклад таму — карціна «Дзікі кот», дзе Фрэцца ставіць сабе за мэту «паказаць тэхніку «левага» тэрарызму».

Герой карціны «Дзікі кот» студэнт-архітэктар Марка, парваўшы з прагрэсіўнымі сіламі, адыходзіць ад левых партый, з якімі ён быў звязаны. Яго анархізм прыводзіць да таго, што ён можа фізічна скруціць свайго палітычнага праціўніка. Гэта, на думку пастаноўшчыка, правільны шлях, па якім павінна ісці бунтарная моладзь.

Калі на экраны Італіі выйшаў фільм дэбютанта Раберта Фаэнца «Эскалацыя», то адзін з кінакрытыкаў трапна назваў сваю рэцэнзію на гэты фільм «Ад неарэалізму да неасадызму». «Эскалацыя» — змрочны гратэск, але, тым не менш, ён карыстаўся вялікім поспехам у гледачоў. Дастаткова сказаць, што за пяць месяцаў паказу ён даў прыбытку 800 мільёнаў лір.

Фільм Раберта Фаэнца — гэта «гісторыя «эскалацыі» жорсткасці. Вось яго сюжэт. Лука Ламбертэнгі — *экстравагантны сын* багатых бацькоў — адмаўляецца стаць пераемнікам свайго бацькі і ўзначаліць фірму. Бацька з усіх сіл стараецца ўздзейнічаць на сына. Змардаваны дактарамі, бяздушным бацькам, Лука ўрэшце саступае яму і становіцца кіраўніком прадпрыемства. Але Лука злосны, недаверлівы і помслівы. Ён забівае спачатку сваю жонку, а потым пазбаўляецца і ад бацькі. Паступова малады *дзялок* пачынае цікавіцца справамі сваёй фірмы, потым уваходзіць у смак і нарэшце становіцца цынічным бізнесменам.

Паталогія, секс, цынізм моцна пераплецены ў гэтай карціне, якая прэтэндуе на нейкае сацыяльнае даследаванне. Але гледачы, у асноўным падлеткі, ідуць на гэты фільм не з-за «сацыяльных праблем», а з-за сексуальных сцэн, якімі так багата ён прыпраўлены.

У «Эскалацыі», якая прэтэндуе на інтэлектуальны фільм ці «фільм-шок», *як яго ахрысціла* крытыка, бунт героя Лукі Ламбертэнгі супраць ілжывых і крывадушных адносін паміж людзьмі не выкрывае прычын ненармальнага стану грамадства — Лука інфантыльны, крыху хіпі, але, галоўнае, ён паказаны па-за кантактамі з рэальнасцю: багацце дазваляе быць яму адзінокім. І тут пастаноўшчык па-свойму трактуе ўлюбёную тэму Мікельанджэла Антаніоні — тэму некамунікабельнасці: Ламбертэнгі ад адчужэння прыходзіць да прыстасавальніцтва.

Бунт і разгубленасць, неразуменне рэальнасці і страх перад ёй, памылкі і крайнасці, пафас адмаўлення — вось што ўласціва героям «Эскалацыі». Для іх бунт даражэй, чым барацьба за станоўчыя ідэалы.

На фестывалі ў Пезара атрымаў прэмію рэжысёр-дэбютант Сільвана Агосці за жахлівую паталагічную стужку «Сад самых салодкіх пладоў». Гэта гісторыя ўрача, якому прыносіць пакуты атрыманае ў дзяцінстве рэлігійнае і маральнае выхаванне. Сюжэт фільма просты.





У прыморскай гасцініцы спыніліся маладажоны. Пазбягаючы блізкасці з маладой жонкай, якая чакае ад яго дзіця, урач сходзіцца з загадкавай жанчынай. Дзея карціны разгортваецца хутка. Калі герой фільма ляжыць у абдымках гэтай спакусніцы, жонка нечакана памірае. Вось і ўсё. Ад фільма вее холадам, абыякавасцю. Да таго ж, тут шмат сцэн, якім мог пазайздросціць сам Альфрэд Хічкок — кароль «фільмаў-жахаў».



«Рым у 11 гадзін».



«Эскалацыя», «Сад самых салодкіх пладоў», «Пол ангелаў» і многія іншыя паталагічныя стужкі, якія ўзносяцца сёння ў Італіі буржуазнай крытыкай як нейкае адкрыццё, як новы крок у кінамастацтве, красамоўна сведчаць пра тое, што сучаснае італьянскае кіно захліснула мутная хваля жорсткасці, садызму, сексу і эротыкі. Гэта, па цынічнаму прызнанню аднаго з босаў кінематаграфіі, «лепш, чым сацыяльныя праблемы».

Супраць засілля сексу і парнаграфіі на экране, супраць захаплення аголеным целам і бессаромнымі эратычнымі сцэнамі рэзка выступаюць заснавальнікі неарэалізму Раберта Раселіні, Віторыа Дэ Сіка, Лукіна Вісконці і многія іншыя майстры старэйшага пакалення. Іх трывогі небеспадстаўныя. Толькі за 1968 год студыі Італіі выпусцілі 37 парнаграфічных стужак і 12 такіх самых знаходзілася ў вытворчасці.

Пастаноўшчыкі эратычных карцін апраўдваюцца тым, што іх фільмы не толькі прыносяць камерцыйны поспех, але і змагаюцца з пашыранымі ў грамадстве забабонамі. Няпраўда! Сексуальныя фільмы ні з кім і ні з чым не змагаюцца — хіба што з мараллю... Адзінае поле барацьбы — гэта канкурэнцыя прадзюсараў з тэлебачаннем, барацьба за гледача. З развіццём тэлебачання, як вядома, ва ўсіх капіталістычных краінах наведванне кінатэатраў рэзка знізілася. Паўстала пытанне, як зноў прынадзіць гледачоў у кіназалы. Шырокі экран і шырокі фармат, сінерама, стэрэафанія і стэрэаскапія не памаглі. Вось тады дзялкі ад кіно і ўзялі на ўзбраенне секс-фільм. І не пралічыліся. Кіназалы зноў атрымалі свайго гледача. Якога — на гэтае пытанне дае адказ рэжысёр Лукіна Вісконці. «Каму падабаюцца гэтыя фільмы? — гаворыць вядомы рэжысёр-камуніст. — Хіба што людзям, якія жывуць, прыпаўшы вокам да замочнай адтуліны».

Каханне паміж мужчынам і жанчынай — вечная тэма мастацтва. Раберта Раселіні, Віторыа Дэ Сіка, Лукіна Вісконці, Мікельанджэла Антаніоні і многія іншыя прагрэсіўныя майстры італьянскага кіно не аднойчы ў сваёй творчасці звярталіся да гэтай тэмы. Яны не баяліся паказваць інтымныя адносіны сваіх герояў, але пры гэтым не ўступалі ў канфлікт з нормамі ча-

лавечай маралі, як гэта робіцца ў секс-фільмах, разлічаных на самыя нізкія густы гледачоў. Сексуальныя фільмы маюць двайное прызначэнне: адцягнуць увагу ад вострых сацыяльных праблем, ад надзённых пытанняў, ад палітычнага жыцця краіны і апаражніць кішэні гледачоў. Ні для каго ж не сакрэт, што парнаграфія на экране прыносіць небывалыя прыбыткі прадзюсарам. Так, рэжысёр Уга Лібератора зрабіў адкрыта парнаграфічны фільм «Бора Бора», які толькі за 25 дзён дэманстрацыі на экранах Італіі прынёс 338 мільёнаў лір прыбытку. Пастаноўшчык, апраўдваючы сваю непрыстойную работу, гаворыць, што ў сваёй стужцы ён хацеў паказаць праблемы, якія стаяць перад моладдзю Захаду. Калі меркаваць па фільме «Бора Бора», то галоўнай праблемай з'яўляецца — каханне ўтраіх.

Віторыа Дэ Сіка дае вычарпальную характарыстыку сексуальных фільмаў. Ён лічыць, што секс і эротыка — адно з выражэнняў разбэшчанасці, духоўнай беднасці многіх буржуазных спажыўцоў. «Людзі, якія з прычыны сваёй духоўнай беднасці ці дурноты, — піша ён, — не ведаюць, аб чым думаць, і сумуюць, цяпер захапляюцца сексам і ходзяць глядзець эратычныя фільмы».

Рэжысёр Сальватора Самперы, пастаноўшчык такіх карцін, як «Дзякуй, цётка», «Мамін сэрца» і іншых, дзе па словах Віторыа Дэ Сіка, «занадта шмат цела», а «парачкі, якія займаюцца каханнем, паміж справай асуджаюць сучаснае грамадства», адкрыта і цынічна гаворыць пра свае творы: «Галоўным было прымусіць публіку пайсці на карціну, і ці не ўсё роўна, якімі сродкамі гэта было дасягнута».

Можна гаварыць пра тое, што, маўляў, паказваючы псіхалагічнае адхіленне на глебе сексу, пастаноўшчыкі эратычных стужак выказваюць пратэст супраць ілжывай буржуазнай маралі, што яны змагаюцца з забабонамі, але ясна адно: засілле сексуальных фільмаў на экранах Італіі гэтак жа, як і вестэрнаў і «зладзейскіх» стужак аб крадзяжах «па-італьянску», гэта — адыход ад жыцця, ад вострых пытанняў дня. У гэтым бадай самая вялікая слабасць карцін, што прыйшлі на змену неарэалізму.

Маладое, ці, як яго яшчэ называюць, «новае кіно» — складанае. Абвяшчаючы сувязь кінематографа і рэчаіснасці як сэнс мастацтва, адмаўляючы эпоху неакапіталізму і супраціўляючыся яго маралі, яно ўпадае ў крайнасці, смакуе секс, эротыку, паталогію і ўсялякія ненармальнасці. І якімі б гучнымі дэкларацыямі ні прыкрываліся стваральнікі «новага кіно», ясна адно: італьянскае кіно сёння на раздарожжы. Куды яно пойдзе, які абярэ шлях — пакажа будучыня.

**У бліжэйшых нумарах**
**ЧЫТАЙЦЕ ІНТЭРВ'Ю**
**з нямецкім пісьменнікам**
**Гары ЦЮРКАМ.**



# ...Я НЕБА БАЧЫЎ!

**Нататкі спартсмена-парашутыста**



Тады я займаўся ў Мінскім будаўнічым тэхнікуме. Прыгадваю, як мы прыйшлі да дырэктара Івана Аляксандравіча Станілевіча прасіць, каб дазволіў стварыць парашутны гуртok. «Значыць, скакаць з парашутам?» — перапытаў ён і загадаў адвесці пакой для парашутнага класа. Іван Аляксандравіч часта заходзіў у парашутны клас, цікавіўся, чаго не хапае, чаму навучыліся, і, пэўна, болей, чым усе мы, чакаў нашых першых саскокаў. Толькі пазней мы даведаліся, што наш дырэктар у вайну быў нампалітам адной з паветрана-дэсантных брыгад, быў адважным парашутыстам-дэсантнікам.

Парашутны гурток у нас вяла Ліда Бягун, студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Гэта была невысокая ростам, прыемная з выгляду, душэўная дзяўчына. Мы з захапленнем слухалі яе расказ пра нашых слаўных парашутыстаў, пра тое, як адчувае сябе чалавек у паветры.

Прайшлі наземную падрыхтоўку, потым медыцынскую камісію. Ліда Бягун напомніла, што нам хутка трэба будзе зрабіць першы саскок з парашутам.

І вось, нарэшце, мы на аэрадроме. Радасць была бясконцай, калі мы надзелі парашуты і нас павялі да самалёта. Сярод нас, хлопцаў, былі і дзяўчаты. Іхняй смеласці і рашучасці можна было толькі зайздросціць.

Самалёт праляцеў над полем аэрадрома. Пачулася каманда: «Пайшоў!» Дзяўчаты з усмешкай падыходзілі да дзверцаў кабіны і імгненна знікалі. Гледзячы на гэтых зусім юных дзяўчат, нават самы апошні баязлівец згадзіўся б на смелы крок.

Аддзяліўся ад самалёта і я. У твар ударыў халодны марозны вецер. Праз колькі секунд над галавой пачуўся шоргат, і я павіс у паветры. Ад разгубленасці нават забыўся зірнуць уверх на купал, пра што так настойліва напаміала Ліда Бягун. Дзівоснай здавалася зямля. З вышыні я назіраў, як па шашы, нібыта мурашкі, паўзлі аўтамабілі, як па лясных дарогах труhалі маленькія коні, цягнучы сані. На сэрцы было добра! Да таго ж, дзень выдаўся сонечны, прыгожы.

Прызямліўся. Пад нагамі пахруствау снег. Чакаў, пакуль прызямляцца таварышы — Валодзя Гумінскі і Валодзя Семяненя. Аднаму з нашых парашутыстаў — Мікалаю Бабpову — не пашанцавала. Ён слаба зашпіліў рамень унта і згубіў яго ў паветры. Мікалай прызямліўся ў шкарпэтцы. Мароз быў моцны, і, разуты на адну нагу, хлопец ступаў па калена ў снезе. А мы кпілі з яго. Не шкадаваў і інструктар, ушчуваючы доўга за страту «маёмасці».

На зборным пункце інструктары павіншавалі нас з першым саскокам. А ў аэраклубе параілі: хто жадае па-са-



Дэсантнік-франтавік І. Станілевіч.

праўднаму займацца парашутным спортам, няхай пройдзе больш строгую медкамісію. Да гэтага часу я меў другі разрад па лыжах, летам любіў скакаць у ваду. Скакаў з дзесяціметровай вышкі «салдацікам» і галавой уніз.

А студэнцкае жыццё ішло сваім парадкам. Мы хадзілі ў кіно і тэатр. Калі не хапала грошай, падзараблялі на таварнай станцыі, разгружаючы вагоны. У выхадныя дні працавалі на маргарынавым заводзе. Многія, у тым ліку і я, сталі донарамі. На што ні адважышся ў маладосці, калі хочаш мераць жыццё поўнай меркай!

У нас было шмат забаў. Спрабаваў я іграць на гітары, потым пачаў маляваць. Але пакінуў і гэты занятак. Помню, пісаў у «Мінскую праўду» і «Чырвоную змену». І ў гэтым адчуваў я поўную асалоду. А пазней, разам з аднакурснікам па тэхнікуме Уладзімірам Жолудзевым, скончыў двухгадовую школу рабкораў. Нам выдалі пасведчанні нештатных карэспандэнтаў «Мінскай праўды». Першы мой допіс быў надрукаваны пра палёт Юрыя Гагарына ў космас. Потым змясцілі некалькі маіх вершаў. З таго часу мяне і прывабіла літаратурная творчасць. Але пра скокі з парашутам думаў больш за ўсё.

Пасля заняткаў у тэхнікуме разам з Валодзем Гумінскім, Ларысай Панкевіч і Валодзем Семяненем мы спяшаліся на аэрадром. На рахунку кожны з нас ужо меў па дзесятку скокаў. Трэніраваліся на батуце. Асабліва любілі кружыцца на лопінгу. Гэта памагала ўдасканальвацца ў парашутным спорце.

Цяпер мы чакалі, каб інструктар дазволіў скок з ручным раскрыццём парашута. Нам дазволілі. Трывожна спалася мне перад тым скокам. Снілася, што ў мяне не раскрыўся парашут. Імкліва лячу насустрач зямлі. Вось яна ўжо зусім блізка, яшчэ імгненне і... Сон быў сапраўды непрыемны.

На аэрадром мы прыйшлі раней часу. «Сёння,— думаў я,— першае маё баявое хрышчэнне. Цяпер ужо буду ведаць, на што здольны».

Інструктары яшчэ раз праверылі ўжо надзетыя парашуты і далі каманду садзіцца ў самалёт. Узлёт здаўся надта доўгім. Праз вокны ілюмінатара мы разглядалі зямлю. Да чаго ж яна прыгожая ліпнёвым днём! Валодзя Семяненя штурхнуў мяне ў бок. Я пагглядзеў на яго. «Зірні, Валера, туды», — і паказаў у той бок, дзе быў лес. Унізе я заўважыў магілкі. «Не дарэмна сёння сны сніліся. Бывай, браце... Цяпер — усё... Грымнемся»,— пажартаваў Валодзя.

Я скокнуў першы. Аддзяліўся па камандзе. Інструктар строга адлічваў секунды, сачыў за мною. У вольным падзенні час бяжыць вельмі-вельмі хутка. Варта было прапусціць адну-дзве секунды, і наступнага скоку мне ўжо не рабіць... Але роўна на пятай секундзе, як гаварыў пасля інструктар, я тузануў за кальца. Над галавой раскрыўся парашут.

Падзьмуў моцны вецер, і мяне панесла ў той бок, дзе праходзіла высакавольтная лінія. Пачаў слізгаць, і ўдала. Небяспека адступіла. Я пачаў прыкідваць, куды прызямлюся. Унізе— шаша. Па ёй носяцца аўтамабілі. Вось, думаю, плюхнуся і якая-небудзь з іх расціска на шалёнай хуткасці. Сеў усё ж каля дарогі. Прымчаў «Масквіч». Шафёр спыніў машыну і разам з маладой пасажыркай падышоў да мяне. Разглядаючы мой ПД — 47, ён ціха сказаў:

— Нарадзіўся ты, браце, у кашулі...

— Нічога, бацька. Выходзіць, два вякі пражыву яшчэ! — пажартаваў я.

Маіх сяброў таксама параскідала ветрам. Адзін сеў на высокую сасну. Так і вісеў, пакуль не падаспела дапамога. Але ўсё абышлося добра.

Міналі дні. Маім гарачым сапернікам у спорце стаў Валодзя Семяненя, былы дэсантнік. Ад яго адставаў са скокаў на восем. Але мне захацелася першым пайсці на «трыццатку», а потым ужо абагнаць яго і па колькасці скокаў. Уладзімір не саступаў мне, але заўсёды радаваўся, калі я выходзіў наперад. Наша спаборніцтва было сяброўскае. У інтэрнаце мы абмяркоўвалі, як лепш аддзяляцца ад самалёта, задумваліся над памылкамі. У гэты



час Валодзя абараняў дыплом, і гэта дало мне магчымасць «абставіць» яго. А праз некалькі месяцаў да абароны дыплома рыхтаваўся і я.

Закончыўшы тэхнікум, я хацеў паступіць у вышэйшае авіяцыйнае вучылішча. Перад абаронай дыплома атрымаў выклік з'явіцца на экзамены. Але перадумаў і парашыў не ганяцца за двума зайцамі. Абараніўшы дыплом, паехаў працаваць у родны Віцебск. Там жа таксама ёсць аэраклуб. Спачатку працаваў на будоўлі рабочым, наладзіў сувязі з рэдакцыямі газеты і радыёвяшчання, пісаў пра будаўнікоў.

Займацца ў аэраклубе многа не давялося — надышоў час ісці ў армію. Я гарэў жаданнем трапіць у паветрана-дэсантныя войскі. Але гэта было



Валеры Паўлічэнка сустрэўся з лётчыкам-касманаўтам Героем Савецкага Саюза Паўлам Раманавічам Паповічам.

Фота Д. Церахава.

толькі нявдзейсненым сном. Служыў у Літве ў адным з вучэбных падраздзяленняў. Неўзабаве я напісаў рапарт на імя камандзіра часці, просячы накіраваць мяне ў парашутную каманду.

Праз некаторы час просьбу маю задаволілі. Так я стаў дэсантнікам, спартсменам-парашутыстам. Прызямляўся і прываднёўся, рабіў скокі з працяглымі затрымкамі. А хутка адсвяткаваў трохсоты скок. На спаборніцтвах сустракаўся з многімі вядомымі парашутыстамі, або, як мы іх называлі, «карыфеямі».

...Шчаслівы выпадак пазнаёміў мяне з дзяўчынай Галінай Шунто — выпускніцай Віцебскага педагагічнага інстытута. Яна была родам з Лепеля, дзе жыла і мая маці. Адзіная сустрэча і дзесятак лістоў — вось усё, што звязвала нашу дружбу. Ад маіх школьных сяброў яна даведалася, што я служу ў спартыўнай камандзе і павінен прыехаць у Віцебск. У апошнім лісце мы дамовіліся сустрэцца. Нас, сем чалавек, рыхтавалі да вылету ў Фергану на спаборніцтвы, дзе мы павінны былі выканаць нарматывы майстра спорту СССР. Трэніровачныя скокі рабілі ў Віцебску.

...Я аддзяліўся ад самалёта, падаў дзесяць секунд і пачаў выконваць комплекс фігур. За дакладнасцю іх сачылі суддзі праз спецыяльную трубу. Праз секунду-другую рука пацягнулася да кальца. Намацаўшы, я рвануў яго ад сябе. Парашут раскрыўся. Апускаючыся, я паглядзеў уніз і раптам на ўскраіне поля заўважыў маленькую дзявочую постаць. Дзяўчына махала ярка-блакітнай хусцінкай. «Няўжо яна?» — не паверыў я сабе. Але ў яе і сапраўды была блакітная хусцінка. Я прыгадаў, як павіншаваў яе з днём

8 Сакавіка і падараваў ёй музычную шкатулку і блакітную газавую хусцінку. Галіне спадабаўся мой падарунак. «Раніцай і вечарам я люблю слухаць «Танец маленькіх лебедзяў», а хусцінка мне так ідзе, што я з нецярпеннем чакаю сезона, калі змагу выйсці у ёй»,— пісала яна. І вось выйшла...

Насуперак жаданню прызямліцца ў «крыж», мной авалодала нейкае незвычайнае пачуццё, якое нараджаецца ў жыцці адзін раз. Развярнуўшы свой купал на 180 градусаў, я пачаў кіравацца да месца, дзе відаць была мілая дзявочая постаць. Падхопленага парывам спадарожнага ветру, мяне, «шчаслівчыка,» панесла на ўскраіну аэрадрома. З кожнай секундай адлегласць меншала. Я ўжо мог добра бачыць Галю, яе залатыя, пад колер восені, валасы, сціплы дзявочы ўбор.

У гэтую хвіліну я не думаў, што мой намер разгадаюць адразу сябры, старэйшы трэнер, камандзіры. Я не думаў пра тое, што мяне можа чакаць або гаўптвахта, або, у горшым выпадку, забарона саскокаў.

Галіна ўсміхалася. Бляск яе вачэй бянтэжыў мяне. «Вось дык выпадак: з неба ды на спатканне!» — думаў я.

Прызямліўся я метраў за дзесяць ад Галі і адразу неяк не адважыўся падысці. «Пра што я буду гаварыць?— думаў я.— А яна ж, тым больш, першая не падыдзе да мяне».

Але ўсё адбылося нечакана. Яна падбегла, абхапіла мяне абедзвюма рукамі і ціхенька вымавіла: «Добры дзень, мой сокал!» Я ніколі не адчуваў такой разгубленасці і не ведаў, што рабіць далей. Толькі праз секунду-другую з маіх вуснаў вырвалася; «Галя, вітаю цябе!».

Ярка свяціла сонца, ад лёгкага ветрыку шапацела трава. Я шукаў вачыма ў квяцістай канюшыне рамонак. Галіна зразумела мой позірк і сказала:

— Не трэба. Ведаеш, твой каляровы купал быў усё роўна прыгажэйшы за любы букет... Я так хвалявалася за цябе. Ой, як цябе кідала! Боязна было глядзець. Але вашы хлопцы — малайцы!

— Вось за гэта табе дзякуй. Нашы хлопцы сапраўды малайцы. Я перадам ім твае словы.

На душы было хораша. Ад радасці хацелася спяваць. Мы шчыра развіталіся. А пасля разбору саскокаў мяне выклікаў да сябе старшына і падаў паперку: «Ад падпалкоўніка!» Гэта была звальняльная запіска.

Праляцелі гады армейскай службы, але ў памяці маёй ажываюць усё новыя і новыя згадкі пра будні маіх аднапалчан, з кім даводзілася быць на вучэннях, дзяліцца пайком, есці з аднаго кацялка і, вядома, пакідаць баявыя машыны ў «тыле ворага». Рабіў баявыя, вучэбна-трэніровачныя і спартыўныя саскокі.

Я адчуў шчасце, пасябраваўшы з небам. І заўсёды, калі ўзнімаюся ўвышыню, мяне агортвае натхненне. Прыгадваюцца гордыя словы горкаўскага Сокала: «...Я пазнаў шчасце, я неба бачыў!»

**Валеры ПАЎЛІЧЭНКА.**





Раздзел вядзе
міжнародны майстар
**Макс ШАВЕЛЬ**

# ТВОРЧАСЦЬ СУСЕДЗЯЎ

Рэдакцыя атрымлівае цікавыя і змястоўныя шашачныя кампазіцыі. Большасць аўтараў — гэта шашысты з розных раёнаў Беларусі, і з іх творчасцю мы ўжо знаёмілі нашых чытачоў. Дасылаюць нам свае творы і чытачы з іншых рэспублік.

Прапануем вашай увазе некалькі кампазіцый і задач, складзеных нашымі чытачамі з Украінскай ССР.

Тыя, хто пакажа лепшыя вынікі ў іх рашэнні, будуць адзначаны.

С. Юшкевіч
(Харкаў)



А. Буткевіч
П. Радлоўскі
(Львоў)



І. Івацка
(Вінніцкая вобласць)



Р. Кетлер
(Крывы Рог)



Р. Рудніцкі
(Сімферопаль)



Б. Магілеўскі
(Жытомір)



Ва ўсіх камбінацыях выйгрыш белых.

Задача **С. Берэнштэйна** (Харкаў)

Белыя — дамкі 26, 28, 35, 41, 44, простыя 12, 21, 24 (8); чорныя — простыя 2, 3 (2). Заперці простую чорных.

Задача **Г. Багатырова** (Запарожская вобласць).

Белыя — дамкі 6, 26, 27, 44, простыя 9, 21, 24, 25, 31, 34, 40, 47 (12); чорныя — простыя 5, 10, 16, 35 (4). Заперці дамку і простую чорных.

**Падрыхтаваў майстар спорту СССР**
**Мікалай ГРУШЭЎСКІ.**

# АРХЕОЛАГ СМЯЕЦЦА



Міхась Чарняўскі — археолаг. Як і многія маладыя людзі нашага пакалення, ён не абмяжоўвае сябе толькі сваёй прафесіяй. Славянскія мовы, графіка, сацыялогія, паэзія, псіхалогія, этнаграфія аднолькава цікавяць яго. І да ўсяго ён мае сваё адметнае мастацка-вобразнае стаўленне. Гэтак жа, як у пісьменніка запісная кніжка, у мастака — эцюднік, у Міхася заўсёды пад рукою блакнот, куды ён заносіць свае думкі і назіранні ў форме гумарыстычных малюнкаў. Праўда, тэхніка малюнка выдае ў ім аматара, але сваё адметнае разуменне камічнага ў жыцці, сваё выяўленне смешнага сведчыць аб натуры мастацкай, тонкай і жыццярадаснай. Каб пераканацца ў гэтым, варта глянуць на Міхасёвы малюнкі, якія мы падаем тут.





— Чаго Казючык палец падняў?
— Глядзіць, адкуль вецер дзьме.







І куды тут ісці?




У нагу з часам.



Хутка зямля...

# нашы аўтары

●

**ХВЕДАРОВІЧ Мікола** нарадзіўся ў 1904 годзе ў Капылі. Быў на камсамольскай рабоце, рэдагаваў часопіс «Чырвоная Беларусь», працаваў у рэдакцыі «Полымя». Аўтар кніг паэзіі «Настроі», «Рытмы», «Усім сэрцам», «Тэмпы-кантрасты», «Залаты лістапад» і іншых.

●

**ЧАРНЯУСКІ Мікола** нарадзіўся ў 1943 годзе ў Буда-Кашалёўскім раёне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Бярозка».
Аўтар кніг для дзяцей «Дзе лета канчаецца», «Вегунок пачынае думаць», «Апошні бой».

●

**ПРЫХОДЗЬКА Пятро** нарадзіўся пяцьдзесят гадоў таму назад у вёсцы Альшоў на Магілёўшчыне. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працуе рэдактарам у выдавецтве «Беларусь».
Аўтар кніг «Голас сэрца», «Салдаты міру», «Ранак над Эльбай», «Пасля развітання», «Цёплы каравай», «Сонца раней узышло» і іншых.

●

**КАРПОВІЧ Вікенці** нарадзіўся ў г. Глыбокае. Яму дваццаць дзевяць гадоў. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў інжынерам у Акцюбінску, цяпер — адказны сакратар глыбоцкай раённай газеты «Шлях перамогі». У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

●

**КУЗЬМЯНКОУ Уладзімір** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Устаннае на Слаўгарадчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна, працаваў у рэдакцыі раённай газеты, цяпер у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».

●

**РАЗАНАУ Алесь** нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна. Вучыцца ў Брэсцкім педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна.

●

**МАЛЯУКА Мікола** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна. Служыў у Савецкай Арміі. Працуе рэдактарам на Беларускім радыё.

●

**ШЫЦІК Уладзімір** нарадзіўся ў 1922 годзе ў г. Шклове. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна, працуе ў рэдакцыі «Сельской газеты». Аўтар кніг «Сосны адшумелі сваё» «Майская раніца», «Апошняя арбіта», «Зорны камень».

●

**ПАРАХНЕВІЧ Міхась** нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Мінкавічы Старадарожскага раёна. Служыў у арміі. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна і Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Працуе намеснікам рэдактара газеты «Вячэрні Мінск».

●

**ШАУЧЭНКА Віктар** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Добрушскім раёне. Скончыў Гомельскі педагагічны інстытут.



**В. УСЦІНАУ.** Космас. Чаканка па метале.

**Барыс ГЕРЛАВАН.** Коннікі. Чаканка па метале.




**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 2**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОУСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Карэктар **Лідзія ТАУЛАЙ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775 — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 31/XII-69 г. Падпісана да друку 28/I-70 г.
АТ 26128. Тыраж 13837 экз. Зак. 649. Цана 40 кап. Папера 70×108[1]/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**